# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

## №6

1925



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ



БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

Пад рэдакцыяй З. ЖЫЛУНОВІЧА,
Я. ЛІМАНОЎСКАГА і І. ШЫПІЛЫ

№ 6

1925

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК —— 1925

# НАШЫ СУПРАЦОЎНІКІ:

Александровіч А., Байкоў М., Баліцкі А., Баравы М., Барашка Іл., Буйло К., Бядуля З. (Ясакар), Бываеўскі Н., Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С. праф., Гарбацэвіч В., Гартны Ц., Грамыка М., Гурло А., Гэрчыкаў І., Дзяржынскі Ў., Друшчыц В., Дубоўка Ў., Журба Я., Замоцін І. праф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ў. праф., Колас Я., Купала Я., Каранеўскі Я., Каліноўскі Ул., Кацэнбогэн С. праф., Кругалевіч А., Лёсік Я., Ліманоўскі Я., Маразоўскі М., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Неманскі Я., Пічэта Ў. праф., Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М. праф., Смоліч А., Сянькевіч А., Трус П., Харэвіч А., Хэрсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Чарвякоў А., Чарот М., Чарнушэвіч Н., Чорны К., Шатэрнік М., Шукевіч-Трэцьцякоў Р. і інш.

# НА КРЭСАХ

**Алесь Гародня**

Аповесьць

## РАЗЬДЗЕЛ I

### Сяўба

„Жыў быў сабе
—цар Батура,
была ў яго—
сабачая натура“.

Так, прынамсі, звычайна, пачынаюцца паляшуцкія байкі. Гэтак і мы пачынаем нашае апавяданьне:

Жыў-быў у сваім маёнтку,
у Сігневічах,
абшарнік Трэмбацкі.
Пан, як пан.
Зусім звычайны абшарнік.

У пана Трэмбацкага здохла карова.
— З чаго здохла?
— Можа аб‘елася канюшыны?
— Трасца яе ведае.
Але з гэтага пачалося:
За гэтай каровай здохла другая,
потым—трэцяя.
Адным словам, нешта накшталт пошасьці.

Тым больш хадзілі нейкія чуткі, што і ў суседніх вёсках гэтак сама час-ад-часу здыхалі сялянскія каровы.

Але хто-ж будзе гэтым цікавіцца?
— Сялянскія-ж!..

* * *

Аканом Маркевіч, зьняўшы шапку і апусьціўшы дадолу рукі, стаяў перад панам Трэмбацкім:

— Так што, паночку, галава ў мяне кругом пашла: ніяк не магу зразумець, што, адкуль, дзе і як...
Вось вам.

— Учора ўвечары вязу бульбу,—парабком, значыць, андынару выдаць. Вязу 20 мяшкоў. Прывёз, прыказаў скінуць. Палажылі яе хлопцы ў пуню. Ну, я яшчэ раз пералічыў, для пэўнасьці, значыць, і пашоў сабе спаць. Ключы ўсю ноч былі пры мне пад падушкаю.

— Уранку прыходжу з хлопцамі. Агледзеў замкі,—усё цэла. Адчыніў... Выдаю. Гляджу,—ажно чатырох мяшкоў не хапае. Праверыў яшчэ раз, падлічыў, значыць, каму колькі выдаў...

— Няма і няма.

— Хоць ты сабе што хочаш рабі—нічога зразумець не магу. Адно толькі пэўна, ўначы хто-небудзь ключы падабраў і залез.

— Ведама, парабкі!...

*
* *

А ў хаце Маркевіча
сядзеў Шлёма з Шыліна і піў гарэлку:
Ён ужо прывёз прыяцелю грошы за проданыя ім 4 мяшкі бульбы.

*
* *

Шаноўны пане Ротмістру!

Прымушаны зьвярнуцца да Вас, бо не магу сам даць рады. Парабкі мае зусім адбіліся ад рук, працаваць ня хочуць, патрабуюць прыбаўкі. Мясцовыя бальшавікі распаўсюджваюць чуткі, нібы я не даю ўсю андынарыю, што абяцаў ім даваць.

— На тым тыдні заняў мой аканом тры сялянскія каровы, што пасьвіліся на маім выгане, ды залезьлі ў авёс і нават патапталі жыта. Уладарамі гэтых кароў зьявіліся дзятлаўскія хлопы. Я ўзяў за кожную карову па 20 злотых выкупу. Кажуць, што мужыкі моцна лаяліся. Мой аканом чуў нават, што яны пагражалі мяне забіць.

На працягу трох тыдняў у мяне здохла шэсьць кароў, і я ўпэўнены ў тым, што яны атручаны тымі-ж дзятлаўцамі.

Нарэшце, распачаліся кражы. Мінулай ноччу сяляне паламалі замкі мае пуні і ўкралі 10 мяшкоў бульбы і 5 мяшкоў жыта.

Бальшавіцкая зараза шырыцца, захапляе сялянства і ўсё затопіць, калі Вы, пане Ротмістру, не . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

З пашанаю,
з свайго боку на паслугі шчыра
гатовы Станіслаў Трэмбацкі.

P. S. Прыяжджайце да мяне ў Сігневічы. Я атрымаў з Варшавы партыю добрага „Рэдэрэр“. У суботу прыедзе мой брат і прывязе некалькі паненак (Этуалі з „Otel Polonia“). Будзе весела. Чакаю.

С. Т.

* * *

У старане ад Дзятлава,
па прасёлку,
што вядзе да Пяшчанкі—
адзінокі фальварак.
Тут каля хаты, на прызьбе, сядзеў малады хлапец.
Фігура—кволая, нездаровая.
На твары нейкая нерашучасьць.
Вочы, як у тумане.
Бегаюць ва ўсе бакі.
Глядзяць усюды, куды хочаш,
толькі ня проста перад сабою,
толькі не на таго, з кім гаворыць іх уласьнік...
З-пад кручкаватага носіка крыху пачынаюць прабівацца вусы.

* * *

Дзесяць год прашло ўжо з таго часу, як памёр гаспадар фальварку, Чыж, і старая Аўдотка засталася сама-самюсенькая з сынам Сымонкай.

Хлопчыку было яшчэ толькі дзесяць год.
І хворы ён быў зусім.
Але—нішто—
выгадавала.
Аўдотка—кабета хоць і старая, але працавітая.
Гаспадыня—што трэба.
Нішто ў яе не прападзе, нішто не змарнее.
Ну і гаспадарка ў яе пашла ня кепска.
Бадай што нават лепей за тыя часы, калі жывы быў стары Чыж.

Уся ваколіца ведала:
Багацей ад Чыжоў ніводнага селяніна ва ўсёй воласьці няма.

* * *

Усе наўкола зайздросьцяць Чыжом.
Але Сымон Чыж—сумуе.

* * *

Не кахае Марылька.
Чаму?
Хто-ж яе ведае!
Сымон добра знае, што ён
не лайдак які,
не калека;
дзяўчаты яму праходу не даюць.
З твару, відаць, хлопец ніштоо.
Польскую мову добра ведае.
Значыць, з панамі размаўляць можа;
Ну,—
скача ня дрэнна.
На скрыпцы—лепшы музыка на ўсю ваколіцу.
На гармоніку—
таксама...

* * *

Чаго-ж ёй трэба?
Ці-ж можа
з голаду баіцца памерці?
У Чыжовай хаце?—
Не звар'яцела.
Дык у чым-жа-ж справа?

* * *

Сымон пакруціў галавою, сьціснуў рукі ў кулакі, падняўся і пашоў па дарозе...

* * *

Надыходзіў вечар.

На простай лініі небасхілу Спораўскія лясы скрыпелі, як зубы нейкага цмока.

Яны гатовіліся праглынуць крывава-чырвонае сонца.

На паплавох чулася кваканьне жаб.

Гармідар цягучы, жудасны.

Пахла балотам.

* * *

— Здарова, Марылька! Я даўно шукаю мажлівасьці пагаварыць з табою...

— Няма-ж аб чым нам з табою размаўляць, Сымон. Я-ж табе ўжо ўсё сказала...

— Зусім ня ўсё. Можа, ты думаеш, што я ня ведаю пра Васіля, вучыцеля з Пяшчанкі?—Уся ваколіца толькі аб тым і гаворыць, што ты з ім...

— Маўчы, Сымон!

— Не, цяпер ты маўчы, распусьніца! Жабрачкаю нарадзілася! Хоць-бы дзякуй сказала, што цябе ў людзі хочуць вывесьці, дык не, дай табе такога-ж басяка, як і твой бацька! Распусьніца!

...Звонкі гук
аплявухі
прарэзаў паветра.

* * *

Цёмна.
Прасёлак уецца выкрутасамі і гіне ў ночнай цемры.
У тумане відна панурая фігура.
Стаіць.
Час-ад-часу чутно гістэрычнае ўсхліпваньне.

* * *

Праз поўгадзіны—
постаць выпрасталася і заварушылася па дарозе.
Сымон Чыж пашоў да господы.

* * *

— Ёмкая дзяўчына!..
Ї сьмелая—халера на яе...
Праўду кажучы,—
так мне і трэба...
А прыгожая!
Другую такую ня хутка знойдзеш...
Ну, стой, Васілёк,—
паглядзім, чыё возьме...
Я кажу—маёю будзе!
Калі я сказаў,—
дык так...
Ах ты, сволач!
Хаця—
чым-жа-ж ён вінаваты, калі
яна
яго
кахае...
Галадранец!
На дарозе стаў—трэба пазбыцца яго...
Але як?

* * *

Раніцою ў Дзятлава ўехаў атрад жандараў.
20 чалавек коньніцы.
На чале—ротмістр Заблоцкі.
Пад'ехалі да солтысавай хаты.

* * *

Бляды, дрыжачы солтыс стаяў перад панам ротмістрам:
— Радысень старань, яснавяльможны паночку!
А ў самога—патыліца чэшацца!
Чаго гэта зноў трэба жандарскаму афіцэру?
Адказ:
— Першае: заўтра сход.
Трэба апавясьціць сялян.
Зьявіцца павінны ўсе.
— Другое: пастой;
корм коням;
харчы людзям.
Праз пяць хвілін—
дзесяцкі ўжо бегаў з хаты ў хату.
Сяляне—
моўчкі часалі патыліцу.

* * *

Да чорта цёмная ноч.
Каля солтысавай хаты—варта.
Ня дзіва:
Солтыс з сямейкай перабраўся да суседа,
а ў яго хаце
начуе
пан ротмістр...

* * *

— Стой! Хто ідзе?
— Свой. Да пана ротмістра...
Даўгі, працяжны сьвісток.
Падыходзіць
развадзячы:
— У чым справа?
Праз дзьве хвіліны,
развадзячы
ўваходзіць у хату,
выходзіць адтуль
і зноў вяртаецца назад.

Але ў гэты раз—
ён вядзе да пана ротмістра
нейкую фігуру
ў сялянскай вопратцы.

* * *

...Прымаючы пад увагу ўсё вышэйпаданае, на падставе закону аб кругавой паруцы, я загадваю сялянам вёскі Дзятлава:

1. Выдаць пану Трэмбацкаму натураю шэсьць кароў, дзесяць мяшкоў бульбы і пяць мяшкоў жыта.

2. Заплаціць яму-ж штрап у ліку тысячы злотых польскіх.

Усё—у трохдзенны тэрмін. А не, дык...

Калі пану будуць зроблены яшчэ якія-кольвек страты, адказнасьць будзе цалком ускладзена на вас. Іншымі словамі—зьмяту ў парашок усю вёску...

А цяпер,
быдла,—
расхадзіся па сваіх хлявох!..

* * *

Сход—зачынены...

* * *

А тымчасам—
сэржант Зарэмба з чатырма стражнікамі
заехалі ў Пяшчанку.
Пад'ехаў да школы.
На дварэ гулялі дзеці.
Сэржант прыказаў паклікаць настаўніка.
Вышаў Васіль Гарбацэвіч.
І ўраз—
на руках яго
зазьвенькалі кайданы.

* * *

Па Бяроскаму тракту на сялянскай хурманцы ехаў Васіль.
Побач з ім сядзеў сэржант Зарэмба,
з наганам у руцэ.
Па бакох ехалі чатыры коньнікі з голымі шаблямі.

* * *

Васіль Гарбацэвіч выглядаў як-бы хворым.
Твар яго быў белы, як крэйда,

якою з гадзіну перад тым
кудлатыя хлопчыкі й дзяўчаткі
малявалі на чорнай
школьнай дошцы
літары:

— Кірылічныя—
— Сакрамантальныя!
— Хамскія!

* * *

А з-пад насунутай блізка што не на нос шапкі, па твары, каля вуха праходзіла чырвоная стужка крыві.

## РАЗЬДЗЕЛ II

### Ураджай

Ротмістр Заблоцкі пасьля сходу не вярнуўся да солтысавай хаты.

„Памятай дзень суботу, і сьвяткуй яго“...

Гэтую запаведзь шэсьць дзён таму назад ён чуў у Картускім касьцёле.

З амбона прамовіў яе пан ксёндз.

Ротмістр прыпамятаў яе тры дні таму назад, чытаючы ліст пана Трэмбацкага.

Ён не запямятаваў яе,
і ўраз-жа
пасьля сходу
на сялянскай хурманцы
паехаў у Сігневічы...

* * *

А ў Дзятлаве
справа была гарачая.

Потым апавядалі, што п‘яныя жандары зрабілі вобыскі ўва ўсіх хатах.

Шукалі быццам-бы зброю,
але заглядалі толькі
ў скрыні і іншыя месцы,
дзе можна было знайсьці сёе—тое,
але толькі—
не абрэз
і не наган.

Адбіралі ўсё, што спадабаецца,
і ўсе, што можна было пасланць жонцы
ў далёкую Пазнань,
ці—
хоць-бы прадаць на Бяроскім кірмашы.
Ці-ж мала існуе на сьвеце рэчаў
дарагіх
жандарскаму сэрцу?

* * *

Увечары п'яныя жандары пабілі старую Прузыну за тое, што яна кепска сасмажыла скваркі і сьпякла яешню ня так смачна, як трэба было.

Такі самы лёс спаткаў пяцёх маладых хлапцоў, у хатах якіх не ўдалося адшукаць нічога такога, што-бы магло спадабацца пану сэржанту
ці нават звычайнаму жандару.

* * *

Бораздымі крокамі Сымон вяртаўся са сходу дахаты.
Раптам
спыніўся.
Там,
недзе ўперадзе,
дарогу перасякаў—
шлях.
Той, якім ехаць з Пяшчанкі ў Бярозу.
На шляху—хурманка.
Уперадзе—два коньнікі.
Ззаду—таксама...

* * *

Чырвоная фарба макавым колерам заліла Сымону твар. Ён павярнуўся і пашоў назад у Дзятлава...

* * *

Моўчкі падышоў Сымон да вёскі.
Крыжы.
Стаў. Падумаў. Паслухаў.
З першай-жа хаты праз адчыненае акно
быў чуцён ціхі стогн...

На другім канцы вуліцы п'яныя галасы гарланілі польскія песьні...

Кудысьці йшоў п'яны жандар.

Ён хістаўся з боку на бок, але моцна трымаў у руцэ нейкі вялізарны вузялок.

У другой руцэ ён нёс новенькую пару ботаў.

Сымон плюнуў і заместа таго, каб ісьці ў вёску, абышоў наўкола яе.

Пашоў проста па дарозе, куды глядзяць вочы.

* * *

Сымон аглядзеўся...
Дзе ён?
Га!—У Сігневіцкім парку!
Але-ж як ён тутака апынуўся?

Наўрад ці хто змог-бы адказаць на гэта пытаньне. У кожным разе—сам Сымон гэтага ня ведаў.

* * *

Быў ужо вечар...
Палац сьвяціўся, як ліхтар, раскідваючы ва
ўсе бакі яскравыя стужкі сьвятла...
Чутна была музыка...

* * *

Дарогі Сымон ня ведаў.
Першы раз хадзіў ён па парку.
Пан Трэмбацкі ня любіў, каб у межах
яго рэзыдэнцыі:
— „сьмярдзела хамскім пахам“.
Заместа варты тутака звычайна гулялі два
агромністыя сабакі—
белыя, махнатыя ваўкадавы.
Уся ваколіца добра ведала, што з гэтымі
лютымі зьверамі дрэнныя жарты.

Аб гэтым магла-б красамоўна пасьведчыць не адна парваная пара сялянскіх нагавіц, не адзін рубец на целах асобных сьмельчакоў, якія адважваліся ісьці па сваіх мужыцкіх справах беспасярэдна да пана, мінуючы кантору аканома Маркевіча, вядомага больш у ваколіцы пад клічкаю „Мардабой“...

* * *

Дый пакалечаная рука пактара Моўшы, пазбаўленая двох пальцаў, гэтак сама магла-б расказаць нешта пра злосны нораў панскіх вартаўнікоў.

* * *

Першай думкай, якая зьявілася ў Сымона, была думка аб сабаках.

— Чаму іх няма? Чаму яны ня брэшуць? Чаму ня кідаюцца на Сымонаву шыю, ня грызуць яе, ня рвуць у шматкі? Можа шкадуюць? Неяк дзіўна:

Каб сам быў сабакаю, дык не пашкадаваў-бы самога сябе.

Можа ня чуюць?
— Наўрад.
Але чаго турбавацца?
Ну, загрызуць...
Халера на іх...
Ціж ня ўсё роўна?

* * *

Сымон пашоў далей.
У цемры спаткнуўся і блізка што ня ўдарыўся носам аб заднюю сьцяну панскае стайні. Але затрымаўся.
З начное цемры ледзь-ледзь данасіўся няясны шэпт.

* * *

— Гумно... Абора... Сьпірытусавы пограб...
— А самы бровар і палац—не чапаць...
— Само зробіцца...
— Вецер...
— ...пракукуе сем разоў...
— Гайда, хлопцы!..

* * *

— Вартаўнічыя?
— Злачынцы?—
— Ці-ж ня ўсё роўна!
Сымон ні на што не зьвяртаў увагі.
Нішто яго ня цікавіла.
Адна толькі думка была ў галаве:
— Праз мяне
няшчасьце...
І чалавек праз мяне гіне...
Узялі яго?—
Што з ім цяпер, з гэтым настаўнікам?
А! Трасца яго мацеры!..
Пэўна адвязьлі ў Бярозу ў турму.
Морду набілі...
Будзе знаць, як мне на дарозе стаяць...

* * *

Сымон павярнуў улева.
Ці доўга ён шоў—нямаведама.
Затрымаўся на беразе ракі.
Зьняў шапку, пастаяў...
Паглядзеў на рэчку і
адскочыў назад.
З вады выглядаў на яго—
чалавечы твар!
Твар настаўніка з Пяшчанкі.
Увесь у крыві.

* * *

— Глупства!
Нічога яму ня будзе...
— Але-ж чалавека забралі... праз мяне...
павязьлі ў Бярозу...
у дэфэнзыву...

Гэтак сама, як з месяц назад Хаіма з Шыліны, сына Бэркі-карчмара...
...і як шмат іншых.
...ніхто не зьвярнуўся.

* * *

Аднекуль пачулася кукаваньне зязюлі.
Сымон агледзіўся.
Падлічыў:
Сем раз.

* * *

Сігневіцкі палац сьвяціўся яшчэ мацней, чымся ў той час, калі Сымон быў каля яго.

Неба наўкола ахварбавалася ў нейкае адценьне блізкае да чырвонага.

Хмары выглядалі нейкім паўзучым крывавым апудалам.

Злосна квэкалі жабы.

У Пяшчанцы ледзь-ледзь сьвяціліся агні ў сялянскіх хатах. Толькі ў сярэдзіне іх была нейкая пустата: у будынку школы—
лямпа не гарэла...

Дый чаго ёй гарэць?
Каму сьвяціць?
Хто яе цяпер запаліць?

* * *

Недзе ціхенька запляскалі вёслы. Па рэчцы, там, крыху ніжэй, ехалі два чаўны. Некалькі чалавек сядзела ў іх, некалькі чалавек стаяла, адпіхаючыся вёсламі аб няглыбокае, зацягнутае тваньню дно.

— Пэўна, рыбакі?

— Але што гэта ў іх за плячыма?

— Вінтоўкі!

— Можа гэта жандары?

— Вязуць настаўніка з Пяшчанкі...

...Яны хочуць яго ўтапіць.

— Не, лухта!

— Паляўнічыя.

* * *

... Чалавек гіне...

церас мяне...

Чаго я? Ён-жа жывы, нічога яму ня будзе...

...Жывы! Усё роўна, што мёртвы...

...Ня сёньня—заўтра заб'юць.

Не—гэта-ж я...

Я яго забіў...

* * *

— Але што гэта за чаўны?

Сымон павярнуўся і нехаця яшчэ раз паглядзеў на раку: Вада была зусім чырвоная...

* * *

Раптам—

ускочыў,

акамянеў на месцы.

... Па—ні—хіду?

З боку Бярозы гулка і мерна пачуліся ўдары царкоўнага звону.

Сымон схапіўся за галаву.

— Па ім, па настаўніку!..

З разьбегу—

* * *

Яшчэ некалькі хвілін—

ціха булькалі —

пузыры.

З балоцістага дна

прабіваліся на паверхню вады
газы.
Праз чвэрць гадзіны
ўляглася гразь.
Вада зноў стала чыстай, як крышталь...

*
* *

Але чаму фактычна пачырванела вада ў рэчцы?
Чаму пачырванела неба?
І чаму—
да звону царкоўнае званіцы
далучылі свой голас
яшчэ:
Сігнявіцкі касьцёл,
і стары картускі кляштар?

*
* *

Дзятлава спала.
У адных хатах—сяляне.
У другіх—п'яныя жандары.

*
* *

Раптам
сэржант Пясэцкі
падняўся на свім ложку і пачаў напружана прыслухоўвацца.
З некалькіх бакоў чуцён быў мерны трывожны звон...
Сэржант выхапіў наган і, выбегшы на вуліцу,
выстраліў у неба...
Пачалася трывога...

*
* *

Па вёсцы гарцалі, як сабакі, чатырнаццаць жандараў.
Сэржант Пясэцкі лаяўся адборнай польскай лаянкай.
Якой-бы мог пазайдросьціць які-небудзь Antek z pod Wisły яго спрытнасьці і багацтву яго мовы.

У чым справа?

* * *

Ротмістр Заблоцкі
на ўсьпененым кані ўскочыў у Дзятлава.
Зьбялеўшы дрыжачы сэржант падскочыў з рапартам:
— Данашу, што ноччу невядомымі злачынцамі скрадзена чатырнаццаць вінтовак і чатырнаццаць патронташаў.

* * *

А ў чыжовым фальварку—
газа гарэла ўсю ноч.
Старая Аўдотка
чакала сына.

* * *

Чу!
Звон!
Нешта сталася?
Можа з Сымонкаю?
Старая выскачыла з хаты
і пабегла туды,
куды ўжо з усіх бакоў беглі людзі
з вёдрамі,
з сякерамі;
куды несьліся ўзмыленыя сялянскія коні
з бочкамі,
з драбінамі...

* * *

Старая шукала сына...
Ва ўвесь голас
клікала яна:
— Сымонка!
Сы-мон-ка!

* * *

Дарма!
Сымона яна не знашла.
Сымон ня прышоў дахаты сам.

І з тэй пары
Сымона
ніхто ўжо ня ўбачыў.

## РАЗЬДЗЕЛ III

**Некалькі слоў аб газэтах, ордэне Беларускага Арла і іншых прыемных і няпрыемных рэчах.**

Вільня.
Рог Віленскай і Садовай.
Зьбіваючы адзін аднаго з ног, бягуць праходжыя.
Гудуць шпаркія аўто, лётаюць між хурманак.
Паўзе трам
ціха, паважна.

*
* *

— Kurjer Wileński!
— Gazeta Poranna!
— Dziesięć groszy!
Dziesięć groszy!
— Паўстаньне ў Пружанскім павеце!
— Głos Robotniczy!
— Kurjer Wileński!
Dziesięć groszy!

*
* *

Ціха ідзе па вуліцы нейкі пузаты пан. Відаць, яму няма куды сьпяшацца.

У руках—разгорнутая газэта.

Калі праз яго сьпіну заглянем у гэту газэту—прачытаем шмат цікавага.

У агуле, няма на сьвеце нічога цікавей польскае крэсавае газэты.

— Вы кажаце, што яна скалечана цэнзарам?

— Ніхто! Хопіць з вас і таго, што гэты вяльможны пан дазволіў пусьціць у друк.

— Вось, пачытайце.

*
* *

— Што?
— Ня ўмееце папольску?
— Ну, выбачайце.
Беларускую газэту ў Вільні можна купіць толькі з-пад палы.
Чытаць—дома,
каб хто з паноў-агэнтаў дэфэнзывы ня прыкмеціў.
Ды трэба сказаць,—трудна яе й адшукаць.

У Вільні яна выходзіць штодзень пад новай назвай.
Сёньня—„Беларуская Думка“;
Заўтра—„Беларускае Жыцьцё“;
пасьлязаўтра—„Наша Жыцьцё“;
потым—„Наша Думка“...
і гэтак далей,—
—бясконца.

* * *

А ў Горадні—дык яшчэ лепей.
Выйдзе ў сьвет які-колечы „Сялянскі Гоман“.
Назаўтра ўся рэдакцыя сядзіць у дэфэнзыве пад арыштам.
А газэта—пад тэй самай назваю зноў выходзіць.
Кім яна цяпер выдаецца?
На чые грошы?
Хто-ж яе ведае...
Але на яе бакох
нейкія ягамосьці пачынаюць пісаць розныя прыемныя для паноў рэчы;
пасылаюць пяруны і маланкі
на галавы бунтароў.
І ў славу—
świętej matki Ojczyzny—
„вялікае“ Польшчы—
благаслаўляюць дэфэнзыву
ад шчырага сэрца
на новыя „вялікія падзеі“...

* * *

Беларускае газэты я вам дастаць не магу.
Але вось—
польскі „Kurjer Wileński“.
Нумар ад 5-га жніўня 1924 году.
Хроніка.
— Вы кажаце, што не разумееце польскае мовы?
— Дарма!
— Я буду вам перакладаць.
— Слухайце-ж!



## Хроніка

**У Вільні** невядомыя хуліганы вывесілі над ваяводзкім палацам чырвоны сьцяг. Сьцяг быў падвешаны гэтак высока, што пасьля доўгіх спроб зьняць яго—прышлося вызваць пажарную дружыну. Поліцыя вядзе сьледзтва.

---

**У Белавежы** забіты начальнік поліцыі. Злачынцаў злавіць не ўдалося.

---

**У Піншчыне** сялянскае паўстаньне пашыраецца. Агнём артылерыі зьнішчана некалькі вёсак. Ёсьць пэўная надзея, што паўстаньне будзе зьліквідована ў бліжэйшыя часы.

---

**У Беластоку** забастоўка пашыраецца. Трамвай ня ходзіць. Вадаправод і электрычная станцыя абслугоўваюцца жаўнерамі. Дэмонстрацыя забастоўшчыкаў разагнана жандарамі. Каля 50 чалавек забіта, шмат параненых.

---

**У Слонімскім павеце** паявіліся новыя банды. У працягу тыдня спалена: 2 гмінных загады і 3 панскія двары. Забіты 2 жандарскія афіцэры і 5 стражнікаў.

---

**У Берасьце** ваенна-палявым судом асуджаны бандыты, пусьціўшыя пад адкос Варшаўскі кур'ерскі цягнік. 12 чалавек асуджаны на сьмерць, 27—на 15 год катаргі.

— А гэта што?

— Слухайце, слухайце!

## Новае паўстаньне ў Пружанскім павеце.

Уначы рэдакцыяй атрыманы весткі пра новае паўстаньне ў Пружанскім павеце. Сяляне вёскі Дзятлава і суседніх вёсак Картуз-Бяроскае гміны збунтаваліся і зрабілі напад на маёнтак пана Трэмбацкага-Сігневіча.

Дзякуючы гэройскаму ўтрыманьню жандарскага ротмістра, пана Заблоцкага і сэржанта Пясэцкага, паўстаньне ліквідована.

Арыштованы: галава арганізацыі, падгатаваўшай паўстаньне, беларускі вясковы настаўнік Васіль Гарбацэвіч і каля 25 сялян. Арышты ня спынены. Следзтва вядзецца паскораным тэмпам.

Ваявода Навагрудзкі, ягомасьць пан Даўнаровіч, зьвярнуўся да Варшавы, да Ураду Рэчы Паспалітай з прапановаю—нinfградзіць пана ротмістра Заблоцкага і сэржанта Пясэцкага ордэнам „Белага Арла“.

* * *

Сяляне ня чытаюць „Kurjer Wileński“.
Ня чытаюць яго і бяроскія мяшчане,
але
мясцовая хроніка робіцца вядомай ім ня толькі дзякуючы польскай крэсавай газэце.
Не.
Даўгія абывательскія языкі—
распаўсюджваюць усялякія весткі
куды шпарчэй за прэсу.

* * *

Нядзеля.
Кірмашны дзень.
На бяроскім пляцы—натаўп.
Яблыку ўпасьці няма куды.
Вазы, вазы, вазы...
Жыта. Пшаніца. Авёс.
Ячмень. Грэчка. Проса.
Лён. Каноплі.
Бульба. Гароднiна. Садовіна.
Сыр. Масла. Яйкі.
Жывёла.
Чаго, чаго толькі няма!
— Усё прадаецца...

* * *

Можна падумаць,
што ўраджай у гэтым годзе—як найлепшы,
што ў мясцовага сялянства вялізарныя збыткі,
што вясковая гаспадарка на Крэсах Рэчы Паспалітай уздымаецца шпаркімі крокамі,
што ўзбагачваецца не па днях, а па гадзінах,
што бедната пераможана,
што ў хуткім часе
селянін з Усходніх Крэсаў—
будзе траха не багатшым
за амэрыканскага фэрмэра,
што ён ужо зраўняўся ў дабрабыце з чэхам,
немцам, датчанінам.
А можа нават гэты шчасьлівы час ужо надышоў?

Можа селянін з Заходняе Пад'ярэмнае Беларусі
ўжо цяпер
адзін з багацейшых сялян усяго сьвету?

* * *

Стары Бяркові
сядзеў перад сваёй крамаю і чакаў, пакуль ня ўдарацць у званы Картускага касьцёлу і не апавясьцяць народ аб тым, што імша скончылася.

Толькі пасьля гэтага можна будзе адчыніць дзьверы свае крамкі.

Даўней
трэба было-б яшчэ крышку пачакаць,
пакуль скончыцца ў праваслаўных абедня.
Але гэта было за царом;
праўда, нямецкая паліцыя ў часы окупацыі яшчэ трымалася гэтага звычаю, штрафуючы тых нецярплівых гандляроў, што зарана адчынялі свае крамы, не дачакаўшыся царкоўнага звону.

Але з тэй пары,
як прышлі палякі,
можна было сачыць толькі за сыгналамі Картускае званіцы.
Стала крыху вальней.
Але нашто тая вольнасьць?

У мінулыя часы,
хоць і пазьней адчыніш краму, дык усё-ж такі добра нагандлюеш за дзень.

Будзеш мець дзе-якія прыбыткі.
Заробіш сабе і на хлеб, і на чарку гарэлкі, і на новыя боты дзеткам, і старой Сорцы на хустку.

А цяпер?

Калі які дурны жаўнер не загляне,
каб купіць хустку сваёй кралі, дык так і прасядзіш у крамцы ўвесь дзень—

І пачыну ня будзеш мець.

* * *

Ды што тыя вайсковыя?

Заўчора заходзіў нейкі сэржант.
Выбраў сабе матэрыі
на сукенку каханцы.
Нічога не заплаціў,
узяў яе й панёс.

А што з ім зробіш?

*
* *

Вось надоечы, напрыклад,
Сусед—шавец
пашыў афіцэру боты.
Ну, той узяў, абуў іх сабе на ногі ды й пашоў сабе дахаты.
Так і не аддаў грошы.
Шавец да пана палкоўніка пашоў
у казармы—
жаліцца...
Вярнуўся—дый цэлы тыдзень хворы праляжаў...
Намяў яму пан палкоўнік бакі...

*
* *

— Афіцэры, кажа, Рэч Паспалітую абараняюць. Каб бальшавікі ня прышлі.
За айчызну, за бога змагаюцца.
Ім усе дапамагаць павінны.
Узяў афіцэр боты.
Ну, што за бяда?
Прынамсі, абуты будзе.
Ня босаму-ж яму хадзіць!
А ты, жыдоўская морда, туды-ж, жаліцца!
Ня блізкі твайму сэрцу інтарэсы сьвентай маткі ойчызны.
Відаць, сам ты—
бальшавік!

*
* *

Разьвярнуўся
і бац шаўцу ў морду.
Зваліў.
І доўга яшчэ потым абсацамі ўласных палкоўніцкіх ботаў таптаў і біў ляжачага.
А на абсацах—
шпоры.

*
* *

— Сьвента ойчызна!
Каб яна згарэла!

*
* *

Каля крамы праходзіць нейкі ня зусім малады ўжо чалавек.
Элегантная вопратка.

Ад добрага варшаўскага краўца.
Моднае шырокае кэпі. У клетачкі...
Выгляд—сталічны.
Толькі вось шаўровыя боты бутэлькамі—
даводзяць аб тым, што незнаёмы добра ведае, што ён не ў якім-небудзь эўропэйскім горадзе, але ў Картуз-Бярозе, дзе няма тарцовых брукаў і асфальтованых панэляй...

* * *

Тонкая шыя з выступаючым на горле адамавым яблыкам.
Доўгі, кручкаваты нос.
Галубыя вочы, чорныя бровы, чорныя, як смала, валасы на галаве...
Нядаўна паголены твар з вострым выступаючым падбародкам.
Са сваімі размаўляе з нейкай ледзь прыкметнай іронічнай усьмешкай.

* * *

— А, здароў, Бярковіч!
— Ну! Гэта вы, пане Шымэль?
— Я, я! Ці-ж не спазнаў?—
Як справы?
— Справы, як справы.
Дрэнныя толькі справы.
Як ува ўсіх, гэтак і ў мяне—
вельмі кепскія справы.
— Ой, ці-ж ува ўсіх такія дрэнныя справы?
Няпраўда.
Вось хоць-бы ў мяне:
я ўжо сёньня закупіў вагон жыта,—
Павязу ў Варшаву.
У вас цана—пяць злотых пуд, а там інтэнданцтва амаль ня ўсе дванаццаць плаціць!
— Ой, вэй мір! А гуцінькі гешэфт!
А ў якім двары, пане Шымэль, куплялі вы жыта?
— У двары! Ці-ж ты здурэў, Бярковіч,
ці можа мяне за дурня лічыш?
Дзе-ж у дварох такія ёсьць цэны, каб мне ў паноўабшарнікаў жыта купляць? Я ў сялян...
Пакрысе, пакрысе,—ну, і назьбіраў.

* * *

— Чорт іх ведае, гэтых сялян, пане Шымэль!
Усё што маюць—усё распрадаюць. Самі аднэй капустай харчуюцца. Ды яшчэ з бульбы наварацьсабе кашы. А рэшта—усё на кірмаш. Грошы так і цякуць сялянам у машну.
А купляць—нічога ня купляюць.
Ведаеце, паночку,—вось цэлы тыдзень—ані поўлокця матэрыі сялянам не прадаў.
Э! чаго тут гаварыць:
не прадаў, не прадаў!
Калі, далібог, паночку, разумееце,—хаця-ж-бы адзін які сабака забег, запытаўся, паглядзеў...
— Грошы, братка Бярковіч, так і цякуць ім у машну, але там не затрымліваюцца. Простая ім адтуль дарога: у гміну.
Што, забыўся пра падаткі?
Ці можа з самога шкуру мала дзяруць?
— Ой, пане Шымэль! Ну, а куды ім столькі падаткаў? Вось—у нашай гміне. Бадай ня ўсе масты праваліліся. Трэба ладзіць.
А войт усё кажа:
грошы няма. Ладзьце самі, як знаеце.
Ну, а што мы самі знаем? Як нам самім ладзіць?
Апошнія порткі прадаем,—
падаткі плацім.
Усё ім-жа. А куды ў іх грошы дзяюцца?—нямаведама!
— Эх, Бярковіч, Бярковіч!
Так табе й трэба ўсё ведаць!
— Ну, трэба, ня трэба, паночку,
але цікава.
— Глядзі, каб з гэтай цікавасьці ня стаў занадта разумным. А то, ведаеш—
астрог тутака, здаецца, недзе недалёка.
Кінь ты лепш гэтую дурніцу, і гандаль свой у краме таксама кінь.
Купляй лепш у сялян жыта і прадавай інтэнданцтву, пакуль на гэтым зарабіць можна.
Ну, і жыві сабе памалу.
Пакуль церпіцца і пакуль...
пакуль...
Ну, пакуль—
Jeszcze Polska nie zginęła!

* * *

Гэта вам перадавы артыкул аб экономічным становішчы.
А экономіка кіруе жыцьцём.
Яна ўтварае
ідэолёгічную надбудоўку.
Ну, хоць-бы ў пана Шымэля—
чым не ідэолёгія?
А вось вам і мясцовая хроніка.

* * *

Кірмаш.
Вазы.
Размаўляюць нейкія сяляне.

— Ну, як у вас, у Дзяглецы?

— Ды нішто. Учора паны трох хлапцоў забралі. А ў вас як?

— У нас—аднаго. Кажуць, вінавацяць яго ў тым, што Трэмбацкага падпаліў.

— Не, глупства!

За Трэмбацкага дзятлаўскіх грэюць. А гэта, напэўна, за падаткі.

— А што ў Дзятлаве?

— А хто-ж яго ведае... Сёньня дзятлаўскіх на кірмашы няма.

— Няма з чым ім ехаць.

Напэўна, дачыста абабралі іх усіх жандары.

— А Ахрэм з Пяшчанкі гаварыў, нібы ў Дзятлаве ў тую ноч, як двор гарэў, хлопцы ў пазасыпаўшых жандараў вінтоўкі пакралі і ўцяклі ў Спораўскія лясы.

— Чаго яны гэта?
Нашто ім?

— Блазень. Ведама, ня качак страляць.
Насоляць яны паном.
Пэўна, яны-ж і палац падпалілі...

Худы, высокі дзядзька агледзіўся і крыху цішэй дадаў:

— Малайцы хлопцы.
Каб больш такіх было,—у шчэнт-бы ўсіх паноў, адных перабілі-б, а другіх—пасадзілі-б у цягнік ды адасьлалі-б да Польшчы.

— Хопіць, пагулялі ў нас і будзе. Хай-бы крыху супакойна пасядзелі там, у Варшаве сваёй. Яны—самі па сабе, а мы-б—самі па сабе.

— А ў Савецкай Беларусі, кажуць, усю зямлю ў паноў паадбіралі, а цяпер з двароў выганяюць.
— Так ім і трэба. Адпанавалі, і будзе!
— А як у Дзятлаве?
— Вядомая рэч. Чалавек трыццаць, а мо' больш, зарыштавалі.
— Ды яшчэ з Пяшчанкі чалавек з дзесяць.
— Ды з Шыліна, кажуць, яшчэ некалькі, ды з іншых вёсак.
— Настаўніка Пяшчанскага дык яшчэ ўчора ўранку ў астрог зьвезьлі...
— А яго за што?
— Ціхі-ж хлапец!
— А хто-ж іх ведае. Як усіх, так і яго...
— Павятовы стараста, кажуць, сёньня рана ў Бярозу з Пружаны прыехаў.
— А заўтра, я чуў, ваявода прыедзе.
— Халера! Пагібелі на іх няма!

* * *

Ну, чым не газэта?

## РАЗЬДЗЕЛ IV

**Аб жандары Янку Глямбоўскім. Аб ксяндзы Канарскім і аб тым, як праясьніць і без таго зусім ясную справу**

* * *

Дзятлава.
На вуліцы ходзяць толькі жандары.
Выданы загад:
пасьля заходу сонца ўсе павінны быць у сваіх хатах.
І ўдзень:
мужчыны, кабеты, дзеці—
усе забіліся ў хаты, як краты ў норкі.
На вуліцу ня выходзяць.
Каб не пападацца на вочы
блакітным мундзірам:
— Небясьпечна!
Не спадабаецца твар—
і хто-ж яго ведае?—
Можна апынуцца на хурманцы, недзе
на шляху ў Бярозу,—
і ехаць у вастрог.

Солтыса кожную хвіліну выклікаюць да пана ротмістра і яшчэ да нейкіх паноў у цывільным, што прыехалі з Пружаны на аўтомобілі.

Хто яны?

Ніхто з сялян гэтага ня ведае.

Жандары паціху перашэптваюцца:

— Павятовы стараста!

— Начальнік павятовае дэфэнзывы...

* * *

Марылька моўчкі сядзела ў хаце за кроснамі, але працаваць не магла.

Чаго працаваць?

Вытчэш палатно, прыдуць жандары,—усё роўна забяруць.

Дый так Марыльцы праца не давалася. Шмат рабіць, калі...

* * *

Уранку той жандар, што начаваў у Марыльчынай хаце, жаліўся:

— Позна мы прыехалі...

Каб днём раней,—дык усё было-б добра:

Затрымалі гэтага галоўнага бальшавіка,

а ён ужо сваім сябром, відаць, плян даў:

што і як паліць,

як і дзе трэба бунтаваць,

каго, як і дзе забіць...

Ну, цяпер папаўся—ня вырвецца.

Расстраляюць—факт!

А спрытны хлопец, пся крэў!

І як гэта такіх настаўнікаў назначаюць?

* * *

— А як яго зваць?—

ня ўтрымалася Марылька.

— Хто-ж яго ведае: аб гэтым я нічога ня чуў. Ведаю, што ён быў настаўнікам тут блізка ў Пяшчанцы...

* * *

Жандар Янэк Глямбоўскі быў такі ня дрэнным чалавекам.

Сумленны хлапец.

Жандарскіх традыцый ня ведаў яшчэ. Толькі два тыдні таму назад пачалася яго службовая кар‘ера.

Ну дык што-ж тут дзіўнага, што ён сам схапіў вядро і пабег да калодзежу па ваду,

што ён дапамог Габрусю, Марыльчынаму брату, перанесьці абамлеўшую дзяўчыну ў кут і прыкладаць ёй да галавы ручнік са сьцюдзёнаю вадою,

што ён сам уліў ёй у горла са свае паходнае пляшкі крыху гарэлкі?

* *
*

Да самага вечара прасядзеў жандар з Марылькаю.
Усьцяшаў яе.
— Чаго-ж ты плачаш?
— Ты-ж сама кажаш, што ён не вінаваты.
— Ну, а калі не вінаваты,—
дык нічога яму й ня будзе.
Пасядзіць крыху ў астрозе,
будзе суд,—
апраўдаюць.

* *
*

Хлопча!
Ты шкадуеш дзяўчыну.
Дарма!
Глядзі каб каму-нёбудзь не давялося потым пашкадаваць цябе самога.
Можа ў тваёй хаце
засталіся старыя
маці і бацька?

* *
*

Сьмешны хлопец!
Ён служыць у жандарах ужо два тыдні, а ўсё яшчэ гаворыць пекныя і прыемныя рэчы—
пра суд,
пра справядлівасьць,
пра бога,
пра вінаватых і невінаватых,
пра праўду і крыўду.
Там, далёка ў Польшчы ў роднай вёсцы,
дзесьці пад Радамам ці Кельцамі
чуў ён, як аб усім гэтым
казаў з амбону
ксёндз Канарскі.

Цяпер
тут, на крэсах,
у якіх 100 ці мо' 150 вярстох
ад бальшавіцкае граніцы,
у беднай хаце беларускага мужыка ён гаворыць—
тыя самыя словы.

* *
*

Малады, занадта яшчэ малады ён хлопец, гэты Янэк Глямбоўскі.

Ён верыць, ад шчырага сэрца, верыць у свае словы.

А ці верыў сам сабе пан ксёндз Канарскі, калі гаварыў з амбону сваё казаньне?

* *
*

Васіль Гарбацэвіч пераначаваў у Бяроскім астрозе.
Нельга сказаць, каб з выгоднасьцю.
Але гэтак балела цела,
гэтак зморана была душа,
што ўсё-ткі—
з прыемнасьцю лёг ён
на ложак з дошчак
і адразу
заснуў.

Заснуў і спаў так моцна, як толькі можа праспаць змучаны, зьбіты, хворы чалавек.

Уранку яго разбудзіў даглядач.

— Уставай. Прышлі па цябе.

* *
*

Васіль ускочыў, агледзіўся.

Вострая боль у разьбітым плячы ад удару ручкаю нагана прымусіла яго адразу прыпомніць усё, што было ўчора. Цяперашняе яго становішча гэтак сама адразу зрабілася зусім ясным, як ясным зрабілася й тое, што чакае яго ўперадзе.

* *
*

Але нейкая няясная надзея
варушылася
там, недзе ў глыбіні душы,
і часам—
падымалася,

цалком захапляючы яго ўсяго,
сьпіраючы дыханьне,
прымушаючы сэрца біцца
мацней.

Падымалася,
і нейкаю галкаю падступала да горла...

* *
*

Васіль устаў і моўчкі, ціхімі крокамі, пашоў усьлед за да-
гледачом.

* *
*

На першым паверсе, унізе, у габінэце начальніка астрогу, сядзеў нейкі пан у цывільнай вопратцы.

— Сьледчы?—падумаў Васіль.

*
* *

— Сядай!
Васіль сеў.
Глядзеў пану ў вочы, стараючыся прачытаць у іх свой лёс.
Дарма: Сухія бязьлітасныя вочы глядзелі на яго.
Нічога—апрача цікавасьці,
тэй цікавасьці, з якою паляўнічы разглядае зайца, шукаючы таго месца, куды папала яго куля, і вырашаючы паважнае пытаньне:
што, зьвярок—
стары, ці малады?
Апрача гэтага—
апрача цікавасьці
і бязьлітаснасьці—
нічога ня ўбачыў Васіль.

*
* *

Спачатку—
пасыпаліся звычайныя пытаньні:
— Хто?
— Як зваць?
— Адкуль родам?
— Колькі год?
Нашто гэта? Ці-ж сьледчы сам гэтага ня знае? Васіль падумаў, але не сказаў.
Скарыўся.
Што будзе далей?

* * *

— Базыль Гарбацэвіч!

Вы абвінавачваецеся ў тым, што, стоячы на чале комуністычнай організацыі (?), вы вялі сярод сялянства бальшавіцкую агітацыю.

— На працягу трох тыдняў, з 6-га па 28-е ліпеня, вашы агэнты атруцілі 6 кароў у пана Трэмбацкага.

— Уначы з 1-га на 2-е жніўня, ужо пасьля вашага арышту, згодна з атрыманымі імі ад вас загадзя інструкцыямі, вашыя агэнты падпалілі двор Сігневічы і паднялі паўстаньне ў бліжэйшых вёсках, захапіўшы ў сонных жандараў зброю.

Цяпер—паўстаньне ўжо зьліквідована. Ваша праца, на шчасьце, пашла на нішто.

Ці прызнаеце вы сябе вінаватым?

* * *

Увечары

жандары ня прывялі, але прынясьлі на руках Васіля ў яго камору.

Ён быў чуць жывы.

Але хто-ж зьдзівіцца гэтаму?

Хто-ж ня ведае, як вядзецца допыт політычных злачынцаў у польскай дэфэнзыве, ды яшчэ на крэсах?

Там, дзе разбурылася стыхія народнага
гневу;
там, дзе жыцьцё чалавека каштуе таней
абгрызенае морквы;
там, дзе блізка пагранічныя слупы
вольнае БССР.
там, дзе глеба пад нагамі паноў хістаецца больш,
чым дзе-б там ні было ў іншым месцы?

* * *

Можа вы, чытачу, ня ведаеце?—Дык вось вам, даражэнькі, маленечкі сьпісачак „культурных мэтодаў“ вядзеньня сьледзтва ў адміністрацыйных установах „цывілізованае“ Рэчы Паспалітай:

1. Арыштанта падвешваюць за рукі на некалькі гадзін покуль у яго не расьцягнуцца сухажыльлі.

2. Астаўляючы яго падвешаным, сьціскаюць яму пальцы прэсам.

3. Колюць шпількамі і кішанёвымі ножыкамі.

4. Б'юць у грудзі і ў жывот ручкаю ад нагана.

5. Пад пазуры запускаюць стрэмкі з запалак.

6. Гарачымі запалкамі падпальваюць сухажыльлі ў тым месцы, дзе канчаецца далонь і пачынаюцца пальцы, і паміж пальцамі.

7. Прывязваюць да крэсла, і пякуць голыя калені меднымі дротамі ад электрычных правадоў, ачышчанымі ад ізоляцыі.

8. Калі арыштант траціць прытомнасьць, яго абліваюць халоднай вадой, даюць нюхаць нашатырны сьпірытус і пачынаюць допыт зноў,—пакуль ня зморацца каты.

Гэтак атрымліваецца матэрыял для вялікіх палітычных працэсаў.

* * *

Начальнік дэфэнзывы быў нездаволены. На працягу сямі гадзін пытаў ён гэтага „бальшавіка“, але так і ня здолеў нічога дабіцца.

— Упарты хлапец!

— Сьмелы.

— Але блазан:

— Чаго запірацца?

— Ці-ж справа і так ня зусім яшчэ ясна?

— Што-ж—
прыдзецца пару дзён яму адпачынку даць.

— А потым
зноў папрабуем...

— Убачым, што рабіць...

— А тымчасам?

— Зловім яшчэ каго-небудзь з яго хэўры,
тады справа стане яшчэ ясьней.

— Хай пабегаюць шпікі...

## РАЗЬДЗЕЛ V

**Аб пане Міхасі Гарбатым і аб тым, як на лаўца птушка сама прыляцела.**

* * *

Неба было пакрыта алавянымі хмарамі. З працяжным посьвістам гойдаліся з боку ў бок верхавіны плямістых бяроз.

Паабапал дарогі гнуліся да зямлі панурыя каласы зьбітага градам жыта.

На самым прасёлку, у глыбокіх выбоінах мясцамі затрымаўся жаўтаваты каламут. Дажджавая вада не сьпяшалася ўвайсьці ў глiністую глебу; пацiху паўзла яна па ўцiснутым у зямлю, нiбы-та разцом, шырокiм каляiнам.

Гразь, —
цякучая, клейкая гразь прылiпала да падмётак, перашкаджаючы хадзьбе.

Падарожнаму часам здавалася, што нага яго папала ў дзежку з цестам, і вось-вось яго пачне лаяць нейкая сварлiвая гаспадыня.

* * *

На дарозе —
скрыўленая фiгура.
На вачох—акуляры.
Твар выглядае нямытым, прынамсi, з поўгоду.
Рукi—даўгiя, ценкiя, з неабрэзанымi пазурамi, падобнымi да кiпцюроў нейкага асiлкавага птаха.
Вопратка?
Ад яе адмовiцца якi хочаце анучнiк.
Шапка—магерка, якую вельмi любiлi нашы дзяды, а цяпер—бадай нiхто больш i ня носiць.
Адным словам—старац-лернiк.
Iдзе i пяе набожную песьню.

* * *

Старац—у вёсцы.
Iдзе па вулiцы.
Грае i пяе.
Далёка нясуцца гукi яго сьпеваў.
З вакна высоўваецца нейкая рука
i падае
кавалак чорнага хлеба.
—„Дай божа!“

* * *

Старац становiцца,
кладзе хлеб у торбу,
i з цiкавасьцю разглядае вакно.
Нiбы чагосьцi чакае.
Чаго?
Няма ведама!
Нiхто не выглядае з ваконца.

Ніхто ня выходзіць паслухаць старца-лерніка.
Ніхто ня хоча пагаманіць з вандроўным
лернікам, які шмат бачыў на сваім вяку.

* * *

А здаецца,—
хто-б, калі ня ён, змог-бы расказаць
столькі цікавых гісторый?

* * *

Вакно зачыняецца.

* * *

Старац прашоў вёску.
Сеў на пянёчку.
Выняў крэмень,
тытун,
люльку.
Набіў яе.
Выкрасаў агню.
Запаліў.
Сплюнуў.

* * *

Але што гэта?
Старац разьвярнуў торбу, выняў з яе палову зробленых у вёсцы кавалкаў хлеба і... кінуў іх на дарогу!

* * *

Няўжо-ж гэтак цяжка несьці хлеб на старой сьпіне?
Ці, можа, старац голаду не баіцца?
Хлеб яму не патрэбен?

* * *

Простаю стужкаю цягнецца дарога.
Там, недзе ўперадзе, яе глытае начная цемра.
Міхась Гарбаты ўжо два дні ходзіць па вёсках.
Ідзе ціха, ледзь-ледзь перасоўваючы ногі.
Люлька выкідае густыя, пахучыя клубы дыму.

* * *

На сэрцы—трывожна, весела.
Цяпер —
бліскучая справа.
Хоць і цяжкая, але Міхась Гарбаты пэўны:
ён з ёю справіцца, —
як не адзін ужо раз спраўляўся з справамі, хоць і ня гэтак цікавымі,—але шмат складанейшымі.

* * *

Міхась Гарбаты ведае сваю справу.

Міхась Гарбаты ўжо пяць год працуе ў гэтай спэцыяльнасьці.

Не адзін ужо раз—
начальства гаварыла яму
шчыры дзякуй.

* * *

У мінулым?

А! Што там у мінулым!

Маці—памерла, калі хлопчыку было яшчэ толькі паўтара гады.

Бацька—запойны п'яніца. Алькоголік.

Ну—
голад, холад, біцьцё...

* * *

У пяць год—поўны сірата.
Сьпярша—хадзіў па добрых людзях.
Сьляпога старца-лерніка вадзіў.
Зарабляў.
Неяк карміўся.
Потым—
абрыдзела.
І пачалося:
два тыдні вольнага жыцьця—
астрог;
зноў два тыдні вольнага жыцьця—
зноў астрог.

* * *

Астрог, астрог, астрог.
Астрог выгадаваў маладога Міхася.
Ён яго адукаваў.
Ён нават ня быў для яго ўжо страшным.
Толькі ў ім адпачынак.
Маленечкі.
Толькі ў ім адчуваў сябе Міхась як-бы дома.
І калі яго саджалі,—
ён ціха ўсьміхаўся:
казённая кватэра, з поўным утрыманьнем.

* * *

Колькі раз давялося яму сядзець?
Хто-ж яго ведае...
Міхась даўно зьбіўся з ліку.
Бывала, зловяць яго і пытаюцца:
    — Колькі „прыводаў“?
    Ён сьмела адказвае:
    — Два, Вашбродзь!
    Вураднік яму—у морду:
    бац!
    — Чаго брэшаш, скаціна!
    — Вінаваты,—тры, Вашбродзь!
    Бац, Бац!
    — Чатыры, чатыры, Вашбродзь, выбачайце!
І гэтак—
пасьля кожнага ўдару
выяўляўся яшчэ адзін
                „прывод“

* * *

Апошнім разам вышла дрэнная гісторыя.
Ня любіў Міхась „мокрых спраў“,
Але, як той казаў,
    „на сьвеце ўсяго нажывеш
        і Кузьму бацькам назавеш“...
Адзін толькі раз справа выпадкова стала „мокрай“.
І Міхась засыпаўся.

* * *

Прасядзеў у вастрозе пяць год.
Раптам—
    вайна.
Страляніна.
Гарматы бухаюць усё бліжэй і бліжэй.
Усё мацней дрыжаць шыбы за астрожнымі кратамі.
Потым—
памалу робяцца чутны стрэлы кулямётаў.
Сьпярша—здалёк; потым—бліжэй і бліжэй.

* * *

Адчыняюцца дзьверы.
Варта ўцякае кудысьці на ўсход.
    А Міхась і яго таварышы?

Ну! Чаго аб гэтым гаварыць.
Хто-ж ня ведае трынаццатае запаведзі:
— Не зявай!..
А ў гэткія слаўныя часы—
зявае толькі
„фрайер“.

* * *

Гэта ўсё—было даўней.
А цяпер—
павятовы начальнік паліцыі,
начальнік дэфэнзывы,
павятовы староста,
і—кажуць, нават
„сам“:
пан ваявода навагрудзкі—
моцна жмуць Міхасю руку.
— Спрытны хлапец...
— Няма такое справы, каб ня выявіў...
— Пакуль ён працуе, бальшавіком ходу няма.

— Каб шмат было такіх,—Рэч Паспалітая магла-б быць супакойнай наконт лёсу сваіх усходніх крэсаў!

* * *

Ці-ж мы будзем спрачацца з гэтым?
Не!
Але мы ведаем:
на шчасьце—
такіх, як пан Міхась Гарбаты—
ня шмат

* * *

Справа адбылася трэцяга дня.

Пан начальнік дэфэнзывы ціха сядзеў у сваім габінэце, на мяккім крэсьле, перад швэдзкім пісьмовым сталом, і пакурваў смачную гаванскую цыгару.

Гаварыў ціхім, спакойным голасам, з перарывамі, не сьпяшаючыся і крыху расьцягваючы словы.

* * *

— Пане Гарбаты!

— Дасюль вы працавалі добра, і я вам вельмі ўдзячны, гэтак сама, як і пан староста.

— Маю пэўную надзею, што й на гэты раз справа пры вашай дапамозе будзе разьвязана ў найкаротшы тэрмін.

— Сам пан ваявода павядомлены аб усіх здарэньнях апошніх дзён і вельмі цікавіцца ходам сьледзтва.

— У двохдзенны тэрмін усе пытаньні маюць быць абавязкова высьветлены. Калі мы зможам здабыць ваенна-палявому суду даволі дакладны красамоўны матэрыял я абяцаю вам ад свайго імя і ад імя пана старосты 1000 злотых, у лік якіх 200 злотых на выдаткі вы можаце атрымаць зараз-жа ў пана пісара.

* * *

Праз чвэрць гадзіны Міхась Гарбаты выходзіў з кватэры пана начальніка дэфэнзывы. У кішэні дзынкалі—
200 злотых.
Аванс.
У лік запрадажы жыцьця чалавека.
А можа і не аднаго?

* * *

Аванс трэба выпраўдаць.
І трэба атрымаць рэшту—
яшчэ 800 злотых...

* * *

Міхась Гарбаты ведае сваю справу.
Ён спрытны хлапец.
Але што-ж ён можа зрабіць, калі ніхто з сялян ні ў якія гутаркі ўваходзіць ня хоча.
Калі кожны па самае горла заняты аднэй толькі думкай:
як-бы самому—
застацца цэлым?
Як-бы не сказаць што-кольвек такое, такое...
ну, адным словам, нешта такое,
што папярок горла стаіць,
чым уся галава поўна,
чым уся душа захоплена,
што кожную хвіліну гатова сарвацца з языка і што, калі ўчуе хто з тых,
— каму чуць ня трэба,
але хто вельмі хоча ўсё знаць, чуць і бачыць,—
тады селяніна чакаюць:

астрог,
батагі,
і... што яшчэ?

Эх, ці-ж мала яшчэ чаго можа быць за неасьцярожна вымаўленае слова!

Ці-ж вас самых яшчэ ніколі ня біў
у морду пан стражнік?

* * *

Адным словам, пакуль што, справа хаця і цікавая, але дрэнь-справа.

Што-ж!
Яшчэ ёсьць час.
Нешта яшчэ можна спрабаваць...

* * *

У пана начальніка дэфэнзывы—весела.
У пана начальніка дэфэнзывы—госьці.
Усё свае
— афіцэры.
Вясёлыя гутаркі.
Віно.
Карты.
Толькі кабет не хапае.
Тады было-б зусім, як у пана Трэмбацкага ў тую суботу,
перад пажарам.

* * *

Стук у дзьверы.
— Уваходзьце!
Жандар за слугу:
— Пане начэльніку!
Тутака вас хоча ўбачыць з Дзятлава нейкая
дзяўчына...
— Дзяўчына?..
— Так, проша пана!
— Цікава!
— А пекная?
— Чаго там, пусьці...

* * *

На лаўца—
птушка сама прыляцела.

*(Працяг будзе).*

# ЯДЗЯ-ЖУЧОК

Ц. Гартны

(Эскіз)

Пракоп паглядзеў у вакно: з-за маленькага чубочку лесу выходзіла крывяністае сонца. Далёка ўгору сягала праменьне, запаляючы шырокі гал неба. З узгорку, на якім ляжала чыгунка, цягнуліся доўгія разгатыя цені, ападаючы сваімі лапамі да берагоў нелапое рэчкі—Усекі. Празрыстае мяккае паветра плыло ў акно, выцягаючы хатні напоўкухонны, напоўспальны прыпах. Цішыня—што ня гойдалася правуцэньне, якое пераняў ад шуляваньня да вярэі хітры павук. Цягнула ў лог, да Усекі, на росную траву, на адпачынак, нядбайны, зацяжны, бесклапотны. Не хацелася гадзіцца, што вось-вось, неўзабаве ён мусіць кінуць усё-ўсё, што за апошнія два месяцы так пакахаў, з чым зжыўся—дачу, гаёк, гульбішча з Ядзяю паўз чыгункі, чырвоныя ўсходы, пах мурагоў, жыта і... самую Ядзю... Не хацелася гадзіцца, што зараз, вось праз дзень-другі, ён апыніцца на фронце, тварам к сьмерці. „Ці можа тое быць?“ не паверыў рачаіснасьці Пракоп і азірнуўся на хату, каб праверыць, дзе і што ён—жыве, адчувае, валодае сабою, ці плыве, падганяты якойсьці чужою непераможнаю сілаю.

На хаце быў растароп: няпрыбраныя ложкі, а на іх ускудлачаныя пасьцелі, белыя падушкі, укамечаныя, зьмятыя капы; на падлозе расьцярушаны кавалачкі паперак, аднекуль нанесеныя саломінкі. Дачасна раскіданыяр эчы з адзежы. Пры стале, на лаве стаяў упакованы партплэд, а каля куфэрачка—ухажвалася засумленая Ядзя; бразгала чайнікам, нажамі, шклянкаю, майстравала іх, перакладала і час-ад-часу пазірала на Пракопа. Відаць было, што сама экстрэнна паднялася з пасьцелі, раней, ніж то заўсёды, бо: белая памятая спадніца часова была прышпілена на адну машынку, выяўляючы кашулю; будзенная аблезлая блюзка зачэплена гаплікам за дзірачку, бакі яе ападалі з плеч, агалялі іх, паказваючы далікатную прошву на белай кашулі; на нагах—пратаптаныя туфалькі, з якіх вылазілі пальцы.

Пракоп адышоў на хату, прамармытаў нешта сабе пад нос, пасьля засьвістаў і праказаў да Ядзі:

— Хутка ты ўходзішся? зараз трэбаісьці на вокзал.

Хвіліну Ядзя памаўчала.

— Зараз,—і глыбока ўздыхнула.

— Так скора,—не агледзелася. Ці-ж будзеш хаця пісаць?

— А то я хлушу табе, Ядзя?

Пракоп падышоў да жонкі і пацалаваў яе ў голаў, у распушчаныя, пакручастыя, густыя косы.

—Ня хочацца ехаць, прызнацца. Так міла тут, так добра! Каб гэта можна было астацца! Каб гэта вайна не за свабоду!— Не паехаў-бы, нізашто не паехаў-бы... Але трэба, павінен... Без мяне, бяз іншага, бяз трэцяга. Вораг ня дрэмле.

Ён ацягнуў гімнасьцёрку, новую, стройна сшытую, перацягнуў папругу, паправіў галіфэ.

Ядзя падбегла да палічкі, узяла шчотку і, здаецца чыстыя, пачысьціла плечы.

— Ты чакай першага пісьма, нікуды ня едучы адгэтуль. Я зараз-жа, толькі заеду, паведамлю. Хай толькі наш полк затрымаецца ў адным пункце хоць на тыдзень—б'ю тэлеграму, і ты сьпяшы. Сьпяшы ка мне.

— Ты-б хаця, дарагі мой, пільнаваўся не насунуцца першым на кулю... Цяпер гэткія пачнуцца бойкі!

Пракоп засьмяяўся:

— З гэтым не справуеш: камандзер—і мушу ісьці першым, пярэднім. Трэба чырвонаармейцам паказваць прыклад. Ды павіннасьць, Ядзечка. Вайна, абарона рэспублікі, абарона свабоды. Бачыш—захварэў, адпусьцілі на два месяцы, а зараз ужо—мушу ісьці...

— Ты заўсёды гарачышся. Чаму-б табе за ўсіх першаму?

— Я чэсны ваяка. Можа таму, што я так многа пацярпеў за волю, многа пазмагаўся і даражу ёю? Можа таму!

— А мною даражыш?

Пракоп абняў Ядзю і шчыра прыціснуў да сябе, перагнуўшы зьлёгку яе пояс, ажно адкінулася галава і веерам зьвісьлі косы.

У засос пацалаваў і тут-жа хапіўся за гадзіньнік:

— Пара! Пара, Ядзя.

І пачаў зьбірацца: зьняў з гвазда на сьцяне шынэль, згарнуў яго, надзеў шапку, перавязаў рамухамі портплэд з куфэркам, каб ёмка было нясьці на плячы, агледзеўся па хаце.

— Ня сумуй, усё-ж, заходзь да Юшкавых, бывай у горадзе, у тэатры, у кіно. Чуеш?

Працягнуў руку і разьвітаўся.

Ядзя маўчала. Хмурым узрокам прасачыла, як Пракоп ускінуў на плечы клумкі, правяла яго на двор.

— Я буду глядзець, як ты ехацьмеш: матні мне хустачкаю да курганкоў. Добра?

— Добра.

Пракоп вышаў з двара і павярнуў на сьцяжынку, у жыта, якая вяла ў прыгарад Сакоўку, дзе быў вокзал. Жыта хутка схавала Пракопа, адно мільганула пару разоў у Ядзіным ваччу яго шапка. Ядзя пастаяла каля вешніц, пільна пасачыла ў той бок, куды пашоў Пракоп, у думках правяла яго да вокзалу і барджджэй вярнулася ў хату. Старэнна ды сьпешна стала зьбірацца выйсьці да курганкоў, каб не прапусьціць цягніка.

Адчыніла вулічнае акно.

## II.

Праз хвілін дваццаць Ядзя бегла нацянькі да курганкоў. За гародам, які абмінула з паўднёвага боку, наткнулася на ярыну і, азіраючыся па бакох, кінулася ў ператоч ніў, топчучы шыpокалісты ячмень, пахучую канюшыну. У сьлядох за ёю астаўлялася палоска пагнутае збажыны. Цырбунцы ячменю, рослага і густога, хвасталі яе па белых няпрывычных руках, дражнілі скуру, вызывалі сьверб. На межах—спатыкалася, бо не глядзела ў зямлю, а праўцом, на чыгунку кідала пагляды.

За нівамі пачаўся мурог—роўны, як стол, з густым дзяцельнікам, з жоўтымі сьляпушкамі, казакамі, бабкамі. Густым струменьнем ліўся пах і ап'яняў сьвежым водырам.

Дабегшы да курганкоў, Ядзя бязмоцна спынілася, адсаплася і ўжо паважна палезла на сярэдні, самы высокі і самы травяністы. На верхавінцы яго села і ўперылася вачыма ў бок гайку, з-за якога штодня, адзін за другім выходзілі тры цягнікі. Не звадзіла вачэй, прыслухоўвалася, а мо' сьвісьне.

Перад ёю слаўся поплаў, запоўнены неўгамонным гудзеньнем пчол і мошак. Мільгацелі матылькі, трапяталі стрэлкі. Сонца ўсё вышэй падымалася, расьпякала. Ядзі рабілася млосна і цягнула легчы на мяккай мураўцы тварам угору пад сонца і спакойна паляжаць. Не ў пару прачнулася.

Але толькі разабрала млявасьць, што надышла разам з сумам і нудою па Пракопу, як да яе даляцела знаёмае шыпеньне цягніка. Над гаем закруціўся густы дым. Ядзя ўсхапі-

лася на ногі, скаланулася ўсім целам, кінулася ў жаласьць і разьняла рукі, як быццам-бы хочучы сыпыніць цягнік або ўлавіць у гарачыя абдымы Пракопа.

Цягнік разьвінаў ход, і выскаўзалі вагоны з ваччу. Ядзя прыплюшчыла вочы, працягнула галаву наперад і шукала белае хустачкі. У ваччу прамігнула многа розных—белых, шэрых, і жоўтых плямак, некалькі дзесяткаў галоў людзкіх глядзела ў вокны вагонаў. У кожным вакне здаваўся Пракоп і ўва ўсіх—яго ня было. Не ўлавіла выразнага вобразу і спагадліва правяла цягнік вёрст за пяць, пакуль ён не схаваўся за покатам ніў.

Але Ядзя гналася далей за дымам, які пырхаў з жаўтаватага жыта, мэрам-бы з яго абляталася красаваньне, гналася некалькі доўгіх хвілін, пакуль у вачох асталася рэдкая шэрань паветра.

Тады яна разуверана адвярнула вочы назад, на дачу, якая глядзела адчынетымі вокнамі ў той-жа бок, да таго-ж цягніка, і ў яе раптам стукнула думка: „Вярнуся назад, і Пракоп не спаткае! Прыдзецца лажыцца спаць аднэй у кватэры, аднэй уставаць, аднэй хадзіць на поплаў да рэчкі. Як нудна, як бясьцікаўна! Ніколі яшчэ гэтак ня было! Забраў-бы мяне хутчэй з сабою: і я-бы тым самым цягнікам, у тую-ж самую далячыню—паняслася-б, паняслася-б!“

Ядзя апусьцілася на траву. Думкі суздром перамянілі настрой, заказлыталі ў нутры, разьвесялілі, абнадзеілі. Міжвольна спляліся ў яе выабражэньні чужыя вабныя вобразы, замуляліся гатовыя пляны блізкага адчуваньня іх пры сабе, вакол сябе, у сабе. Не ўстаяла—аддалася марам і паціху задрамала...

Прачнулася з нейкае трывогі ў сьне, цёмнае, няяснае. Усхапілася з травы, паглядзела ўсьцяж чыгункі туды, дзе схаваўся цягнік з Пракопам, пасьля крута рушыла з месца, пабегла ў подбежкі дамоў.

Прыбегшы, баржджэй стала наводзіць парадак у хаце, мяркуючы пры гэтым, як і што яна будзе браць з сабою ў дарогу, што каму пакіне. Перабрала ўсе рэчы, усяму нашла месца, спынілася на Пракопавым дзеравяным ложку: як яго адвезьці ўдасца? Перашкода, стромка ў гладкім пляне пераезду. „Ну, з гэтым тады вырашыцца, абы Пракоп пісаў!“

Падсьцілаючы яго ложак, ужо з аднэю падушкаю, Ядзя запытала сябе самую: „Як-жа ён там, небарачка, спацьме? Дзе, на чым? А мо' на голай зямлі?.. Ой! Што я! Паеду і бу-

ду гэтак сама дбайна засьцілаць яго ложак, даваць чыстую бялізну... Ці-ж яму трэба першаму быць?“

Не ўцярпела—падбегла к акну, прасадзіла голаў і яшчэ раз паглядзела ў той бок, куды паехаў Пракоп і куды—ой, няйначай!—паедзе і яна.

Паківала рукою, паслала пацалунак...

„А вечарам наведаю Юшкавых. З Парфірам ды з Аленаю пойдзем заўтра ў горад. Дзень-другі—вокам мігнуць—пралящяць. Не азірнуся, як дарога. Ды спаткаемся“...

У Ядзіным нутры было мэрам у крыніцы, у якой кінуты камень ускаламуціў чыстую ваду.

III

Цёмная зорная ноч глядзела ў чатыры вокны—не адчыненыя, як дасюль пры Пракопе, а шчыльна закрытыя. Ядзя шкадавала, што няма акеніц. Заперла на закрутку дзьверы і ўтулілася ў капу з галавою. Было ніякавата, што адна, што другі ложак глядзіць пустым. Старалася не сапці, каб цішыні—не варушыць. Паднялася гострая ачуласьць. І так прыемна было, калі брахаў суседні сабака! Усё-ж старажыў.

Нарэшце, заснула і ня ўгледзела, калі праспала ўсю ноч... Расплюшчыла вочы і стрэла сонца. На сьцяне вісела старое галіфэ Пракопа, на стале ляжаў нумар газэты „Известия Центрального Исполнительного Комитета Советов“... Пад лаваю стаялі сьвятошнія боты з гладкімі халяўкамі, крыху прыпыленыя. На другой сьцяне вісела шэрая гімнасьцёрка. Усё выглядала гэтак, мэрам-бы Пракоп дачасна выбег некуды, а зараз вернецца і падойдзе да яе, Ядзі, каб прыласкаць, пацешыцца ўдваіх, як то было на працягу так хутка мінулых двух месяцаў.

Нават настрой яе трываў гэткім, як заўсёды, бадзёрым, рэзвым. Учарашні выпадак сьцёрся з вачэй, прытупіў сваю гострасьць. Здавалася ніякаватым усё тое, што перажыла за дзень і асабліва вечарам! А яшчэ была растрывожыўшыся! Прасіла Алену Юшкаву прысьці начаваць. Болей таго, ждала, хоць-бы і Парфір прышоў і шкадавала, што адказала яму. Падумала ўсякся. А сёньня? Што значыць? Тое самае сонца, тыя выгляды ў акне, што й дагэтуль, роўныя, аднакія, прывыклыя, любыя. Вось-вось стукнуць дзьверы, прачыняцца і з сянец прасунецца галава Пракопа:

— Ты ўсё яшчэ ляжыш, Ядзя?—скажа ён жартоўна.—А я ўжо пасьціраў расу, памыўся ў рэчцы.

Яна ўстане, нагрэе цыкор'ю з малаком, напячэ аржаных скавароднікаў і ўсядуцца сьнедаць, адчыніўшы акно. А пасьля пойдуць у гай, палягуць каля маладых хвоек і будуць строіць пляны далейшага наступнага жыцьця. Як яно міла!

Ядзі не хацелася падымацца з ложку, чаго сьпяшаць? Распранулася па пояс, падставіўшы сонейку грудзі і нязьмігутна глядзела ў акно, чакаючы.

Але зьнячэўку прамігнуў хтосьці між вокан, перш з вуліцы, пасьля ў дварэ. Яна прыкрылася да галавы, настаражылася. Хто-б то быў? Рашыла, што гаспадар ці гаспадыня, якія жылі ў задняй хатцы. Што ім да яе і ёй да іх? А мо' хто іншы. Стукнула клямка ў дзьвярох. Ядзя схапілася, накінула падраную капоту і падбегла к акну: няўжо Пракоп? Сапраўды— і раздваілася думка, чаканьні згрудзіліся, наперлі. Паглядзела, затуляючы вочы ад сонца.

— Хто там?

— Парфір!

— Парфір?

Засаромілася і пабегла адчыняць.

— Я да вас, убачайце. Мне патрэбна кніжка „Гістарычны матэрыялізм". Пракоп пазычаў.

— А вы не на службе? Чаму?

— Дрэнна чуюся, ведаеце...

Гутарылі праз зачыненыя дзьверы. Пасьля Ядзя спахвацілася.

— Я адсуну, а вы крыху пачакайце, а то я не адзета.

Сама пабегла ў хату і баржджэй сяк-так скамячыла косы ў куклу, нацягнула спадніцу паверх капоты, заслала ложак. Праз акно крыкнула:

— Уваходзьце!

Парфір увашоў.

— Ну, як пераначавалі?

— Добра.

— Не баяліся?

Ядзя паматала галавою:

— Як вам сказаць...

— А я вам казаў, дазвольце прысьці...

Парфір засьмяяўся.

— Нават і думалася: хай-бы хоць хто, а то аднэй...

— Нічога, ня так страшна,—суцешыў Парфір.

Ядзя адчыніла акно.

— А ведаеце, Парфір, я ўжо надумалася так: не атрымаю пісьма к дзесятаму, бяру і еду сама. Найду, няпраўда.

— А там? Пракоп, напэўна, адправіцца на фронт, а вы? Зараз насьпяваюць рашучыя бойкі. Бальшавікі гатовяцца даць адбой... Бачыце, куды пасунуліся белыя.

Памаўчалі.

— А як мне парадзіце? Тут заставацца аднэй?

— Ваша справа—мяркуйце. Памойму—так. Яшчэ памаўчалі. Ядзя стала хваляваецца, затупала па хаце, пазіраючы ў акно, раздумваючы.

— Ведаеце Парфір!—сказала расстроена і рашуча:—паеду! Паеду да Пракопа. А там—паступлю сястрою. Мне-ж ня вучыцца; санітарыю ведаю... Паеду і паступлю. Сапраўды, чаму-б мне не пасабіць Чырвонай арміі? Затое, буду з Пракопам.

Парфір ябедна ўхмыльнуўся.

— А вы яго нойдзеце? Зараз ідзе вялікае перакіданьне і паасобных людзей і часьцей войска, комплектуюцца новыя адзінкі, сартуюцца людзі. Дзе вы нойдзеце Пракопа?

Ядзя задумалася.

— А мо' пакуль заедзеце, ён пойдзе ў бойку і, чаго добрага?..—дабавіў Парфір.

Да чаго ён вёў, Ядзя не дагадвалася... Але словы Парфіра самастойна выклікалі ў яе разам з агідаю да яго і гострае хаценьне, непаваротную рашучасьць, як найхутчэй кінуць гэта месца, дачу, усю прыгожасьць мясцовасьці, сабрацца і ехаць. Ехаць на Арол, сьледам за Пракопам. Што будзе там, як павядзецца—не палохала, ня выклікала сумненьня. „А мо' Пракоп пойдзе ў бойку і, чаго добрага“...—гэтыя словы пераважвалі ўсё іншае, захаплялі цалкам істоту Ядзі і настойна карцелі ўва ўсіх часьцінках, ува ўсіх мясьцінках яе цела, яе нутра. Хоць захапіць на дзень, на два, хоць яшчэ раз угледзецца, бо, „чаго добрага“... Праўда...

Перад Ядзяю адчынілася цёмнае бяздоньне, пустэча, бязцікаўнасьць, калі, „чаго добрага“ ды згубіць Пракопа, астанецца адна.

Яна ўжо не глядзела ў акно, згубіла густ ва ўсім тым, што толечкі вось падымала яе пачуцьцё, супакойвала, разважала. Выляцела апошняе каліва самаўцехі, самазабавы, што мо' Пракоп куды вышаў, а ня сёньня, то заўтра вернецца, і зноў, як дагэтуль, яны будуць цешыцца, праводзіць час удваіх. Куды там! Наляцелі чорным ліпкім згустам учарашнія зьявы: збор, разьвітаньне, праводзіны, сьпешка да курганкоў, каб угледзець яшчэ, як ён матне хустачкаю, як пашле ласкавы ўзрок, пацалунак.

І ўчора—гэтага ня здарылася—прымха? Дзе там? Ужо йшлося, ужо ідзецца да нядобрага.

Ядзя паддалася забабонам, успрымала блізка да сэрца найменшыя, драбнейшыя трапункі ў мінулым, ад часоў знаёмства з Пракопам, праз поўгадовае сумеснае жыцьцё, да ўчарашняга. Вынашла, вышукала шмат-шмат выпадкаў, якія па яе думках, нядобрае сулілі.

— Паеду, Парфір. Вы купіце што-колечы з Пракопавых рэчаў, а іншае, я папрашу, няхай у вас пастаіць; хоць-бы ложак. Га?

— Ласьне я вас напалохаў так, што вы гэтак раптоўна перамяніліся?

Ядзя не дала на гэта адказу і яшчэ раз перапытала:

— Купіце, Парфір?

— А што вы прадасьцё?

— Вось боты, вунь гімнасьцёрка, бялізны пар са дзьве,—паказала пальцам ў некалькі месцаў.

Парфір паглядзеў, памацаў кожную рэч, падумаў.

— На днях скажу... Ну, пашукайце кніжкі, калі ласка...

Ядзя адчыніла шуфлядку, перакінула некалькі дзесяткаў кніжак і дастала „Гістарычны матэрыялізм“.

— Вось яна.

Парфір надзеў шапку, каб ісьці.

— Заходзьце да нас, Алена прасіла.

— Добра, дзякую!

Ён пашоў з хаты, Ядзя правяла. На вуліцы Парфір сказаў:

— Ня раджу ўсё-ж вам, Ядзя, ехаць. Што вы задумалі? Кіньце свае пляны. Сястрою! на авёс, ка... расправу з раскомамі?.. Ці вам надакучыла жыць?

— Маўчэце!—раззлавала:—Тое самае, што й Пракопу.

Ядзя не даслухала.

## IV

Цэлы дзень ня выходзіла з хаты: разьбірала рэчы, якія прадаць, якія пакінуць на схоў, што забраць з сабою. Толькі-б менш было кошы,—спраўней у дарозе. Два куфэрачкі к вечару былі гатовы. Ядзя паставіла іх пад ложкам. А што прадаць—адлажыла на лаве. Ложак, столік, некалькі крэсел—пакіне гаспадару кватэры.

На змроку пабегла да Юшкаў, каб пагаварыць з Парфірам наконт прадажы яму Пракопавых рэчаў. Ня думала слухаць, што ён казацьме; мала што чужы, незацікаўлены ў яе жыцьці, хаценьнях і намерах, чалавек параіць?

Але прышла і зразу наткнулася на гутарку, якую, мэрам незнарок, прыпас да яе Пракоп...

Ён быў адзін у хаце: маці з Аленаю ранкам пашлі ў горад і яшчэ не вярнуліся. Сядзеў пад акном і чытаў якуюсьці кніжку, а толькі згледзеў Ядзю, кінуў чытаньне, выскачыў на ганак і наўпор пачаў даваць ёй свае рады. Ядзя ня слухала, думала пра сваё і перабівала:

— Та купіце, Парфір Якавіч? Я згодна, прадам, хоць Пракоп крычацьме... Бо куды-ж мне пускацца ў гэткую дарогу з цяжкім багажом.

Парфір запрасіў яе ў хату і не адказваў праўцом, а казаў сваё, знарок надуманае, з некаю сваёю таемнаю, асабістаю мэтаю.

— А калі Пракопа заб'юць? Гэта-ж вайна, сярдзітая, заядлая вайна. Думаеце, ня можа таго здарыцца? Тады пакутваць будзеце, бадзяцца...

— Не спакушайце мяне, Парфір. Я рашыла ехаць—больш нічога. З кім я тут застануся? У мяне няма блізкіх людзей, я адна, я... вы купіце хоць адно што: боты ці гімнасьцёрку?

— Вы так скора ўжо паедзеце?—зьдзекваўся.

— Ня буду чакаць. Хутчэй паеду, можа спаткаюся.

— Няўжо вы думаеце, што Пракоп гэтак вамі даражыць, як вы ім?

Ядзя падсьвядома зразумела ўвесь сэнс Парфіравых слоў, запужалася.

Да чаго яны кіруюць? Маладзіцы стала не па сабе. Паглядзела Парфіру ў вочы, што напісана ў іх? яны глядзелі хітра, падлабуньваючы, пранізваючы нашароханую Ядзю. Яна адступілася ад яго. Тады Парфір, мэрам бы зьнячэўку, нагнуўся да яе, працягнуў руку, каб схапіць.

— Парфір Якавіч!

— Ня бойцеся.

Ступіў рашуча і хапіў Ядзю за плечы. І ўмаляюча, засопшыся, з некай трасучкаю ў голасе і ва ўсёй постаці, пачаў казаць.

— Куды вам ехаць, Ядзя? Пракоп ужо пашоў на фронт. Ужо пачаліся бойкі пад Варонежам... Каля Касторнае Мамонтаў... Дзянікін дойдзе да Масквы па целах усяе чырвонае арміі... Вы хочаце сьмерці? фронт, збой, калатня,—ці-ж можна зьвязваць цяперака сваё жыцьцё з краскомам якім-небудзь? Паглядзеце, кінуў вас і паехаў; ласьне ня мог узяць з сабою? Адкуль і што прышоў, чым павінны для вас...

Ядзя некалькі раз памкнулася вырвацца, але Парфір крэпка трымаў яе каля сябе, нагнуўшыся над вухам казаў свае сказы, гарачыўся, задыхаўся:

— Я вас люблю... Я дам вам ня менш Пракопа... Ядзя, астанецеся. Я ўстрою вас на службу. Будуць бальшавікі—будзеце служыць, будуць белыя—таксама будзеце служыць. Куды вам ехаць? за кім гнацца? На пакуту едзеце...

Але Ядзя не далася ўгавору, не ўзварушылі яе Парфіравы словы, а наадварот: чым больш той казаў, тым для яе рабілася ясьней, што Парфір нядобрае замысьліў, што сур'ёзна рашыў пайсьці на страшны для яе манэўр.

— Вы купіце, Парфір?—упарта задала яму пытаньне і, калі Парфір змаўчаў, рванулася як мага з яго рук, выскаўзнула й подбегам кінулася з хаты, з двара, да сябе.

Ёю завалодаў страх. Тое, што рабіў з ёю Парфір, яна дапляла, прылучыла да зьвітку іншых выпадкаў, якія днём сабрала ў адно і захавала ў сваім нутры. Усё гэта казала, што нельга быць аднэй, нельга аставацца без Пракопа. І яшчэ большы пацяг ехаць забраў Ядзю. Ужо ня цікава было прадаць хоць што—няхай астаецца гаспадару, абы не перашкаджала яе зборам. Другая ноч жахала маладзіцу. А калі перакідала Ядзя думкамі надалей—рабілася немагчыма. Не дажыць, пэўна, да дзесятага! Куды там!

Ядзя праверыла куфэркі, ці ўсё патрэбнае ўпакавала. Пасьля праглядзела ў шуфлядзе паперы, пашукала на паліцы, зазірнула ў ложак. І калі нічога патрэбнага не знашла, пабегла да гаспадара.

— Дзядзька Сідар! Я днямі паеду—вы, калі ласка, прыглядзеце ўсё тое, што я вам пакіну.

— Ласьне паедзеце? Куды?

— Паеду на фронт, за Пракопам. Сястрою пайду.

— Ці вы маеце лад? Жылі-б спакойна ў нас, Пракоп надсылаў-бы, а вы...

— Не, не магу... Дзе мне тутака, аднэй!

— Каго вы баіцеся?—Ну што-ж паглядзімо, добра.

— Калі ласка, дзядзечка. Дзякувацьму...-і вышла з хаты. Не магла доўга гутарыць, ня было чаго.

— Вы на фронт? Мілая мая,—гаспадыня пашкадавала, а сама была рада Ядзінай спадчыне і гасьцінна правяла яе да парогу.

## V

Усе вагоны ў цягніку былі перапоўнены. Ядзя ледзьве знашла месца. Толькі дзякуючы нейкаму чырвонаармейцу, які спраўней прабіўся ў купэ, ёй удалося ўсесьціся. Куфэркі і карзінка змучылі, знэрвавалі. Затое, асталяваўшыся, супакоілася. Была пэўна, што да Арла пападзе. А там?..

Ядзя зразу, сеўшы ў вагон, заклапацілася: як і што яна рабіцьме ў Арле? дзе спыніцца? у каго пытацьме аб Пракопе? Спадзеўна паглядала на суседа-чырвонаармейца, які ўжо раз выручыў.

Магчыма той ведае? Але пытаць не хацела, пакуль ня рушыцца цягнік; калі-ж пашоў, та яна заглядзелася ў акно, каб не прапусьціць разьвітацца з месцам, дзе так шчасьліва правяла з Пракопам больш за два месяцы!

Мігалі перш будынкі Сакоўкі, пасьля гароды, далей параўняліся з гайком і вось—вунь дзе курганы, а там Усека, а на ўзгрудку—хатка-дача. Скаланулася Ядзя ад болю, ад утраты, ад няведанага заўтрага. І зноў зарупіла пытаньне—як пойдзе там, у Арле? Ці ўдасца напасьці на Пракопаў сьлед? А калі не, дык тады?

На станцыях падсядалі новыя людзі, цісналіся, набіваліся. Кандуктары крычалі, лаяліся, ня было рады. Стала душна няўмеру. Адчынілі ўсе вокны, некалькі шыб раструшчылі. Ядзя дзівілася з усяго таго, што чаўплося ў вагоне, але маўчала. Забылася дачкі-хаты, дзе на ўсю—адна, забылася поплаву над Усекаю, курганкоў. Абставіны ўцягнулі яе ў сябе, зассалі—гадзілася.

Устрывожылася тады, калі адвячоркам ужо, на вузлавой станцыі пачула ад новых пасажыраў, што ў Арол наўрад ці прапусьцяць цягнік. Жахнулася Ядзя, і рашыла выведаць, ці сапраўды гэта можа быць. Абярнулася да суседа-чырвонаармейца:

— Няўжо таму праўда?

Той пацiснуў плячыма.

— А вы ласьне ў Арол?

— У Арол.

— Жывяце там?

— Не. Да мужа еду, ён там краскомам.

Чырвонаармеец зацікавіўся.

— Фамільля?

— Ядлаўчаны, Пракоп.

— Ня чуў.

Стаў думаць.

— Можа ў 45 палку, які ўжо вышаў на фронт?

Ядзя ня помніла палка—дзесьці запісаны. Пачала шукаць.Ператрасла кішэні—згубіла, няма. Спалохалася, пачырванела. Што-ж будзе, і адрас згубіла?

— Нічога, распытаем.

— А прапусьцяць нас у Арол?

— Чаму не; мала што балхвяць... Яшчэ Дзянікін каля Курску.

Сьцешылася.

— Ведаеце,—прызналася ў сваім сумненьні:—я калі не знайду свайго мужа, пайду ў сёстры. Ці прымуць? Скажэце?

— Колькі хоць. Я ручуся за вас.

— Я буду прасіць. Я хачу пасобіць Чырвонай арміі.

— Чаму-ж, мне гэта ня цяжка. Але паперш пашукаем мужа.

Ядзя падзяквала некалькі раз: была вельмі задаволена. Сусед-чырвонаармеец цешыў яе сваім спачуваньнем. Якія ёсьць людзі!

І прыпомніла Парфіра Юшку, на якога доўга глядзела, як на сур'ёзнага чалавека і які пасьля выявіўся паскудаю. Параўнавала: адзін і другі—якая розьніца!

Да самага Арла трымалася каля яго, распытвала, расказвала і было лёгка на душы ад гэтае гаворкі.

А ў Арле чырвонаармеец памог ёй занясьці рэчы ў готэль, даў свой адрас і, апроч гэтага, абяцаў зайсьці, каб удваіх шукаць Пракопа.

Якія ёсьць людзі!

Змучаная за суткі яздою, Ядзя не магла ў той дзень, калі прыехала, нічога зрабіць. Ды было позна. У няпрыветным, запушчаным готэлі ўляглася спаць. Адлажыла справы на заўтра.

Але вечарам, а гадзіне дзесятай, нехта пастукаў і разбудзіў. Адчыніла—то быў чырвонаармеец, які прышоў расказаць усё навіны, што цікавілі Ядзю—пасьпеў распытаць.

—Полк, у якім ваш муж, учора вышаў з Арла,—сказаў ён і дадаў таемна, цішком: — Арол эвакуюецца. Усё войска выходзіць заўтра-пазаўтра. Цягнік, якім мы ехалі, апошні на Арол.

Ядзя аслупянела, вытрашчыла вочы:

— Што-ж мне рабіць? Куды мне кінуцца?

Чырвонаармеец суцешыў:

— Ёсьць рада—я пытаў: вы можаце паступіць санітаркаю ў санітарны цягнік № 3.098. Заўтра раніцою прыдзеце ў штаб нашае арміі. Назаўтра ён забярэ ўсіх раненых і ад'едзе на Тулу.

Ядзя слухала і ня верыла.

Як і што яно ў сьвеце пабудавана, што чалавек—пярынкаю верціцца, перакідаецца на ўсе бакі! Але гэткі скутак бараніў яе стан. Было завошта ўхапіцца. Пачала дзякаваць чырвонаармейцу. І ня ведала, разам з тым, як і што аддзякаваць.

—Ой, як я ўдзячна вам, таварыш, як я вам!..

Правяла яго з готэлю на вуліцу і, вярнуўшыся, доўга думала над тым, што сталася.

Цікавіў Пракоп. І ўпікала сябе, чаму днём раней ня выехала. Упікала за скнарасьць, упікала за трусасьць, за нерастаропнасьць. Маракавала на сябе, кляла Парфіра.

Згубіла сон. Тупала па каморцы, хапалася за галаў і спавядалася, нібы гэта магло-бы паправіць яе стан.

Казала сама сабе:

„А цяперака? Ці не на маё йдзецца? Ня суджана! Толькі днём спазьнілася—і на табе!.. Пракопка мой, хоць-бы астаўся жывым!“

Заплакала ў голас, забыўшыся, дзе й што яна. Пасьля стрымалася, сьціснула зубы й сэрца і рашуча вымавіла:

— Буду сястрою. Буду служыць Чырвонай арміі, буду служыць абароне Савецкай улады. Парфіру адваротна—паскуда... Я рада, я задаволена. Балазе гэтак вышла, як думала. Усё-ж мяне жыцьцё ня крыўдзіць—дае месца ў сябе, хоць мяняе іх.

Ласьне ўтрымаешся на адным? Перамена, вечная перамена ў жыцьці.

Пачула, што ўнутры сэрца ўмерыла бой. Надышла душэўная роўнавага.

Ядзя замкнула дзьверы і лягла, не разьдзяючыся, з выпуклаю думкаю:

— Заўтра ў штаб № арміі. Пастаноўлена.

## VI

Ядзю назначылі не ў санітарны цягнік, а ў санітарную лятучку. І тым-жа днём к вечару, яна выехала з Арла, да фронту. Новыя людзі, з якіх было чалавек трое прыкамандыраваных разам з Ядзяю, некі час, пакуль не азнаёміліся між сабою, маўчалі, кожнае думаючы пра сябе.

Ядзя не пакідала думаць аб Пракопе, больш і гастрэй учарашняга; мэрам-бы хтось падказваў ёй, што наступныя хвіліны рашаюць апошнюю задачу ў іх спатканьні. А мо‘ яны па дарозе нагоняць тыя шалоны, з якімі паехаў Пракоп? А

мо' трапіць у той пункт, дзе стаяцьме Пракопаў полк? Маляваліся здатныя вобразы, казачныя пляны. У Ядзіным выабражэньні ўставалі сцэны з фронтавых боек, якіх яна ня бачыла яшчэ, з якімі была знаёма толькі з слоў Пракопа. Выяўлялася шырокае гала, чубкі лесу, логі, рэчка, горкі. З-за горак нясьціханая страляніна, бойка на штыхі. Агонь, траскатня, жах... На яе вачох лажацца сотні людзей, усё болей маладых, поўгалодных чырвонаармейцаў. Яна сачыць за гэтым пеклам, абураецца жалем і бяжыць пад кулі, каб ратаваць раненых. Бяжыць і чуе з усіх бакоў енкі і кліч—памажы, сястрыца! Ня ведае, да каго кінуцца, рвецца на часткі яе сэрца, атуманьваецца розум і яна спыняецца на месцы, не дабегшы ні да воднага раненага. Стаіць і ня можа рашыць, пакуль ліхая куля прабівае ёй грудзі і яна падае...

Лятучка нясласся, грукацелі калёсы, бразгалі буфэры, шыпеў паравоз. Белыя лаўкі з гатовымі пасьцелямі гайдаліся, як адна. Трапяталіся бутэлечкі, слоікі, баначкі невялічкае аптэчкі, спрытна прымайстраванае да сьценкі вагону. Усё было гатова, каб сустрэць раненага.

Малады, рухавы мужчына з унівэрсытэцкім значком, доктар, аглядаў кожную мясьцінку вагону, мацаў белымі памытымі рукамі матрацаў, падушак. Азіраўся на кабечы пэрсонал. Часьцей на Ядзю, якая, сумна настроеная, бясьцікаўна глядзела ў адну кропку.

Кавалкі сьвечак з двух канцоў вагону ў ліхтарох і цэлая сьвечка за столікам, калыхалі слабае сьвятло, наводзячы маркоту...

Ядзя першая прамовіла да свае суседкі, ужо пажылай, з чарствым тварам сястры:

— Куды мы едзем?

Тая раней шапталася з доктарам, і Ядзя думала, што яна ведае „месца назначэньня".

— Ласьне нам скажуць? Ня ведаю.

— Я-бы хацела на фронт! Мне ў горадзе быць ня цікава.

— А то-ж куды мы паедзем...

І захацелася Ядзі хоць што, хоць прыблізна вызнаць, куды пашоў 45 полк, і ці ня будзе яго там, дзе яны едуць. Пытала суседку і так і гэтак—нічога не дазналася і разам праканалася, што тая столькі ведае, як і яна—Ядзя.

— Я мужа хачу напаткаць, ён на фронт паехаў,—даверыла свае думкі.

— Чырвонаармейца?

— Не, краскома.

— А фамільля?

— Ядлаўчаны.

Сястра вылупіла вочы і зьдзіўлена-недаўменна паглядзела на Ядзю.

— Вы шукаеце Ядлаўчанага Пракопа? Сястра яго?

Ядзя настаражылася, абнадзеілася і разам-жа сумелася. Рашыла прызнацца:

— Жонка, не сястра.

Суседка здрыганулася ўсёю постацьцю, грубаю, нязграбнаю, сплюнула, пачырванела і сярдзіта, бессаромна вылаялася:

— Якія лайдакі ёсьць у сьвеце! Адна жонка шукае, з другою водзіцца.

Усе паглядзелі на яе; доктар засьмяяўся.

А Ядзя, як мак, пачырванела і гатова была раскрычацца і заплакаць, але атрупела; не павярнуўся язык, і яна толькі паднялася з месца, каб зараз-жа йзноў апусьціцца.

— Што вы вярзеце, што вы...—сярдзіта сказала, спусьціўшы колькі хвілін.

— Так, так, Ядлаўчаны. У готэлі на N-скай вуліцы, нумар 10 каморка, жыў. Што ён паназьдзекваўся з Аўдоцьці Парашок! Мая знаёмая. Хто гляне,—папрок; хто прамовіць слова—укор. А сам?.. Ці варт вам яго шукаць?

Ядзя ня чула слоў, а боль, як стукі молата па галаве, уколы ў сэрца—маўчала. Не глядзела на нікога, не патурала нічога. Як у паралюшы. Адкуль гэтая кабета? Што за насланае? Прымха некая гоніцца за мною!..

І абураная, ня ў моцы глядзець на ліхую кабету, не заўважыла, як лятучка стала, ні то на посьце, ні то сярод поля. Раптоўна, ажно забразгалі буфэры і ўсё адпрыгнулася; яе чуць ня скінула з лаўкі.

Пачуўся гоман, суматоха, і двое санітараў унясьлі раненага чалавека. Вакола яго затупалі сёстры, захадзілі. Пачалі разьдзяваць, перавязваць. Ранены нема заенчыў і мэрам-бы разбудзіў Ядзю. Яна кінулася да ўсіх. Засумяцілася. Пачула, як штосьці абарвалася ў яе нутры, апаў цяжар і няўмольнае жаданьне памагчы раненаму, раненым пакутнікам, балесьнікам абурыла яе.

Увіхалася, адпіхала другіх, трымала за руку, адаля далікатна, не давяраючы нікому, узяла з галавы і памагла палажыць раненага на пасьцель.

Села каля яго, доўга глядзела, пакуль той не супакоіўся, не задрамаў. Прыслухалася да цяжкага перабойнага дыху, падапранула і стала вартаваць. Адчувала шчасьліваю, што пасабіла.

Доктар здалёк пазіраў на Ядзю, цікавіўся ёю і задаволена ўсьміхаўся.

## VII

Зусім тое, што малявалася ў Ядзіным выабражэньні, калі толькі рушыла лятучка. Пекла. Але яна ня думала, што ў пекле таксама ёсьць сваё хараство.

Шырокі пакос, копы сена. А вакола іх—багатыя кучы снапоў пшаніцы. Зялёныя, рэдкія гайкі. Вялікія вёскі, а ў іх, у пярэмешку, белыя і звычайныя малыя хаткі. Вішнёвыя сады.

І сонца, сонца—не пажніўнаму шчырае, зыркае, яскравае,—паліла, ліло золатам променю, купала шырокія галы.

Не пасавала грымець гарматам, траскацець кулямётам, лопаць бомбам, насіцца сьмерці, няшчаднай, паганай. Вочы лавілі яе замахі на людзей, над шэрымі шэрагамі чырвонаармейцаў, пешых і конных. Падалі мяртвымі адзінкі, дзесяткі, а сэрца хацела думаць, што то йдзе гулянка вясёлая, рэзвае перакульваньне, ныраньне ў сінюю спакойную воду рэчкі, у пахкія копы сена.

Так усё гукала за жыцьцё, за развой, а, тымчасам—ішла бойка, бойка за свабоду, за тых, для каго трэба была гэта прыгожасьць.

З-за грудка гнутым ланцугом насядалі белыя казакі. Вочавідкі падаваліся, мянялі форму ланцуга, яго шчыльнасьць...

Упарта трымаліся бальшавікі, касілі з кулямётаў уражыя шэрагі.

Гуло, гарэла, грукала.

Гадзіну, другую... здавалася бяз канца...

Толькі тады, калі сонца, пачырванеўшы ад крыві, села на цёмным чубку лесу, каб раптам спусьціцца і спыніць бойку, няўдачлівую для белых, стала заціхаць страляніна. Белыя зблуталі ланцугі і зьніклі за ўзгоркам.

Санітары, сёстры кінуліся з насілкамі падбіраць раненых.

Ядзя з тэю сястрою, якая ўчора вечарам абурыла яе страшнымі, агіднымі словамі, паперадзе другіх. Колькі раненых!

— Праклятыя, чаго яны хочуць?

Ядзіна таварка была з мацнейшым сэрцам, спакайнейшаю, практычнаю.

Усьміхнулася, хоць вакола былі енкі, стоны, Ядзю дражніла яе ўхмылка, яе твар, яе постаць. Яна жахліва кідалася то ў адзін, то ў другі бок, хочучы зараз падабраць усіх і не падбіраючы ніводнага.

— Ідзеце вось да гэтага, стойце!—камандавала тоўстая сястра, стомленая, злуючыся на Ядзю.

Але Ядзя памкнулася наперад, чагось шукаючы, разьзіраючы.

— Сястрыца, памажэце!—пачула з-пад кусьціка.

Падбегла, нагнулася, каб паглядзець на раненага і, во, жах!

Пракоп! Ядзя здрыганулася, як асіна.

Запечаная кроў хварбавала галіфэ, гімнасьцёрку, плямамі ляжала на ботах. Рэвольвэр, выпаўшы з рук,—пры боку.

Зьблядзелы, сьцёкшы крывёю, ад болі не разьбіраючы, хто што з ім робіць, запрашаў:

— Сястрыца, ногу перавяжы, ногу адабрала!

Ядзя зарухала, як утрапёная, бесталкова стала камячыць у руках марлю, рвучы яе на кускі і ня ведаючы, што з ёю рабіць, як прыступіцца да перавязкі.

Зацюкала трапяткім перабоем сэрца, а мову адняло: парывалася выгукнуць пяшчотнае, цёплае, шчырае „Пракоп!“, каб гэтым спыніць боль, абудзіць, падняць таго, чыё ймя гэтак нядаўна заставіла яе самую перанясьці ня меншую боль, муку—ды не магла...

Падбегла таварка, і, угледзеўшы, што Ядзя стаіць з марляю ў руках над раненым нярухома, закрычала са злосьці:

— Што вы робіце! Чалавека з сьвету зьвядзіце! Перавязвайце хутчэй, маруда!

Ядзя апамяталася і, забыўшыся пра ўсё іншае, раптам пала на калені, абняла Пракопа, пазвала:

— Пракоп, Пракопка залаты! Я—твая Ядзя...

Ранены пасіліўся падняць голаў і расплюшчыў вочы. Ад болю, ад гарачкі—не пазнаў.

— Сястрыца, ратуй! Я не хачу ўміраць.

І гэты яго словы празычэлі для Ядзі ня жахам, ня больлю, а ласкай, уцехай, тонам памятнае пары, калі ён ляжаў на беразе рэчкі Усекі, расказваў ёй аб бойках з чэхамі пад Пензаю, песьціў і цешыў яе цікавасьць, а яна казачкамі казлытала яго твар.

І кусьцік, які з боку тарчэў, выглядаў кустом шупшыны на граніцы гайку, пры чыгунцы.

І промень на захадзе над пакосам—быў тым самым, чырвоным, прыгожым, сакавітым, які вісеў тады над няскошанымі паплавамі.

І ўсё клікала да развойнага, бясьсьмертнага жыцьця.

22/III—25—Слуцак.

# СФІНКС

Аркадзь Моркаўка

Ідзе за векам век, а ты, ўладар над імі,
Пільнуеш, быццам сьмерць, гадзіны, дні, гады.
Скажы мне, Сфінкс, жаданьнямі чыімі
Паўстаў ты між пяскоў, і поступ твой куды?..

*

Праменьні сонца твар калечаць вострым шылам,
Калечаць сотні год, а ты стаіш, бы цень.
Самум у вочы б'е зялезным, жорсткім пылам,
І млявіць кроў тваю гарачы, млосны дзень.

*

А ты стаіш усё...
Вось караван вярблюжы,
Бы карабель, сярод маўклівых хваль пяску,
Ідзе-плыве туды, плыве туды, дзе служыць
Яму ратункам цень у пальмавым ляску.

*

А ты стаіш усё...
А помніш, як калісьці
Пытаў цябе адзін:—Скажы мне, Сфінкс, мой лёс?
Маўчаў твой твар нямы...маўчала пальмаў лісьце...
А ён дзюбой-рукой Эўропу-йгрушу трос...

*

Ідуць, ідуць гады...
Ужо над сьветам цэлым
Агнём палошча сьцяг вялікіх новых дзён.
А ты стаіш усё...
Ці не мастак умелы
Ў мур умазаў твой рабоў усіх праклён?!

* *
*

**Аркадзь Моркаўка**

Я ня маю роскашы чырвонцаў,
не заўсёды нават маю медзь,
не ваджу я залатога сонца,
каб цябе, мой край, агнём сагрэць.

Але... маю ў сэрцы звоны веча,
але маю пчолак песень рой,
што падслухаў у калядны вечар,
што зьбіраў я роснаю зарой.

Ды і гэта я аддам балотам,
ды і гэта я пушчу ў аўсы;
хай паслухае вясковая галота,
аб чым звоніць яе брат і сын.

# У ЗАБРАНЫМ КРАІ

**Я. Журба**

Недалёка ад нас, дзе на месцы руін
Палац працы будуецца вольны,
За мяжой, што разрэзала вольны наш край,
Скуты волат ляжыць паднявольны.
Разрываецца сэрца і ные душа
І дымяцца крывавыя раны.
І сумуе гаротнік агністай журбой,
Што краіна чужынцам забрана.
Але волат ня ўмёр і ніколі ня ўмрэ,—
У пакуце гартуе ён сілы.
Ён імкнецца парваць ланцугі і паўстаць
К жыцьцю вольнаму з цёмнай магілы.
Толькі ўзьняцца на ногі яму—і тады
Беражэцесь, паны-ліхадзеі!
Час расплаты бязьлітаснай прыдзе для вас
За ўсе вашы злачынныя дзеі.
А пакуль... там пакутуе волат-гэрой
І з надзеяй на ўсход пазірае,
Скуль чуваць звоны працы ў магутнай сяўбе,
Песьні-гымны працоўнага краю;
Скуль разносіцца грукат вясёлы кляўцоў,
Шум калёс і гудзеньне прыводаў,
Песьня-звон вольных кос і сярпоў на палёх,
Песьня згоды шматлічных народаў...
Ходзіць здань па краіне й вяшчуе людзём,
Што ўжо хутка збавеньне настане,
І ўскалосіць забраны і зьнішчаны край
Жыцьця новага сьветлае раньне.
І ляціць голас моцны байцоў-змагароў:
„Гэй, трымайцесь, нявольнікі, ўпарта!
Не пакінем у лютай бядзе мы братоў,
Не зламаць ім працоўнага гарту!
Мы ўсе межы зруйнуем, далучым свой край,
Мы здабудзем і волю і славу.
І аб слаўным змаганьні за волю братоў
Хай раскажуць патомкам дубравы...“

## НОЧЧУ

**Падабед Язэп**

Узмахвае вятрыска вольны пухкай хусткай.
Скрала ноч і сёлы, і палёў разоры.
Узвышша глыбіня ўжо стала сіня-хрусткай,
І дно—усеялі гарохам срэбным зоры.

Іду, іду па сьцянцы. Ў сівыя туманы,
Ціш мачае-мочыць сьвіты сваёй крысься...
Ша! воддаль сьвіст няждана пікай вострай раніў...
І—змоўк, як-бы прад ноччу гордаю скарыўся.

Плыве насустрач мая вёска цёмным кустам.
Сьпіць даўно. Чуваць, як дышуць яе грудзі.
Вярстовы слуп, як вартаўнік той, убаку стаў,
І—сочыць, по-начы дарогамі хто блудзіць?

Іду, іду па сьцянцы. Думкі-жа няспынна
Дню патрэбы закілзаць імкнуцца ў цуглі...
Але жыцьцё сваю работу ўпарта пыніць,
І больш ня будзе абшарпаным шляцца валацугай!

І ты, мая гарбатая бабулька, вёска,
Піць ня будзеш коўшам палыновых зельляў!
Убачыш—амаладзяць комсамолкай вёсны,—
Інакш ад сёньняга палі узросьцяць зелень!

Іду, іду ў раздум'і. Ў сівыя туманы.
Ціш мачае-мочыць свае крысься...
Далёка гдзесь сьмяецца аганёк рахмана,
Далёка гдзесь касьцёр комэтай заіскрыўся...

в. Ванікоўшчына, 1925 г.

## НЕ СЯДЗЕЦЬ МНЕ З ХЛАПЦАМІ...

**Я. Пушча**

Не сядзець мне з хлапцамі на лаўцы
і ня піць веснавы пераліў.
Маёй радасьці чыстыя пальцы
схапілі вякоў перагіб.

Я даўно разьвітаўся з саплявым,—
не нарву ціхай руні жальбы.
Я юнацтва свайго не запляміў,
хоць і выvернуў дум жалабы.

—...Ня люблю удагонку імчацца;
па выбітых сьцежках ідэй.
Я пасвойму падходжу да шчасьця—
Няхай лісьціцца раніца дней!

Няхай сонцам узойдзе сталецьце
на скрыжаль маёй песьні-вясны.
—Нашы сэрцы сягоньня ня ў лейцах,—
скажуць мне новай эпохі сыны.

Мае-ж творы паложаць на бальцы,
бо ў іх выцьвітуць дум берагі.
і ўжо радасьці чыстыя пальцы
ня схопяць вякоў перагіб.

* * *

**Я. Пушча**

Пякаюць каплі вады,—
ў срэбрамёце іх сьмех.
На іх дзень малады
кулакі
скамячыць не пасьмеў.

Ён госьцем вясёлым прысеў
і ўмывае свой твар.
Нікне ўсё пакрысе
і ўсё ахутвае твань.

А яны,—
яны моўчкі крышталяць кругі,—
іх у гэтым уцеха уся.
Кожны-ж з нас заўтра другі...
Будзем блукацца там-сям.

Бо ніяк, аніяк
немагчыма жыцьцю дагадзіць.
Не адзін перад ім ужо зьмяк—
хоць і хацеў
схапіць выбрык гадзін.

# ІНТЭЛІГЭНЦЫЯ, ЯК СОЦЫЯЛЬНА-ЭКОНОМІЧНАЯ КАТЭГОРЫЯ

**С. Вольфсон**

*Працяг*[1])

IV

Сэнс першага з разгледжаных ужо намі паказаньняў палягае ў тым, што інтэлігэнцыя абслугоўвае буржуазію І гэта значыць, што яе даход набываецца з дадатковага кошту працоўных, якія эксплёатуюцца гэтай буржуазіяй. Значыць. інтэлігэнцыя зацікаўлена ў найбольшай эксплёатацыі працоўных, бо чым больш дадатковага кошту будзе прыўлашчаць сабе капіталісты, тым больш здолее ён спажываць тых культурных здабыткаў, якія стварае інтэлігэнцыя... „Каму на карысьць ідуць гэтыя здабыткі,“ зноў адзначае з напышлівасьцю той Яўг. Лазінскі, на якога мы ўжо пасылаліся, „чыё жыцьцё яны аздабляюць, чыю ўладу ўзмацняюць, які парадак падтрымліваюць і ўдасканальваюць?“ [2]) Калі-б мы нават дапусьцілі, што культурныя здабыткі якія ствараюцца інтэлігэнцыяй, спажываюцца толькі пануючымі клясамі капіталістычнага грамадзянства, дык у нас усё-ж такі ня было-б аніякай падставы, каб гаварыць аб тым, што інтэлігэнцыя існуе на частку дадатковага кошту, які прыўлашчаецца паразытычнымі верхавінамі клясавага грамадзянства. Якраз з такім самым правам можна было-б казаць, што працаўнік, выpабляючы парфуму або шоўк, зьяўляецца „поглотителем“ часткі дадатковага кошту, а працуючы на фабрыцы капіталістычнае дзяржавы па вырабу ўзрыўных знарадаў—падтрымлівае парадак капіталізму. Але-ж недарэчнасьць такіх поглядаў відавочна.

Апрача гэтага, трэба адзначыць, што зробленае намі вышэй дапушчэньне зусім не правіловае. Зусім не адпавядае рэчаіснасьці зацьвярджэньне, што праца інтэлігэнцыі спажываецца выключна пануючымі клясамі капіталістычнага грамадзянства. Мы зьяўляемся сьведкамі вялізнага, амаль паўсюднага культурнага ўздыму шырокіх народных мас, далучэньня іх да крыніц асьветы. „Прастацкія рукі“, некалі пачціва аддаваўшыя магчымасьць соцыяльным верхавінам „погружаться в мечты и науки“, штораз, то ўсё з большай пэўнасьцю захапляюць уладу над кнігай, газэтай,

---

[1]) Глядзі „Полымя“ № 5.

[2]) Яўг. Лазінскі. „Что-же такое, наконец, интеллигенция?“ СПБ 1907 г., стар. 176.

яны пракладаюць сабе шлях у музэй, тэатр, канцэртную залю. Не буржуазія, якая выраджаецца, а прабуджаная маса—вось хто зьяўляецца галоўным спажывальнікам культурных вартасьцяй, асноўным „пакупніком“ інтэлігэнцкай працы ў нашыя часы. Не дарма-ж расійскі поэта-пролетары кажа:

Мы все возьмем, мы все познаем,
Пронижем глубину до дна.
. . . . . . . . . . . .
Нет меры гордому терзанью:
Мы—Вагнер, Винчи, Тициан...

*(Ул. Кірылаў „Мы“).*

Другая спроба вызначыць прынцыповую дэмарклінію паміж інтэлігэнтам і пролетарам грунтуецца на тым, што працоўны атрымоўвае за працу заработную плату, а інтэлігэнт атрымоўвае гонорар—„пачэсная панская ўзнагарода“, як кажа Яўг. Лазінскі. Вы ўяўляеце сабе, якбы зьдзівіўся які-небудзь настаўнік або журналісты, даведаўшыся, што, ледзьве толькі падтрымліваючы існаваньне на свае заробкі, ён атрымоўвае зусім не заработную плату а „пачэсную панскую ўзнагароду“... У чым-жа вызначаецца грунтоўная адметная рыса гэтай „панскай узнагароды“—гонорару ад звычайнай заработнай платы. Яўг. Лазінскі адзначае яе тым, што ў склад гонорару ўваходзіць, у якасьці неабходнага элемэнту, пагашэньне капіталу, страчанага ў пэрыод адукацыі і практычнага выўчэньня. Калі гэты капітал быў выкарыстаны працаўніком разумовае працы, да яго выступленьня ў якасьці прадаўцы сваёй працоўнай здольнасьці,—зусім відавочна, разважае той самы Яўг. Лазінскі, што гэты капітал злажыўся шляхам эксплёатацыі працаўнікоў фізычнае працы. Ня трэба й казаць аб тым, што гэты нязграбны сылёгізм разьлятаецца ад першага лёгкага дотыку крытычнае думкі. Бо ўсякая працоўная сіла—*фізычная, таксама як і разумовая*,—патрабуе на сваё кваліфікаваньне раней за ўсё адукацыі і выхаваньня Кваліфікаваны працаўнік заўсёды праходзіць адпаведную школу. Казаць аб тым, што ён выкарыстоўвае пры гэтым працу некваліфікаванага працаўніка, значыцца выявіць поўнае няведаньне. А зазначаць, што большая зарплата кваліфікаванага працаўніка мае эксплёататарскі характар, значыць абыйсьці пэўны факт гаспадарчага эфэкту, які дае кваліфікаваньне працаўніка фізычнае, а таксама й разумовае працы.

Цікавая праца проф. С. Г. Струміліна „Хозяйственное значение народного образования“ выяўляе вялікай вартасьці статыстычны матэрыял, які тычыцца пытаньня аб уплыве асьветы на продукцыйнасьць працы. Прапануючы ўзяць дэталі беспасрэдна з гэтай працы С. Г. Струміліна, лічу мэтазгодным адзначыць наступнае палажэньне, вызначанае ім: „Сярэдняе за ўсё працоўнае жыцьцё кваліфікаваньне няпісьменнага працаўніка вызначылася ў два трэды (гэтак аўтар называе ўзятую дзеля азначэньня

кваліфікаваньня адзінку памеру, адпавядаючага кваліфікаваньню працаўніка 1 тарыфнага разраду—С. В.), што адпавядае 6 тарыфнаму разраду старой сеткі або тарыфнаму коэфіцыэнту—2,0. У бягучым часе па гэнэральнай колектыўнай умове за красавік-чэрвень 1924 г. стаўка 1-га разраду расійскага фабрычна-заводзкага працаўніка складае ў сярэднім 11 р. 75 к. у месяц, што дае каля 141 чырвон. руб. у год. Паводле гэтай расцэнкі наш няпісьменны чарнароб за ўсё сваё жыцьцё (37 год) зарабіў-бы 37×2×141=10.434 руб., а працаўнік з адным годам школьнае асьветы на 15 проц. або 1.565 р. болей. Вось якой павінна быць вартасьць першага году школы з пункту погляду прыходавага бюджэту працоўнай сям'і. Другі год школы дае ўжо менш—усяго 1.200 руб., трэці—782 руб., чацьверты—574 р., пяты—470 р., шосты—365 р., а сёмы і восьмы яшчэ менш—усяго агулам па 208 руб. Такое прыходавае значэньне школьнага выўчэньня ў бюджэце працаўніка. Але ў гаспадарчым бюджэце краіны—яно значна большае. Справа ў тым, што працаўнік ня толькі зусім выкупае продуктам сваёй працы свой заробак, але, апрача гэтага, стварае дадатковы продукт, які ідзе на карысьць гаспадара або—пры дзяржаўным капіталізьме—на карысьць дзяржавы. Гэты дадатковы продукт, які ўзрастае разам з узростам продукцыйнасьці працы і кваліфікаваньня працоўнага, паводле самага нязначнага разрахунку складаў у нас у даваенныя часы ня менш 100 проц. ад заробку[1]).

У тэй самай працы мы знаходзім наступную табліцу, якая выразна параўноўвае карысьць і выдаткі, зьвязаныя з кожным годам пачатковае асьветы ў чырв. руб.

| Годы навучаньня | Выдаткі | Карысьць | Балянс |
|---|---|---|---|
| 1-ы | 17 р. 80 к. | 1.565 р. | 1.547 р. 20 к. |
| 2-і | 28 „ 10 „ | 1.200 „ | 1.172 „ 00 „ |
| 3-і | 39 „ 00 „ | 782 „ | 743 „ 00 „ |
| 4-ы | 41 „ 20 „ | 574 „ | 532 „ 00 „ |
| 5-ы | 44 „ 00 „ | 470 „ | 426 „ 00 „ |
| 1-ы—5-ы | 170 р. 00 к. | 4.591 р. | 4.420 р. 20 к. |

Як мы бачым, карысьць ад павялічэньня продукцыйнасьці працы перавышае адпавядаючыя страты дзяржавы на школьную асьвету ў 27,6 раз. Пры гэтым капітальныя страты скарбу выкупаюцца з прыбыткам ужо ў першыя 1,5 году, а ў працягу наступных 35,5 год дзяржава атрымоўвае кожны год чысты прыбытак на гэты капітал разьмерам у 73 проц. гадавых [2]).

Такім чынам, калі працоўны для свайго кваліфікаваньня траціць пэўны капітал, дык гэты капітал дае досыць значны гаспадарчы эфэкт,

[1]) Проф. С. Г. Струмілін. „Хозяйственное значение народного образования", выд. „Экономическая жизнь". М. 1924 г., стар. 23.

[2]) Ibidem—29.

які з вялізным лішкам выкупае страты на яго. Гэта палажэньне ў роўнай меры датычыцца працоўных і фізычнай і разумовай працы. Як зазначае проф. Струмілін, „на вытворчасьць кожнага, скончыўшага вышэйшую школу, працаўніка траціцца ў процэсе навучаньня ня больш 13,2 простай працы, чым павялічваецца продукцыйнасьць гэтага працаўніка— з разрахунку за ўсё яго працоўнае жыцьцё—на 148 год простае працы 1-га разраду, г. зн. у 11 раз болей працоўных страт па навучаньні"[1]). Бясспрэчна, што праца разумовага працаўніка дае адпаведны гаспадарчы эфэкт, і пытаньне аб формах падрахунку гэтага эфэкту сучасная навука ўжо пачынае разьвязваць.

Я думаю, што паданыя довады можна лічыць, як вычэрпваючыя пытаньне аб паразытычнай, нібы, існасьці інтэлігэнцкага „гонорару", і з прычыны гэтага пачну разгляд апошняга, найбольш пашыранага процістаўленьня працаўнікоў разумовае працы працаўнікам фізычнай працы, якое грунтуецца на рознасьці ў спосабе жыцьця тых і другіх.

М. І. Туган-Бараноўскі выявіў традыцыйны погляд, калі сказаў, што разумовая праца аплачваецца настолькі вышэй за фізычную, і людзі разумовай працы з свайго пахаджэньня і ўмоў жыцьця так цесна прылягаюць да заможных кляс, што далучэньне іх бяз усякіх абмаўленьняў да клясы наёмных працаўнікоў было-б навочным гвалтам факту[2]). Д-р М. С. Увараў, аўтар падручніка па профэсыянальнай гігіэне, робіць падзел паміж двух асноўных выглядаў працы ў залежнасьці „ад тэй абстаноўкі, сярод якой жыве найлепш аплачваемы працаўнік так званай разумовай працы і найгорш аплачваемы працаўнік так званае фізычнае працы"[3]).

Для праверкі гэтых меркаваньняў зьвернемся да фактаў. Ужо ў канцы 90-х год пытаньне аб матэрыяльным становішчы інтэлігэнцыі надзвычайна абвастрылася. У Францыі, напрыкл., цэлы шэраг аўтараў— Анры Бэранжэ, Марсэль, Леблон, Габільяр—выступаюць у гэтыя часы са спэцыяльнымі працамі, ахвярованымі досьледам пытаньня аб інтэлігэнтах-пролетарах. „Яны", піша Бэранжэ, „лічылі, што атрыманая імі адукацыя выкупае ім кавалак хлеба, і ашукаліся ў сваіх меркаваньнях. Яны дамагаліся шляхам вольных профэсіі атрымаць незалежнасьць, а замест таго, гэтыя профэсіі прымусілі іх узяцца за заняткі, якія вымагалі рабскага прыслугоўваньня і дагаджэньня. Бакаляўры, кандыдаты, прыват-доцэнты—гэтыя дзеці пролетараў—засталіся пролетарамі, падобна сваім бацьком-сялянам, працоўным і даручным"[4]).

[1]) Проф. С. Г. Струмілін. Хозяйственное значение народного образования", выд. „Экономическая жизнь" М. 1924 г., стар. 58.

[2]) Проф. М. І. Туган-Бараноўскі. „Основы политической экономии". Выд. 4-ае. Петраград. 1917 г., стар. 362.

[3]) Н. С. Увараў і Л. М. Лялін. „Охрана жизни и здоровья работающих". М 1907 г., стар. 24.

[4]) „Интеллигентные пролетарии во Франции". Пераклад Пэўзьнера. СПБ. М. 1907 г., стар. 24.

Аб становішчы францускай інтэлігэнцыі, напрыклад, у часе 1900 г., выразна сьведчыць шэраг статыстычных даных, паданых тым самым аўтарам. Вось некаторыя з іх у стасунку да розных катэгорый інтэлігэнцыі.

З ліку 10.000 дактароў, практыкаваўшых ва францускай провінцыі, толькі палова зарабляла досыць на пражыцьцё. Тое самае ў стасунку да 2.500 дактароў Парыжу. З ліку 3.000 адвакатаў Парыжу пераважаючая частка ня мела магчымасьці існаваць на свой беспасрэдны заробак і павінна была вынаходзіць розныя выпадковыя крыніцы даходу: лекцыі, супрацоўніцтва ў газэтах, фактарства і г. д. Становішча народных настаўнікаў Бэранжэ характарызуе наступным чынам: „Працаўнікі ў галіне пачатковае асьветы складаюць сабою суцэльны шматлікі пролетарыят. З ліку 150.000 пачатковых настаўнікаў і настаўніц, што лічацца ў Францыі, па меншай меры 100.000 жыве ў беднасьці, якая мяжуе з жабрацтвам. Пэнсія памоцніка настаўніка хістаецца паміж 1.000 і 1.500 франкаў у год. Дырэктары і дырэктрысы атрымоўваюць больш (1.800—2.400), але большасьць сярод іх сямейныя людзі і якое-ж іх становішча тады?“ [1]).

Сярэдні заробак інжынэра хістаецца паміж 2.000—4.000 франкаў, г. зн. вызначаецца лічбай, якая ўступае стаўцы высока-кваліфікаванага працоўнага. Існуе нават тып бадзячага інжынэра, так званага „ingénieur chemineau“, якога наймаюць на масьлярных заводах на адзін сэзон, а астатнюю частку году ён сядзіць бяз працы.

Аб пераважаючай большасьці францускіх чыноўнікаў Бэранжэ кажа, што калі яны ня маюць маленькага капіталу або ня жэняцца на багатай, дык прымушаны цярпець вечную бядноту. Паводле яго падліку, ня менш 15.000 чыноўнікаў па спосабу свайго жыцьця зьяўляюцца тыповымі пролетарамі.

Што датычыць мастакоў, дык той самы аўтар адзначае, што „ад 4-х да 5-і тысяч пролетараў гэтае групы бадзяецца па вуліцах Парыжу; багатыя толькі нязбытнымі плянамі і марамі, яны паміраюць ад галадоўлі“. П'ер Марсэль дае такі малюнак жыцьця звычайнага парыскага мастака: „Ён жыве на Монмартры або Монпарнасе, у мэбляваных пакоях, на пятым паверсе, дзе займае малюсенькі пакоік за 15 або 20 руб. у месяц. Ён палуднуе ў аднэй з дрэнных кухмістарскіх на вуліцы Нэвэр ці Дофін, дзе падаюцца стравы якраз адпавядаючыя беднасьці тых, хто ходзіць туды.

На працягу першых дзесяцігодзьдзяў 20 веку становішча працаўнікоў разумовае працы ў тэй-жа Францыі—дый ва ўсіх краінах Эўропы—ня толькі не палепшылася, але нават пагоршылася.

У працы А. Лазоўскага „Французский народный учитель“ паданы шэраг лічбовых даных, якія сьведчаць аб тым, што ў часы, беспасрэдна папярэднія вайне, становішча настаўніцтва Францыі было крытычным [2]).

[1]) „Интеллигентные пролетарии во Франции“. Пераклад Пэўзьнера. СПБ. М. 1907 г., стар. 12.

[2]) М. А. Лазоўскі. „Французский народный учитель“. Выданьне „Работ. Просв.“, М. 1922 г., стар. 9—17.

Напярэдадні вайны ў парляманце выступаў дэпутат Вэбэр са спэцыяльнай справаздачай аб „настаўніцкім крызісе“, выкліканым тым матэрыяльным становішчам, у якім знаходзіліся францускія народныя настаўнікі.

У нашыя часы становішча настаўніка Францыі яшчэ значна горшае чымся да вайны. Сыстэма акладаў, устаноўленая ў 1923 г., выклікала значнае паменшаньне заработнае платы. Нават і такі орган друку, як „Тан“, у стасунку да новых настаўнічых ставак адзначыў: „Калі чытаеш падобныя лічбы, ня прыходзіцца гардзіцца тым, што ты француз“.

Якраз тое самае мае месца ў большасьці эўропэйскіх краін. Возьмем яшчэ некаторыя даныя, параўноўваючыя заработную плату працаўнікоў разумовай і фізычнай працы.

Вось сярэдняя велічыня даваеннай месячнай заработнай платы для 16 профэсій фізычнай і разумовай працы рознага кваліфікаваньня па Беларусі (у залатых рублёх):

1. Агроном—150 р.
2. Доктар—125 р.
3. Машыністы чыгункі—125 р.
4. Шофэр—65 р.
5. Гарбар—70 р.
6. Настаўнік сяр. шк.—75 р.
7. Бухгальтар—60 р.
8. Будаўнічы працаўнік—60 р.
9. Правазнаўца—50 р.
10. Сьлесар—42 р.
11. Сталяр—40 р.
12. Народн. настаўн. вясков.—30 р.
13. Канторшчык—30 р.
14. Цяжарнік—26 р.
15. Піш. машыністка—20 р.
16. Кухарка—20 р.

Паданая табліца паказвае адсутнасьць рэзкай розьніцы ў роўні заработнае платы абедзьвюх разглядаемых катэгорый. Калі-б мы зрабілі спробу на падставе гэтай табліцы атрымаць сярэднюю велічыню для кожнай з іх, дык мы атрымалі-б для працаўнікоў разумовае працы 67,5 і для працаўнікоў фізычнае працы—58,5 руб. Зразумела, дабор 16 профэсій паданай табліцы зроблены выпадкова. Але, як паказальнік таго, што прыраўнаньне працаўнікоў разумовае працы да лепш аплачваемых і працаўнікоў фізычнае працы да горш аплачваемых, зьяўляецца неадпаведным тым фактам, якімі лічбы гэтыя, на мой погляд, якраз і зьяўляюцца.

Трэба таксама адзначыць, што вайна імпэрыялістычная і грамадзянская, звужаючы гаспадарчы базіс грамадзянства і паменшаючы тым самым попыт на культурныя здабыткі, адбіліся на аплаце разумовае працы значна горш, чымся на аплаце фізычнае працы. Напрыклад, калі мы возьмем заработную плату тых самых профэсій, даваенную норму якіх мы адзначылі раней, на 1-га красавіка 1924 г., дык мы атрымаем сярэднюю велічыню для працаўнікоў разумовае працы ў 37,0 і для працаўнікоў фізычнае працы ў 55,4 зал. рублі[1]). Яшчэ адна справка таго самага

[1]) Грунтуюся на наступнай месячнай зар. плаце: агроном—30, доктар—39, бухгальтар—80, настаўнік шк. II ступ.—26, правазнаўца—23, канторшчык—30, настаўнік I ступені—18, піш. машыністка—50 р. (даныя тарыфнага аддзелу Белрабпросу).

парадку. Стаўка 1 разр. па саюзу працаўнікоў асьветы СССР складала ў 1923-24 г. 4 р. 48 кап., саюзу ткачоў – 6 р. 95 к., дрэваапрацоўваючых—8 р. 83 к. і мэталістых—9 р. 03 к. Іначай кажучы, стаўка працаўніка асьветы і стаўка мэталістага адносяцца, як 1 : 2.

Казаць пасьля гэтага аб прывілейнай аплаце разумовай працы зусім не выпадае.

Таксама пагоршылася становішча працаўнікоў разумовае працы ў Нямеччыне. Сярэдняя заработная плата чарнароба складала ў 1923 г. 80 проц. тэй-жа даваеннай платы, кваліфікаванага працаўніка—22 проц. і дзяржаўнага служачага—44 проц.[1])

У чацьвертым нумары часопісі „Revue scientifigue“ за 1925 г. зьмешчаны вельмі паказальны артыкул аб экономічным становішчы вучоных Францыі—проф. мэд. ф-ту Парыскага унівэрсытэту Ch. Richef. „У нашыя часы“, піша Рышэ, „яго (вучонага. С. В.) заробку хапае толькі для таго, каб не паміраць з голаду“. Профэсар мэдыцынскага або прыродазнаўчага ф-ту, калі ён не займаецца практыкай, прымушаны мецъ пабочны заробак. Характэрна аргумэнтацыя Рышэ, які патрабуе павялічэньня прэмій, што выдаюцца навуковым працаўнікам за вынаходкі і працы. Іх сума вельмі мізэрная ў параўнаньні з прызамі, прызначанымі для коняй. „Параўнуем, напрыклад“, кажа Рышэ, „нядаўнае адкрыцьце Д'Эрэля і перамогі Эпінара: хто з іх—вучоны ці конь—лепей нагароджаны Францыяй?“ Паясьнім, што Д'Эрэль (вядомы францускі бактэрыолёг, атрымаўшы так званую прэмію Левенгука, якая выдаецца раз у 5 год за найбольш выдатную працу ў галіне мэдыцыны, а Эпінар—вядомы скакавы конь, атрымаўшы так званы прыз прэзыдэнта рэспублікі). Дадам да гэтага яшчэ тое, што, прыехаўшы з Парыжу, таварыш д-р М., які працаваў там у Пастэраўскім Інстытуце, гаварыў мне, што проф. Б., адзін з выдатнейшых бактэрыолёгаў сучаснасьці атрымоўвае пэнсію, роўную стаўцы высока-кваліфікаванага мэталістага (у красавіку 1925 г. 1.200 франкаў, г. зн. 20 чырвон. рублёў).

Думаю, што нават пры дапамозе паданых, далёка ня вычэрпваючых даных, зьяўляецца ясным, што казаць а прывілейнай аплаце працаўнікоў разумовае працы значыцца, паводле выразу Туган-Бараноўскага, „гвалтаваць факты“.

Працаўніка разумовае працы, які існуе на продаж сваёй працоўнай сілы, у поўнай меры справаджаюць, як і ўсякага іншага пролетарага, перавытворчасьць, беспрацоўе, запасная армія і г. д. Аб гэтым выразна сьведчыць сучасная статыстыка беспрацоўя ў розных дзяржавах; працаўнікі разумовае працы часта займаюць першыя месцы на біржах працы.

Перавытворчасьць у галіне разумовае працы вызначылася ў капіталістычных дзяржавах яшчэ задоўга да вайны. У прамове, сказанай у канцы

[1]) Грыневіч. „Народное хозяйство Германии“. Бэрлін, 1924.

90-х год, Вільгэльм II гаварыў: „Школа стварыла нешта звыш людзкае і, на мой погляд, стварыла празьмеру вялікую колькасьць адукаваных людзей, больш таго ліку, які можа мець на ўтрыманьні нацыя... з прычыны гэтага, наперад я ня буду дазваляць адчыненьне новых гімназій, калі мне ня будзе даведзена іх абсолютная неабходнасьць. У нас іх досыць“.

Анры Бэранжэ, на якога я пасылаўся ўжо раней, дае шматлікія даныя адносна перавытворчасьці і хронічнага беспрацоўя сярод французскай інтэлігэнцыі. Ён адзначае, што ун-ты Францыі кожны год выпускаюць, прыблізна, 1.200 дактароў на 600.700 ваканцый у год. На адну-дзьве сотні настаўніцкіх ваканцый у ліцэях і коледжах прэтэндуе штогодна ня менш 100 прыват-доцэнтаў і 1.000 кандыдатаў. За адно месца змагаецца 10 чалавек. Яшчэ горшае становішча з пачатковымі школамі. На 150 настаўніцкіх ваканцый у школах Парыжу прыходзіцца ў сярэднім 15.000 кандыдатаў, г. зн. каля 100 прэтэндэнтаў на кожнае месца.

Такім чынам, мы можам лічыць, што тыя пярэчаньні, якія робяцца супроць прылучэньня працаўнікоў разумовае працы, існуючых на продаж сваёй працоўнай сілы, да пролетараў, ня вытрымліваюць аніякай крытыкі. Грунтуючыся на тых даных, якія былі паданы вышэй, мы маем усе падставы на тое, каб назваць такога працаўніка пролетарам. І калі, для прыкладу, пяцьсот тысяч працаўнікоў асьветы СССР абвяшчаюць сябе ў § I свайго профэсыянальнага статуту „адным з атрадаў саюзнага і сусьветнага пролетарыяту“, дык гэта не фігуральны выраз, а констатаваньне факту, які можа быць даведзены з самай дакладнай навуковасьцю. Адсюль усё-ж такі ня трэба рабіць выводу аб тым, што ўсякі працаўнік разумовае працы зьяўляецца пролетарам.

Я ўжо вышэй адзначаў, што інтэлігэнцыя зьяўляецца міжклясавай групоўкай, у якую ўваходзяць і пролетарскі і саматужна-рамесьніцкі элемэнт. Вольна практыкуючаму доктару, правазнаўцу, настаўніку, якія займаюцца прыватнымі лекцыямі, не процістаяць, як асаблівая сіла, спосабы вытворчасьці і, значыцца, яны не зьяўляюцца беспасрэднымі об'ектамі капіталістычнае эксплёатацыі. Мастак, зрабіўшы малюнак таму, хто яго заказаў (або для гандляра), зьяўляецца рамесьнікам (або саматужнікам). Музыка, які організоўвае ўласнымі сіламі свой концэрт і атрымоўвае беспасрэдна з яго прыбытак,—рамесьнік (ужываю слова, зразумела, выключна ў экономічным сэнсе). Усё гэта—працаўнікі разумовай працы, якіх, як кажа Маркс, капіталізм разразае напалам. „Як уласьнік спосабаў вытворчасьці“, характарызуе Маркс такі тып, „ён зьяўляецца капіталістым; як працаўнік—ён свой уласны наёмны працаўнік“[1]). Зробім тлумачэньне гэтаму ў стасунку да тэй катэгорыі, якая нас цікавіць. Калі пісьменьнік ня мае магчымасьці сам выдаць сваю працу і прымушаны прадаць

[1]) Карл Маркс. „Теории прибавочной ценности“. Птг. 1923 г., ч. I, стар. 276.

сваю працу выдаўцу, дык зусім ясна, што паміж імі ўстанаўляюцца адносіны пролетарага і капіталістага. Але калі пісьменьнік сам выдае сваю кнігу, аб ім можна сьмела сказаць словамі Маркса, што „яму застаецца яго ўласная дадатковая праца, і, такім чынам, ён адносіцца, як свой уласны капіталісты, да самога сябе, як да наёмнага працаўніка. У такім становішчы знаходзіцца доктар, маючы ўласны габінэт, настаўнік, маючы—як гэта часта бывае ў невялікіх нямецкіх мястэчках—уласную школу і г. д. Узрост капіталізму, які бязьлітасна выпінае рамяство і замяняе яго буйнай вытворчасьцю, робіць на інтэлігента-рамесьніка такі самы ўплыў, як і на ўсякага іншага рамесьніка. Той самы экономічны закон, які, пры ўзьнікненьні фабрыкі, зьнішчае рамесьніцкую майстэрню, зьяўляецца прычынай зьнішчэньня прыватна-ўласьніцкага дакторскага габінэту побач з „фабрыкамі здароўя“, якія стварае сучасны Нью-Іорк, Лёндон, Парыж. І падобна таму, як рамесьнікі фізычнае працы шукаюць ратунку ад зьнішчэньня якое прыносіць ім капіталізм, у вытворчых асоцыяцыях, сяброўствах і г. д., рамесьнікі разумовае працы робяць спробы выратавацца ад зьвяржэньня ў пролетарскія масы шляхам стварэньня „сяброўстваў настаўнікаў“ колектываў дактароў і іншымі формамі вытворчых асоцыяцый.

Такім чынам, мы маем магчымасьць устанавіць, што інтэлігэнцыя як соцыяльная катэгорыя, ствараецца з двох пластоў працаўнікоў разумовае працы: пролетараў і рамесьнікаў-саматужнікаў. Колькасны стасунак гэтых дзьвёх груп унутры тэй клясавай групоўкі, якую яны разам складаюць, на жаль, застаецца для нас невядомы, з прычыны адсутнасьці статыстычных даных. Можна ўсё-ж такі з вялікай пэўнасьцю адзначыць, што гэты стасунак мае няўхільную тэндэнцыю на зьмену ў сэнсе павялічэньня пролетарскага пласта і памяншэньня рамесьніцкага пласта, які да гэтай пары застаецца перавышаючым у складзе інтэлігэнцыі капіталістычных дзяржаў. У дзяржаве пераходнага часу, якой зьяўляецца СССР, мы маем масавую пролетарскую інтэлігэнцыю. І таму 1.600.000 інтэлігэнтаў—сяброў профэсыянальных саюзаў, аб якіх мы казалі вышэй, процістаяць ня больш, як дзесяткі тысяч інтэлігэнтаў-рамесьнікаў.

Яшчэ адна ўвага, якая датычыць інтэлігэнцыі, як адзінае міжклясавае групоўкі. Існаваньне гэтае групоўкі часамі бярэцца пад сумненьне з прычыны аб‘яднаньня ў ёй працаўнікоў зусім рознага кваліфікаваньня. Лічачы апошняе за факт, мы ўсё-ж такі лічым, што ён зусім ні аб чым не гаворыць. Кваліфікацыйная дыстанцыя паміж асобнымі сябрамі інтэлігэнцыі можа быць рознай, але ўсё-ж такі, існуючы на продаж сваёй разумовай працы, усе яны складаюць адну соцыяльна-экономічную катэгорыю. Кваліфікацыйная дыстанцыя паміж акадэмікам і канторшчыкам ня можа перашкаджаць залічэньню іх у адну міжклясавую групоўку, таксама як вялікая дыстанцыя паміж манцёрам і цяжарнікам не перашкаджае залічэньню іх у адну клясавую адзінку.

Зробім некаторыя падрахункі.

Інтэлігэнцыю, як соцыяльна-экономічную катэгорыю, характарызуе той факт, што яе сябры існуюць на продаж сваёй разумовай сілы. Яе нельга раздрабніць паміж паасобных грамадзянскіх кляс, лічачы разумова-кваліфікаванай, ідэолёгічнай верхавінай кожнай данай клясы. Яна ня можа быць таксама ўціснута ў склад якой-небудзь з існуючых кляс. Інтэлігэнцыя існуе, як адзіная соцыяльная групоўка. Гэтая групоўка не характарызуецца клясавай самастойнасьцю: яна міжклясавая. Месца, якое яна займае ў клясавым спэктры, знаходзіцца паміж пролетарыятам і дробнай буржуазіяй. Колькасны стасунак элемэнтаў, складаючых гэту групоўку пролетараў і рамесьнікаў, падупадае хістаньням з тэндэнцыяй у бок пролетарызацыі.

Калісь, у пачатку росквіту капіталізму, адзінкі-працаўнікі разумовае працы з пагардай абвяшчалі: „Я мысьлю, значыцца, я існую“. Цяпер на захадзе капіталізму мільёны працаўнікоў разумовае працы, складаючыя адзіную соцыяльную групоўку, павінны довадам свайго існаваньня, як клясавай адзінкі, абвясьціць: „Мы прадаем сябе, значыцца, існуем“.

V

Вызначыць экономічнае становішча, якое займае інтэлігэнцыя ў грамадзянстве, усё-ж такі яшчэ ня значыць ахарактарызаваць яе, як соцыяльную катэгорыю. Дзеля гэтага неабходна таксама зрабіць аналіз яе, так сказаць, ідэолёгічнае існасьці. Кажучы аб ідэолёгіі якое-небудзь асноўнае клясы, трэба мець на ўвазе процэс разьвіцьця яе клясавае самасьвядомасьці, доўгі процэс яе пераформаваньня з „клясы ў сабе“ ў „клясу для сябе“. У стасунку да інтэлігэнцыі, як і да ўсякай міжклясавай групоўкі, можна, зразумела, толькі з вялікай нацяжкай казаць аб пераформаваньні яе з клясавай адзінкі „ў сабе“ ў клясавую адзінку „для сябе“. Тут апошняе азначэньне можа ўжывацца толькі ў умоўным сэнсе—дзеля вызначэньня таго, што даная міжклясавая групоўка дасягае правіловага разуменьня сваіх клясавых інтарэсаў, г. зн. сьвядомасьці ў тым, з інтарэсам якое з асноўных кляс супадае яе ўласны клясавы інтарэс.

Дык вось, калі мы паставілі сабе мэтай прасачыць той шлях, які робіць інтэлігэнцыя, раней чым дасягнуць правіловага разуменьня сваіх клясавых інтарэсаў, пераформаваньня ў адзінку „для сябе“—у тым умоўным сэнсе, які мы адзначылі вышэй,—нам прыдзецца зазначыць, што гэты шлях надзвычайна крывы, зьвілісты, вельмі ўскладнены з прычыны мноства тых момантаў, якія маюць на яго ўплыў.

Інтэлігэнцыя, як самастойная групоўка, мае ня толькі сваю *гісторыю*—апошняя яшчэ вельмі маладая, пачынаючыся, прыкладам, з апошняй трэці дзевятнаццатага стагодзьдзя,—але і сваю „дагісторыю“. На працягу ўсяго часу гэтага доўгага „дагістарычнага“ пэрыоду асобныя працаўнікі разумовае працы існавалі абслугоўваньнем толькі найбольш заможных пластоў

грамадзянства. У штатах імпэратарскай і каралеўскай сьвіты, сярод гэрцогскай і княскай чэлядзі, разам з прыдворнымі жартаўнікамі і камэрдынэрамі, значыліся прыдворныя летапісцы, дактары і філёзофы. Як правілова адзначыў у сваёй працы „Der sozialismus und die Intellektuellen" Макс Адлер, уся мастацкая і навуковая дзейнасьць 17 і 18 стагодзьдзя разьвіліся пад „живительными лучами монаршего благоволения", і нават найвялікшыя творы эпохі, зьвязаныя з найменьнямі Канта і Гётэ, заплямлены пакорлівымі і ганебнымі прысьвячэньнямі асобам разумова нічога нявартым, якія насілі на сваіх пустых галовах кароны[1]).

Зразумела, працаўнікі разумовае працы і ў 17 і ў 18 стагодзьдзі не складаліся толькі з лейб-мэдыкаў і солістых Жылі тады і Сьпіноза і Русо і шмат якія іншыя незалежныя мысьліцелі. Але гэта былі выключэньні, адзінкі, якія, словамі Дэкарта, казалі аб сабе, што яны вандруюць сярод увакаляючых іх, як у пустэльні. Як асноўнае-ж правіла, можна зазначыць, што працаўнік разумовае працы дабуржуазнае эпохі жыў пад эгідай дваранства і духавенства—пануючых кляс грамадзянства. Толькі соцыяльнай верхавіне былі патрэбны гэтыя працаўнікі, толькі ёй яны аддавалі свае веды, свае дасягненьні, сваё ўменьне. Толькі яна была спажывальнікам культурных набыткаў, заказьнікам і панам працаўніка разумовае працы. Калі мы вышэй зьняпраўдзілі падобнае зацьверджаньне ў стасунку да нашага часу, дык адносна 17, 18 і першай паловы 19 стагодзьдзя ў гэтым стасунку ня можа быць ніякіх спрэчак.

Панаваньне буржуазіі, якое пачалося разам з 19 стагодзьдзем, выклікала шпаркі ўзрост асьветы. Буржуазіі для разьвіцьця продукцыйных сіл і былі патрэбны шматлікія кадры працаўнікоў разумовае працы. Яна іх стварыла і прымусіла іх служыць сабе. Так пачынае формавацца ў нетрах капіталістычнага грамадзянства, як асобная соцыяльная групоўка, інтэлігэнцыя. Групоўка гэтая ў аснове сваёй складаецца да 60—70-х год мінулага стагодзьдзя, а з пачаткам 20 стагодзьдзя набывае значную соцыяльную вагу.

Абслугоўваючы буржуазію, прыслужваючы пануючым клясам, інтэлігэнцыя адначасна стварае ілюзію сваёй уласнай па-заклясавасьці.

Зразумець паходжаньне гэтае ілюзіі вельмі лёгка. Яна зьяўляецца простым вынікам таго, што даная група мае справы выключна з ідэолёгічнымі існасьцямі, беспасрэдная сувязь якіх з экономічным базісам у клясавым грамадзянстве прызахована. Гэтыя ідэолёгічныя існасьці пачынаюць успрыймацца, як апрыорныя катэгорыі. Працаўнікі разумовае працы выступаюць у сьвядомасьці грамадзянства, а таксама і ў сваёй уласнай сьвядомасьці ў якасьці жрацоў адцягнена-мысьлімай навукі. Навука, якая ўспрыймаецца, як народжаная па-за грамадзянствам, у надзорных сфэрах людзкага інтэлекту, выяўляецца, як ня маючая ніякага дачыненьня да агіднай

[1]) Max. Adler. „Der sozialismus und die Intellektuellen". Wien 1993, s. 67.

барацьбы інтарэсаў і імкненьняў, што бурляць у людзкім грамадзянстве. Насіцель навуковай ісьціны абкружаецца аўрэоляй па-заклясавасьці. Ен выступае, як ахоўнік сьвятых пачынкаў вед і справядлівасьці, супэр-арбітра ў клясавых і станавых спрэчках. Ахвяры лютай обэрацыі, у сваіх карэньнях вызначанай яшчэ Энгэльсам, інтэлігэнты з пенай на вуснах бароняць догмат сваёй клясавай нэўтральнасьці.

Капіталізм спрытна скарыстоўвае гэтую обэрацыю. Ён усякімі спосабамі прасякае сьвядомасьць інтэлігэнта-пролетарага думкай аб тым, што ён—мастак, доктар, настаўнік—і працоўны мэталісты або ткач ня маюць нічога агульнага паміж сабою. Капіталізм фальшыва падтрымлівае ў інтэлігэнце, якога ён эксплёатуе, веру ў яго надклясавасьць, арыстократызм. „Усе 95 проц. настаўніц", гаворыць Эптон Сінклер аб амэрыканскіх пэдагогах, „гэта „лэдзі", а ўсе 5 проц. настаўнікаў гэта—„джэнтльмэны"[1]).

Настаўнікі і настаўніцы належаць да клясы людзей, якія носяць крухмальныя белыя каўнерыкі, яны атрымоўваюць штомесячны гонорар у запячатаных конвэртах, а не зьневажаючую штотыднёвую пэнсію ў рукі проста грашыма, як працаўнікі. Разы са два за ўсё іх жыцьцё іх запрашаюць на які-небудзь банкет з абраным грамадзянствам, і на гэтым банкеце банкіры, комэрсанты або фабрыканты красамоўна гавораць аб шляхэтнасьці пэдагогічнай профэсіі і яе вышэйшай мэце[2]).

Памеркаваньні капіталістых выпраўдваюцца. Танна каштуючыя комплімэнты выкупаюцца з вялікім лішкам. „Я многа і доўга выўчаў псыхолёгію гэтых „лэдзі й джэнтльмэнаў", апавядае Сінклер, „і тая блізкая да жахлівасьці агідлівасьць, з якой яны адносяцца да простых працаўнікоў, тая грэблівасьць, з якой яны гавораць аб іхных брудных руках, аб іхных працоўных вопратках без каўнерыкаў, або, што лічыцца яшчэ больш ганебным, „з каўнерыкам з цэлюлёіду".

Зьява, якая набыла пашырэньне ў тую эпоху, калі інтэлігэнцыя складалася, як соцыяльная катэгорыя, дапамагае ўгрунтаваньню думкі яе аб па-заклясавасьці. Гэтая зьява, адзначаная ўжо ў Комуністычным Маніфэсьце, заключаецца ў тым, што ў пэрыод распаду якой-небудзь клясы ад яе адрываюцца найбольш перадавыя, найбольш мысьлячыя элемэнты, якія становяцца ідэолёгамі новае рэволюцыйнае клясы, што ідзе на зьмену старой здрузьлеўшай, выжыўшай сябе. У часе Вялікае Францускае Рэволюцыі ідэолёгамі буржуазіі часта зьяўляліся прадстаўнікі пануючых станаў (абат Сіэйс, грап Мірабо і г. д.). Ідэолёгамі прабуджэньня нямецкага пролетарыяту быў сын фабрыканта Энгэльс і сын купца Ласаль. Першы пэрыод расійскага рэволюцыйнага руху зазначыў шэраг славутых іменьняў—выхадцаў пануючых верхавін. Усё гэта зьяўлялася довадам па-заклясавасьці природы інтэлігэнцыі. Паміж тым меў месца факт

[1]) Амэрыканскае настаўніцтва на 95 проц. складаецца з жанчын.

[2]) Эптон Сінклер. „Гусята. Народное образование в Америке" Перакл. Фортунато, Ленінград. 1924 г., стар. 154.

зусім іншага парадку: пераход інтэлігэнтных адзінак ад клясы гістарычна аджыўшае да клясы будучыны, пераход, абумоўлены разуменьнем об'ектыўнага ходу гістарычнага процэсу. Гэты факт характарызуецца ня ўменьнем стаць вышэй кляс і над клясамі, а правіловай ацэнкай клясавых адносін эпохі.

Трэба адзначыць, што, прыбіраючыся ў тогу па-заклясавасьці, інтэлігэнцыя ў той самы час была падуладна клясаваму інстынкту. Гэты інстынкт гаварыў ёй, што яе інтарэс зьвязаны з лёсам буржуазіі. Буржуазія, экономічны гэгэмон сьвету, галоўны спажывач культурных набыткаў, якія стварающца інтэлігэнцыяй. Яна прад'яўляе попыт на працоўную сілу інтэлігэнцыі. Інтэлігэнцыя знаходзіцца на ўтрыманьні ў буржуазіі. Такім спосабам, паміж буржуазіяй і інтэлігэнцыяй устанаўляецца сувязь экономічнай згоднасьці. Гэта згоднасьць лёкая з інтарэсамі свайго пана.

Працуючы на буржуазію, інтэлігэнцыя дае навуковую санкцыю яе панаваньню, вынаходзіць філёзофскія, юрыдычныя, этычныя і ўсякія іншыя выпраўданьні яго. Яна баіцца, што з гібельлю буржуазіі загіне яе спажывач, заказьнік і пан, яна зьвязвае думку аб зруйнаваньні буржуазнага панаваньня разам з зьнікненьнем сваёй уласнай экономічнай базы. Бо буржуазію заменіць маса, цёмная, неадукаваная, шматмільённы дзікун, якому непатрэбны ні кнігі, ні маляўнічыя творы, ні газэты, ні акадэміі. Найбольш тыповы з расійскіх інтэлігэнтаў, Міхайлоўскі, ужо палахліва задумваўся над пытаньнем аб тым, як да яго габінэту дарвецца брудны і калматы мужык, які разаб'е бюст яго ўлюбёнага пісьменьніка. Мережкоўскі, палахліва азіраючыся па баках, слаў бясплодныя і бясьсільныя праклёны „грядущему хаму“. А пакойны Гэршэнзон у прыпадку страху, выкліканага думкай аб надбліжэньні гэтага хама, сказаў сваю памятную фразу: „Каковы мы есть, нам не только нельзя мечтать о слиянии с народом,—бояться его мы должны пуще всех казней власти и благословлять эту власть, которая одна своими штыхами и тюрьмами еще ограждает нас от ярости народной“ [1]). Калі адны з інтэлігэнтаў спадзяваліся, што штыхамі і турмамі ўтрымаецца ўлада наскрозь пратрухлеўшых грамадзянскіх кляс, якія інтэлігэнцыя абслугоўвае і на якіх яна працуе, дык другія з іх разумелі ўсю нязбытнасьць гэткіх надзей. Яны пакараліся няўхільнаму лёсу гісторыі, але таксама, як і першыя, лічылі, што калі ўлада пяройдзе да новых соцыяльных пластоў, тады інтэлігэнцыі, як такой, рабіць больш ня будзе чаго: яе веды, яе культурныя набыткі, яе працоўная сіла ня будзе патрэбна тэй клясе, якая зойме месца буржуазіі.

Сожгите книги кострами,
Пляшите в их радостном свете,
Творите мерзость в храме—
Вы во всем неповинны, как дети,

[1]) „Вехи“ „Сборник статей“. Выд. 4-ае.

А мы, мудрецы и поэты,
Хранители тайны и веры,
Унесем зажженные светы
В катакомбы, в пустыни, в пещеры".

*(Валеры Брусаў).*

Клясы будучыны лічыліся здольнымі толькі на тое, каб паліць кнігі на вогнішчах і „творить мерзость в храме". І з прычыны гэтага, інтэлігэнцыя, як соцыяльная катэгорыя, чаплялася за клясы аджыўшага, якім толькі і патрэбны, думала яна, яе „зажженые светы"... І вось чаму, калі прыход рабочае клясы да ўлады стаўся ў нашай краіне навочным фактам палітычнай рачаіснасьці, як-бы параненая, замятусілася расійская інтэлігэнцыя, у страшэннай жудзе паўтараючы енкі сытых з андрэеўскага „Царя-Голода": „Звери вышли из лесов. Орда варваров идет на нас! Горит национальная галлерея! Горит Мурильо, горит Веляскез, Рубенс, Джоржоне!.."

Блокаўскае пяро ўвекавечыла вобраз такога спалоханага інтэлігэнта ў першую пару рэволюцыі:

Длинные волосы
И говорит вполголоса:
Предатели!
Погибла Россия!
Должно быть писатель—
Вития.

*(Ал. Блок. Двенадиать).*

Напалоханыя інтэлігэчты прабавалі ўсякімі мерамі перашкаджаць гістарычнай зьмене буржуазіі пролетарыятам. Яны браліся за саботаж, станавіліся пад белагвардзейскую вінтоўку, уцякалі калі не ў катакомбы і пустэльні, дык у Бэрліны і ў Белграды.

Гэты процэс процідзеяньня ўладзе пролетарыяту выявіўся, як найбольш упарты, у асяродзьдзі інжынэрна-тэхнічнай інтэлігэнцыі, у сваёй большай частцы зьвязанай цеснымі экономічнымі сувязямі з замежнымі капіталістымі, якія ўладалі паловай капіталу расійскіх банкаў і 40 процантамі акцый расійскай прамысловасьці. Тут саботаж быў беспасрэдным рэфлексам з боку даручных замежнага капіталу, які колёнізаваў Расію, на ўдар, зроблены рэволюцыяй гэтаму капіталу.

Пасьля гэтага саботаж зьмяніўся працай, „сьціснуўшы сэрца", зьмірэньнем перад працоўнай уладай, якая замацавалася на заваёваных позыцыях, як з няпрыемнай патрэбай.

Але большасьць напалоханых інтэлігэнтаў прашла троха іншы шлях. Яна ў выніку досыць доўгага і зьвілістага процэсу зразумела, што новая кляса—не барбар, ня хам і ня дзікун. Шматмільённыя масы, жыўшыя

[1]) Настроі і позыцыі гэтае групы інтэлігэнцыі добра ахарактарызаваны ў брошуры Ю. Ларына „Интеллигенция и Советы". „ГИЗ". М. 1925 г.

стагодзьдзі на ланцугу рабства і цемры, маглі скарыстаць на „цыгаркі“ адну дзесятую, сотую памешчыцкую бібліотэку, маглі абіўку музэйных крэслаў ужываць на анучы, але ў той самы час яны паказалі напалоханым інтэлігэнтам, што ў іх, у нетрах народных, жыве такое імкненьне да культуры, вед, навукі, якое здолее падмыць шматвяковую сьцяну цемры. Праз лікпункты, рабфакі, газэты, гурткі, клюбы, студыі, тэатры—праз дзесяткі іншых каналаў пачала вызваленая ад прыгону маса далучацца да крыніц вед, „грызьці граніт навукі“. Тады напалоханы інтэлігэнт зразумеў, што і працоўнай клясе і шырокім масам працуючых патрэбны тыя самыя культурныя здабыткі, монопольным спажывачом якіх па сваёй простадушнасьці ён лічыў буржуазію. Ён сам убачыў, як ад убогіх сродкаў зруйнаванай краіны дыктатар-пролетарыят адрывае вялікія сумы на стварэньне новых культурных цэннасьцяй, новых крыніц вед. Ён зразумеў, што можа з такім самым, а можа і з значна большым посьпехам, чым буржуазію, культурна абслугоўваць пролетарыят. Гэтая сьвядомасьць нарадзіла „сменовеховство“. Колькі-б не запаўнялі-б Устралаў, Ключнікаў і брація аб комінтэрнаўскім „Трэцім Рыме“, якімі-б іншымі слоўнымі бразгалкамі не забаўлялася „сменовеховское“ дзіця, зусім ясна, што „смена вех“ прадыктавана сьвядомасьцю пэўнай часткі нашай інтэлігэнцыі ў тым, што можна з посьпехам пастаўляць культурныя цэннасьці новай клясе, што гэтая кляса зьявілася найбольшым пакупнікам інтэлігэнцкай працоўнай сілы. Гэткая, без ідэолёгічных шатаў, прадпасылка „сменовеховства“.

Тая тэхнічная інтэлігэнцыя, адносна якой мы адзначалі вышэй, што тэндэнцыі процідзеяньня новай уладзе сярод яе былі найбольш жывучымі, пакідала іх па меры таго, як пераконвалася ў тым, што працоўная кляса можа ўзяць на сябе ролю організатара і будаўнічага прамысловасьці. „Цяпер, у 1925 годзе, на 8-ы год пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі“, казаў Ф. Дзяржынскі на 3-м Усесаюзным зьезьдзе Саветаў, „у складзе тэхнічнага пэрсоналу, у яго псыхолёгіі, у яго політычным настроі адбыліся вялізныя зьмены і поўны пераварот. Наша інтэлігэнцыя, нашы тэхнічныя лісы ўбачылі, што дзяржава працоўных адчыняе вялізьнейшыя пэрспэктывы для навукі, для вед, што толькі першы раз пры савецкім ладзе будзе створаны моцны грунт для матэрыяльнага дабрабыту краіны“.

Наша рэволюцыя асабліва выразна выявіла тыя моманты, якія характарызуюць інтэлігэнцыю Захаду, але якія там ня выявіліся ў поўнай меры. Паколькі нямецкі, францускі, ангельскі пролетарыят культурна ўзрастае, паколькі ён прад'яўляе ўсё больш жыцьцёвыя ўмовы на інтэлігэнцкую працоўную сілу, пастолькі інтэлігэнцыя мяняе ідэолёгічную орыентацыю ў бок ад буржуазіі да пролетарыяту.

Але ў гэтым яшчэ далёка ня поўная характарыстыка ідэолёгічнага твару інтэлігэнцыі. Кажучы аб апошнім, трэба мець на ўвазе яшчэ наступнае:

Ужо ў дзевяцьдзесятыя годы процэс пролетарызацыі інтэлігэнцыі разьвіўся настолькі глыбока, што значныя кадры яе пачалі адчуваць усе нявыгады, зьвязаныя з клясавым становішчам інтэлігэнцыі ў капіталістычным грамадзянстве. Надзвычайна хуткі лічбовы ўзрост інтэлігэнцыі выклікае перавытворчасьць працаўнікоў разумовае працы ў розных профэсіях, беспрацоўе, запасную армію інтэлігэнтнае працы. Разам з гэтым, мацнее сярод інтэлігэнцыі і опозыцыя да парадку буржуазнага панаваньня. Сваім уціскам і экплёатацыяй капіталізм прымушае інтэлігэнтаў-пролетараў ступіць на шлях клясавай барацьбы. Спачатку мы тут спатыкаемся з надзвычайна простадушнымі і прымітыўнымі формамі, накшталт „індывідуальных забастовак“, якія прымушаны ўжываць час-ад-часу нават тыя „лэдзі і джэльтмэны“, аб якіх з такой гіроніяй гаворыць амэрыканскі пісьменьнік. Мала-па-малу драбязьлівая барацьба за поўдзесятку на рубель пачынае пашырацца і ў галінах разумовай працы розных краін, як мы ўжо бачылі, у нашыя часы кіпіць зусім адкрытая, вострая, бязгодная, плянава організаваная барацьба працы з капіталам, эксплёатуемага з экплёататарам.

Разам з гэтым, шмат інтэлігэнтаў пачынае трымацца орыентацыі на працоўную клясу і ўступае ў соцыялістычныя партыі. Тут яны часта робяцца правадырамі ўсякіх рэвізыяніцкіх і опортуністычных настрояў.

Яны вытручаюць з соцыялізму рэволюцыйны зьмест, робяць яго рэформіцкім, прыстасавальным, салённым, яны надаюць яму элемэнты буржуазнае ідэолёгіі. Нарэшце, яны або канчаткова выходзяць з-пад соцыялістычнага сьцягу і абарачаюцца часта ў самых лютых ворагаў працоўнае клясы, як Мільеран, Струвэ, Мусоліні і тысячы іншых рэнэгатаў, або, застаючыся формальна пад гэтым сьцягам, атручаюць соцыялістычны рух трупнай атрутай опортунізму. Адносна гэтых „соцыялістых“ Г. В. Пляханаў у свой час пісаў: „Удзел інтэлігэнцыі ў працоўным руху карысны для пролетарыяту толькі пры існаваньні вядомых умоў, а калі гэтых умоў няма, ён робіцца шкодным з прычыны таго, што ён тады не паскарае разьвіцца пролетарскае самасьвядомасьці, а прыпыняе яго поступ. Сярод гэтых умоў самае галоўнае месца займае незалежны крытычны стасунак інтэлігэнцыі, якая зьбліжаецца з пролетарыятам, да ідэолёгаў пануючае клясы“[1]).

Усё-ж такі, было-б самай крайняй супярэчнасьцю з рачгіснасьцю, калі агульна гаварыць аб інтэлігэнцыі, як аб рассадніку опортуністычнай бацылы. Калі мы, з аднаго боку, павінны заўважыць адмоўны ўплыў на соцыялістычную партыю тых інтэлігэнтаў, якія, далучаючыся да пролетарыяту, усё-ж такі застаюцца пад уплывам ідэолёгіі пануючае клясы, дык, з другога боку, трэба помніць аб тэй масе інтэлігэнтаў, якія, уступіўшы ў працоўную партыю, аддаюць ёй свае веды, сваё ўменьне, сваё жыцьцё, шмат

---

[1]) В. Г. Пляханаў. „Энрико Леонэ и Иваное Бономи сб. от обороны к нападению“, стар. 308.

чым дапамагаюць прасьвятленьню клясавае сьвядомасьці пролетарыяту. Трэба помніць, што найбольш выдатныя з ідэолёгаў міжнароднага працоўнага руху ў пераважаючай большасьці, зьяўляюцца інтэлігэнтамі.

Трэба мець на ўвазе яшчэ й наступную акалічнасьць. Частка інтэлігэнцыі прабуе процістаяць усё больш моцнаму націску капіталізму з яго падарожнікамі—перавытворчасьцю, беспрацоўем і. г. д. шляхам монополізацыі інтэлігэнтнай працы, утрыманьня ў сваіх руках патрэбных грамадзянству ведаў. Асабліва моцнай зьяўляецца гэта тэндэнцыя ў высока-кваліфікаванай верхавіне інтэлігэнцыі—у яе так званых акадэмічных колах. У унівэрсытэтах капіталістычных краін і ў нашай дарэволюцыйнай вышэйшай школе панавала ў поўным сэнсе гэтага слова цэхавая традыцыя, якая абарачвала профэсуру ў асабістую касту. Папасьці ў асяродзьдзе монополізатараў навукі было вельмі цяжка з прычыны мноства перашкод, у стасунку да якіх часта ня мелі значэньня ні таланнасьць, ні здольнасьці, ні веды.

Вучоных бюрократаў ня толькі не здавальняюць ужо існуючыя абмежаваньні навуковае вольнасьці, але яны прагнуць яшчэ новых, сказаў незадоўга да рэволюцыі адносна сваіх колег профэсар Варшаўскага унівэрсытэту А. М. Еўлахаў [1]).

Анатоль Франс, быўшы, як вядома, адным з 40 акадэмікаў Францыі, яе „бясьсмертных“ апавядаў сваім сябром аб тэй акадэмічнай стратэгіі, якую павінен быў выявіць усякі, хто меў жаданьне папасьці на гэты парнас францускае навукі.

„Мяне так пераконвалі ў тым, што мне абавязкова трэба папасьці ў акадэмію, што я гэтаму паверыў нарэшце. Галеві ўзяўся ўвясьці мяне ў бясьсмертныя салёны. Ён даваў мне лекцыі акадэмічнай стратэгіі. На кожную раніцу я атрымоўваў програму, дзе было адзначана ўсё: пайсьці туды, сюды, да грапіні такой вось... гаварыць аб тым-та, а грапе дэ-Шамборы, а Шатабрыане, у пані П. выслаўляць Віктара Гюго... Маю кандыдатуру было вельмі цяжка зрабіць прыгоднай. Я захапіўся ігрою, убачыўшы перашкоды. Цяжка ўявіць сабе, да чаго гэтыя сорак, так нікчэмныя ў сваіх пісаньнях, маюць вялікі ўплыў у жыцьці. Такі корпорацыйны дух... Гэтыя дурні надзвычайна хітрыя, калі хто-небудзь захоча пранікнуць пад іх дах[2]).

Маючы імкненьне монополізаваць навуку і ахаваць сябе ад праніканьня „чужых“ элемэнтаў, верхавіны інтэлігэнцыі выступаюць абаронцамі нацыянальных і ўсякіх іншых абмежаваньнаў у галіне вышэйшай асьветы, а тым больш акадэмічнай дзейнасьці. Да апошняга часу унівэрсытэцкая кафэдра была амаль што недаступнай для жанчыны. Амэрыканцы зачыняюць

---

[1]) Гл. проф. А. Еўлахаў. „Бюрократическая наука (к вопросу о замещении университетских кафедр)“. Растоў-на Доне, 1915 г.

[2]) Жан Жак Брусон „Анатоль Франс в халате“, Выд. „Время“, Ленінград 1925 г., стар. 74.

дзьверы вышэйшай школы перад неграмі. Царская Расія, Румынія, Польшча Вэнгрыя—перад жыдамі. А звышклясавыя акадэмікі і па-заклясавыя профэсары бесстароньнім аўторытэтам навукі асьвятляюць numerus clausus. Такім спосабам вялікія вучоныя часта становяцца ў шэрагі рэакцыянэраў і „мракабесаў“. Гэта бывае тым часьцей, чым лепей капіталізм ажыцьцяўляе ў стасунку да гэтых найвышэй кваліфікаваных дзесяткаў сваё ўлюбёнае правіла divide et impera, г. зн. ставіць іх ў рэзка адметныя ад усёй інтэлігэнцкай масы матэрыяльныя ўмовы, ужываючы тут організаваны подкуп верхавіны, што хаця ўжываецца ў стасунку да працаўнікоў фізычнае працы. Капіталізм умее працаўнікоў навукі абарачваць у сваіх ландскнэхтаў. Нават стары Каўцкі неўразуменна адзначае ў аднэй з сваіх апошніх прац, што „ў галіне навукі Нямеччына ідзе на чале ўсіх народаў, а верхавіны яе навукі, большасьць профэсароў і студэнтаў, шэраг судовых дзеячоў, пэдагогаў і г. д. па жорсткасьці і політычнай сьлепаце ня маюць сабе роўных“[1]).

Аднак навука ня можа згадзіцца з сэрвілізмам парадку эксплёатацыі і зьнявольваньня працы. Людзі навукі і мастацтва павінны раней ці пазьней адчуць, у якое зьняважнае становішча ставіць іх капіталізм. І тады яны падобна Эйнштэйну, Франсу, Ролану адкрыта становяцца ў шэрагі яго ворагаў. Характэрна ў гэтым стасунку выступленьне вялікага англьскага фізыка Содзьдзі, які нядаўна выклікаў вялікую сэнсацыю прамовай, сэнс якой скіроўваўся да наступнага. Працаўнікі навукі організоўваюць жыцьцё, людзі фізычнае працы ствараюць матэрыяльныя цэннасьці, навошта-ж тады існаваньне нейкага дадатку ў выглядзе капіталізму? Гэты дадатак ня толькі лішні, ён яшчэ і шкодны.

Хістаньні інтэлігэнцыі паміж працай і капіталам становяцца асабліва вельмі шкоднымі ў моманты рэволюцыйных бур. Інтэлігэнцыя ў большасьці сваёй складаецца, як мы адзначалі вышэй, з асоб, якія займаюць становішча саматужніка-рамесьніка, яна рэагуе на здарэньні таксама, як і дробная буржуазія. Усе тыя надзвычайна ўдалыя характарыстыкі хістаньняў, падобных да хістаньняў маятніка, хістаньняў дробнае буржуазіі, якія зроблены клясыкамі марксызму, знашлі сабе лішняе пацьверджаньне ў абыходжаньні інтэлігэнцыі амаль што ўсіх тых краін, якія ахапляліся ў нашыя часы полымем рэволюцыі.

З ліку тых фактараў, што маюць уплыў на інтэлігэнцкую ідэолёгію, трэба мець на ўвазе і наступныя.

Той выключны ўплыў, які зрабіла на разьвіцьцё ідэолёгіі працаўнікоў фізычнае працы машына, у стасунку да працаўнікоў разумовае працы, зьяўляецца вельмі нікчэмным ці, больш дакладна кажучы, амаль што й зусім адсутнічае. Машына з моманту яе зьяўленьня мела на працаўніка фізычнае працы высока рэволюцыянюючы ўплыў. Гэтага ўплыву не ад-

[1]) К. Каўцкі. „Пролетарская Революция“. Бэрлін. 1923 г., стар. 53.

чуваў на сабе працаўнік разумовае працы, бо сфэра гэтае працы амаль што не паддаецца мэханізацыі. У гэтай акалічнасьці трэба шукаць адзін з ключоў да тлумачэньня таго факту, што інтэлігэнт у масе больш консэрватыўны, чымся працаўнік фізычнае працы. Праўда, тэхнічны прогрэс мае некаторы ўплыў у пэўных варунках і ў галіне прыстасаваньня разумовае працы. У апошнія часы праца, напрыклад, канторскіх служачых вельмі мэханізуецца. Дзе нядаўна працавала чатыры бухгальтары у сучасным амэрыканскім банку цяпер працуе адзін бухгальтар, які мае пад рукамі ўсякія лічэбнікі, аўтоматы і іншыя мэханічныя прыладзьдзі. Але ўсё-ж такі гэта вельмі нікчэмны, ледзь прыкметны ўдзел машыны ў галіне разумовае працы.

Далей, разумовая праца па самым сваім характары індывідуалістычная. Тыя цэннасьці, якія дае інтэлігэнцыя, ствараюцца адзінкай, а не колектывам, яны ствараюцца незалежна ад працоўнай коопэрацыі. Адсюль бярэ пачатак інтэлігэнцкі індывідуалізм, імкненьне замкнуцца ў сабе, захавацца ў кельлі сваіх перажываньняў і настрояў. Але ўсё-ж такі і тут за апошнія часы адбыліся вялікія зьмены. Працоўная коопэрацыя, колектывістычны прынцып усё мацней пранікаюць у сфэры разумовае працы. Вучоны, які некалі, як кажа Маркс, хаваў усе адгадкі і таемнасьці сьвету ў скрынцы свайго пісоўнага стала, прымушаны ўсё часьцей супольнічаць з працаўнікамі сваёй галіны. Конгрэсы, зьезды, конфэрэнцыі робяцца аднэй з важнейшых форм навуковае працы. Каштоўныя навуковыя вынікі вельмі часта дасягаюцца ў нашыя часы шляхам супольных стараньняў груп навуковых працаўнікоў. Працоўная коопэрацыя падулашчае сабе разумовую працу: яна—у вядомых, зразумела, межах, колектывізуецца. Гэтая акалічнасьць бязумоўна зробіць уплыў і на ідэолёгію інтэлігэнцыі, накіроўваючы яе ў бок ад індывідуалізму да колектывізму.

Напрамак ідэолёгічнага абыходжаньня інтэлігэнцыі ў грунце сваім залежыць ад стасунку складаючых гэтую міжклясавую групіроўку элемэнтаў рамясьніцкага й пролетарскага. Узрост апошняга мае сваім вынікам, калі можна так сказаць, пролетарызацыю інтэлігэнцкае ідэолёгіі. Інтэлігэнцыя Савецкага Саюзу, пасьля доўгіх хістаньняў, у нашыя часы бязумоўна далучылася ў склад працоўнае клясы. Самая кваліфікаваная верхавіна нашае інтэлігэнцыі—працаўнікі навукі першы раз організаваліся ў профэсыянальную адзінку, зьвязаўшыся з шматлікай арміяй вытворча-організаванага характару. Ідэолёгічнае зрушэньне ў асяродзьдзі настаўніцтва, агрономаў, дактароў, сьведкамі якога мы зьяўляліся ў працягу апошняга трохгодзьдзя, зьяўляецца фактам выключнага значэньня.

Грамадзянская сьвядомасьць якой-небудзь соцыяльнай групы можа, на падставе тых ці іншых у агульным ліку клясавых прычын, разьвівацца ўбочнымі зігзагападобнымі шляхамі. Але як-бы наладжана ня была клясавая сьвядомасьць якой-небудзь соцыяльнае групоўкі, нарэшце ўсё-ж такі яе грамадзянскае існаваньне выпрастае яе грамадзянскую сьвядомасьць.

У адным з сваіх артыкалаў В. І. Ленін падкрэсьліваў, што „інжынэр прыдзе да прызнаньня комунізму ня так, як прышоў падпольнік-пропагандыста, пісьменьнік, *а праз даныя сваёй навукі тшо пасвойму прыдзе* да прызнаньня комунізму агроном, пасвойму лесавод і г. д.[1])

Гэта об'ектыўная няўхільнасьць уцягненьня інтэлігэнцкай ідэолёгіі ў межы пролетарскага сьветапагляду выяўляецца з кожным годам выразьней.

Інтэлігэнт павінен стаць у шэрагі працоўнае клясы ня толькі з прычыны тэорытычнага разуменьня тае ісьціны, што пролетарыят самая рэволюцыйная з кляс людзтва, якая, вызваляючы ад прыгону сябе, вызваляе і грамадзянства. Яго прымушае да гэтага і беспасрэдны інтарэс, які, як мы бачылі, у асноўным зьяўляецца інтарэсам пролетарага. Па меры таго, як расьце агрэсыўнасьць капіталу, чым больш эксплёататарскім і драпежніцкім ён робіцца, інтэлігэнцыя атрымоўвае ўсё больш відавочныя прыклады сьмяротнай варажнечы яе інтарэсаў да інтарэсаў капіталу. Інтэлігэнцкая ілюзія па-заклясавасьці зьнікае разам з пранікаеньнем у інтэлігэнцкую сьвядомасьць разуменьня таго факту, аб якім аўстрыйскі комуністы Язэп Штрасэр у сваім артыкуле „Путь интеллигенции“ кажа, што „перад капіталам усе працоўныя роўны і што кожнаму з іх, хто-б ён ня быў—інжынэр або падмайстра, кравец, профэсар унівэрсытэту або чалядзінец, поэта або чарнароб—капітал выдзяляе ім столькі, колькі прымушае яго выдаць патрэба“.

Наша эпоха навочна паказвае, што *супроць* працоўнае клясы, *незалежна* ад працоўнае клясы, інтэлігэнцыя дзее насуперач свайму клясаваму інтарэсу. Гэты інтарэс патрабуе ад яе зразумець, што яна сама частка працоўнае клясы.

Гісторыя, як гаварыў Пляханаў, хапае за шыварат тых, хто супраціўляецца ёй. Інтэлігэнцыя нашага часу ўжо адчувае гэты дотык гісторыі на сабе.

[1]) В. І. Ленін „Об едином хозяйственном плане“ Т. XVIII, ч. I, стар. 87.

# ЭГІПЭТ, ЯКІ ПРАЧЫНАЕЦЦА

## Леў Каган

### I

Зараз, у эпоху разьвіцьця заходняга капіталізму, які імкнецца разгарнуць сваю дзейнасьць на ўвесь сьвет, лёс асобных краін і нават цэлых матэрыкоў залежыць ад таго, ці праходзяць праз іх вялікія міжнародавыя шляхі ці не.

Эгіпэт мае вялічэзнае палітычнае значэньне, якраз з тэй прычыны, што праз яго праходзяць два такіх вялікіх шляхі: адзін, што вядзе праз Чырвонае мора і Індыйскі акіян у Індыю, другі—праз Судан і экватарыяльную Афрыку да паўднёвае часткі Чорнага матэрыка.

У старыну з Індыяй гандаль ішоў па чатырох шляхох—2-х сухаземных і 2-х морскіх. Першы ад Пяцірэчча цягнуў на Бактрыю, Гэрот, а потым ужо караванамі праз Гэктампілос—у Мэсопотамію і Сірыю. Другі пачынаўся ў Бактрыі і на Оксусу (Аму-Дар'і), ішоў да Касьпійскага мора, а потым, перасякаючы Каўказ, да Чорнага мора. Трэці шлях—морскі—праз Індыйскі акіян і Пэрсыдзкі заліў даходзіў да Тыгра і Эўфрата і канчаўся ў Сірыі. Чацьверты—ішоў на захад ад трэцяга да Чырвонага мора і канчаўся ў Эгіпце. Найбольш зручным шляхам у старыну быў якраз апошні, бо ён зусім ня ўключаў у сябе вучасткаў караваннае дарогі, найбольш цяжкае ў Афрыцы. Птолёмэй, а пазьней рымляне найбольш карысталіся гэтым шляхам. Асаблівага-ж разьвіцьця апошні дасягнуў тады, калі (а было гэта яшчэ пры Птолёмэях) была дасьледвана і ўстаноўлена пэрыоднасьць пасатаў, што дуюць пры Індыйскім акіяне. На берагох Чырвонага мора пасьля гэтага зьявіліся добра асталёваныя станкі для караблёў, а на Адэнскай поўвысьпе, ад якое адходзілі караблі ў Індыйскі акіян, заснаваўся вялікі гандлёвы цэнтр, што праводзіў гандаль Эгіпту індыйскімі таварамі.

Значэньне гэтага шляху зьменшылася ў мусульманскі пэрыод, але зноў узрасло ў XIX в., калі Отоманская імпэрыя ўстанавіла ангельскае панаваньне ў Індыі.

Калі ў пачатку XIX в. пры Махмэдзе-Алі Эгіпэт адлучыўся ад Турцыі і крыху эўропэізаваўся, значэньне гэтага шляху павінна было павялічыцца. Так яно і было: перад 1875 г. 59 процантаў усяго індыйскага вывазу ідзе па гэтым шляху. Але стары морскі шлях Птолёмэяў і рымлян здабывае ў гэты час, апроч гандлёвага, яшчэ вялічэзнае стратэгічнае значэньне: *ён стаў для ангельцаў найблізшаю і найбольш зручнаю дарогаю ў Індыю.*

Вялікае значэньне Індыі для ангельцаў, аддалёнасьць яе ад Мэтраполіі, нязначны лік у Індыі ангельцаў,—усё гэта робіць для Вялікабрытаніі надзвычайна актуальную проблему заўладаньня гэтым морскім шляхам. Вось фраза з аднае прамовы лёрда Бальфура, зробленай ім ужо ў час імпэрыялістычнае вайны: „Першая ўмова разьвязаньня ўсіх політычных проблем, якія турбуюць Англію, у тым, каб зьвязваючыя нас шляхі зносін былі вольнымі і ні ў якім разе не маглі быць перарваны кім-бы там ні было з праціўнікаў".

І сапраўды, увесь XIX век Англія толькі і робіць, што імкнецца захапіць шляхі, якія вядуць да яе азіяцкіх зямель і, галоўным чынам, шлях праз Эгіпэт і Чырвонае мора. Ужо ў 1840 г. ангельцы захапляюць крэпасьць Адэн пры ўваходзе ў Баб-Эль-Мандэбскі праліў. Потым яны далучаюць сюды невялікую выспу Пэрым у праліве між берагамі Абісініі і Аравіі і выспу Сакатору. Там захапілі ангельцы паўднёвую частку воднае магістралі. Чарга заставалася за паўночнаю часткаю шляху.

Якраз тут у 60-х г. г. утварылася сур'ёзная пагроза для ангельскіх комунікацыйных шляхоў, што вядуць з Сяродземнага мора да Індыі. Француз Лессэнс пачынае капаць Суэцкі канал, каб зьвязаць Чырвонае мора з Сяродземным.

Англія ў пачатку прабуе разьбіць пляны Лессэнса праз нажым на Константынопаль і Каір. Калі гэтыя спробы ня прыводзяць ні да чаго, Англія мяняе тактыку: офіцыйна і неофіцыйна яна пачынае скупоўваць акцыі каналу, каб стаць фактычным гаспадаром гэтага прадпрыемства. Перад 1875 годам плян гэты ажыцьцяўляецца амаль поўнасьцю, брытанскі ўрад скупоўвае ў адным толькі гэтым годзе ў Хэдыва 175 тысяч акцый і робіцца, такім чынам, самым буйным пайшчыкам кампаніі.

У 1883 г. ў адміністрацыйны савет кампаніі ўваходзіць 7 новых членаў—ангельцаў. Англія пачынае ўладаць каналам фактычна, хаця формальна была агалошана конвэнцыя аб вольным праходзе праз канал усякіх суднаў. Практыка вайны 1914 г. навучыла нас, як трэба расцэніваць такія конвэнцыі.

Экономічнае і політычнае значэньне каналу вялічэзнае: шлях з Эўропы ў Індыю скараціўся, дзякуючы яму, на 40 процантаў, з Кітаю ў Эўропу—на 25 процантаў; дзякуючы каналу, Эўропе стала даступнаю Індыйская пшаніца; без перарыву ўзрастае лік суднаў, што праходзяць праз канал. У адным толькі 1913 годзе компанія мела 5.197.038 ф. стэрлінгаў прыбытку. Але пакуль Эгіпэт—вольная краіна, датуль уладаньне Чырвоным морам ня зусім гарантавана для ангельцаў.

І мы бачым, як паступова падбірае Англія Эгіпэт да сваіх рук, пачынаючы яшчэ з канца 80-х год, пакуль не праглынае яго канчаткова 40 год таму назад.

Але раней чым азнаёміцца з Эгіптам эпохі ангельскае окупацыі некалькі слоў аб Эгіпце даокупацыйнага пэрыоду—Эгіпце ў XIX в.

## II

У самым пачатку XIX в. кіраваць Эгіптам фактычна пачынае галоўнакамандуючы турэцкаю арміяю Магомэт-Алі. Пры дапамозе брытанскае экспэдыцыі ён праганяе з Эгіпту напалеонаўскае войска, потым у 1807 г. перамагае сваіх саюзьнікаў—ангельцаў і пачынае самастойна кіраваць краінаю, хоць формальна і лічыцца „подданным“ султана.

Кіраваньне Магомэта-Алі—гэта адна з самых сумных для жыхарства краіны эпох у гісторыі Эгіпту. Увесь Эгіпэт стаў „вотчынаю“ для прыгоншчыка -правіцеля, усё жыхарства—яго нявольнікамі: урад монополізуе ўсе прамысловыя прадпрыемствы краіны і на чале кожнае асобнае галіны прамысловасьці ставіць свайго чыноўніка, якому даручалася забясьпечваць паднявольных рабочых сырцом (шоўкам, ільном, бавоўнаю і г. д.). У адносінах да фэлахаў-сялян пачынае практыкавацца прымусовая скупля ў іх усяго ўраджаю, а неабходны на пражытак мінімум збожжа прадаецца ім потым па высокай цане.




Але Магомэт-Алі—„асьвечаны“ тыран—выкалачаныя з жыхарства сродкі пушчае на „эўропэізацыю“ Эгыпту: пры ім быў збудаваны Александрыйскі порт і Вялікі Нільскі Бараж (трошкі ніжэй Каіру), будаваліся пры ім і заводы, арсэналы, адчынена даволі шмат школ, з якіх найбольш здольныя вучні пасылаліся ў вучэбныя ўстановы Францыі.

Экономічны базіс усіх гэтых пачынаньняў „рэформатора“ Магомэта Алі—бізун з шкуры гіпопотама ў руках зьбіраццеля падаткаў, бізун, які энэргічна „працаваў“ па сьпінах галодных фэлахаў усю першую палову XIX веку (менш энэргічна гэты бізун ня спыняе „працы“ і пазьней аж да гэтага часу). Ня менш цяжэрнаю для працоўнае большасьці жыхарства Эгіпту была палітыка патомка Магомэта-Алі—Ізмаіла (1863—1879 г.),

хоць з боку яна здавалася і прогрэсыўнаю. Ізмаіл—тыпічная фігура спэкулянта бонвівана наполеонаўскае эпохі (Наполеона Малага, вядома) крэатура паказана раскошнага францускага двара, пры якім ён працаваў усе свае маладыя гады. Яго кіраваньне Эгіптам гэта безьліч спэкуляцый і бязьмерная патрата грошай, якая давяла краіну да страшэннае беднасьці і закабаленьня. Вялічэзныя па разьмеры работы па абвадненьні поля, дзесяткі цукровых заводаў, чыгункі, а па другім канцавосьсі—поўгалодныя фэлахі, якіх адрывалі ад іх уласнага поля для работы ў вялікіх панскіх дварох; прымусовая праца пад вечнаю пагрозаю біча для падтрыманьня ў прыгоднасьці каналаў, што абвадняюць чужое поле; атрады вярбоўшчыкаў, якія заганяюць у казарму рэкрутаў, надта бедныя, каб адкупіцца ад службы ў далёкім Судане; маленькія мазанкі на вёсках, часамі пакінутыя сваім гаспадаром, бо нават бізуном з шкуры гіпопотама нельга было дабіцца ад фэлахаў выплаты доўгу; шмат плачучых жанчын і змучаных голадам дзяцей—вось ён малюнак Эгіпту пры венцаносным баваўняным плянтатары Ізмаіле-пашы [1]). Грошы на свае пачынаньні Ізмаіл-паша браў у эўропэйскіх банкіраў. За першыя 5 год свайго ўладаньня Эгіптам ён пазычыў 11 міл. фунтаў стэрлінгаў і абцяжарыў сваю казну бягучым рахункам у 30 міл. фунтаў стэрл. У 1869 г. ён зрабіў другую пазыку ў 11 міл. 890 тысяч фунтаў. Чарговая пазыка была зроблена праз год, пасьля краху цукровае спэкуляцыі, на намінальную суму ў 32 міл. ф. ст., хоць у казну Ізмаіла ў выніку жульніцкіх махінацый банкіраў з гэтых грошай папала толькі 12 міл. ф. ст. У 1875 г. ў руках Ізмаіла заставалася адна толькі рэальная каштоўнасьць—устаноўчыя акцыі Суэцкага каналу. Лёрд Біконсфільд скупіў іх за 4 міл. ф. ст. Надыходзіў канчатковы фінансавы крах, бо ўсе падатковыя магчымасьці былі скарыстаны, а дзяржаўны доўг рос усе больш. Калі перад уваходам Ізмаіла на прастол доўгу было 3 міл. 293 тысячы ф. ст., дык у 1876 г. доўг гэты складаў страшэнную лічбу ў 94 міл. 900 тысяч ф. ст. Англофранцускі капітал прымушае тады турэцкага султана выдаць фірман (загад), згодна якога Ізмаіл-паша траціць эгіпэцкі прастол. Вырашаць лёс Эгіпту бяруцца ангельскія і францускія капіталістыя.

Гэты крытычны ў гісторыі Эгіпту момант адзначаецца першым выбухам у краі не нацыянальна-рэволюцыйнага руху—паўстаньнем Арабі-пашы. Арабі-паша—таленавіты палкоўнік-нацыяналісты, родам фэлах. У паўстаньне ўцягваецца афіцэрства з эгіпцян-тубыльцаў, зусім нязначнае па ліку ў тагочаснай эгіпэцкай арміі. Мэта паўстаньня—скасаваць турэцкае панаваньне і ўстанавіць уласную нацыянальную ўладу, якая-б ня была на повадзе ў чужаземцаў. Шырокія колы эгіпэцкае інтэлігэнцыі і чыноўніцтва былі ахоплены рухам. Патрабавалі скліканьня парляманту,

[1]) Chirol, Valentine, The Egyptian Probleme, p. 28. 29. Цыт. па Кітайгарадзкому—„Эгіпэт“.

звальненьня прадажных міністраў, павялічэньня войска. Армія далучылася да паўстаньня і вайсковая партыя зьлілася з нацыяналістычнай.

Тады ў хатнія справы Эгіпту груба ўмешваецца ангельскі капітал. 11 ліпеня 1882 г. ангельскі адмірал бомбардыруе Александрыю, а праз 2 месяцы ангельскія войскі разьбіваюць армію Арабі-пашы, і брытанскі сьцяг узьвіваецца над Каірам. Пры маўчалівай згодзе ангельцаў французы захапляюць Туніс. Скончыліся страхі ангельскага ўраду наконт „стратэгічнага значэньня“ Суэцкага каналу. Эгіпэт канчаткова, хоць яшчэ да пары, да часу і неофіцыйна, падпаў пад пяту ангельскага імпэрыялізму.

III

Было шмат прычын, якія прымушалі Англію аж да 1914 г. прыкідацца, што яна не прэтэндуе на пастаянную окупацыю Эгіпту: прэтэнзіі Францыі, якая не магла прасьціць Англіі таго, што яна выціснула францускі ўплыў у Эгіпце; нездавальненьне гэтаю окупацыяй Нямеччыны, якая, пачынаючы з 80-х г. г., узышла на шлях колёніяльнае політыкі; варожая ў адносінах да захвату Эгіпту ангельцамі позыцыя туркаў, якіх цішком падбухторвалі французы.

Але ўвагу Францыі пачынае адхіляць узрост Нямеччыны, Турцыя-ж і Нямеччына ня так былі страшны Англіі, як Францыя. Санкцыянаваньне Англіяй захвату французамі Мороко, дапушчэньне разьвіцьця нямецкае колёніяльнае політыкі ва ўсходняй Афрыцы—усё гэта разьвязвае Англіі рукі, і ў сьнежні 1914 г. Англія заяўляе адкрыта аб сваім протэктораце над Эгіптам.

Фактычна, аднак, кіруюць ангельцы Эгіптам яшчэ з 80-х г.г. мінулага стагодзьдзя. Ужо тады да ўсіх эгіпэцкіх міністраў прыстаўлены былі саветнікі, у руках якіх гэтыя міністры былі простымі пешкамі. Тады-ж уведзены былі існуючыя і зараз у Эгіпце т. зв. „капітуляцыі“. Сутнасьць іх у тым, што чужаземцы, якія жывуць у Эгіпце, карыстаюцца шмат якімі прывілеямі ў параўнаньні з тубыльным жыхарствам: яны ня могуць абкладацца ніякімі падаткамі бяз згоды адпавядаючых дзяржаў; цяжбы між чужаземцамі і мясцовым жыхарствам разглядаюцца ў зьмешаных судох, складзеных пераважна з чужаземцаў; усе судовыя справы аб чужаземцах крымінальнага характару разглядаюцца ў консульскім судзе; ніякія вобыскі ў кватэрах чужаземцаў без папярэдняе згоды адпавядаючага консула зроблены быць ня могуць. Гэтым правам „капітуляцый“ карыстаюцца ў Эгіпце, апроч ангельцаў, яшчэ 15 іншых дзяржаў.

З першых-жа год окупацыі, ангельцы пачынаюць кіраваць „культурна“, замяняючы ранейшыя сярэднявяковыя спосабы эксплёатацыі новымі—капіталістычнымі, па віду больш гуманнымі, але ў сутнасьці яшчэ больш цяжкімі для фэлаха. Зьнішчаецца прыгон, бо з посьпехам разводзіць бавоўны—гэты асноўны нэрв эгіпэцкае прамысловасьці—можна толькі пры наліччы вольнае працы, якая больш продукцыйна, чым праца

прыгонная. Сякія-такія рэформы зроблены былі ў галіне суду, адміністрацыі, арміі; апроч гэтага, першы эгіпэцкі дыктатар лёрд Кромэр даў нават Эгіпту ў зачатачнай форме ўстановы з прадстаўніцтвам ад жыхарства, куды, праўда, мелі доступ адны толькі буйныя зямляўласьнікі ды вясковыя старасты—ненавісныя кожнаму фэлаху „омдэ". Значэньне гэтых рэформ для краіны? Для працоўных мас—ніякае, для заможных элемэнтаў—падачка, пры дапамозе якое да пары да часу затрымлівалася разьвіцьцё нацыянальна-рэволюцыйнага руху.

Ёсьць у Эгіпта адна асаблівасьць, вядомая нам яшчэ з падручнікаў старажытнае гісторыі і захаваная за гэтай краінай да апошняга часу: гэта—надзвычайная пладавітасьць грунту, дзякуючы нільскім разьлівам, пасьля якіх застаецца шмат продуктаў гною, прынесеных рэчкаю з балот экватарыяльнае Афрыкі. Але разьлівы трэба рэгуляваць—і гэтае рэгуляваньне разьліваў, якое ведалі яшчэ ў старажытнасьці фараоны, зьяўляецца надзвычайна актуальным да апошняга часу.

Над ірыгацыяй Эгіпту шмат папрацавалі яшчэ да ангельцаў: ня мала паклалі на яе працы і грошай Магомэт-Алі і Ізмаіл-паша. Але ангельцы разгарнулі гэтую работу ў надзвычайна вялікім абхваце. Яны выпісваюць з Англіі сваіх найлепшых спэцыялістых—Манкрыфа, Вількокса, Роса і інш. Вількоксу, між іншым і належыць проэкт збудаваньня Асуанскае дамбы (1902 г.), пасьля якое значна пашыраецца абшар пад бавоўнаю, што відаць з наступнае табліцы:

| Сэзон | Абшар у фэданах (фэдан—трэцяя частка дзесяціны) | Ураджай у кантарах (кантар=2 ½ пуды) |
|---|---|---|
| 1895-96 г. (да пабудовы Асуанскае домбы) | 997.735 | 5.275.383 |
| 1902-03 г. | 1.275.677 | 5.838.790 |
| 1903-04 „ | 1.332.510 | 6.508.947 |
| 1904-05 „ | 1.436.709 | 6.313.370 |
| 1912-13 „ | 1.721.815 | 7.532.920 |

Асуанская дамба—толькі адзін з вучасткаў ірыгацыйнага фронту ангельцаў у Эгіпце. Ангельцы адбудавалі і наладзілі вялікі Нільскі бараж, што ніжэй Каіра (у 1890-91 г.), і гэта дало павялічэньне абшару пад бавоўнаю на 300.000 фэданаў; ірыгацыйнымі работамі ахоплен быў увесь вадазбор Ніла і некаторыя акругі Верхняга Эгіпту; пабудавана была далей Асуанская дамба, аб вялічэзным значэньні якое мы толькі

што казалі. Калі да гэтага далучыць ірыгацыйныя работы ў Судане— а там адна толькі Макуарская дамба мае ўдаўжкі 2 мілі, значыць на цэлую амаль мілю даўжэйшая Асуанскае дамбы і каштуе яна разам з каналамі 5,5 мільёнаў ф. ст.,—дык малюнак будзе даволі значным.

Што прымушае ангельцаў даваць такія вялічэзныя сродкі на ірыгацыю Эгіпту? Бязумоўна—ні клопат аб эўропэізацыі краіны, ні імкненьні гуманнасьці. Мы ўжо зазначалі, што Эгіпэт патрэбен для Англіі, як ключ да Індыі і другіх яе азыяцкіх зямель; але ён ня менш патрэбен Англіі, як баваўняная плянтацыя. Эгіпэт па здабычы бавоўны стаіць на 3-м месцы ў сьвеце і экспортуе ў Англію 60 проц. свае бавоўны—вось другая (а быць можа, і першая) прычына „прыязьні“ Вялікабрытаніі да Эгіпту. Ідэял ангельцаў: увесь абшар запашкі ў Эгіпце—5,5 міл. фэданаў—пад бавоўну і, ня гледзячы на тое, што такая політыка пагібельна для фэлахаў, ангельскі імпэрыялізм да гэтае мэты няўхільна імкнецца і йдзе.

Ніжэйпаданыя табліцы пакажуць малюнак вядзеньня бавоўны ў Эгіпце і значэньне яго для ангельцаў.

Вываз бавоўны з Эгіпту.

| | | |
|---|---|---|
| 1820 г. | 3 | кіпы [кіпа 10 пуд]. |
| 1821 „ | 914 | кантары |
| 1863 „ | 1.181 | тыс. кант. |
| 1872 „ | 2108 | „ „ |
| 1890-91 г. | 4.263 | „ „ |
| 1895-96 „ | 5.225 | „ „ |
| 1906-07 „ | 6.997 | „ „ |
| 1907-08 „ | 6.912 | „ „ |
| 1913-14 „ | 6.972 | „ „ |
| 1917-18 „ | 4.073 | „ „ |
| 1918-19 „ | 5.019 | „ „ |
| 1919-20 „ | 6.708 | „ „ |

Сусьветны збор бавоўны ў 1913-1922 г. ў тысячах кіп па 500 фунтаў.

| | 1913—1914 г. | 1914—1915 г. | 1915—1916 г. | 1916—1917 г. | 1917—1918 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Амэрыка | 14.614 | 16.738 | 12.013 | 12.664 | 12.345 |
| Індыя . | 5.065 | 5.209 | 3.738 | 4.502 | 4.000 |
| Эгіпэт . | 1.537 | 1.298 | 961 | 1.022 | 1.262 |
| Расія . | 1.032 | 1.235 | 1.480 | 1.058 | 578 |
| Кітай . | 2.000 | 2.000 | 2.000 | 2.000 | 2.000 |
| Іншыя . | 1.277 | 1.213 | 1.043 | 1.120 | 1.218 |

## IV

Некалькі слоў зараз аб аграрных адносінах у Эгіпце, каб лепш зразумець малюнак нацыянальна-вызваленчага руху ў краіне, які пераважна зьяўляецца земляробскім.

Абшар прыгоднае для запашкі зямлі ў Эгіпце—8 з лішнім міл. фэданаў, з якіх каля 3-х мільёнаў фэд. не запахваецца бо дзеля гэтага патрабуюцца падрыхтоўчыя работы. Земляробы-фэлахі складаюць 62 проц. ўсяго жыхарства, якога ў Эгіпце ўсяго 13,5 міл. Вынік „вызваленьня“ ангельцамі сялян з-пад прыгону—дыфэрэнцыяцыя (расслаеньне) вёскі: згуртаваньне зямельнае ўласнасьці на адным полюсе і паўпэрызацыя (абядненьне) на другім. Толькі 0,25 сялянства мае надзелы; кулакі складаюць 7 проц. усяго сялянства. Усе-ж іншыя фэлахі—каля 4-х міл. чалавек—беднякі, серадзнякі і проста безьзямельныя, якіх трэба дадаць, большасьць.

Вось табліца разьмеркаваньня ў Эгіпце зямельнае ўласнасьці ў 1919 г.

| Зямельная плошча | Эгіпцяне | | Чужаземцы | |
|---|---|---|---|---|
| | Паверхня | Лік уласьнік. | Паверхня | Лік уласьнік. |
| Менш 1 фэдана . | 489.918 | 1.158.681 | 1 163 | 2.038 |
| Да 5 фэданаў . | 1.050.887 | 494.791 | 4.738 | 1.801 |
| Ад 5 да 10 фэд. | 533.542 | 77.494 | 5.540 | 751 |
| Ад 10 „ 20 „ | 512.058 | 37.323 | 8.672 | 605 |
| Ад 20 „ 30 „ | 272.260 | 11.228 | 8 198 | 328 |
| Ад 30 „ 50 „ | 329.777 | 8.529 | 15.812 | 398 |
| Больш, чым 50 фэд | 1.695.231 | 11.192 | 583.463 | 1.488 |

Амаль палавіна зямлі пад запашкаю знаходзіцца ў руках абшарнікаў, уладаючых маёнткамі з абшарам больш 50-ці фэданаў. З іх тубыльцаў—11.192, чужаземцаў—1.448.

7 проц. сялян зьяўляюцца больш заможнымі фэлахамі з надзеламі ад 5 да 40 фэданаў, 27 проц. маюць ад 1 да 5 фэданаў *і 64 проц. ўладаюць надзелам меншым, чым 1 фэдан.*

Становішча эгіпэцкага селяніна? Бязумоўна, вельмі цяжкае. Ён жыве ў беднасьці. Над ім глуміцца вясковы стараста—„омдэ“, звычайна кулак з тае-ж вёскі. З прычыны сваёй цемнаты, абмежаванасьці і фанатызму, фэлах—нявольнік абшарніка, арандатара, „омдэ“. На вёсках неўяўляема шмат гразі, трэць усіх дзяцей паміpae, не дажыўшы да году.

Палітычны твар фэлаха? Ён у стане першапачатковага накапленьня „пачуцьцяў сымпатыі“ да ангельца і ўласьніка капіталістага. Ужо ў 1919 годзе ён паказаў сябе якраз у меру падрыхтаваным да барацьбы, але аб гэтым рэч будзе далей.

## V

Зараз, калі для нас зразумелы і малюнак заваяваньня Эгіпту і яго экономіка, пяройдзем да асноўных фактаў з нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў краіне.

Калі ня лічыць паўстаньня Арабі-пашы, аб якім ужо гаварылася, дык Эгіпэт да сканчэньня апошняе імпэрыялістычнае вайны ня ведаў рэволюцыйнага руху. Толькі вайна нарадзіла тубыльную эгіпэцкую буржуазію, якая ўзрасла на дрожджах высокіх цэн на бавоўну ў часы вайны. У краіну ўлілося каля 200 міл. фунтаў стэрлінгаў. Страшэнна ўзьнялася прыбытачнасьць ад зямлі—эгіпэцкі дзяржаўны доўг, які ў 1914 г. дасягнуў 93.198.140 ф. ст. і раней быў разьмешчаны заграніцаю, зараз цалком пераходзіць у рукі эгіпэцкіх „нуворышаў“ (nouveau riche—новаспечаны багатыр).

Чаму эгіпэцкая буржуазія не магла іначай прыстасаваць свой капітал, чым у брытанскім казначэйстве? Чаму не індустрыяваўся Эгіпэт, не ўтварылася ў Эгіпце па прыкладу Індыі свая ўласная прамысловая буржуазія?

Прычына ў капітуляцыях. Пакуль яны існуюць, эгіпцяніну-капіталістаму застаецца толькі быць уладаром дому, уладаром зямлі, рантье.

Дый трымаў гэтую буржуазію брытанскі ўрад у чорным целе. Але ня толькі і яе—фэўдалы, аж да самай „каралеўскай дынастыі“—усё гэта добра выхаваныя нявольнікі ангельскага імпэрыялізму. Патрэбна было толькі былому хэдыву Абос-Хільмі II распачаць сваю ўласную політыку, як яго зараз-жа зьмясьцілі і замянілі спачатку Гусэйнам, а калі апошні памёр—каралём Фуад-Ахмэтам.

Аб экономічнай самастойнасьці эгіпэцкай буржуазіі прыходзілася толькі марыць—толькі нацыянальная інтэлігэнцыя рашуча высунула гэты лёзунг і пасьля вайны ў саюзе з буржуазіяй распачала барацьбу за гэты лёзунг.

Мы ўжо казалі вышэй аб „ублюдочных“ рэформах ангельцаў у XIX сталецьці. Да вядомага часу гэтыя рэформы задавальнялі нацыяналістых з эгіпэцкай інтэлігэнцыі—так званых маладых эгіпцян. Калі распачалася вайна—ангельцы вядуць у Эгіпце тую самую тактыку, якую яны вялі тады, і ў Індыі. Абяцалі зьнішчэньне капітуляцый, абарону Эгіпту ад нападу, з чыйго-б там ні было боку, самастойнасьць. Гэтым дасягае Брытанія таго, што сярэднія нацыяналістыя пачалі настройвацца на некаторы час лёяльна.

Але ўжо ў часы вайны Эгіпэт адчувае, што ён злосна абмануты; ніводнага разу ня зьбіраецца законадаўчы сход, з боку цэнзуры распачаўся вялікі ўціск, утвараюцца рэквізыцыі; таксама ўтвараюцца прымусовыя мобілізацыі ў „Вайсковы рабочы корпус“ для работ па правядзеньні чыгуначнага шляху цераз пустыню ад Суэцкага каналу (Характэрны спосаб мобілізацыі—ангельскія залуччыкі (вербовщики) скрытна прыходзілі ў вёскі, падпільноўвалі сялян, якія зьвярталіся з палявых работ, забіралі больш здаровых і ўцякалі, пры гэтым тых, якія не хацелі йсьці, моцна білі.

Скончылася вайна. Нацыяналістыя патрабуюць ад ангельскага ўраду таго, што яны абяцалі. 13 лістапада 1918 году правадыр сярэдніх нацыяналістых Заглул-Паша зьяўляецца на чале дэпутацыі да вярхоўнага ангельскага камісара Рэджынальда Вінгера і „ад імя эгіпэцкага народу“ патрабуе зьнішчэньня протэкторату і прызнаньня поўнае незалежнасьці Эгіпта. Камісар адказвае, што запытаецца наконт гэтага ў свайго ўраду.

Тымчасам Заглул стараецца атрымаць дазвол паехаць яму разам з дэлегацыяй у Лёндон. Яму не дазваляюць.

Тады Заглул апэлюе да Вільсона, Орляндо, формулюе ў асобным складзеным мэморандуме запатрабаваньні нацыяналістых, якія заключаліся ў „прызнаньні незалежнасьці Эгіпту і поўнага сувэрэнітэту Эгіпту

над Суданам“. У гэтым самым мэморандуме абязуюць забясьпечыць права чужаземных падуладных у Эгіпце і выканаць усе грашовыя абавязкі.

Ангельцы імкнуцца спыніць рух дробнымі „рэформамі“, але няўдала. Тады яны заарыштоўваюць 4-х вядомых лідэраў нацыяналістых: віцэ-прэзыдэнта законадаўчага сходу Заглула-пашу, Ізмаіла-Сідкі-пашу, правадыра народнай партыі Махмуда-пашу і Гаміда-Базуль-пашу. Ангельцы, заарыштоўваючы правадыроў сярэдняга нацыяналізму, зусім не чакалі тых вынікаў, якія здарыліся пасьля арышту: у краіне выбухнула рэволюцыя. Першымі выступіла вучнёўства вышэйшых і сярэдніх школ, потым забаставалі рабочыя Каіру і чыноўнікі ўрадавых устаноў. Утварылася бойка паміж паліцыяй і кучаю народу, а калі выкліканыя войскі распачалі па народзе страляніну, гэта яшчэ болей падліло масла ў агонь. У Александрыі і іншых гарадох утварыліся крывавыя стычкі. Фэлахі падтрымалі рух—раскідалі чыгуначныя шляхі і псавалі тэлеграфныя драты (провада). Адвокаты бойкотавалі судовыя ўстановы. 14 сакавіка 1919 г. натоўп у Каіры напаў на ангельскіх жаўнераў. 15 сакавіка хвалі руху перашлі і ў Верхні Эгіпэт. Пачалі страляць у цягнікі і распраўляцца з ненавіснымі гвалтаўнікамі.

У розных провінцыях былі ўтвораны рэспубліканскія комітэты. Гэткія-ж комітэты ўтварыліся і ў вёсках. Фэлахі хадзілі на паляваньне на ангельцаў, армян, грэкаў, коптаў. У Каіры ўтварыўся як-бы „Часовы Ўрад“.

У Цэнтральнай Дэльце і на ўсходзе Эгіпту сяляне заўладалі складамі ўраджаю ў дзяржаўных маёнтках і падпалілі дамы служачых.

Сталі цягнікі, спынілі сваю працу ўсе заводы і фабрыкі. Актыўны ўдзел у паўстаньні прымалі фэлашкі: яны ўва ўсіх страшных выступленьнях былі ў першых шэрагах, прымалі актыўны ўдзел у раскідваньні шляхоў і тэлеграфу.

Гэта была сапраўдная народная рэволюцыя, якая цераз месяц была затоплена ў крыві ангельцамі.

Але ангельцы ўсё-ж такі ўступілі: 7-га красавіка палач рэволюцыі, лёрд Аленбі, абвясьціў, што заарыштаваныя правадыры нацыяналістых будуць вызвалены з-пад арышту. А калі гэтая абяцанка ўсё-ткі рэволюцыі ня спыніла, войскі „крывавага лёрда“ прашлі каральнаю экспэдыцыяй па ўсёй краіне. Разам з гэтым лёрд схіліў у свой бок эгіпэцкую буржуазію, якая спалохалася вялікага паглыбленьня рэволюцыі—чыноўнікі, якія кінулі працу, вярнуліся да яе, і ў краіне пачаўся часовы спакой.

Для ангельцаў быў трывожным і 1920 год. Ужо ў студзені гэтага году выбухнула шырокае паўстаньне ў Судане, і пад Гомбаю ангельская колёна была разьбіта.

Зноў распачаўся і нацыянальны рух: у сакавіку явачным парадкам сабралася законадаўчае пасяджэньне, дзе аднагалосна ўхвалена была рэзо-

люцыя аб абвяшчэньні Эгіпту незалежным і аб зьнішчэньні ангельскага протэкторату. Явачным парадкам таксама быў скліканы цэлы шэраг провінцыяльных сходаў, дзе была ўхвалена тая самая рэзолюцыя.

Якраз у гэты момант Вэрсаль дае Англіі мандат на протэкторат над Эгіптам. Цяпер ужо Англія, як афіцыйны гаспадар краіны, пасылае ў Эгіпэт спэцыяльную місію на чале з лёрдам Мільнэрам для дазнаньня аб „прычынах беспарадкаў“ цераз допыт насельніцтва.

Але комісія Мільнэра церпіць поўнае фіаско: яе бойкотуюць ня толькі інтэлігэнцыя і фэлахі, але нават і палацавыя сфэры: шэсьць прынцаў паслалі Мільнэру запатрабаваньне даць магчымасьць Эгіпту быць зусім самастойным.

Пачынаецца політыка ўступак. Сярэднія нацыяналістыя на чале з Заглулам памягчаюць запатрабаваньні, але ўсё-ткі ні да чога ні дагаварваюцца з Лёйд-Джоржам. Заглулу ў Эгіпце ўтвараюць трыўмфальнае спатканьне, а ў адносінах ангельскае політыкі ў Эгіпце ўтвараюць пасыўнае супраціўленьне і бойкот.

Бачачы, што з заглулістымі дагаварыцца нельга, ангельцы організуюць фэўдальных арыстократаў і частку тамтэйшае буржуазіі, якія напалоханы рэволюцыяй, у партыю „дэмократаў“ і пачынаюць перамаўленьні з гэтаю „партыяй“, якая нагла называе сябе „выявіцелем патрэб эгіпэцкага народу“. Правадыр гэтае „партыі“ Адлі-паша едзе ў пачатку 1921 году ў Лёндон для працягу перамаўленьняў, якія спыніў Заглул-паша.

Але позыцыя, якую занялі ангельскія імпэрыялістыя на чале з Керзонам і Чэрчылем (Керзон нечакана прапанаваў гэткую програму: 1) контроль над знадворнаю політыкаю Эгіпту, 2) захаваньне ангельскіх „дарадчыкаў“ пры міністрах, 3) працяг ваеннай окупацыі Каіру і Александрыі) зьявілася настолькі рэакцыйнаю, што нават Адлі-паша зьвярнуўся 8 сьнежня 1925 г. бяз нічога.

Становішча надзычай завастрылася. Заглул робіцца самым популярным чалавекам у Эгіпце, дом яго, празваны „Домам Народу“, штурмуецца цэлымі тысячамі людзей.

Тады ангельцы зноў перайначваюць тактыку: Заглула заарыштоўваюць і таемна вывозяць на выспу Цэйлён, яго організацыя „Вафд“ без правадыра правальваецца і частка членаў пераходзіць у варожы стан; зьнішчаецца організаваны левымі элемэнтамі бойкот ангельскіх тавараў; зачыняюцца клюбы і друкарскія органы заглулістых.

Гэты момант у колах нацыяналістых, страціўшых свайго правадыра, Англія скарыстоўвае для расколу нацыянальнага фронту. Складаецца новы габінэт на чале з прадстаўніком рэакцыйных колаў эгіпэцкага насельніцтва—Сарватам-пашою; умоўна здымаецца протэкторат і абвяшчаецца фіктыўная незалежнасьць Эгіпту, султан набывае тытул „караля“ і назначаецца „констытуцыйная комісія“.

Цікавы тэкст дэклярацыі Вялікабрытаніі ад 28 лютага 1922 году:

„Лічачы, што за Эгіптам трэба прызнаць суверэнныя правы, лічачы, што адносіны паміж урадам яго вялічаства і Эгіпту маюць жыцьцёвы інтарэс для Брытанскае імпэрыі, мы прапаноўваем наступныя прынцыпы:

I. Протэкторат Вялікабрытаніі над Эгіптам адмяняецца і Эгіпэт абвяшчаецца ад гэтага часу незалежнаю і суверэннаю дзяржаваю.

II. Як толькі ўрад фуада I выдасьць дэкрэт аб „індэмніт-актэ" (Indemnity-Act—гэта запатрабаваньне компэнсацыі эгіпэцкім урадам звольненых і звальняемых ангельскіх чыноўнікаў), які мае адносіны да ўсіх жыхароў Эгіпту, ваеннае палажэньне, уведзенае 2 лістапада 1914 году, зьнішчаецца.

III. Наступныя пункты павінны быць яшчэ прадметам абгаворваньня паміж абедзьвюма краінамі: бясьпечнасьць шляхоў зносін Вялікабрытаніі; абарона Эгіпту ад нападу знадворку або чужаземнай інтэрвэнцыі, ускоснай ці непасрэднай; ахова інтарэсаў чужаземцаў у Эгіпце, забарона нацыянальных меншасьцяй; Судан.

IV. Да канчатковага ўрэгуляваньня вышэйпамянёных пунктаў належыць выконваць „Status quo".

Наколькі далёка ад гэтае дэклярацыі да сапраўднае незалежнасьці Эгіпту, відаць з шмат месячных прац „констытуцыйнай комісіі. Вось і вынікі:

1) па суданскім пытаньні—пакуль што няма ніякае пастановы.

2) па пытаньні аб нацменшасьцях—пытаньне застаецца адчыненым.

3) знадворная політыка, адносіны да іншых дзяржаў, абвяшчэньне вайны й спакою—нічога.

А значыцца—па дэклярацыі Status quo, якому не прадбачылася канца.

Як рэагавала на ўсе гэтыя мерапрыемствы ангельскае жыхарства Эгіпту?

Міністэрства Сарват-пашы чуць існавала, яно не магло выконваць волі, як, з аднаго боку, ангельцаў, гэтак і, з другога—эгіпэцкай буржуазіі. „Вафд" таксама ўвесь час змагаўся супроць гэтага ўраду зямельнай арыстократыі.

Сарват-паша выходзіць у адстаўку і яго месца займае Гэўфік-Насім-паша—заглулісты. Здавалася-б, гэта—перамога тамтэйшае буржуазіі над зямельнай арыстократыяй, якую прадстаўлялі Адлі і Сарват, гэта, з другога боку, асьведамленьне брытанскім імпэрыялізмам неабходнасьці компромісу з нацыяналістымі, каб шчыльней зьвязацца з эгіпэцкай грамадою.

Але компроміс гэты—нядоўгатрывалы. Пытаньне аб Судане прымусіла пасварыцца Гэўфіка з ангельцамі, і ў лютым 1923 году міністэрства Гэўфіка-пашы выходзіць у адстаўку; скласьці габінэт атрымаў даручэньне зноў Адлі-паша, які бязумоўна быў адданы ангельцам.

Але ў краіне распачынаецца новы выбух нацыянальнага руху, больш утвараюцца тэрорыстычныя акты,—усё гэта прымушае Адлі-пашу адмовіцца ад складаньня габінэту. Часова ўстанаўляецца габінэт бяз сталай політычнай афарбоўкі Эхіі-пашы, пры якім нараджаецца, нарэшце, нятрывалая архібуржуазная эгіпэцкая констытуцыя: а) ні слова аб Судане, в) дэпутаты павінны абірацца не маладзейшыя за 30 год, с) сэнат, згодна § 74, на 2/5 складаецца з членаў, назначаных каралём, а рэшта 3/5 абіраюцца; пры гэтым патрэбен, каб быць абабраным у сэнатары, узрост ня менш 40 год і кожнагадовы прыбытак ня менш, чым у 15.000 рублёў. Рэшта ў тым-жа духу.

У восень 1923 г. былі выбары ў парлямант.

Заглулістыя атрымалі рашучую перамогу. Адліістыя правялі ўсяго толькі 5 дэпутатаў, столькі-ж дэпутатаў правялі левыя нацыяналістыя, так званыя „ватаністыя“. Рэшта месц—у агульным ліку 205—атрымалі заглулістыя.

Заглул-пашы было прапанована скласьці габінэт, на чале якога ён і стаяў аж да разбойніцкага ультыматуму Балдуіна.

1923 год—вядомы ў гісторыі Эгіпту: у Ангельшчыне ўлада перашла да Макданальда, на чале эгіпэцкага габінэту стаіць „бацька бацькаўшчыны“ Заглул-паша. Здавалася, што ўва ўзаемаадносінах між мэтрополіяй і Эгіптам павінна была наступіць новая эра. Але ня так, фактычна, зложыліся адносіны паміж „урадам рабочае партыі“ і Эгіптам.

У студзені склікаецца 1-шы эгіпэцкі парлямант, скліканы ён быў на падставе адзначанай ужо вышэй цэнзавай констытуцыі.

Якія яго мерапрыемствы?

Ён павялічвае цэнз аселасьці, павялічвае ўзросны цэнз для выбіраючых асоб з 21 году да 25 год, утварае атаку на рабочую клясу, і „бацька бацькаўшчыны“ Заглул-паша (як гэта за звычай умеранаму нацыяналістаму) зьяўляецца для рабочае клясы злым вотчымам.

Гэты парлямант існаваў ня доўга—Заглул хутка зволіў яго ў летні водпуск, а сам сабраўся ехаць у Лёндон на параду з Макдональдам наконт некаторых пунктаў ангельскай дэклярацыі аб незалежнасьці Эгіпту (дэклярацыя гэта вышэй паказана).

На станцыі, між іншым, Заглул быў лёгка паранены студэнтам-ватаністым, які зрабіў гэта з помсты Заглулу за жорсткі ўціск левага крыла нацыяналістых (асабліва ватаністых). Перш, чым ехаць у Лёндон, Заглул спыніўся ў Парыжы і тут даведаўся аб заяве ў палаце лёрдаў лёрда Пальмура, —сябра „рабочага“ ўраду, што: „з эгіпэцкім урадам ня будзе зроблена ніякае згоды, якая магла-б перашкаджаць дагавору адносна Судану, або якая была-б небясьпечна для існуючай у Судане адміністрацыі і далейшаму разьвіцьцю гэтай краіны. Гэта заява Пальмура выклікала шэраг нездавальненьняў сярод эгіпэцкіх нацыяналістых, і пакуль Заглул

ехаў у Лёндон, у Судане ў канцы ліпня адбываюцца маніфэстацыі кадэцкай школы і чыгуначнага батальёну ў Хартуме пад лёзунгамі: „Хай жыве Фуад 1, кароль Эгіпту й Судану“, „Хай жыве незалежная Эгіпэцка-Суданская дзяржава“. Такія-ж маніфэстацыі адбываюцца ў Атбары, Порт-Судане і іншых гарадох Судану. Ангельская ўлада хутка прыняла рэпрэсыўныя крокі: па маніфэстацыі стралялі, у Порт-Судане зьявіліся ангельскія вайсковыя караблі, над Хартунам зьявіліся вайсковыя самалёты з гарматамі. Як гэта цяпер даведзена дакумантамі, Заглул спачатку быў як-бы й ня супроць руху ў Судане, а цяпер б‘е адбой: выдае загад адабраць зброю ад чыгуначнага батальёну і аддае пад суд паўстаўшых.

Гэта провокацыя Заглула зьмяншае его гонар нават сярод яго прыхільнікаў, і пад націскам опозыцыі Заглул падаў 15 лістапада ў адстаўку.

Між іншым вось тыя ўмераныя патрабаваньні, якія высунуў Заглул у час сваіх перамаўленьняй з Макдональдам.

1) Эвакуацыя ангельскага войска з Эгіпэцкай тэрыторыі.

2) Знішчэньне інстытуту ангельскіх „дарадчыкаў“ пры эгіпэцкіх міністрах.

3) Контроль над Суэцкім каналам ад Ангельшчыны перадаць Лізе Нацый.

На ўсе гэтыя запатрабаваньні *Макдональд даў адмоўны катэгорычны адказ*, катэгорычна-ж выказаўся Макдональд і супроць прызнаньня Судану часткаю Эгіпэцкага каралеўства: правадыр рабочае партыі ў імпэрыялістычнай політыцы не зьявіўся гуманьней лёрда Алекбі! Кароль Фуад адстаўкі Заглула ня прыняў. Заглул заставаўся на чале ўраду, хоць адчувалася, што ў краіне заглулістымі вельмі нездаволены, і адчувалася, што нешта насьпявае.

Прабыў Заглул у ўлады аж да самага рашучага для Эгіпту ангельскага ультыматуму. Ангельскае ўладаньне ў Судане станавілася ўсё болей і болей небясьпечным. Для ангельцаў рабілася ўсё больш зразумелым, што справа гэта можа скончыцца выгнаньнем з Судану ангельскіх чыноўнікаў, або яны павінны вывесьці адтуль эгіпэцкае войска. Першаю перасьцярогаю для ангельцаў было паўстаньне ў Хартуме чыгуначнага батальёну. Другая, больш сур‘езная—гэта забойства левымі нацыяналістымі ангельскага сірдара (шэфа арміі) Лі-Стэка. Паўстаньне, пасьля расчараваньня ў заглулізьме, зьявілася неабходнасьцю, але яно, на жаль, не пашло шляхам масавага ўсенароднага паўстаньня, а шляхам тэрору.

Вынікі забойства Лі-Стэка яшчэ сьвежыя ў нашай памяці з газэт: 22 лістапада лёрд Аленбі паслаў эгіпэцкаму ураду цынічны ультыматум. Пункты яго і патрабаваньні гэткія.

1) Каб эгіпэцкі ўрад прасіў глыбокіх прабачэньняў за свае праступкі перад ангельцамі.

2) Утварыць сьледзтва для выяўленьня як непасрэдных удзельнікаў, так і спрыяючых праступку і налажыць на іх кару.

3) Каб эгіпэцкая ўлада заплаціла 500.000 ф. стэрл.

4) Строга забараніць народныя маніфэстацыі.

5) У 24 гадзіны выдаць загад аб эвакуацыі эгіпэцкага войска з Судану.

6) На ахову замежнікаў у Эгіпце мае права выключна толькі ангельскі ўрад.

7) Суданскі ўрад (чытай—ангельскі ў Судане) павялічвае плошчу абвадненьня ў Гэнуі на 300.000 фэданаў.

Дадатковая нота зьмяшчае ў сабе яшчэ наступныя пункты.

1) Пасьля эвакуацыі эгіпэцкага войска з Судану будуць зроблены крокі да формаваньня суданскае арміі, якая будзе кіравацца выключна суданскім урадам.

2) Правілы і ўмовы рэгуляваньня службы й звальненьне замежных чыноўнікаў, якія знаходзяцца на службе ў эгіпэцкага ўраду, а таксама выдача пэнсіі зволеным замежным чыноўнікам,—будуць перагледжаны ангельскім урадам.

3) Усе грашовыя й юрыдычныя ангельскія дарадчыкі, а таксама й захаваньне эўропэйскага дэпартаманту пры міністэрстве ўнутраных спраў да ўтварэньня асобага агульнага дагавору,—застаюцца ў моцы.

Сэнс гэтых дзьвюх нот такі: Эгіпэт застаецца ў становішчы колёніі, а Судан канчаткова анэксуецца ангельскім капіталам. Ангельцы напоўнілі краіну сваім войскам, скінулі ўрад Заглула-пашы і ўтварылі ўрад свайго старога лёкая Завара-пашы. Як аднесьліся да гэтага заглулістыя?

Яны скардзіліся ў Лігу Нацый. Потым паступова кар'ерыстыя з партыі „Вафд" і зусім перашлі ў бок фэўдальнае рэакцыі, якая выслугоўвалася перад лёрдам Аленбі.

## VII

Пэрспэктывы?

„Вафд" абанкроціўся. Дзякуючы яго баязьлівай палавінчатай палітыцы, Эгіпэт мае цяпер самы рэакцыйны ўрад, які зусім не здавальняе шырокіх працоўных мас краіны. Але ў Эгіпце ёсьць і іншыя партыі, за якімі будучына ў барацьбе. Гэта, з аднаго боку, „Хізб-Эль-Ватані", іначай ватаністыя—левае крыло нацыяналістых. Па соцыяльным складзе—дробная гарадзкая буржуазія, студэнты, рамесьнікі, дробныя чыноўнікі, ніжэйшае духавенства і часткаю рабочыя.

А галоўнае, у рэзэрве руху,—комуністычная партыя Эгіпту, якая апіраецца на поўмільёна пролетараў, а для краіны з 14 мільёнамі насельніцтва (пераважна, сялянскага) гэта лічба досыць значная. З'арганізавалася К. П. Э. у 1922 годзе і ў момант свайго стварэньня мела 650 сяброў, з якіх 80 проц. тамтэйшых, рэшта жыды, грэкі, італьлянцы і іншыя.

К. П. Эгіпту ў пэрыодзе ўзросту і ўзбагачэньня сіламі. Ня гледзячы на сваю моладасьць, яна ўжо выкавала сталёвыя когорты барацьбітоў:

яе ЦК пасьпеў ужо пабыць на лаўцы падсудных пры кіраваньні Заглулам-пашой, вытрымаў 23-дзённую галадоўку. Правадыр партыі—Хускі-Эль-Арабі, гэнэральны сакратар яе—Марук і іншыя. Непасрэдныя палітычныя запатрабаваньні К. П. Э.—злучэньне Судану з Эгіптам; нацыяналізацыя Суэцкага каналу; няпрызнаньне дзяржаўнага доўгу; скасаваньне капітуляцый.

Партыя комуністых бясспрэчна стаіць за рэволюцыйна-нацыянальную барацьбу, прызнаючы, што нацыянальны рух выпаўніць гістарычна-рэволюцыйную ролю, бо ён зьяўляецца супроць-імпэрыялістычным рухам.

К. П. Э. пачынае заваёўваць масы фэлахаў—у гэтым залог посьпеху Эгіпту супроць ангельцаў, дзе кіраваць будуць не заглулістыя, а комуністыя і ватаністыя. Эгіпэт абуджаецца, як абуджаюцца і іншыя домініяны „злоснага Альбіна“, і калі ён прачнецца—„ураду яго вялічаства“ будзе вельмі не па сабе.

# ПАНШЧЫНА НА БЕЛАРУСІ

*Сялянскія бунты за прыгонам на Віцебшчыне 1832—1855 г. г.*

**М. Мялешка**

Працяг [1])

## III. Паўстаньне панскіх сялян у 1847 г.

### Эксплёатацыя сялянства

У 1847 г. на Віцебшчыне выбухнула вялізарнае паўстаньне панскіх сялян. Паўстаньне ахапіла зразу Дрысенскі, Себескі і Нэвельскі паветы, часткай Полацкі пав. і некалькі двароў Люцынскага пав. Паўстаньне гэта выявілася ў тым, што сяляне гэтых паветаў, быццам па аднаму ўмоўнаму знаку, выступілі з розных месц, кідаючы сваіх паноў і свае сялібы, і рушыліся выйсьці на волю, пракладаючы аружжам сабе шлях. Стыхійна ўзняўшыся, сялянская маса павяла настолькі рашуча барацьбу за сваё вызваленьне, што, як убачым ніжэй, сьцягнутае, больш як тры палкі, войска, пасьля некалькіх боішч з сялянамі, толькі-толькі змагло спыніць сялянскі далейшы рух і ўзьняўшыхся вярнуць назад да сваіх паноў.

Абшарнікі, „ослепленные духом преобладания", трымалі сваіх сялян на Віцебшчыне ў галечы і „изнуряли рабством" [2]). Віцебскія губарнатары данасілі вышэйшаму ўраду аб вельмі цяжкім стане панскіх сялян на Віцебшчыне. Бязьлітасная эксплёатацыя, якую мясцовыя абшарнікі ўжывалі над сваімі прыгоннымі людзьмі, пазбаўляла шмат якіх сялян мажлівасьці заводзіць сваю гаспадарку і сяк-так карміцца каля яе. У справаздачы яшчэ за 1839 г. губарнатар Львоў апісвае растроенае становішча губэрні і паказвае на прычыну гэтага, якая, па яго думцы, знаходзіцца ў цяжкім стане сялян, і дае раду абмежаваць волю абшарнікаў над сваімі сялянамі і ўстанавіць адбываньне паншчыны ў разьмеры, які ўстаноўлен законам [3]). Старыя звычаі і нормы, якія вяліся здаўна на Беларусі, абшарнікамі касаваліся. Інвэнтары да 1847 г. на Віцебшчыне ўведзены ня былі, і сяляне ня ведалі ніякіх норм, праў і парадку паншчыны.

---

[1]) Глядзі „Полымя" № 4 за 1925 г.

[2]) Россия. Полное географическое описание нашего отечества. СПБ. 1905. т. IX, стар. 112.

[3]) Ibidem, стар. 112.

Гэткі бяспраўны цяжкі стан сялян яшчэ горш абцяжарвалі розныя зьявішчы. Так, 1844-45 і 46 г. г. былі няўродлівыя гады. Голад у першую чаргу адчуваўся сялянамі—трэба было галадаваць і яшчэ цяжэй рабіць на пана. Да гэтага ў 1845 г. на Віцебшчыне праняслася пошасьць на скаціну. Толькі па дварох Віцебшчыны, не бяручы ў рахунак сялянскай жывёлы, у гэтым годзе ад пошасьці здохла: кароў 133.387 шт., коняй 29.384 шт., дробнай жывёлы 189.450 шт. Трэба думаць, што сялянская скаціна гінула ня менш. Гэта паслужыла яшчэ да большага незасеву палёў, да горшага стану сялян, яшчэ цяжэйшага бяздольнага жыцьця. „Памешчыкі, пры ўсім сваім жаданьні, не знаходзілі ніякіх спосабаў іх (сялян) прахарчаваць. Пагэтаму, у шмат якіх абшарнікаў ад голаду сяляне без пашпартоў пашлі ў другія губэрні... Другія з ахвотай наймаліся служыць, абы як-небудзь зіму прахарчавацца. Усюды былі відаць жабракі, змучаныя хваробамі, голадам, недастачай“ [1]).

Абшарнікі мала клапаціліся аб дабрабыце сваіх сялян, яны давалі ім тую мізэрную дапамогу, якая неабходна была, каб утрымаць сялян на дворных працах, прымушаючы іх працаваць на паншчыне цэлы тыдзень. Пры такой вялікай павіннасьці заставаліся вольныя сяляне, якіх абшарнікі аддавалі па падрадах на заработкі. Сяляне хадзілі ў буйныя расійскія гарады працаваць на фабрыках, зганяліся на будову жалезных дарог, на зямлякопныя працы ў Расіі, езьдзілі на суднах з таварамі ў замежныя краі і працавалі на розных працах каля Дзьвіны.

Рака Дзьвіна для сялян Віцебшчыны была прамежным асяродкам. З аднаго боку, тут проста карміўся згаладаўшы, пакінуўшы свае хаты люд. Смаленскі абшарнік Энгэльгардт, апавядаючы аб страшэннай беднасьці сялян Віцебшчыны, кажа: „Як толькі баржы з хлебам накіроўваліся па Дзьвіне ў Рыгу, то сотні галодных і поўголых сялян грамадзіліся на беразе ракі і на прыстанях, просячы ў судаўшчыкоў хлеба. Некаторыя гаспадары суднаў прыпасалі для раздачы печаны хлеб і, як толькі хлеб звозілі на бераг, галодныя сяляне кідаліся на яго, як зьвяры, пры гэтым адбываліся „раздирающие душу“ сцэны: мужчыны адбіралі хлеб у жанчын, дарослыя—у дзяцей“ [2]).

З другога боку, Дзьвіна да часу 1860 і 61 г.г., калі пачаўся рух на жалезных дарогах Рыга-Дынабоpскай і Пецярбурска-Варшаўскай, была буйным гандлёвым і прамысловым асяродкам. У значным ліку ішла праца па эксплёатацыі лесу. Каля тысячы суднаў кожнае лета плылі па Дзьвіне ў Рыгу са збожжам, лёнам, пянькой, з ільняным і канапляным семем, алеем, сьпірытусам, ліставой табакай, гарэлкай, палатном, шклом, паперай, салам, сырымі скурамі, шарсьцінай, воласам, мёдам, паташом, смалой, дзёгцем, роз-

[1]) Без-Корнилович.—Историческия сведения о примечательнейшых местах в Белоруссии. СПБ. 1855 г., стар. 232, 236 увага.

[2]) Россия. Op. cit., стар. 109.

нага гатунку лясным таварам і інш. У гару па рацэ бурлакі цягнулі судны з сольлю, селядцамі, табакай і фабрычнымі вырабамі[1]). На працах каля Дзьвіны кожны год быў заняты значны лік сялян Віцебшчыны. Тут на берагох Дзьвіны схадзіліся падняволъныя людзі з розных месц, апавядалі адзін аднаму аб сваім жыцьці, асьведамляліся аб розных чутках, падзеях, настроях і, разышоўшыся ў восень па сваіх вёсках, дзяліліся сваімі ўражаньнямі і поглядамі з сваімі аднасяльчанамі. На берагох Дзьвіны пры такіх умовах, бязумоўна, яшчэ задаўга да вызваленьня, магла панаваць думка аб вызваленьні ад паноў, аб барацьбе з панамі за сваю волю, і распачыналася барацьба. Зусім дарэмна ў польскай літаратуры прывыклі гаваоыць, што промень волі загарэўся на берагох Дзьвіны і Нёмну сярод польскіх абшарнікаў, якія падавалі цару запіску аб згодзе адпусьціць на волю сваіх сялян, хаця і без зямлі. Гэта трэба было зрабіць, каб паінакшаму, тужэй запрагчы ў ярмо сваіх сялян, якія дамагаліся сапраўднай сабе волі і прыводзілі гэтым у заняпад дворную гаспадарку. Апроч Дзьвіны, абшарнікі эксплёатавалі сваіх сялян і рознымі другімі працамі ў краі, як возкай коньмі ў гарады сельска-гаспадарчых продуктаў, на розных казённых працах, на браварох і г. д.

Але, апроч гэтага, сяляне з Віцебшчыны кожнае лета цэлымі тысячамі аддаваліся сваімі ўладарамі па падраду на розныя працы ў Расію. Загнаныя за сотні вёрст ад сваіх сядзіб, рассыпаныя па розных кутках Расіі ў немажліва цяжкіх варунках вымушаны былі працаваць нашы сяляне, асабліва на землякопных працах, бо сяляне Віцебшчыны славіліся добрымі землякопамі. Умовы іх працы і жыцьця настолькі былі цяжкія,— як кажа расійскі эмігрант Мік. Тургенеў,—што нават вызывалі да сябе жаль з боку прыгонных сялян Расіі. „Пан бярэ абавязак зрабіць пастаўку на вядомы лік людзей па ўмоўленай цане, а падрадчык бярэ абавязак харчаваць іх у часе работы. Урадавыя інжынэры, што наглядалі за работамі, не патрабуюць ад падрадчыкаў нічога больш ад таго, што трэба для падтрыманьня іх жыцьця. А што датыча да грошай, каторыя атрымлівае за іх пан, то ўрад ня ўмешваецца ў гэта“, дадае Тургенеў [2]).

Сярод абшарнікаў Беларусі настолькі шырока практыкавалася аддача сялянства ў пабочныя для двара заработкі, што многія сялянскія сем'і заставаліся бяз здольных да працы людзей і не маглі абрабляць сваё поле. Каб спыніць гэта, у 1835 г. ўрад выдаў правілы аб парадку аддачы ў заработкі абшарнікамі Беларусі сваіх сялян. Вядома, гэтыя правілы нікога з абшарнікаў не абавязвалі выконваць. У 1838 г. былі дадаткова выданы правілы „аб аддачы сялян заходніх губэрань у наймы дзеля сплаву тавару ў Данцыг, Танізбэрак (Кэнігзбэрг) і Торн“ [3]). Гэтыя

[1]) А. Сапунов—Река Западная Двина. Вит. 1893, стар. 263 і інш.

[2]) Проф. У. Ігнатоўскі—Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX ст. Менск 1925 г., стар. 58.

[3]) Минские Губернские Ведомости за 1838 г., № 46.

правілы мелі на ўвазе не дапусьціць да аддачы ў заработкі разам усіх здольных аднэй гаспадаркі людзей, у наймах адзяваць і карміць людзей і інш.

Але ніякія правілы, ніякія правы сялян абшарнікамі не прызнаваліся. Паншчына была поўным рабствам. Народ бяднеў, цярпеў холад і голад, гінуў на паншчыне. Вось, гэтыя соцыяльныя ўмовы жыцьця прыгоннага селяніна на Віцебшчыне і былі тым моцным штурхачом, які ў 1847 г. ўзьняў вагромністую масу сялян на рашучую барацьбу з паншчынай. Усе другія выпадкі ў жыцьці сялян маглі толькі ўзмацняць настрой сялян і рабіць іх больш рашучымі ў сваіх замерах.

**Агітацыя сярод сялян**

Паўстаньне 1847 г. не абышлося без агітацыі. Па дакумантах, якія ў нас маюцца, нельга ўстанавіць з дакладнасьцю, з чыйго боку вялася агітацыя з мэтай узьняць сялян з сяліб, узброіць іх проці паноў і дапамагаць пакідаць іх. Думаць, што панска-польскія нацыянальныя організацыі прымалі тут удзел нельга, бо гэта паўстаньне якраз было проці іх. Не маглі захапіцца бунтарскім настроем і асобныя лібэральна настроеныя абшарнікі, якія, пад уплывам пануючай у гэты час нямецкай філёзофіі, займаліся романтычнымі развагамі аб асобе чалавека і якія гатовы былі вызваліць ад прыгону сваіх сялян, каб гэта магло адбыцца не зачапіўшы іх матэрыяльных выгад. Політычныя гурткі, якія толькі зараджаліся ў Расіі, не маглі прымаць ніякага ўдзелу ў гэтым паўстаньні. Народніцкі-ж рух у Расіі ўзьняўся пазьней. Такім парадкам, прыходзіцца думаць, што сярод самага прыгоннага люду на Віцебшчыне была організацыя, якая вяла агітацыю за вызваленьне сялян ад паншчыны, за народную волю. Ці была гэта організацыя пастаянная, ці толькі часовая па кіраваньні гэтым паўстаньнем, якую яна мела мэту, якім спосабам яна праводзіла свае думкі і г. д.,—ведама пакуль што няма. Але відаць, што політычная сьвядомасьць і політычная барацьба сярод самых працоўных Беларусі пачалася рана. Агітацыя ў паўстаньні вялася вельмі прымітыўна і прыстасоўвалася пад сялянскі настрой і разьлічвалася на абяздоленыя сялянскія масы Беларусі. Пярэйдзем да самой агітацыі [1]).

У першых лічбах мая 1847 г. два невядомых чалавекі, са стрэльбамі, вярхом на конях прыехалі ў Ігналінскую карчму Дрысенскага пав. (вёрст 18 ад м-ка Асьвеі) і гаварылі сялянам, якія тут сабраліся: „Ідзеце, куды хочаце,—цар дае вам волю“. Пасьля паехалі невядома куды. У гэты-ж час нейкі чалавек, у салдацкай вопратцы прыходзіў у двор Снарскага, Харлампава і чытаў сялянам газэту, у якой быццам было сказана, каб сяляне разыходзіліся ад паноў, што на гэта ёсьць воля самога цара. Каля 12 мая ў казённы двор Якубова прыходзіў невядомы чалавек, адзеты

[1]) Даныя прыводжу па Ф. Слупскім: „О волнении помещичьих крестьян Витебской губ. в 1847 г. Пам. кн. Вит. губ. на 1866 г.

ў сівы ярмяк, і тутака чытаў сялянам быццам указ, па якому указу загадвалася пакідаць двары. Ён выдаваў сябе за царскага пасланца, і каб сяляне гэтаму верылі, то ён рашпіляў свой ярмяк і паказваў на грудзях некалькі мядаляў. Мажліва, што гэты самы чалавек 15 мая ў м-ку Валынцах, на неравозе праз р. Дрысу казаў сабраўшымся сялянам, што цар дае ім волю, што яны могуць ісьці, куды хочуць. Каля 10 мая нейкі чалавек, год пад 30, прытвараючыся кульгавым, хадзіў каля Асьвеі і тлумачыў сялянам яб волі. У Асыні сяляне атрымалі нейкі ліст, які ліст ім прачытаў дзяк Васілеўскі. Па лісту сяляне зразумелі, што яны могуць пакінуць свайго пана[1]). Асабліва шырока былі распаўсюджаны чуткі, што сяляне, якія паселяцца каля гасьцінцу з Пецярбургу ў Маскву і займуцца працай на жалезнай дарозе, то яны праз тры гады будуць вольнымі людзьмі і атрымаюць другія льготы[2]). Калі сяляне рушыліся з месца, усе гэтыя чуткі і весткі сталі распаўсюджвацца самымі сялянамі. Сярод самых сялян зьявіліся падбухторшчыкі. У Себескім павете селянін Дзянісаў павёў агітацыю сярод сялян памешчыцы Фэльдманавай. Ён паказваў сялянам на іх мізэрнае, бядачае жыцьцё і прапанаваў пакінуць двор і пайсьці разам з другімі[3]). Трэба думаць, што не засталіся бяз удзелу браты Кавалеўскія, якія, на працягу некалькіх год, са сваім атрадам у 30 чалавек рабавалі паноў, цэрквы, пошты і г. д. Яны наводзілі нязвычайна вялікі жаг на паноў Віцебшчыны, былі неўлавімыя, і толькі з вялікай вайсковай камандай іх удалося злавіць у 1847 г. Іх судзілі, як бандытаў[4]).

## Зборы ў паход

Паўстаньне сялян 1848 г. пачалося ў красавіку месяцы. Ні памешчыкі ні паліцэйскія ня ведалі аб сапраўдных замерах сялян. Паліцэйскія,— як дзесяцкія, соцкія, якія самі належалі да сялянства,—не даносілі аб замерах сялян паліцыі і самі потым уцякалі разам з сялянамі[5]). Сяляне баяліся павяраць сваіх надзей каму-б то ні было і рыхтаваліся да паходу скрытна[6]). Была цьвёрдая думка пакінуць назаўсёды панскі прыгон і перайсьці да лепшага жыцьця. Вярнуцца назад, да сваіх ненавісных паноў, цярпець на паншчыне нязьміроныя мукі нікому не хацелася. Пагэтаму, сяляне сталі распрадаваць усю сваю маемасьць амаль што задарма. Прадавалі ўсё, што магло шкодзіць ім у дарозе: гаспадарскія прылады скаціну, рэшту збожжа і г. д. Разьбіралі свае хаты, нішчылі засевы ў

[1]) Дело канц. ген.-губ. чиновников Себежскойземполиции, виновных по делу о волнении кр-ян по Витеб. губ. в 1847 г., л. 52.

[2]) Ibidem, л. 40.

[3]) Дело канц. ген.-губ. о волнении кр-ян в 1847 г. в Витебской губ. ч. II-я, л. 150.

[4]) Historja Domestica („Z okolic Dźwiny", стар. 214). Мажліва, што Кавалеўскія былі ня „слаўныя бандыты", як іх называлі, у свой час, а ідэйныя барацьбіты тэрорыстыя, пачаўшыя мсьціць паном за іх зьдзек над сялянствам, хаця бяз даных сьцьвярджаць гэта немажліва.

[5]) Дело о чинов. Себ. зем. пол., л. 28.

[6]) Ibidem, л. 50.

полі. Гэта скарысталі перакупшчыкі. Сяляне ведалі, што па дарозе ім зьявяцца перашкоды, што прыдзецца сілком пракладаць сабе шлях. На гэты выпадак трэба было зрабіць сабе зброю. Зраньня і да ночы зьвінелі сялянскія кузьні. Цяпер каваліся не сялянскія гаспадарскія прылады, а прылады перакоўваліся на зброю. З нарогаў і паліц каваліся пікі. Сяляне пераглядалі свае пістаноўкі, куплялі порах, шрот, адлівалі самі кулі, прыладжвалі косы на кароткія дзяржаньні, запасаліся каламі і г. д. Нагогул, усе рэчы, якія маглі быць скарыстаны, як аружжа,—сякеры, жалезныя бязьмены, залічаліся сялянамі ў зброю [1]). Узбройваўся народ наш проці сваіх векавечных прыгнятацеляў, рыхтаваўся скінуць з сябе дзікае ярмо паншчыны, скінуць падабенства скаціны і стаць жыць палюдзку. Ён ня бачыў ніякага збавеньня ад паншчыны, застаючыся на месцы, і калі толькі зьявілася чутка, што можа вызваліцца ад паншчыны, пакінуўшы свае сядзібы, селянін наш кінуў усё, абы толькі збавіцца ад няволі. Думаць аб жыцьці за прыгонам не хацелася. Каб не вярнуцца да гэтага жыцьця, некаторыя сяляне палілі свае сядзібы [2]). Вялізарным сполахам падняўся народ, перастаў хадзіць на паншчыну у двор і рыхтаваўся ў паход. Паном, каторыя прабавалі перашкодзіць сялянам, пагражалі забіць. Карчмы былі перапоўнены народам. Тут ішлі бойкія гутаркі аб волі, што цар даў волю, што неабходна вызваліцца ад сваіх паноў. Некаторыя з сялян напэўна верылі, што цар даў ім сапраўды волю і што паны і папы гэта толькі скрываюць ад народу. Усякія ўгаворы паноў і духоўнікаў застацца на месцы ня мелі ніякага пасьпеху.

**Выхад сялян з двароў і сядзіб**

Спачатку сяляне выходзілі невялікімі грамадкамі. Паліцыя на гэта не зьвяртала ўвагі, бо пабег сялян з двароў быў заўсёды. Так, напрыклад, з двара Асына Себескага пав. 12 сакавіка вышла 8 душ, 28 сакавіка—17 душ, З 1 па 4 красавіка—24 душы, 24 і 26 красавіка—59 душ[3]) Відаць, што сяляне думалі, выходзячы невялічкімі гурткамі, ня зьвернуць увагі паліцыі і ўлады. 23 красавіка ў Асыні быў атрыманы памянёны вышэй ліст, які скора ўзбударажыў сялян. Яны хутка сталі зьбірацца ў дарогу і праз некалькі дзён, забраўшы сваю сям'ю, скаціну і некаторыя пажыткі, пакінулі двор яшчэ 150 душ.

29 красавіка сяляне амаль што да аднаго пакінулі двары Нішчу і Анінскае, якія недалёка ад Асыны. У гэтай грамадзе было больш за 350 душ. З пачатку мая ўжо ўвесь Себескі пав. быў захоплен сялянскім рухам. Сяляне, часткай распрадаючы свой скарб, а часткай забіраючы з сабой узбройваліся хто чым папала, пакідалі свае сядзібы і накіроўваліся адны на Апочку, а другія на Нэвель. Такім парадкам, сяляне пакінулі двары абшарнікаў Себескага павету: Мядунецкага, Эрт-

[1]) Ф. Слупск, op. cit.
[2]) Дело о чин. Себ. зем. пол., л. 50.
[1]) Ibidem, л. 30.

мана, Штэнгэравай, Ішадурскага, Барташэўскай, Жаброўскага, Таргонскага, Халасьцінскага і Карпіцкага (Апошняга двор быў у Люцынскім пав. на рубяжы Себескага). Па Себескім павеце разышлася чутка, а мо і самі сяляне рашылі, што калі хто па беднасьці ня можа сабрацца ў паход, то мае права браць панскае дабро. Сяляне памешчыка Барташэўскага ў двары Ўклейна 4 мая прышлі ў панскі пакой і патрабавалі сабе грошай на дарогу. Два духоўнікі, два каморнікі і суседнія памешчыкі сталі адгаварваць сялян ня чыніць такіх рабункаў. Але дарэмна. Сяляне самі адчынілі камоду, узялі рублёў на 100 адтуль палатна, узялі з хлява 25 кароў і 11 штук дробнай скаціны, зьнялі з трох кросен палатно і, нікога не зачапіўшы, пашлі на Апочку [1]). Па данясеньні Себескай земскай паліцыі, з аднаго Себескага пав. толькі з 1 па 5 мая вышла каля 3.000 душ. Апроч гэтага, сяляне многіх двароў рыхтаваліся да аднаго пакінуць сваіх паноў.

24 красавіка сяляне каля 200 душ, са сваімі сем'ямі і рэчамі пакінулі двор Далосцы, які ў вярстах дзесяці ад Асыны. Па дарозе яны ўгаварвалі другіх сялян ісьці з імі. Даводзілі, што цяпер прышоў такі час, што можна вызваліцца ад паноў і з гэтым трэба сьпяшыць, бо чамусьці пасьля 15 мая ўжо нельга будзе пакідаць паноў. 28 красавіка станавы прыстаў данёс земскаму суду, што сяляне двара Асьвеі з фольварку Пільномысьля у ліку 27 хат з сем'ямі і сваім скарбам пакінулі двор і накіраваліся на жалезную дарогу і што другія сяляне цьвёрда парашылі пайсьці за імі. 2 мая, на Барыса, у Асьвеі быў кірмаш. Сабраўшыся на кірмаш, сяляне толькі і гаманілі аб тым, што ў Расіі даецца воля і што многія ўжо туды адправіліся з сем'ямі. Кожны з сялян хацеў разьвітацца з прыгонам, і гутаркі на кірмашы больш абнадзейвалі людзей у неабходнасьці кінуць паноў і пайсьці на волю. 6 мая з двара Сволны пашло 10 сямей. Калі-ж пан стаў іх угаварваць застацца на месцы, то яны яму адказалі: „Другія ідуць і мы ідзём; *воля даражэй нам за ўсё*“. Каля 10 мая ўжо па ўсім Дрысенском пав. заварушыліся сяляне і сталі пакідаць сваіх паноў. З двара-ж Міхаліна вышла каля 50 душ сялян яшчэ ў палове красавіка. Адна за аднэй групы выходзілі з двароў Дрысенскага пав.—Рудні, Ляшны, Юзэфова, Фартун, Дзярновіч, Сволны, Ляхаўшчыны, Чарнапольля, Прудзінак, Клімаўшчыны, Жмак, Кухарава. Апошнія пры выхадзе спалілі свае сядзібы. Мясцовая ўлада была ўпэўнена, што ўсе панскія двары стануць бязлюднымі. Не зважаючы на вясну, праца на палёх была спынена; пакінутыя сядзібы апусьцелі. Ажылі цяпер дарогі і лясы, дзе ішлі і спачывалі беларускія сяляне з надзеяй растацца з паншчынай.

Сяляне Дрысенскага пав., праходзячы праз Полацкі пав., распаўсюджвалі чуткі аб волі і падбухторвалі тутэйшых сялян пайсьці разам з імі. Чуткі аб сялянскім руху ў Себескім і Дрысенскім п. п. узварушылі

[1]) Ф. Слупскі. Op. cit.

сялян часткі Полацкага пав. 1 мая прышлі з Себескага пав. дзьве невядомыя дзяўчыны ў двор Сакалішча і сталі апавядаць тут сялянам аб тым, што цяпер у Себескім павеце сяляне пакінулі паноў і пашлі на волю. Весткі, якія перадалі гэтыя дзяўчаты, пацьвердзілі працаваўшыя тут себескія сталяры, якія дадалі, што трэба ўцякаць ад паноў і што трэба ісьці на Нэвель, дзе быццам даюць білеты і грошы на дарогу. Многія паверылі гэтым чуткам, кінулі працу ў полі, перасталі хадзіць на прыгон і сталі рыхтавацца ў паход. Праўда, у Сакалішчы ўдалося поліцэйскім мерамі не дапусьціць да выхаду сялян. Але з другіх двароў сяляне пачалі ўцякаць і далучацца да сялян, якія ўжо выступілі ў паход. Былі выпадкі, калі тут сяляне білі сваіх паноў.

Больш усяго на Полаччыне сялян пакінула з двара Глазкі. Тут вышла каля 87 душ.

Уся сялянская маса, якая пакінула сваіх паноў, чамусьці накіроўвалася ў большасьці на Нэвель. Панскія сяляне Нэвельскага пав. жылі ў такіх-жа дрэнных умовах паншчыны, як і другія. Цяпер, бачачы, як вагромністымі масамі прыгнечаны народ, пакінуўшы сваіх паноў, ішоў у сьвет. сяляне Нэвельшчыны не маглі заставацца спакойнымі да свайго лёсу, Яны скора ўзбударажыліся і сталі рыхтавацца да паходу. Пры гэтым сярод сялян хадзіла чутка, што пакінуць паноў можна на працягу ня доўгага часу. Гэта прымушала сялян сьпяшыць са зборам у дарогу. Ужо каля 4 мая на Нэвельшчыне адкрыта заварушыліся сяляне і сталі зьбірацца ў дарогу з двору князёў Рамаданоўскіх, Дзюрандэ-Крэзаль, Назімавай, Зьверавых, Малянчынскага, Патрыкоўскага, Жукоўскага, Радзевіча. У далейшым рух гэты на Нэвельшчыне яшчэ больш узмацніўся.

Загучэў узварушаны паўстаньнем народ. Куды ішлі, узьняўшыся, сялянскія масы,—пэўне і самі добра ня ведалі. Гаварылі аб вольных землях у „Таболі“ і „Херсоне“, пераказвалі адзін другому розныя чуткі аб волі, аб льготах, якія даюцца пасяліўшымся каля жалезнай дарогі. Урэшце казалі, што ідзем да цара жаліцца на зьдзек сваіх паноў.

Чым далей пакідалі сваіх паноў, тым вальней уздыхалі на родных палёх сяляне. Цяпер бліснула надзея на скорае вызваленьне з панскай няволі. Уперадзе маніла яго невядомая воля. Воля цяпер стала для яго даражэй за ўсё.

### Урадовыя меры па спыненьні сялянскага руху

Рух сялян занепакоіў поліцыю і ўрад. Калі на маленькія адлучкі сялян з двароў урад не зьвяртаў увагі, то, бачачы такі вялізарны ўздым, урад цяпер зразумеў, што справа тут нядобрая. Пільна былі прыняты ўсе меры, каб поліцэйскімі сіламі і ўгаворамі духоўнікаў спыніць сялянскі рух. Але ўсякія тлумачэньні, што розныя чуткі, якім верыць народ,— мана, ня мелі ў сялян посьпеху. Была пастаўлена на ногі ўся поліцыя з панятымі, вызваны салдаты інвалідных каманд, было загадана паста-

віць варту на тых дарогах, па якіх ішлі сяляне. Далі ведама ў Нэвель і Пскоўскую губ., што туды ідзе, узьняўшыся, сялянская маса, каб там прынялі меры да затрыманьня на дарогах сялян. Але ўздым народу да таго разросься, што поліцэйскімі мерамі спыніць яго ўжо было нельга. Варту, якая пападалася на дароге з салдат інваліднай каманды і поліцэйскіх, сяляне сваёй зброяй лёгка разганялі. Бязупынна маса сялян, цэлымі абозамі, узброеная чым папала, пасоўвалася на Нэвельшчыну, пераходзячы кожын дзень па 200—400 чалавек з Себескага павету.

Стала ясна, што спыніць у далейшым рух сялян без вайсковай сілы нельга. Віцебскі грамадзянскі губарнатар Татарынаў загадаў накіраваць з Дынаборку (Дзьвінску) дзьве роты салдат у Себескі і Нэвельскі пав. 6 мая губарнатар сам прыехаў у Нэвель і прыслаў яшчэ 100 салдат з Віцебску. У гэты-ж дзень адна каманда была паслана ў сяло Баёва пад загад станавога прыстава Эйсмонта, другая—у карчму Дзярбіху пад загад прыстава Сьвіршчэўскага. Салдаты, якія засталіся, былі пакінуты ў Нэвелі для канвоя затрыманых сялян. Былі вытрабаваны яшчэ дзьве роты з Порхава і накіраваны ў Себескі і Нэвельскі пав. Скора сюды прыбыў грэнадэрскі полк прынца Еўгенія і полк гэрцога Мэкленбурскага. Усяго, па заяве полацкага маршалка Васілеўскага, аўтара „Historia Domestica“, было сьцягнута на ўсьмірэньне сялян тры палкі войска. Па загаду міністра ўнутраных спраў камандаваць войскам па спыненьні паўстаньня быў назначан флігэль-ад‘ютант Апачынін. Яму даручалася спыніць беспарадкі, дзе можна—праконаньнем, дзе нельга—сілай, расправай і строгай карай на месцы з зачыншчыкамі. Былі высланы на месцы жандарскія афіцэры і вядомы ўжо нам палкоўнік Арнольд. З Віцебску выехала ў Нэвель усё губэрскае начальства. Пазьней прыехаў і гэнэрал-губарнатар. Неабходна было затрымаць на месцы тых сялян, якія яшчэ ня зрушыліся з месца, спыніць па дарогах рух сялян і вярнуць іх на месца ізноў да сваіх валадароў, каб ня ўпусьціць вясновы рабочы час на палёх.

### Далейшы рух і боішчы з войскам

Цяпер, калі быў уведзены значны лік войска, сьцягнуты поліцэйскія, інвалідныя каманды і сабраны панятыя, ісьці сялянам было ўжо цяжка. Па галоўных дарогах, на мастох і пераправах былі пастаўлены вайсковыя заставы. Сяляне былі вымушаны ці здавацца салдатам ці сілком пракладаць сабе шлях тэй зброяй, якую яны ўзялі з сабой у паход. Перад імі зьявілася новая сіла, якая стала ім папярок дарогі, якая магла ізноў іх загнаць да сваіх паноў. Але мусі лепш было памерці, чым вярнуцца назад. Невялічкія грамадкі сялян сталі затрымлівацца. Яшчэ 27 красавіка нэвельскі гараднічы затрымаў і адправіў у турму 40 чал. 28 красавіка станавы прыстаў Высоцкі з панятымі захваціў і накіраваў у Себеж тры невялікія групы сялян, але сустрэчная па дарозе грамада ў 150 чал. сілком вызваліла затрыманых сялян, і, далучыўшы да сябе, разам

пашлі далей. У гэты-ж дзень пры карчме Далосцы Нэвельскага пав. затрымана была грамада сялян у 82 чал. з 16 коньмі і розным скарбам. Затрыманьне невялічкіх груп нікольки не мяняла справы. Сяляне, бачачы, што малыя гурткі лёгка войску і паліцыі забраць, сталі зьбірацца ў вялікія гурты, каб лягчэй разам было змагацца.

9 мая каля карчмы Баёва была дагнана паліцэйскімі і салдатамі грамада сялян чал. 200 з двору Чарнапольля. Сяляне былі ўзброены пікамі, насаджанымі на рукаяткі косамі, стрэльбамі і лемяшамі. Калі паліцыя загадала ім вярнуцца назад і разыйсьціся дамоў, то сяляне адказалі: „Не падхадзеце да нас, а то мы вас усіх паб'ем“. Паліцыя не пасьмела сілай вярнуць іх назад, і яны пашлі далей. У Клясьціцкім лесе гэту грамаду дагналі чыноўнік Шульц і памешчык Храпавіцкі з 16 салдатамі інваліднай каманды і з дворнай чэлядзьдзю. Сяляне ўступілі з імі ў бойку і перамаглі іх. Як трофэі, яны тут захвацілі ў Храпавіцкага брычку з коньмі, адну стрэльбу, два штыхі і ўзялі ў Шульца і Храпавіцкага шынэлі. У гэтай схватцы была забіта выстралам са стрэльбы адна сялянская дзяўчына, *якая была апрануўшыся ў мужчынскую вопратку і з аружжам у руках*. Цела забітай дзяўчыны сяляне не пахавалі на месцы, а палажылі яго на забраную брычку і павязьлі з сабой далей у Полацкі павет[1]). Каля Альбрэхтава гэтых сялян спаткаў прыстаў. Уперадзе іх у брычцы вязьлі цела застрэленай дзяўчыны, абапал ішло восем чалавек са стрэльбамі. Ззаду ехалі ў павозках жанкі і дзеці сялян, а каля іх ішлі ўзброеныя чым папала мужчыны. Калі з лесу насустрач ім вышаў прыстаў з 30 панятымі, то сяляне запыталіся у яго: „Ці ня хочаш, можа, і ты паваяваць з намі; вось глядзі—вязём з сабой забітых і раненых“. Прыстаў не адважыўся патрабаваць іх затрымаць, і яны пашлі далей на Нэвель.

Была спроба затрымаць групу сялян каля Расон, Полацкага пав. Падарожныя сяляне застанавіліся тут пераначаваць. Яны пакінулі за сялом свой абоз з вартаўнікамі, а самі заначавалі ў вёсцы. Аб гэтым дазнаўся іспраўнік. Ён сабраў сваіх людзей і, напаўшы на падводы ноччу, перавязаў варту сялян. Але гоман і крык разбудзіў сялян. Яны кінуліся да сваіх павозак і, убачыўшы іспраўніка, хацелі яго забіць. Іспраўнік кінуўся ўцякаць, але сяляне дагналі яго самога і яго людзей, якіх зьбілі. Толькі выстралам у селяніна іспраўнік захаваў сваё жыцьцё ад занесенага над яго галавой кала. Назаўтра іспраўнік, сабраўшы ў Альбрэхтаве больш людзей сабе на дапамогу, вярнуўся ў Расоны, затрымаў сялян і прыставіў да іх сваю варту. Але сяляне, разьлічваючы на свае сілы, разагналі варту, сабраліся і пашлі на Нэвель.

3 мая грамада чалавек у 500 разагнала 300 панятых і прystава каля карчмы Дзябіхі і пашла далей. У гэты-ж самы дзень, пры вёсцы

[1]] Мажліва, што гэта дзяўчына была адна з правадароў паўстаньня.

Курочкіне, ужо на рубяжы Вялікалуцкага пав. Пскоўскай губ., грамада сялян цяжка параніла косамі трох панятых і пабіла пісара прыстава, якія мелі замер іх затрымаць. Адышоўшы далёка ад сваіх сядзіб, сяляне з большай упартасьцю змагаліся і прабівалі сабе дарогу, уступаючы ў бойку з сваімі ворагамі. Дарога каля Нэвелю была ўжо занята салдатамі, і ў Нэвелі сталі сялян затрымліваць. Даведаўшыся аб гэтым, сяляне, замест Нэвелю, сталі накіроўвацца на *Гульцяі, Дзярбіху і Баёва*. Аб гэтым кірунку загадзя разьлічвалі ўрадовыя чыноўнікі, і ў гэтых пунктах была ўжо выстаўлена ўзмацнёная вайсковая каманда.

7 мая каля Дзярбіхі вайсковая каманда спаткала дзьве вялікія грамады сялян, у якіх было каля 2.000 чалавек. Першая група, не зважаючы на ніякія пагрозы і ўгаворы, прашла на Баёва. Другая-ж група, у адказ на ўгаворы прыстава Сьвіршчэўскага, уступіла сама з камандай войска ў бойку. У рэзультаце гэтага боішча, сяляне адбілі ў салдат затрыманых раней 70 чал., паламалі 15 салдацкіх стрэльбаў, пабілі 9 чал. салдат і сарвалі сурдут з прыстава, які чуць уцёк сам. Як адбывалася гэта пабоішча і колькі тут лягло на сьмерць сялянскіх барацьбітоў—ведама няма. Пасьля бойкі група гэта пашла сьледам за першай.

На другі дзень гэта самая вайсковая каманда, недалёка ат Дзярбіхі, пры вёсцы Канашова, спаткала новую грамаду сялян. Сяляне, спадзяючыся на свой вялікі лік, узброеныя тапарамі і косамі, рынуліся на каманду і зразу забілі аднаго унцер-афіцэра. Каманда ўступіла ў бойку з сялянамі і чатырох чалавек забіла, а пяць сялян раніла. Убачыўшы перамогу салдат, сяляне ў ліку 300 чал. з 65 падводамі здаліся і былі пад канвоем адпраўлены ў Нэвель.

10 мая ў Парэцкім лесе прыстаў, напаткаўшы групу ў 50 чал., меўся іх вярнуць назад, але сяляне з пагрозамі прагналі прыстава і пашлі сваёй дарогай.

Прашоўшы Дзярбіху, сяляне пападалі пад другую вайсковую заставу ў Баёве. Пад Баёвам сяляне гуртаваліся яшчэ ў большыя грамады. Узброеная каманда ўжо рыхтавалася затрымаць сялян. Сяляне з „азартам" заявілі, што яны жывымі ў рукі не дадуцца. Афіцэр, бачачы варожасьць і рашучасьць сялян, загадаў камандзе адступіць. Але сяляне, крыкнуўшы „бярэце пана", кінуліся за прыставам і афіцэрам. Афіцэр схаваўся, а прыстаў Эйсмонт і пісец яго Рафаловіч папаліся ў палон сялянам. Атрымаўшы і тут перамогу, сяляне пашлі ў наступ на двор Баёва і захапілі панскі палац. Застаўшы дома паноў Сакалоўскіх, братоў Іпаліта і Івана, пабілі іх і жонку Іпаліта і, у дадатак, Івана выцягнулі і ўтапталі ў гразь. Прыстава Эйсмонта і пісца Рафаловіча закавалі, зьвязалі ім рукі і павялі за сабой аж да мяжы Вялікалуцкага пав. [1]). Два дні йшоў з сялянамі прыстаў, адзеты ў сялянскую вопратку, са зьвязанымі рукамі, зьбіты і галодны.

[1]) Дело о волнении крестьян в 1847 г. в Вит. губ. ч. II, л. 273.

На просьбу ксяндза адпусьціць Эйсмонта сяляне сказалі, што „пусьці толькі яго, дык ён ізноў прымецца нас лавіць“ і павялі яго за сабой. Узбураныя сяляне рыхтаваліся прывязаць прystава за ногі да павозкі або выкалаць яму вочы. Некаторыя казалі, што проста яго трэба павесіць. 10 мая ўжо ў Пскоўскай губ. Эйсмонта выпусьцілі на волю.

Посьпех селян каля Дзярбіхі і Баёва ўзварухнуў і тых, якія яшчэ баяліся выйсьці ў дарогу. 9 мая ў сяле Паддуб'і каля 900 душ гатаваліся пакінуць свайго пана і пайсьці ў сьвет. Тут зьявіўся Арнольд, але дарэмны былі ўсе яго ўгаворы і спробы застанавіць сялян. 10 мая ў Калепне была затрымана ваеннай камандай грамада ў чал. 400. У стычцы каманды з сялянамі былі забіты тры сяляніна. Дзеля ўстрашэньня паддубаўцаў, забітых сялян, мусі быць па загаду Арнольда, палажылі на калёсы і сталі вазіць адкрытымі на паказ паддубскім сялянам. Але сяляне казалі, што нябожчыкаў умарылі паны голадам. 12 мая сяляне Паддуб'я нарыхтаваліся выйсьці ў дарогу і меліся злучыцца ўсе ў адну грамаду. У гэтую-ж ноч Арнольд з вайсковым атрадам пашоў па вёсках, дзе сяляне нарыхтаваліся ў паход, і да 300 чал. павязаў. Не абышлося тут, пэўна, і бяз другіх экзэкуцый, ад якіх павінны былі жахнуцца сяляне. Сяляне засталіся на месцы.

9 мая каля 200 душ пакінулі свае сядзібы сяляне памешчыка Рамаданоўскага і, злучыўшыся з другімі сялянамі, злажылі грамаду ў 435 чал. з абозам у 130 павозак і накіраваліся на Апочку. Прашоўшы некалькі часу, яны на дарозе спаткалі вайсковую заставу, уступілі з ёй у схватку, маючы замер сілком пралажыць сабе дарогу. Але вайсковая каманда на гэты раз перамагла сялян. У стычцы двое сялян было забіта, чэцьвера ранена. Каторыя засталіся жывымі—здаліся, 3 іх правадыры былі арыштованы і адпраўлены ў Нэвель, а рэшту, учыніўшы экзэкуцыю, вярнулі назад. Гэта няўдача стрымала ад паходу нарыхтаваўшыхся яшчэ ад Рамаданоўскага 400 чал. і ад Патрыкоўскага 230 душ. У гэты-ж самы час было нарыхтаваўшыся 812 душ у двары Дыласы памешчыка Шышкі. Сюды падасьпеў начальнік губэрні, які і затрымаў на месцы сялян.

Выступіўшыя сяляне крок за крокам, як у ваенным паходзе, пасоўваліся далей. Сяляне з Нішчы і Анінску 2 мая ўжо былі ў Вялікалуцкім пав. Пскоўскай губ. у в. Мячова. Іх было 356 чал. з 82 коньмі і 63 павозкамі. Сабраныя тут панятыя хацелі іх затрымаць, але падарожнікі адбіліся. Назаўтра сабралі панятых да 200 чалавек, якім удалося затрымаць сялян і накіраваць іх у Вялікалуцкі земскі суд. Прашоўшы верст 8 пад канвоем, сяляне разагналі панятых і пашлі на Порхаў. Да іх далучыліся другія сяляне, і злажылася грамада ў 500 чал. Яе рабілі спробу затрымаць, але кожын раз сяляне перамагалі і йшлі далей.

Гэта грамада ў 500 чал. 5 мая дашла да сяла Лешага. Тут трэба было перайсьці мост праз рэчку. На мосьце была вайсковая застава. Сялян чакалі прыстаў Гарбуноў, ісправнік Елагін і начальнік порхаўскай

этапнай каманды Лашкоў з 20 салдатамі і 400 панятымі. Сяляне з войскам сустрэліся на мосьце. У той час, як да сялян зьвярнуліся з прапановамі, яны скарысталі гэты момант, кінуліся на мост з каламі, зьмялі спужаўшыхся салдат, разагналі панятых, пабілі Елагіна і Лашкова, а Гарбунова ўзялі ў палон і павялі з сабой. У гэтай стычцы трое сялян было лёгка паранена. Каб у далейшым сустрэчныя па дарозе заставы не маглі страляць у сялян, яны Гарбунова палажылі на павозку і выставілі яго наперад. Па дарозе да іх далучаліся другія сяляне, і 7 мая грамада ўжо ў 600 чал. падыходзіла да Бежаніц. Тут іх спаткаў ісправнік Бурцаў з 30 салдатамі інваліднай каманды і з некалькімі сотнямі панятых. Між сялянамі і Бурцавым пачаліся перамаўленьні. Бурцаў запатрабаваў выдачы Гарбунова. Многія з сялян не хацелі пусьціць Гарбунова, хаця ісправнік за гэта даклераваў прапусьціць іх тут без перашкоды. Тады сяляне выбралі „мір“ (савет), на якім і пастанавілі: выдаць Гарбунова пад расьпіску на ўмовах, якія былі запрапанованы ісправнікам. Сяляне пры перамаўленьні дзяржаліся далікатна, як сапраўдныя дыплёматы. Тым хлапцом, якія нагрубілі ісправніку, „мір“ прысудзіў даць розаг. Умова была выпаўнена, і сяляне без перашкоды прашлі далей. На запытаньне: „Куды ідзеце?,—адказвалі: „Мы нікога не чапаем, толькі сябе баронім; а ідзем мы да цара, каб паказаць, якім хлебам кормяць нас нашы паны“.

Насустрач гэтай грамадзе выехаў пскоўскі губарнатар. Сяляне спакойна выслухалі яго прамову і ўрэшце рашуча адмовіліся вярнуцца назад, бо ідуць яны, як казалі, жаліцца цару на сваіх паноў. У гэты час прыехаў у Порхаў гэнэрал-губарнатар смаленскі, віцебскі і магілеўскі кн. Галіцын. Ён загадаў батальёну ноччу акружыць сялян, якія заначавалі вёрст 20 ад Порхава. Ноч была пахмурная. На раніцы гранадзёры, акружыўшы, кінуліся на сонных, змучаных дарогай сялян і захапілі іх у свой палон. Салдаты адлучылі мужчын ад жанок і дзяцей. Мужчын пад военным канвоем павялі назад, а за імі ззаду вязьлі жанчын і дзяцей.

### Перамога войска. Ліквідацыя паўстаньня

Узмацніўшыся прыбыўшым сюды вызваным войскам, вайсковыя часткі, скора спынілі сялянскі рух. Адна за аднэй грамады войска, пасьля схватак з сялянамі, перамагалі іх і накіроўвалі назад. 12 мая ў Порхаве стала вядома, што да Порхава падступаюць яшчэ пяць грамад сялян. Чыноўнік, які выпадкова праяжджаў каля гэтых сялян, паведаміў кн. Галіцына, што сяляне маюць замер ісьці да цара скардзіцца на сваіх паноў, якія „пакідаюць іх на галодную сьмерць і люта абыходзяцца з імі“, што „народ ідзе вельмі ціха і выслухвае ўсе ўгаворы з цярплівасьцю, але адзін адказ ува ўсіх: „*Няхай нас тут лепш усіх заб'юць, чымся варочацца да паноў*“.

Каб затрымаць у дарозе сялян, быў высланы батальён гранадзёраў. Каля Сарокіна батальён спаткаў грамаду ў 1.000 чалавек. На загад ся-

лянам застанавіцца, яны кінуліся на батальён, але скора пераканаліся, што немагчыма няўзброенай масе вясьці барацьбу з узброеным вялікім лікам войска. Сяляне здаліся. Супыніўшы рух гэтай грамады, батальён пашоў далей на Ашаў, насустрач другім групам сялян. Дачуўшыся аб перамозе салдат над першай грамадой сялян, другія групы ня выказвалі такога ўпартага супраціўленьня і скора здаваліся салдатам. Усяго па гэтым тракту было затрымана 3.600 чал. Усе яны былі накіраваны з Ашава, праз Апочку ў Себеж пад ваенным канвоем. Другому батальёну было загадана пайсьці па дарозе на Вялікія Лукі, затрымліваць усіх сялян і заняць усе пункты пераходу з Віцебскай губ. у Вялікалуцкі пав. Пскоўскай губ.

Каля 15 мая ўведзенае войска стала займаць усе праходы па дарогах, усе месцы, дзе асабліва быў неспакойны настрой сялян. Вясьці барацьбу з войскам было ўжо немагчыма. На кожным кроку былі салдаты, якія маглі расстрэльваць безаружную сялянскую масу. Ісьці па дарогах было немагчыма. Цікацца-ж па сьцежках і лясох можна было маленькімі групамі і без падвод. Сялянам стала ясна, што яны ізноў сілай будуць загнаны ў няволю да сваіх паноў. Войска прынялася рашуча аднаўляць парадак у краі і прыводзіць сялян у паслухмянства сваім паном. Каля 20 мая было яшчэ затрымана некалькі невялікіх груп. 23 мая ўзята апошняя група ў ліку 33 чалавек, якая старалася прабрацца ў Зубаўскі пав. Цьвярской губ.

Назад вернута больш за 6.000 чалавек. Каля 600 сялян ня было адшукана і яны не вярнуліся дамоў. Трэба думаць, што значны лік з іх злажыў свае косьці ў палёх у барацьбе з царскім войскам. Сяляне за сваю вандроўку змучыліся і засталіся бяз усякага харчу па дарозе назад. Праўда, міністэрства ўнутраных спраў адпусьціла на харч затрыманым і накірованым назад сялянам 10.000 руб. і выслала дзеля організацыі харчу 5 чыноўнікаў, але дапамагчы сялянам, нават тэхнічна, на посьпех было нельга.

Ітак, стыхійны, неорганізованы ўздым сялянства быў спынены войскам. Цяжкі соцыяльны стан прыгонных людзей рабіў іх адважнымі, і яны сьмела ўступалі ў барацьбу з тым, хто пасьмеў стаць ім папярок дарогі. Сучасьнік гэтых падзей, аўтар „Historja Domestica“ кажа: „że batalij było kilka, gdzie nie mało padło chłopstwa i żołnierzy“. Але няроўная сіла ўзяла сваё. Сяляне павінны былі пакарыцца і ізноў вярнуцца на агалелыя, разбураныя свае сядзібы, да ненавісных сваіх паноў. Мары аб волі, аб лепшым жыцьці без паноў ня збыліся. Неабходна было ізноў хадзіць у двор на прыгон, рабіць на пана, прадавацца, як скаціна, паном, зносіць панскія зьдзекі, насіць раны на целе ад лупцовак розгамі, галадаць з жонкай і дзяцьмі і ўперадзе ня бачыць ніякага проблíску лепшага, прыгажэйшага жыцьця. Няпрытульна з такімі думкамі было вяртацца назад! Але ня паў ніц перад панам вярнуўшыся замораны наш

селянін. Ен захаваў у душы сваёй няпрымірымую варожасьць да сваіх эксплёататараў. „Пасьля пакрова“, казалі сяляне Дрысенскага і Себескага пав., „яшчэ ня тое будзе; *тады мы ня толькі ня будзем хадзіць на прыгон, але і ўсіх паноў парэжам*“. Гаварылі ў народзе, быццам выхад сялян на вольныя землі спынілі толькі да пакрова, што каля Чорнага мора даюць зямлю ўсім бяспашпартным людзям.

Адnымі толькі расправамі на месцы і экзэкуцыямі пры затрыманьні і ўсяленьні назад у свае сядзібы сялян урад не здаволіўся. Дзеля пакараньня правадыроў паўстаньня, захопленых з аружжам у руках, была складзена ў Себежы ваенна-судовая комісія. Гэта комісія прыцягнула да адказнасьці больш 200 чалавек[1]). Іх абвінавачвалі ў адмаўленьні слухаць уладу і за падняцьце паўстаньня. Усім ім пагражаў прагон праз строй салдат і высылка на катаржную працу ў рудніках, а слабых—у Сібір. Памешчыкам нявыгодна было страціць столькі рабочых рук, і яны хадайнічалі вінаватых аддаць лепей у салдаты і залічыць ім гэта ў лік належных ад іх рэкрутаў[2]).

Было аб'яўлена жыхаром, што аддаюцца пад суд і тыя асобы, якія скуплялі ў сялян, перад іх выхадам, рэчы, калі яны ня зьвернуць такіх валадаром. Было прыступлена да розыску растрачанага сялянамі інвэнтару, каб даць магчымасьць узараць і засеяць, хаця позна, сваё і панскае поле. Але гэта мала дапамагло. Было ўжо позна, інвэнтару ня было, ня было і насеньня, і палеткі толькі часткай маглі быць абсеяны. Бязхлебіца, голад—яшчэ большы маляваўся перад сялянамі. Спадзявацца на дапамогу сваіх паноў было нечага. Праца ў двары на паншчыне і ў заработках на пана павінна была яшчэ больш узмацніцца. А тут яшчэ ў гэтым-жа 1847 г. на Віцебшчыне зьявілася пошасьць халеры, якая стала касіць згаладалых сялян.

Пры такіх варунках, з разьбітымі надзеямі, беларускі селянін ізноў павінен быў пачынаць жыць.

### Пасьля ўсьцішэньня паўстаньня

Гэта вялізарнае паўстаньне вельмі спалохала памешчыкаў і ўладу. Цяпер загаварылі ўжо аб неабходнасьці рэформы прыгоннага права, аб вялікіх стратах па гаспадарцы, якія здараюцца ад сялянскіх паўстаньняў. Дробныя паны ў рэформах бачылі „нямінуемую пагібель“, але неабходнасьць рэформы гэтак сама прызнавалі. Сталі „вышукваць“ прычыны сялянскай бядоты і знаходзілі, што бяда ў гарэлцы, якая прадаецца без акцызу—яе сяляне шмат п'юць і ад гэтага дрэнны іх быт і дрэнна панном; што сяляне ня ходзяць у царкву і іх трэба сілком прымушаць; што беларусы па сваёй цемнаце вельмі „увлекаются“ ўсякімі чуткамі аб волі

[1]) Дело о волнении кр-ян в 1847 г. в Вит. губ. ч. II, л. 305.
[2]) Ibidem, ч. II, л. 292, 295.

і верацъ усякім гутаркам, дзе гаворыцца пра волю. Вышэйшае начальства знаходзіла, што сяляне ня любяць сваіх памешчыкаў па іх „неаднапляменнасьці“ і „неаднавернасьці“, прызнаючы ў гэты-ж час, што памешчыкі трымаюць сваіх сялян у цяжкім матэрыяльным стане. Улада лічыла неабходным дзеля спыненьня паўстаньняў увесьці ў дварох інвэнтары, каб селянін мог ведаць свае абавязкі паншчыны; знаходзілі патрэбным узмацніць прадажу панскіх сялян з публічных таргоў, якую прадажу праводзілі палаты дзяржаўнай маемасьці, бо паны на Беларусі чужыя па „племені“ і веры сялянам і аб іх клапаціцца не маглі. Пыталіся зьменшыць аддачу сялян у варэнду і перадачу суб-арандатару, бо знаходзілі, што гэта больш прыводзіць у разор сялян і выклікае ў іх нездаволеньне. Віну паўстаньня 1847 г. стараліся знайсьці ў „невежестве“ беларускага селяніна. Спусьціўшы гадоў 20, некаторыя дасьледчыкі бачылі ў паўстаньні 1847 г. рэзультат сялянскай няпісьменнасьці і стараліся гэта паставіць на від тым паном, якія ў сялянскай цемнаце бачылі сваё шчасьце. Але сапраўднай прычыны прызнаваць не хацелі.

Памешчыкі скардзіліся ўраду, што яны апошнімі трыма гадамі (1844-46) і адбыўшымся паўстаньнем прыведзены ў поўны разор і сваімі сродкамі ня могуць адбудаваць сваю гаспадарку. Праўда, і ўрад знаходзіў што некаторыя памешчыкі на Віцебшчыне зьбяднелі, але знаходзіў гэта па прычыне зацягнуўшыхся нядоімак, ссудных, банкавых і прыватных даўгоў. Голад-жа толькі ўзмацніў беднасьць двароў, а паўстаньне яго даканала[1]).

Сяляне засталіся неспакойнымі і варожымі да сваіх памешчыкаў, будучы кожны раз гатовымі йзноў падняць бунт і перабіць сваіх паноў. Аб вывадзе войска нельга было і думаць. Цар быў загадаў вывесьці разьмешчаны ў Віцебскай губ. полк салдат, але яму пасьпяшылі давясьці, што бяз войска беларускія сяляне падымуць бунт і войска засталося разьмешчаным па губэрні яшчэ на некалькі год. Пры чутках аб вывадзе войска, памешчыкі прыходзілі ў жах. Думка аб волі панавала ўва ўсіх сялянах. 8 студзеня 1843 г. гэнэрал-губарнатар пісаў міністру ўнутраных спраў, што „ня можа быць ніякага сумненьня ў тым, што ў сялянскіх галовах застаюцца яшчэ сьляды паўстаньня; што ўжо пасьля таго, як у губэрні быў устаноўлен спакой, яшчэ не адзін раз была спроба паўстаньня. Падзеі, якія пасьля ўжо адбыліся, праконваюць, што думкі аб волі ў іх жывуць. Але карабінэрны полк тут разьмешчан так, што калі дзе сяляне пачнуць рабіць беспарадкі, у раз-жа можа быць паслана туды частка войска“[2]). Пры такім разьмяшчэньні войска, запэўнівае ён міністра, дрэнных выпадкаў ад іх думак быць ня можа. Як прыклад, ён

---

[1]) Дело о волнении кр-ян в 1847 г. в Витебской губ. ч II, л. 12.

[2]) Ibidem, ч. II, л. 7.

прыводзіць, што сяляне, якія пакінулі працу на шашы, якая праводзілася ад Нэвелю да Гарадка, былі ўраз-жа войскам прыведзены ў паслухмянства. У ліпені м-цы 1847 г. ад памешчыцы Лукашэвічавай з Гарадоцкага пав. уцяклі сяляне, то ўраз-жа салдатамі былі злоўлены і вернуты назад. У верасні м-цы пачалі бунтавацца сяляне памешч. Шадурскага ў Дынабурскім пав., але ваеннай сілай устаноўлен парадак, а зачыншчыкі арыштованы[1]).

Так скончылася паўстаньне на Віцебшчыне 1847 г. Паслухмянае тады цару расійскае войска ня толькі спыняла паўстаньні ў Расіі, але на ім трымалася і монархія Эўропы. Паўстаньне 1847 г. мае вялікую значнасьць для нашай гісторыі. Яно паказала, як і паўстаньне Люцынскага староства, непрымірымую варожасьць сялян да сваіх паноў, паказала, што беларус не пасыўна глядзеў на сваё жыцьцё, ня гнуўся перад панам-эксплёататарам, а гэроічна змагаўся за сваю лепшую будучыну і толькі няроўная сіла трымала яго ў няволі. Ня будзе, можа, лішнім заўважыць, што рэволюцыйны ўздым у Эўропе 1848 г. пачаўся на Беларусі паўстаньнем 1847 г.

Апрача масавых сялянскіх паўстаньняў, на Віцебшчыне, як і ў другіх частках Беларусі, былі пашыраны паўстаньні, якія ня выходзілі за межы аднаго двара. Усе яны выбухалі на соцыяльна-экономічным грунце і ў зьвязку з цяжкімі карамі.

Масавыя паўстаньні не маглі здарацца часта. Разьяднаная па сёлах і вёсках сялянская маса толькі ў крайніх выпадках, падымаючыся стыхійна, зьлівалася ў агульную грамаду, выказваючы протэст проці соцыяльна экономічных умоў свайго жыцьця. Няпісьменнае, забітае працай і мукамі сялянства ня ведала ясна ні шляхаў барацьбы, ні дзяржаўна-політычнага стану, ні мэт сапраўднага свайго вызваленьня, і пагэтаму больш за ўсё сяляне выказвалі сваё нездаволеньне проці свайго пана і змагаліся ў межах свайго двара.

## IV. Пааднадворныя паўстаньні сялян 1845-55 г. г.

### Вацлавова, Лепельскага пав.

У 1845 г. выбухнула нездаволеньне сялян абшарніка Багушэвіча ў дварэ Вацлавова, Лепельскага пав. Прычына нездаволеньня—немагчыма цяжкае жыцьцё. Сяляне сталі скардзіцца губэрскаму начальству, што іх за ўсякую драбязу люта сякуць розгамі і што пяць чалавек пры кары было засечана на сьмерць; што яны церпяць ад пана ўсякія зьдзекі. Пан адмовіў ім у харчаваньні іх, якое ён мусіў ім даваць, і што дзеля гэтага некалькі сялян памерла ад голаду[2]). Такое цяжкае становішча сялян вымушала іх паўставаць на барацьбу з прыгонам. Яны перасталі хадзіць

[1]) Дело о волнении кр-ян в 1847 г. в Вит. губ., ч. II, л. 8.

[2]) Дело канц. ген.-губ. „О неповиновении крестьян помещика Богушевича в им. Воцлавово, л. 4.

адбываць паншчыну ў двор, сталі зьбірацца на сакрэтныя сходкі дзеля вырашэньня свайго стану, сталі распрадаваць маемасьць і, ходзячы грамадамі, падаваць скаргі на свайго пана. Наогул сяляне вышлі з паслухмянства, і пан з дворнай адміністрацыяй ня мог з імі саўладаць. На дапамогу памешчыку было прыслана каля 50 чалавек поліцэйскіх. Сяляне, будучы ў аднэй грамадзе, не даліся поліцэйскім. Тады поліцэйскія пастараліся разрозьніць сялян на невялікія гурткі і, такім парадкам, поліцэйскім удалося асіліць сялян і дзеля прыкладу высечы іх розгамі, а некаторых, больш упартых адаслаць у васторг[1]). Але і гэтая мера поліцэйскіх ня прымусіла сялян ізноў упрагчыся ў панскае ярмо. Сяляне, як і раней, не выпаўнялі паншчыны і ня слухалі пана. Праз некаторы час у двор Вацлавова быў накірован падпалкоўнік Сьвідэрскі з двума жандарамі, каторыя з дапамогай поліцэйскіх сталі йзноў ушчуваць сялян цялеснымі карамі. Некаторых сялян дадаткова арыштавалі і адправілі ў арыштанцкія роты. Дворная адміністрацыя сама яшчэ пастаралася непадобных пану саслаць у Дынабурскую крэпасьць, прыняла некаторыя рэпрэсыўныя меры да астаўшыхся людзей і „здавалася, што сяляне сваю заблуду пакінулі і сталі слухаць свайго пана“[2]).

Але ў 1847 г. непакорлівасьць сялян выказалася яшчэ з большай моцай. 4 чэрвеня памешчык Багушэвіч жаліўся гэнэрал-губарнатару, што, ня гледзячы на ўсе зробленыя захады дзеля ўсьцішэньня сялян, апошнія не перастаюць „дэбошыраваць“ проці панскай улады і поліцыі і не перастаюць „яўна бунтавацца“[3]). Бачачы, што сяляне, на працягу ўжо больш году не адбываюць свае абавязкі прыгону і двор ад гэтага мала дае карысьці, Багушэвіч хацеў двор свой прадаць памешчыку Сляве або здаць у варэнду Анікевічу. Але, як толькі аб гэтым замеры Багушэвіча даведаліся сяляне, то яны „з разьяронасьцю“ заявілі яму, што ні яго, ні кагонебудзь другога прызнаваць за свайго пана ня хочуць, што яны будуць толькі вольнымі або казённымі. І калі пры гэтым падвярнуўся Анікевіч, то сяляне хацелі яго абабіць, і ён збавіўся ад іх толькі ўцёкшы. Памешчык Багушэвіч баяўся, што яго сяляне, як і сяляне другіх паветаў Віцебскай губэрні ў 1847 г., пакінуць двор і пры выхадзе заб'юць яго самога й яго старых бацькоў. Сяляне настолькі варажна адносіліся да двору, што ўпраўляючыя дваром баяліся за сваё жыцьцё і адмовіліся служыць у двары[4]).

Вядома, такія бунтарскія пастулкі гэнэрал-губарнатар ня мог даравать сялянам і прыняў адпаведныя крокі да прывядзеньня ў поўнае паслухмянства іх свайму ўладару. Хаця, як адбылося гэта ўсьцішэньне, вестак у справах не захавалася.

---

[1]) Дело канц. ген.-губ. „О неповиновении крестьян помещика Богушевича в им. Воцлавово, л. 71.

[2]) Ibidem, л. 71.

[3]) Ibidem, л. 79.

[4]) Ibidem, л. 79-80.

### Карасна, Себескага пав.

У 1846 г. заварушыліся сяляне памешчыка Патрыкоўскага ў двары Карасна, Себескага павету. 5-га верасьня міністар унутраных спраў сакрэтна пісаў гэнэрал-губарнатару: „Прыватным парадкам дашло да майго ведама, што ў Себескім павеце сяляне памешчыка Патрыкоўскага вышлі з паслухмянства ад недастачы ў іх харчу і няўважлівых да іх адносін з боку ўладара; што вытрабаваная на месца вайсковая каманда страляла ў сялян, раніўшы пры гэтым трох чалавек, але аб гэтым здарэньні ў данясеньні начальству чыноўнікаў, якія загадвалі вайсковай камандай, замаўчана“ [1]).

Вестак аб расстрэле сялян, аб якім кажа міністар, у справах няма. Пасьледзтвенным матэрыялам справа гэта высьвятляецца ў такім палажэньні. Сялянам на харч ад двору вельмі мала выдавалі збожжа. У працоўныя дні сялянам, як дадатковы харч, у двары варылі зацірку (кашыцу). У чэрвені месяцы, сяляне, пад кіраўніцтвам Еўдакімава і Пракопава, узбунтаваліся і пашлі ў двор прасіць лепшага для сябе харчу. Атрымаўшы адказ, сяляне кінулі працу і разышліся дамоў. Пасьля гэтага здарэньня ў двор прыехаў павятовы маршалак, каб зрабіць дазнаньне, чаму сяляне адмовіліся служыць пану. Склікаўшы ўсіх сялян у двор, ён хацеў здымаць з іх дапрос, выклікаючы па адным да сябе. Тады сяляне запротэставалі проці гэткага парадку сьледзтва і не дазволілі маршалку браць да сябе сялян па адным. Бачачы гэта, маршалкаў пісар узяў за руку Еўдакімава і хацеў затрымаць яго, але ўсе сяляне ў ліку 24 чалавек, адабралі Еўдакімава і кінуліся на ўцекі, узброіўшыся каламі. Адышоўшы з поўвярсты ад двору, яны застанавіліся на пагурку і крыкнулі: „Цяпер хадзі да нас!“ Узяўшы 2 пісталеты, пісар, падышоўшы да іх, стаў страляць, прычым раніў шротам аднаго селяніна [2]).

Гэта яшчэ ня прымусіла сялян вярнуцца да прыгону. На месца ўзбунтаваўшыхся сялян былі накіраваны жандарскія чыноўнікі, якія, разам, з паліцэйскімі, устанавілі парадак і паслухмянства. Вінаватых аддалі пад суд. Сяляне тут былі так неспакойны, што Себескаму земскаму суду было запрапанована гэнэрал-губарнатарам мець неаслабны нагляд за сялянамі памешчыка Патрыкоўскага [3]).

### Двор Лісоўскага, Сураскі пав.

Да гэтага, прыблізна, часу адносіцца паўстаньне сялян памешчыка Лісоўскага ў Сураскім павеце. Пачаўшы з 1845 году, сяляне сталі адмаўляцца адбываць абавязкі прыгону і сталі скардзіцца начальству на свой

[1]) Дело о неповиновении крестьян пом. Потриковского, л. 16. Далей у гэтай-жа паперы міністра даводзіцца, што пам. Полацкага пав. Мацьвееў, маючы вялікія запасы збожжа, выдае сваім сялянам на харчы толькі па 2 гарцы жыта і 2 гарцы аўсу ў тыдзень на ўсю сям'ю, з якой прычыны большая частка яго сялян паўцякалі. Каторыя сяляне засталіся ў яго двара, то ён прымушае іх працаваць на паншчыне па цэлым тыдні.

[2]) Ibidem, л. 21-23.

[3]) Ibidem, л. 17-28.

лёс. Гэтае нездаволеньне сялян Лісоўскага, хаця й цягнулася да 1847 г. але, відаць, ня выявілася ў аткрытым паўстаньні супроць прыгону. Цяжкія ўмовы паншчыны, голад, які цярпелі сяляне ад таго, што памешчык не выдаваў і тэй мізэрнай нормы збожжа, якую сам устанавіў,—усё гэта штурхала шукаць выхаду з свайго пад'ярэмнага жыцьця. Памешчык Лісоўскі віну ў нездаволеньні сваіх людзей узваліваў на двух сваіх сялян—Цепляка і Будзьку, якія, жывучы без пашпартоў у царскім сяле (цяпер Дзецкае Сяло) у лістох да сялян падбухторвалі іх да непаслухмянства пану і пісалі за іх у розныя ўстановы заявы на пана.

Чым скончылася справа гэтых сялян—вестак няма[1]).

**Красты, Вяліскага пав.**

У 1853 г. адмовіліся хадзіць на паншчыну і слухаць загады пана сяляне двору Красты ўладара Балкашынава. Сяляне сталі скардзіцца на Балкашынава, што ён выганяе на паншчыну ў двор і старых, і малых на ўвесь тыдзень, бярэ з кожнага гаспадара па 4 руб. у год, а калі хто ня можа заплаціць грашыма, то загадвае, апрача працы на прыгоне, зьбіраць для фабрыкі яго рызьзё і працаваць на самай фабрыцы. Сяляне, ня маючы свайго хлеба, папрасілі Балкашынава даць ім з магазыну. Пан ім у гэтым адмовіў і параіў прадаваць апошнюю скаціну сваю, каб купіць хлеба. Прыгон адбываць загадваў акуратна; хто-ж па якой-небудзь прычыне ня прыходзіў на паншчыну, таго сек розгамі па 100 і 150 удараў[2]). Гэткае становішча сялян прымусіла іх кінуць служыць пану і жыць бяз пана.

Усьцішаць сялян прыехаў павятовы маршалак. Ён стаў іх спачатку ўгаварваць хадзіць на паншчыну, слухацца свайго пана і быць пакорлівымі, што харч ім будзе выдаваць пан. Але сяляне воражна заявілі, што яны ня хочуць быць падданымі, *а хочуць быць зусім вольнымі і ня хочуць мець над сабой валадара*[3]). Убачыўшы такое буйства сялян, маршалак запрасіў духаўніка Аўсянкіна, каб той угаварыў іх, але сяляне і яго з „неистовством, буйною толпою отвергли“. Пасьля гэтага маршалак хацеў усьцішыць іх розгамі і, выбраўшы трох сялян, пазваў у дом для экзэкуцыі. Як толькі аб гэтым даведаліся сяляне, то ўсёй грамадой „в ужасном неистовстве“ і з крыкам кінуліся ў панскі дом, выламалі ў акне стаўню і аслабанілі трох узятых сялян[4]).

У лютым месяцы для ўсьцішэньня сялян у Красты быў пасланы палкоўнік Храпавіцкі, жандарскі афіцэр і маршалак. Сабраўшы ў двор 51 гаспадара, чыноўнікі, разам з духоўнікам, спрабавалі зноў угаварыць

---

[1]) Дело о неповиновении крестьян пом. Лисовского, 1845—47 г. г. Назва двору ў справах не паказана.

[2]) Дело по жалобе крестьян Балкашина о притеснении их владельцем, л. 10.

[3]) Ibidem, л. 9.

[4]) Ibidem, л. 9.

сялян стаць паслухмянымі. Але гэта „ня толькі не аслабіла іх мяцежны дух, але яшчэ больш паказала іх упартасьць і непакорлівасьць". Была вызвана вайсковая інвалідная каманда з Вяліжу і прыступлена да экзэкуцыі сялян. Спачатку і ў прысутнасьці вайсковай каманды, бачачы сваю нязмогу, усё такі адмаўляліся пакарыцца пану. Калі-ж павялі некалькіх чалавек для кары розгамі, то ўся грамада загучэла: „Рабяты, разьдзявайцеся ўсе! Няхай усім нам будзе тое, што выкліканым ад нас, *а пана нам ня трэба і слухаць яго ня будзем*". Але чыноўнікі, пры дапамозе войска, рабілі сваю справу. Яны з панам прыняліся сячы сялян. Скора лямант ад лютага катаваньня напоўніў жахам душы прысутных. Сьсечаныя розгамі сяляне ад болю і жаху кідаліся на калені і выказвалі ўва ўсім сваю пакорлівасьць. Такая балючая расправа на вачох уносіла страх у сялянскую грамаду. Скора ўсе ўкленчылі і згадзіліся слухаць свайго пана і далі ў гэтым падпіску. Толькі адзін селянін Назараў, не зважаючы ні на якія мукі, катэгорычна адмовіўся служыць пану. Яго арыштавалі і перадалі прыставу. Трое сялян з кіраўнікоў уцяклі з двору і схаваліся. Пяць было адпраўлена ў астрог [1]).

Дасягнутая такімі мерамі пакорлівасьць сялян была не надоўга. Прачуўшы ў маі месяцы, што з Пецярбургу назначаны чыноўнік для рэвізіі Віцебскай губэрні, сяляне ў ліку 20 чалавек адлучыліся самаволь з двору і пашлі ў Віцебск скардзіцца чыноўніку на свайго пана і на зьдзекі, якія ім прыходзіцца цярпець. Па дарозе іх злавілі і накіравалі ў Вяліж. Але гэта не памагло. Сяляне йзноў адмовіліся служыць паншчыну і пакарацца пану. Мясцовая ўлада не магла нічога сама з імі зрабіць. На гэты раз быў вымушан паехаць у Красты для прывядзеньня ў паслухмянства ўзбунтаваўшыхся сялян віцебскі грамадзянскі губарнатар з жандарамі: Па дарозе яго ўпэўнілі, што без вайсковай сілы сялян нельга будзе ўсьціхамірыць і ён, заехаўшы ў Вяліж, узяў з сабой 20 салдат і двух унцер-афіцэраў. Прыбыўшы на месца з войскам, губарнатар склікаў сялян Балкашына, пазваў ад суседніх сялян панятых і доктара і распачаў сваю экзэкуцыю над змучанымі працай і голадам сялянамі. Тут аднавілася тое самае, што і пры першай экзэкуцыі. Пасьля жудаснага страху, навеенага лютым сячэньнем, сяляне сталі на калені і „прынясьлі чыстасардэчнае пакаяньне ў іх заблудзе" і даклеравалі губарнатару слухаць уладу і свайго пана. Губарнатар ня зусім ім верыў і на ўсякі выпадак пакінуў у двары вайсковую каманду [2]).

**Двор Адынца, Віцебскага пав.**

Па восені 1853 г. вышлі з паслухмянства сяляне пана Адынца ў Віцебскім павеце. Прычыны нездаволеньня былі тыя-ж, што і ў пана Балкашына. Сяляне цярпелі голад, зьдзекі, пераносілі цяжкія цялесныя кары.

[1]) Дело по жалобе крестьян Балкашина о притеснении их владельцем, л. 40-41.
[2]) Ibidem, л. 106-109.

Назначанае формальнае сьледзтва знашло, што вінават ня пан, а сяляне са сваёй упартасьцю і непакорлівасьцю. Усе спробы дворнай адміністрацыі ўсьціхамірыць сялян не дасягнулі ніякай мэты і сяляне не хацелі нікога слухаць. Тады пан Адынец зьвярнуўся за дапамогай да павятовага маршалка і прыстава. Разабраць гэту справу паехаў на месца намесьнік маршалка з паліцэйскімі. Першым чынам было знойдзена патрэбным выгнаць з сялян „дух непакорлівасьці“. Дзеля гэтага ён загадаў узяць шэсьць чалавек галоўных падбухторшчыкаў непаслухмянства і высечы іх розгамі. Усім другім было загадана разыйсьціся па хатах. Прыстаў узяў шэсьць намечаных чалавек, каб адвясьці іх у дом для экзэкуцыі. Як толькі ўзятыя сталі адлучацца ад грамады, яны крыкнулі да астаўшыхся: „Што-ж вы пакідаеце нас! Ці-ж вы ня ведаеце“... Пасьля гэтага грамада сялян у 15 чалавек кінулася да арыштованых і, не зважаючы на супраціўленьне 10 паліцэйскіх і прыведзеных на дапамогу сялян з другіх двароў, з вялікім газардам адбілі ўзятых сялян і пачалі крычаць: „Нам гэта ня суд“. Паліцэйскія некалькі раз рабілі спробу, каб узяць пад арышт пяць чалавек галоўных пачынальнікаў, але кожны раз сяляне сілай не давалі іх і ніякія ўгаворы прыстава не маглі ўсьціхаміраць сялян. Паліцэйскія не далі ніякай рады над сялянамі.

Скора пасьля гэтага выпадку сяляне зусім кінулі паншчыну і пашлі ў Віцебск са скаргамі на пана. Па дарозе іх затрымалі і вярнулі назад. Нездаволеньне сялян Адынца пагражала перакінуцца і на сялян другіх двароў. Неабходна было і тут ужыць вайсковую сілу. Прыстаў запрасіў выслаць на ўсьцішэньне 100 чал. салдат. Дзеля ўстанаўленьня парадку ў двары Адынца павятовы суд вызначыў часовае аддзяленьне суду і адправіў у вастрог селяніна Міхайлава. Сяляне ізноў пашлі да губарнатара. Губарнатар, замест таго, каб выслухаць іх скаргу, 8 чал. з прышоўшых да яго пасадзіў у вастрог, а 8 чал. зьвярнуў пад канвоем назад у двор. Былі высланы жандарскія і грамадзянскія чыноўнікі, якія, з дапамогай узмацнёнага нараду паліцыі, устанавілі на месцы парадак сярод сялян і прымусілі іх слухаць свайго пана. Дзеля выкрыцьця віноўных губарнатарам была вызначана комісія, якая, застаўшыся на месцы, павінна была распачаць сьледзтва па гэтай справе[1]).

### Тулава, Віцебскага пав.

У студзені 1854 г. выбухнула нездаволеньне сялян двара Тулава ўладара Цэханавецкага. Якія прычыны заварушылі сялян у гэтым двары — невядома. На ўсьцішэньне іх прыехаў прыстаў з паліцэйскімі служыцелямі. Спосаб усьцішэньня быў адзін—сячы да тэй пары, пакуль пад розгамі ўзмуціцелі не пакарацца і не адмовяцца ад сваёй упартасьці. Адвёўшы ў людзкую хату некалькіх сялян, прыстаў прыняўся лупцаваць сялян. Пасьля таго, як заенчыўся пад ударамі розаг селянін з вёскі Ску-

---

[1]) Дело о неповиновении крестьян помещика Одынца 1853 г., л. 1-5.

лава—Арцемаў, грамада ў чалавек 100, якая стаяла ў сенцах, уся разам закрычала: „За што біць, ня трэба біць“. Тады сяляне, якія трымалі Арцемава, пусьцілі яго, заявіўшы: „Трымаць больш ня будзем“, і ўсе зьмяшаліся ў адну грамаду. Але прыстаў выступіў з пагрозамі і ўгаворамі і праканаў сялян, запужваючы іх рознымі страхамі, прыняць ад свайго пана лупцоўку ад 8 да 15 розаг, „пасьля якой стала цішына і спакой“[1]).

**Экіманія, Полацкага пав.**

У гэтым-жа 1854 г. летам перасталі хадзіць на паншчыну сяляне двара Экіманія ўладара Бяліковіча. Тут сяляне падзяліліся на дзьве часткі. Адны хадзілі на паншчыну ў двор, а другія адмовіліся. Калі прыехаў у двор ісправунік і загадаў сабрацца ўсім сялянам, то да яго ніхто не пашоў. Вымушаны былі сялян прывясьці сілком з паліцэйскімі. Прывёўшы непакорлівых і сабраўшы ўсіх сялян, ісправунік узяўся сячы розгамі вінаватых. Гэтым была спынена непакорлівасьць, і сяляне ізноў сталі хадзіць на паншчыну і выпаўняць свае абавязкі перад дваром [2]).

**Марцінопаль, Люцынскага пав.**

У 1855 г. уладар двара Марцінопаль, Люцынскага пав. Грабніцкі прадаў свой маёнтак баронэсе Розэн. Па гэтай прычыне сярод дворных сялян паднялася няцiхота. Чамусьці сяляне не хацелі пусьціць у двор сваю новую ўладарку. У той час, калі зьявіліся давераныя розэн прыняць па інвэнтары набытую маемасьць, сяляне, зьявіўшыся ў двор у ліку каля 650 чал., не дапусьцілі да такой прыёмкі і запрапанавалі давераным у разжа пакінуць двор Марцінопаль. Накладзеныя маемасьцю Розэн падводы ехалі ў Марцінопаль. Сяляне сустрэлі іх на дарозе, каб завярнуць назад. Сяляне ніяк не хацелі згадзіцца служыць новай уладарцы і ніякія ўжытыя паліцыяй меры не маглі прымусіць сялян да пакорлівасьці і паслухмянства. Яны казалі, што будуць слухаць Грабніцкага або цара [3]). Па дакумантах нельга прасачыць, якія прычыны прымушалі сялян згаджацца слухаць Грабніцкага і адмаўляцца ад Розэн. Па вестках канцэлярыі гэнэрал-губарнатара, сяляне ня ведалі, што яны прададзены баронэсе Розэн. У дворныя справы сяляне ня ўмешваліся, і ўсякае непаслухмянства сялян выклікалася социяльнымі ўмовамі іх жыцьця. Дзеля ўсьцішэньня Марцінопальскіх сялян было накіравана з Васілёва 320 салдат і прыехаў віцебскі грамадзянскі губарнатар. Але і пасьля ўваходу войска ў двор, на прапанову губарнатара пакарыцца сваёй уладарцы сяляне адмовіліся. Тады губарнатар загадаў пачаць экзэкуцыі над сялянамі. Былі ўзяты шэсьць сялян, якія больш за другіх выказвалі непаслухмянства, і пачалі

[1]) Дело о возмущении крестьян помещика Цехановецкого против власти, 1854 г.

[2]) Дело о разных беспорядках и недоразумениях между крестьянами помещичьих имений Вит. губ., л. 1.

[3]) Дело о возмущении Марцинопольских крестьян Гребницкого, проданных баронессе Розен. 1855 г., л. 1-4.

іх сячы розгамі. „Пад розгамі“, даносіць губарнатар, „упартыя пакарыліся і прасілі даравакь ім іх супраціўленьне. Гледзячы на іх, і другія прасілі прабачэньня“[1]). Пасьля ўжо ўсьцішэньня сялян на некаторы час у Марцінопалі было пакінута войска. Урад прадугледжваў, што гэта паўстаньне падбухторвалі людзі збоку. Дзеля сьледзтва было вылучана часовае аддзяленьне суду і накіравана ў Марцінопаль[2]).

**Некалькі заўваг да нарысу.**

У гэты нарыс увашлі толькі сялянскія паўстаньні, зьвязаныя з соцыяльна-экономічнымі ўмовамі сялянскага жыцьця. Між тым, сялянскія нездаволеньні на Віцебшчыне выбухалі і па другіх выпадках. Былі нездаволеньні на грунце далучэньня вуніятаў да праваслаўя; адмечана ў літаратуры выбухнуўшае мясцамі нездаволеньне ў зьвязку з увядзеньнем бульбы для стравы.

Прыведзеныя выпадкі аграрных паўстаньняў, трэба думаць, далёка яшчэ ня ўсе і ў часы 1832-55 г. Мажліва, многія нездаволеньні былі ўсьцішаны мясцовымі мерамі і аб іх ня было пададзена ніякіх вестак. Шмат якія яшчэ не адшуканы ў архівах, а некаторыя, разам з архівамі павятовых установаў, страчаны на заўсёды. Ня прыходзіцца казаць аб неабходнасьці вышукваць і вывучаць сялянскія бунты. У гэтай барацьбе селяніна мы знойдзем істоту беларуса, прасочым яго быт, унутраныя і надворныя ўмовы, якія мелі ўплыў на сялянскі рух на Беларусі, і які ўплыў гэты рух рабіў на экономіку і *ўрадавую політыку* адносна да сялян. Усе гэтыя пытаньні ў нас, на Беларусі, высьветлены мала.

Прыведзеныя намі здарэньні масавых паўстаньняў сялян на Віцебшчыне здараліся ня толькі на працягу 1832-55 г. г. Аўтар „Historja Domestica“ кажа, што ў 1802 г. было паўстаньне сялян Гарадоцкага пав., па моцы роўнае паўстаньню 1847 г. У 1812 г. у зьвязку з ваеннымі падзеямі, сяляне на Беларусі ў многіх мясцох адмовіліся служыць паншчыну, пачалі рабаваць сваіх паноў. Гэтыя рабункі адбіліся ў творах Яна Баршчэўскага. Узбунтаваўшыся ў 1812 г., сяляне Гарадоцкага, Нэвельскага паветаў, яшчэ да заняцьця французамі, перасталі служыць паном. Сяляне так трымаліся варажна да паноў і ўлады, што пасьля захвату паўстанцамі вайсковай касы з 81.771 р. каля вёскі Казяўкіна, мясцовая ўлада і поліцыя баяліся выехаць на месца дзеля сьледзтва па гэтай справе[3]). Паўстаньні на Віцебшчыне ў 1812 г. адбываліся і ў другіх паветах[4]).

Да гэтых падзей, як і да бунтаў у другіх частках Беларусі, мы яшчэ маем надзею вярнуцца другім разам.

---

[1]) Дело о возмущении Марцинопольских крестьян Гребницкого, проданных баронессе Розен. 1855 г.

[2]) Ibidem, л. 16.

[3]) Полоцко-Витебская старина. Вит. 1916 г., кн. III, стар. 291.

[4]) Проф. В. И. Пичета. История крестьянских волнений в России. Минск, 1923 г. стар. 75.

# ЭПОХА ГАРАДЗКОЕ ГАСПАДАРКІ НА БЕЛАРУСІ

**У. Пічэта**

Уваход беларускіх зямель у склад Вялікага Княства Літоўскага. Разьвіцьцё і становішча сельскае гаспадаркі. Гадоўля жывёлы. Прамысловасьць. Гандаль. Гаспадарскае і прыватнае зямляўладаньне. Вясковае насельніцтва. Жыды. Першапачатковае награмаджэньне капіталу. Абагуленьні.

З канца XIV веку ў дзяржаўна-праўным становішчы Беларусі адбываюцца значныя зьмены. Беларускія землі павінны былі прызнаць сувэрэнітэт вялікага князя Літоўскага і ўвайсьці ў склад маладога Вялікага Княства Літоўскага. Яшчэ ў эпоху самастойнага існаваньня беларускіх краін, славянская колёнізацыя ўжо пашырылася на абшары ўласна Літвы. Так, полацкія крывічы цераз Вільлю дашлі да сярэдняга Нёмну і колёнізавалі так званую Чорную Русь. Гэта колёнізацыя зьвязвала новых насельнікаў са старымі землямі і тым самым падрыхтоўвала палітычнае аб'яднаньне, якое, у сваю чаргу, падрыхтоўвалася тымі ўмовамі, у якіх даводзілася жыць славянам і літоўцам з прычыны захопу вусьцяў рэчак Нёмну і Заходняй Дзьвіны немцамі. Апрача таго, у глебавых, кліматычных, фаўністычных і флёрыстычных адносінах уласна літоўскія землі і беларускія былі зусім аднолькавыя. Гэтае экономічнае адзінства Літвы і Беларусі падрыхтоўвала тое палітычнае аб'яднаньне, якое зьдзейсьнілася ў канцы XIV веку.

Да моманту ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага беларускія краіны ўжо дасяглі значнага экономічнага разьвіцьця, хоць апошняе павінна было прыпыніцца з тае прычыны, што прыпыніўся гандаль з немцамі, а таксама і з баўгарамі. Насельніцтва зьвярнулася да сельскае гаспадаркі і эксплёатацыі тых багацьцяў, якія мела абкружаючая прырода. Перад канцом XIV стагодзьдзя прыватнае зямляўладаньне ў беларускіх краінах ужо значна пашырылася. Уласна Літва зьяўлялася больш адсталай з боку экономічных адносін. Сельская гаспадарка ў Літве—даўнейшага пахаджэньня. Літоўцы, народ арыйскага пахаджэньня, былі знаёмы з земляробствам яшчэ ў эпоху праарыйскай сям'і. Аднак, разьвіналася яно зусім паволі, бо ўласна ў Літве ўмовы прыроды вельмі ня спрыялі разьвіцьцю сельскае гаспадаркі. Літва была краінай, багатай на лес і балоты. Эксплёатацыя малаўрадлівай глебы вымагала вялікіх намагань-

няў і значнага напружаньня фізычных сіл збоку насельніцтва. Аднак, пры ўсім гэтым, у канцы XIV ст. прыватная зямельная ўласнасьць і ў літоўцаў ужо пусьціла пэўныя карані. Літоўскія роды ўжо пасьпелі распасьціся, і родавыя старшыні і старэйшыя сем'яў, якія вылучыліся з роду, здолелі пакінуць у сфэры свайго ўплыву значную колькасьць зямлі. З прычыны слабой заселенасьці тэрыторыі і багацьця вольнае зямельнае і лясное прасторы, насельніцтва магло вольна пашыраць свае гаспадарчыя палі. Разьвіцьцё сельскае гаспадаркі і перавага апошняй па-над іншымі выглядамі народнае гаспадаркі зрабілася зусім ясным у канцы XIV і ў пачатку XV ст. Нязначная сельска-гаспадарчая тэхніка дазваляла толькі экстэнсыўную сельскую гаспадарку. Апошняя вымагала значнае колькасьці вольных зямель. Таму з пачатку XIV ст. насельніцтва і ў літоўскіх, і ў беларускіх землях выяўляе надзвычайную энэргію ў пашырэньні разьмеру свайго земляўладаньня. Окупацыя, захоп колектыўнымі сіламі свае сям'і або аб'яднанымі сіламі сям'і з уключэньнем чужых асоб або спэцыяльна організованымі таварыствамі, зьявілася правам на ўладаньне захопным лесам, зямлёй, сенажацяй, ракой, возерам. Захопленыя зыскоўныя мясцовасьці эксплёатаваліся шляхам фізычнае працы з боку тых асоб або організацый, якія захапілі, гэтую зямлю. Разумеецца, першапачатковая окупацыя ня мела ніякіх пэўных граніц. Пры слабым засяленьні само пытаньне пра граніцы ня мела ніякага значэньня, бо, зпрычыны багацьця вольнай, нікім не занятай зямлі, не маглі выбухаць ніякія пагранічныя спрэчкі. Багацьце на тэрыторыі новаўтворанае дзяржавы лясавых пушчаў, рэчак і вазёр накіроўвала ў вядомым стопні разьвіцьцё народнае гаспадаркі ў пэўны бок. Яшчэ ў канцы XVI в. у падзьвінскіх і падняпроўскіх валасьцёх, абшары вялізнай суцэльнай лясной прасторы, насельніцтва эксплёатавала прыродныя багацьці: лавіла рыбу, палявала на зьвяр'ё, бортнічала. Тыя самыя зьявішчы ў народна-гаспадарчым жыцьці Беларусі можна адзначыць у XV в. ня толькі на ўсходзе тэрыторыі, але і ў заходніх краінах. Літоўска-Беларуская дзяржава, зьвязаная з Заходняй Эўропай даволі старымі гандлёвымі сувязямі, вывозіла ў XV в. на эўропэйскі рынак, галоўным чынам, хутравыя скуры. Попыт на апошнія ў значным стопні азначаў і той характар падатковай політыкі, якой у гэты прамежак часу трымаўся вялікакняскі ўрад. Аднак, промыслы на зьвярыну хутка высільваліся. У заходняй частцы Беларусі ў гэтым кірунку дзейнічалі і ўзмоцненая эксплёатацыя зоолёгічных багацьцяў і колёнізацыя краіны, якая разьвіналася і стварала патрэбнасьць павялічэньня вытворчасьці сельска-гаспадарчых продуктаў для забесьпячэньня харчовых патрэб насельніцтва. Таму ў XV в. ў заходніх краінах сельска-гаспадарчая культура набывае пераважваючае значэньне. Яна разьвінаецца як на землях прыватных уладцаў і дзяржаўных доменах, так і на землях аселага насельніцтва. Усходнія краіны заставаліся старонкай прамысловае гаспадаркі, якая распачала распадацца з канца XVI в.

Дакуманты, якія захаваліся, сьведчаць пра шырока-разьвінутую сельскую гаспадарку ў заходніх валасьцёх. У XV в. гаспадарчая дзейнасьць вялікіх князёў літоўскіх набывае значнае разьвіцьцё. Заходняя Беларусь займаецца вялікакняскімі доменамі, кіраўнікі якіх зьяўляюцца організатарамі гаспадаркі на новых падставах. Роўналежна гаспадарскай ініцыятыве разьвінаецца і дзейнасьць прыватнага земляўладаньня. Зямля робіцца прадметам куплі і продажу, што зьяўляецца лепшым сьведкай павялічэньня значэньня зямельнага капіталу. Заўсёдныя судовыя спрэчкі паміж гаспадарскімі падданымі з-за зямельных, бортных і іншых ужыткоўнасьцяй таксама сьведчыць пра разьвіцьцё сельска-гаспадарчай культуры. Зьвязаная з гаспадарскімі дварамі нявольная чэлядзь складала галоўную працоўную сілу маёнтку. Яе сіламі вялася дваровая сельская гаспадарка. Аднак, у XV в. ўжо зусім ясна адчуваўся недахоп працоўнай сілы. Нязначная па сваёй колькасьці чэлядзь нявольная не магла задаволіць патрэбу ў працоўнай сіле з боку дваровае гаспадаркі. Кіраўнікам гаспадарскіх маёнткаў даводзілася зварачацца за дапамогай да валаснога насельніцтва.

Апошняму давялося цягнуць гаспадарскае цягла—выходзіць на паншчыну, хоць яна яшчэ не магла быць значнай. Тэндэнцыя больш значнай эксплёатацыі сілы цяглага насельніцтва, якая вызначалася, ужо атрымала выразны адбітак у тых шматлікіх гаспадарчых статутах, якія ў гэткай вялікай колькасьці выдаваліся ў XVI в. і якія, як будзе пра гэта падана ніжэй, мелі на сваёй задачы і мэце ўзьняць вытворчасьць і зыскоўнасьць дваровае гаспадаркі шляхам больш інтэнсыўнае эксплёатацыі сілы валаснога насельніцтва. Павіннасьці апошняга, аднак, захоўвалі свой стары натуральна-гаспадарчы характар, які адначасна сьведчыў пра шырокае разьвіцьцё сельска-гаспадарчай культуры. Так званыя натуральныя падаткі, „дзякло і мезьлева“, якія насельніцтва павінна было аддаваць у гаспадарскую скарбніцу, былі падаткамі сельска-гаспадарчага пахаджэньня. Яны плаціліся пэўнай доляй з усяго таго, што ўрадзілася і прыбыло ў кожнай сялянскай гаспадарцы, г. зн. жытам, аўсом, жывёлай. Разьвіцьцё сельскае гаспадаркі выклікала і палепшаньне сельска-гаспадарчае тэхнікі. На гаспадарскіх землях і на землях прыватных уладцаў замацоўваецца піралог, але на землях валаснога насельніцтва, пры наяўнасьці вольнае колёнізацыі і шырока разьвінутай окупацыйнай дзейнасьці насельніцтва, пераважалі больш прымітыўныя формы сельскае гаспадаркі. Цяжка сказаць, у якім стопні разьвівалася другая важная галіна народна-гаспадарчай дзейнасьці насельніцтва—гадоўля жывёлы. У дакумантах гэтае эпохі ўпамінаецца пра каралёвыя стадкі рагатае жывёлы і коняй. Статуты пачатку XVI в. прымаюць пэўныя крокі да больш правільнае гадоўлі жывёлы ў гаспадарскай гаспадарцы. Усё гэта можа зьяўляцца простым довадам таго, што гадоўля жывёлы ня мела пакуль што вытворчага значэньня і што яна задавальняла толькі патрэбы мясцовага характару.

Магчыма, больш значнае разьвіцьцё атрымала гадоўля коняй, перанятая ад стэпнякоў цераз смаленскія землі яшчэ ў эпоху самастойнага існаваньня беларускіх зямель. Новая організацыя вайсковае службы абавязвала зямляўладцаў ісьці на службу з канём. Яна таксама зацьвярджае толькі што выказанае дапушчэньне. На жаль, фактычнае становішча дваровае гадоўлі жывёлы—як гаспадарскае, гэтак і паасобных уладцаў, не падлягае падліку. Але правільнасьць дапушчэньня, што гадоўля жывёлы ня мела вытворчага характару, сьцьвярджаюць, напрыклад, даныя становішча гадоўлі жывёлы ў Траецкім Слуцкім манастыры ў 1494 г., за якім лічылася 7 валоў, 10 кароў, 10 штук іншае „жывацціны", 30 сьвіней, 4 працоўных коняй і стаенны. Дваровыя гаспадаркі прыватных уладцаў гаспадарскія, набываючы характар пăмеснае гаспадаркі мелі ў сваіх доменах пэўную колькасьць служак-рамесьнікаў. У сялянскай гаспадарцы ўсе патрэбныя рамесьніцкія працы выконваліся сіламі аднае сям'і. Уся вытворчасьць сялянскае сям'і ішла на задавальненьне патрэб хатняга характару. У доменах гаспадарскіх і прыватных уладцаў становішча рамяства было крыху іншае. Правільная організацыя гаспадаркі вымагала і рацыянальнага выкарыстаньня ўсіх фізычных сіл насельніцтва. У організацыі працы памесная гаспадарка ўжо мае ў наяўнасьці пэўную дыфэрэнцыяцыю рамесьніцкай працы. У кожным маёнтку ёсьць пэўная група рамесьнікаў, якія сядзяць на дадзеных ім зямельных дзялянках і за іх адбываюць рамесьніцкую службу. Запэўна, праца рамесьнікаў павінна была выключна задавальняць, галоўным чынам, патрэбы гаспадарскага двара. Магчыма, што пры пэўных умовах, працаваць можна было і на бок. Яшчэ ў эпоху так зв. краёвага ладу былі бадзяжныя рамесьнікі, якія, пераходзячы з аднае вёскі ў другую, прапанавалі насельніцтву свае паслугі. Такімі бадзяжнымі рамесьнікамі зьяўляліся манахі Кіева-Пячэрскага манастыра халопы-рамесьнікі „Рускае Праўды". Рамесьнікі ў гаспадарскіх дварох, як правіла, апрача сваёй простай службы, выходзілі на талаку і касілі сена. Пэўныя рамесьнікі, як, напр., цесьлі-дойліды, былі вызвалены ад цяглае службы. У 1514 г. кавалі ў Віленскім і Троцкім паветах часткова былі пасаджаны на землях гаспадарскага двара, часткова былі пасаджаны на асаду з заплатай пэўнае колькасьці пенязяй. Відаць, яны маглі знайсьці патрэбныя для іх сродкі працай на баку. Зусім магчыма, што падобнага роду рамесьнікі хадзілі па валасьцёх і вёсках і прапанавалі сваю працу насельніцтву. Такім чынам, у гаспадарскіх доменах рамяство ў пэўным стопні здолела вызваліцца ад розных цяглых прац на гаспадарскім двары. Праўда, шмат якія рамесьнікі працягвалі адрываць цяглую службу, але важна адзначыць, што тэндэнцыя вызваленьня з апошняе рамесьнікаў ужо вызначалася. Аналёгічныя зьявішчы адбываліся і ў жыцьці літоўска-беларускага гораду. У прывілейных і непрывілейных гарадох жылі рамесьнікі, якія працавалі на мясцовы рынак, але ў той час, калі ў гаспадарскіх доменах і ў доменах прыват-

ных уладцаў рамесьнікі, седзячы на сваёй зямельнай дзялянцы, несьлі сваю рамесьніцкую службу і залежалі з юрыдычна-адміністрацыйнага боку ад свайго кіраўніка-ўладцы—дык у гарадох з Майдэборскім правам вызначалася тэндэнцыя да організацыі рамесьнікаў у корпорацыі і цэхі. Здаецца, раней за ўсё організаваліся ў корпорацыі-цэхі майстры па золату—„злотнікі“. Вялікі князь Аляксандар, сваім лістом ад 23 чэрвеня 1495 г. дазволіў „злотнікам“ організавацъ у Вільні брацтва з мэтай ухіленьня падробак вырабаў з каштоўных мэталяў. Гэтым самым быў дадзены пачатак цэхаваму ладу ў беларускіх прывілейных гарадох, што сьведчыла пра рост гарадзкое рамесьніцкае прамысловасьці. Ува ўсіх гарадох рамесьнікі вылучаюцца ў асобную групу, якая знаходзіцца ў пэўных павіннасных адносінах да дзяржаўцаў і стараст. Гэта дазваляе дапушчаць існаваньне пэўных рамесьніцкіх організацый і ў гарадох, якія не карысталіся самакіраўніцтвам. Цэхавыя-ж організацыі рамесьнікаў разьвінаюцца значна пазьней. Гандаль Беларускіх зямель, і ў новых умовах дзяржаўнага існаваньня працягваў разьвінацца па старых пратоптаных шляхох, рэчнымі дарогамі па Дняпры, Заходняй Дзьвіне і Нёмну. Дняпро злучаў Літоўскую дзяржаву з паўднёвымі гандлёвымі цэнтрамі Крыму і Ўсходу. Вадазборы рэчак Заходняга Бугу, Нёмна і Заходняе Дзьвіны злучалі Літоўска-Беларускую дзяржаву з Заходам і ўцягвалі яе ў кола заходня-эўропэйскіх экономічных адносін. Разьмешчаныя на вялікіх гандлёвых дарогах гарадзкія цэнтры, як Вільня, Горадня, Коўна, Бярэсьце, павінны былі зрабіцца значнымі гандлёвымі цэнтрамі. Павялічэньнем экономічнага значэньня гарадоў у мэтах далейшага пашырэньня гандлёвай дзейнасьці апошніх, тлумачыцца атрыманьне гарадамі шырокага самакіраўніцтва ў выглядзе так званага Майдэборскага права, дзякуючы гэтаму група беларускіх гарадоў ня толькі экономічна, але і юрыдычна вылучылася з валасьцяй. Спачатку Майдэборскае права атрымалі гарады, якія знаходзіліся ў вадазборы Нёмна і Заходняга Бугу: Вільня і Трокі ў 1387 г.; Бярэсьце ў 1390 г.; Коўна і Горадня ў 1391 г., Полацак і Менск і шэраг іншых гарадоў атрымалі Майдэборскае права ў канцы XV в., у 1499 г. Усё гэта сьведчыць пра пашырэньне раёнаў гандлю. Аднак, да паражэньня нямецкага ордэну (1410), які асеўся ў вусьці Нёмна і Заходняе Дзьвіны, разьвіцьцё гандлёвых зносін спатыкала ня мала істотных перашкод. Торунская згода 1411 г. і ў далейшым пераход да палякаў вусьця Віслы таксама па Торунскай згодзе (1466 г.) адчынілі для літоўска-беларускага гандлю шырокія пэрспэктывы і магчымасьці. Роўналежна заходняму гандлю, Літоўска-Беларуская дзяржава падтрымоўвала гандлёвыя сувязі і з Ноўгарадзкай рэспублікай, што адчыняла магчымасьць гандлю з нямецкімі гандлярамі. Гэтыя экономічныя сувязі з Ноўгарадам прымушалі ўрад імкнуцца да таго, каб трымаць Ноўгарад у сфэры свайго палітычнага ўплыву. Літоўска-Беларуская дзяржава, галоўным

чынам, вывозіла на Захад продукты здабывальнай прамысловасьці: футровыя скуры, воск, мёд, часткова, дрэва. Рост заходня-эўропэйскага гандлю ў XV веку не выклікае ніякага сумніву, але агульны характар народнае гаспадаркі застаецца ранейшым. Гандаль не закранаў шырокіх мас насельніцтва і не зьмяніў агульнага характару народнае гаспадаркі, якая засталася, як і даўней, натуральнай. Замежны гандаль пераважна знаходзіўся ў руках вялікага князя. Віленскія купцы і купцы іншых гарадоў фактычна зьяўляліся прыказчыкамі князя, якія вялі гандлёвыя опэрацыі. Дзякуючы гандлю, у Літоўска-Беларускай зямлі пачалі зьбірацца мэталёвыя грошы. Толькі наяўнасьцю апошніх можна вытлумачыць увод грашовага падатку „сярэбшчыны", выключна на вайсковыя патрэбы. Павялічэньне колькасьці мэталёвых грошай у XV і пачатку XVI веку вызначыла і кірунак унутраное гандлёвае політыкі ўраду ў выглядзе аддаваньня ў арэнду водкупаў, прычым разьмеры арэнднае платы, якая павялічвалася, сьведчыць, што звароты ўнутранога гандлю расьлі. Вось некалькі даных, якія сьведчаць пра арэнды мытніц. Так, Луцкая мытніца была аддадзена ў 1487 г. на тры гады ў арэнду па 1521 шырокія грошы ў год. Берасьцейская мытніца, разам з суседнімі Падляскімі, была здадзена ў арэнду ў тым самым годзе на тры гады па 110 коп. грошай на год. Ковенская і Менская мытніца былі здадзены ў 1489 г. по 205 грошай на год. Прыбыткі ад Смаленскае мытніцы на працягу 1495—1498 г. г. азначаліся па 250 коп грошай на год. Усё гэта сьведчыць пра тое, што ў краіне зьявілася пэўная колькасьць мэталёвых грошай. Пры наяўнасьці ў краіне шэрагу буйных гарадзкіх цэнтраў, якія займаліся рамесьніцкай вытворчасьцю і гандлем, вясковыя мясцовасьці з боку экономічнага былі шчыльна зьвязаны з сваімі мясцовымі гарадзкімі рынкамі. Патрэбнасьць плаціць сярэбшчыну прымушала насельніцтва вывозіць на продаж прадметы чужаземнага экспорту, у якіх ня мела патрэбы ўласная гаспадарка, і якія, дзякуючы дастатку на зоолёгічныя і прыродныя багацьці, лёгка здабываліся ў краіне. На рынку прадаваліся продукты і сельскае гаспадаркі, патрэбныя для задавальненьня спажывецкіх патрэб уласна гарадзкога насельніцтва. Так паступова паўставаў і пашыраўся нутраны рынак мясцовага значэньня, дзякуючы якому вёска і горад шчыльна зьвязваліся адно з адным. Паказьнікам разьвіцьця нутранога гандлю можа зьяўляцца таксама організацыя новых таргоў і кірмашаў ня толькі ў маёнтках гаспадарскіх, але таксама і ў маёнтках прыватных уладцаў, пераважна на вялікіх гандлёвых дарогах. Урад, даючы дазвол, заўсёды абумоўліваў яго тым, што новыя таргі і кірмашы ня будуць служыць „ку шкодзе" гаспадарскіх таргоў. Так паступова ламаліся першабытныя экономічныя адносіны, і, з прычыны ўзьнікненьня рынкаў сьцісла мясцовага значэньня, насельніцтва Літвы і Беларусі паволі, але сыстэматычна ўцягвалася ў зварот гандлёвае гаспадаркі. На жаль, стопень яго ўцягненьня, на падставе існуючых матэрыялаў, высьветліць не ўдаецца.

Утварэньне Вялікага Княства Літоўскага зрабіла прадстаўніка дынастычнай княскай улады ўласьнікам усяе тэрыторыі Вялікага Княства. Калі ў склад Вялікага Княства ўваходзілі новыя землі, дык сувэрэнітэт вялікага князя пашыраўся юрыдычна і на новыя землі. Фактычна-ж зямельны сувэрэнітэт вялікага князя значна скарачаўся, бо на тэрыторыі Літоўска-Беларускае дзяржавы меўся шэраг уладаньняў, якія асобы, што трымалі іх, лічылі за сваю ўласнасьць, як вялікі князь літоўскі лічыў за яе іншыя свае землі. Прызнаючы над сабою вышэйшы сувэрэнітэт вялікага князя, буйныя зямляўладцы, патомкі ўдзельных князёў і прадстаўнікі шэрагу буйных літоўскіх фамілій лічылі сябе за ўласьнікаў сваіх зямель, уладаючы імі „з поўным правам і панствам“. Гэтыя вялізныя княжацкія і панскія ўладаньні ўяўлялі з сябе цэлы фэўдальны сьвет. Ідучы на вайну з сваімі поштамі, буйныя паны зьяўляліся начальнікамі свайго войска, што лішні раз паказвала на сьляды фэўдальнага быту. Самая наяўнасьць буйных фэўдальных уладаньняў сьведчыла аб слабым разьвіцьці народнае гаспадаркі, якая ў такім выпадку не магла дапамагаць ліквідаваньню такіх фэўдальных гнёзд. Найбольш магутнымі зьяўляліся літоўскія паны. Яны давалі найбольшую колькасьць войска. Так, Кэзгайлы давалі 768 коняй, Радзівілы—621, Астанковічы—337, Гаштольды—466, Астроскія—427, Хадкевічы—198 і г. д. Уласна беларускія фэўдалы былі куды бядней і іх палітычная вага была куды менш. Княскія і панскія маёнткі былі вольныя ад розных натуральных павіннасьцяй, апрача замковай, дарожнай, мастовай, а часамі і падводнай.

Барацьба вялікіх князёў літоўскіх з патомкамі Гэдымінавічаў і Рурыкавічаў, а таксама з літоўскімі панамі, прымушала іх шукаць апоры ў якой-небудзь іншай грамадзянскай групе. Патрэбнасьць павялічаць вайсковыя сілы краіны для абароны дзяржавы дзейнічала ў тым самым кірунку. Такой групай зьявіліся дробныя зямляўладцы, якія трымалі свае землі пад вялікім князем. Маючы замеры стварыць новыя кадры вайсковае сілы, якая выключна залежала-б ад вялікага князя, вялікія літоўскія князі шырака раздавалі свае землі асобным пэрсонам з абавязкам несьці вайсковую службу. Асобы, якія трымалі такія маёнткі, браліся з розных грамадзянскіх груп, не выключаючы і вясковага насельніцтва. Такія ўладаньні мелі вельмі даўнейшае пахаджэньне, але з часаў Вітаўта аддаваньне зямель робіцца асабліва значным. Тыя землі, якімі ўладалі баяры з даўнейшых часаў, у моц прывілей з канца XIV веку, зрабіліся іх поўнай уласнасьцю з правам рабіць асобныя грамадзянскія ўмовы і перадаваць зямлю блізкім і далёкім сваяком, пры ўмове спаўненьня вайсковае службы. Толькі ў тым выпадку, калі ня было наступнікаў, дык тады землі абвяшчаліся вымарачнымі і спадалі гаспадару. Землі, якія аддаваліся вялікім князем літоўскім на часовае ўладаньне, называліся „памесьцямі, данінамі, дзяржаньнем, выслугай, жалаваньнем“. Гэтыя маёнткі спачатку аддаваліся неазначана „да волі і ласкі гаспадарскай“, але

пры такой няпэўнасьці ўладаньня правільнае выкарыстаньне гаспадарчага дабра было немагчыма. Таму маёнткі пачалі аддавацца на ўсё жыцьцё, да „жывата“, а часамі да двух і трох „жыватоў“, г. зн. з правам перадаваць сваім дзецям і ўнукам. Часамі такія маёнткі даваліся на пажыненьне або на хлебакармленьне. Гэта быў старажытны тып уладаньня, які цягнуўся да тых часаў, покуль асоба, якая атрымала зямлю для задавальненьня сваіх патрэб, не атрымае трывалага матэрыяльнага забесьпячэньня. Аддаваньне маёнткаў не выключала аддаваньня зямлі і на вечнасць. Часамі тыя, што трымалі маёнткі, зварачаліся да гаспадара з просьбаю, каб зьмяніў іх умоўнае карыстаньне на вечнае. Такія просьбы часамі задавальняліся, калі былі ў наяўнасьці ўмовы, якія апраўдвалі-б распачатае хадайніцтва. Наяўнасьць, з аднаго боку, зямель з правам поўнае ўласнасьці, а, з другога—зямель умоўнага ўладаньня бяз права распараджацца, выклікала нарэшце ўтварэньне асаблівага фэўдальнага землеўладаньня, уладцы якім былі абавязаны адбываць вайсковую службу, з правам пераходу даных зямель выключна толькі к наступнікам мускога патомства. З гэтай мэтаю ў Літоўскім Статуце 1529 г. ёсьць цэлы шэраг артыкулаў, якія скарачаюць жаночае ўладаньне. Таму, калі землі аддаваліся на ленным праве, дык падкрэсьлівалася права перадачы толькі па мускай лініі. Памесная сыстэма зьяўляецца продуктам таго гаспадарчага ладу, які ўмацаваўся ў Літоўска-Беларускай дзяржаве. Маючы вялізны зямельны фонд і, адначасна, ня маючы ніякіх грашовых рэсурсаў, урад павінен быў зьвярнуцца да свайго зямельнага фонду і выкарыстаць яго для сваіх вайсковых і палітычных патрэб. Калі зямля аддавалася на пэўных умовах ува ўладаньне, дык той, хто трымаў яе, атрымоўваў пры гэтым гаспадарскі ліст, які, з аднаго боку, зьяўляўся дакумантам, а з другога—вызначаў і ўмовы гэтага ўладаньня. З тае прычыны, што маёнткі павінны былі зьяўляцца матэрыяльнай забясьпекай асоб, якія абавязаны несьці вайсковую службу, дык, разам з зямлёю і іншымі сельска-гаспадарчымі ўжыткоўнасьцямі, аддавалася і насельніцтва гэтых зямель. Гэта скарачала кадры дзяржаўнага сялянства. Стварылася новае сялянства, сялянства прыватных уладцаў, якое юрыдычна ад яго залежала і было зьвязана з ім пэўнымі экономічнымі адносінамі ў выглядзе платы натуральных падаткаў і цяглавай працай. Гэтыя экономічна-юрыдычныя адносіны зьявіліся асновай тае асабовае паншчыны на сялян, якая ўжо фактычна ўсталявалася ў XV в. і зьявілася асновай паншчыннага права, як асаблівае сыстэмы організацыі гаспадаркі, бо без эксплёатацыі таго насельніцтва, якое жыло на аддадзенай зямлі, немагчыма было-б спаўняць вайсковую службу. Усе, хто трымаў гаспадарскія маёнткі, былі абавязаны спаўняць вайсковую службу. Ад апошняе ніхто не звальняецца. Калі той, хто трымаў зямлю, ня мог з розных прычын выйсьці, дык ён павінен быў, замест сябе, выставіць заступніка. Калі вайсковаабавязаная зямля пераходзіла ў другія рукі, дык новыя ўладцы бралі на сябе і абавязак

спаўненьня вайсковае службы. Няспраўная вайсковая служба, або проста неспаўненьне яе цягнула за сабою адбіраньне аддадзенае зямлі. Калі вялікі князь сваё вышэйшае права над пэўнай групай зямель перадаваў князём і паном, пад уладу якіх аддаваліся такія землі, дык уладцы, якія трымалі гаспадарскую зямлю, спаўнялі новаму ўладцу тую самую службу, якую яны несьлі вялікаму князю. У выпадку-ж нежаданьня спаўняць службу новаму ўладцу, незадаволеныя асобы маглі пайсьці, узяўшы з сабою сваю нярухомую маемасьць. І буйныя зямляўладцы рабілі таксама, як рабіў вялікі князь, аддаючы свае землі асобным слугам, таксама з умоваю спаўняць вайсковую службу. Спачатку тыя, што трымалі зямлю, у Літоўска-Беларускай дзяржаве, былі абавязаны спаўняць шэраг натуральных павіннасьцяй на карысьць вялікага князя, але прывілеі XV в. звольнілі прыватных уладцаў ад розных павіннасьцяй і падаткаў на карысьць вялікага князя, за выключэньнем толькі павіннасьці маставое, замкавае і дарожнае. Аднак, часамі, у маёнтках, якія аддаваліся пазьней, асобы, што трымалі іх, былі абавязаны спаўняць і іншыя павіннасьці, як, напр.: падводная, стацыйная, вартоўная, а часамі і талаку на гаспадарскіх палетках і сенажацях. У канцы XV і першай чвэрці XVI в. сярэдняе і дробнае шляхецкае зямляўладаньне атрымала ўжо значнае разьвіцьцё. Шляхта адчула сябе нагэтулькі моцнай, што распачала праяўляць сябе палітычна, падлічаючы сваё экономічнае і палітычнае значэньне. Разьвіцьцё народнае гаспадаркі стварыла ў Літоўска-Беларускай дзяржаве асаблівы тып так званага застаўнога зямляўладаньня. Разьвіцьцё народнае гаспадаркі высоўвала на першы плян патрэбнасьць шырокае мобілізацыі зямельных уладаньняў, а тымчасам у літоўскім зямельным праве, якое поўна адбілася ў Літоўскім Статуце 1529 г., існаваў шэраг абмежаваньняў адносна распараджэньня зямлёю. Права, якое існавала, дазваляла толькі адчужэньне аднае трэцяе часткі зямельнага ўладаньня. А тымчасам, уладцам апошняга часта патрэбны былі грошы для розных службова-гаспадарчых патрэб. У такім выпадку зямля аддавалася ў заставу на пэўны тэрмін або бястэрмінова да выкупу. Часамі ўладца, які прадаў зямельны надзел па нормах звычайнага права, частку свайго надзелу, які заставаўся, аддаваў у заставу. Невыкананьне ўладцам зямлі ўмоў заставы пазбывала яго права на ўладаньне застаўною зямлёй. Але паколькі трыманьне зямлі было трыманьнем сямейным, пастолькі сваякі захоўвалі за сабою права выкупу застаўнога ўладаньня, і толькі ў выпадку пропуску вызначанага для выкупу тэрміну, застаўное ўладаньне заставалася ў руках крэдытора, які пры гэтым браў на сябе спаўненьне ўсіх тых павіннасьцяй, якія лічыліся за зямлёю. Зразумела, калі ўладаньне застаўлялася, дык насельніцтва апошняга абавязана было спаўняць усе павіннасьці і службы, як даўней. Асоба, якая ўзяла зямлю ў заставу, ня мела права павялічаць павіннасьці таго насельніцтва, якое жыло на землях застаўнога ўладаньня. Зразумела, у жыцьці гэтыя формальныя абавязкі

неаднокраць парушаліся, і насельніцтва ўсьцяж эксплёатавалася, ня гледзячы на даўнейшы звычай. Застаўное ўладаньне мела яшчэ тую перавагу, што на яго не пашыралася так званая земская даўнасьць, у моц якой асоба, што ўладала зямлёю бесьперапынку 10 год, зьяўлялася ўласьнікам яе. Роўналежна разьвіцьцю шляхецкага зямляўладаньня, княскага і панскага, разьвіналася і царкоўнае зямляўладаньне. Ужо ў эпоху самастойнага існаваньня краін, царкоўныя ўстановы ўладалі даволі значнымі комплексамі зямель. У эпоху Літоўска-Беларускае дзяржавы, царкоўныя ўладаньні павялічваюцца, прычым землі даруюцца цэрквам, біскупскім катэдрам і манастыром абаіх вызнаньняў. Буйныя царкоўныя маёнткі ўяўлялі з сябе асабістыя духоўныя і фэўдальныя ўладаньні. У пачатку XV ст., калі на Літве ўкаранілася каталіцтва, царкоўныя землі звальняліся ад усіх павіннасьцяй. Пасьля Флёрэнтыйскай вуніі 1439 г. гэтыя льготы былі пашыраны і на праваслаўных зямляўладцаў. Аднак, такі шырокі імунітэт царкоўных маёнткаў даваў дзяржаве вялікую страту і выклікаў незадавальненьне з боку шляхецкага стану. Таму, у далейшым, ад вайсковае службы ня былі зволены тыя маёнткі, якія аддаваліся царкве або шляхам падарунку зноў гаспадаром, або шляхам запісу прыватных зямляўладцаў. Статут 1525 г. занатаваў, як агульныя правілы, каб земскія маёнткі, запісаныя на царкву, спаўнялі вайсковую службу. З разьвіцьцём колёнізацыі на Беларусі стваралася і зямляўладаньне вясковага насельніцтва, прычым апошняе ў далейшым, з прычыны разьвіцьця памеснае сыстэмы, падзяляецца на дзьве групы: на дзяржаўнае і прыватных уладцаў. Па характары сваіх павіннасьцяй і па зямельным забесьпячэньні, вясковае насельніцтва адрозьнівалася значнай стракатасьцю свайго складу. Адны сяляне належалі да так званага вышэйшага разраду вясковага насельніцтва, а другія складалі так званы ніжэйшы разрад, прычым пераход з аднае групы ў другую быў вельмі лёгкі. Для гэгага патрэбна было толькі аднабочнае распараджэньне адміністрацыйнае ўлады. Апрача таго, у гаспадарскіх і прыватных уладцаў гаспадарках знаходзілася пэўная колькасьць чэлядзі нявольнай. Гэта дыфэрэнцыяцыя вясковага насельніцтва зьяўляецца вынікам разьвіцьця сельскае гаспадаркі як у гаспадарскіх, так і ў прыватных уладцаў маёнтках. Вясковае насельніцтва, незалежна ад сваіх павіннасьцяй гаспадару, жыло на дзялянках рознай велічыні. Гэтыя дзялянкі складаліся гістарычна і зьяўляліся вынікам колёнізацыйнай і окупацыйнай дзейнасьці насельніцтва. Вясковыя зямельныя ўладаньні зьяўляліся сямейна-таварыскім уладаньнем, і ў розных частках тэрыторыі Літоўска-Беларускае дзяржавы яны атрымалі і розныя назвы, а іменна: дворышча, печышча, службы, жарэб'я. Калі асноваю сялянскага зямляўладаньня спачатку была сямейная окупацыя, дык у далейшым сямейная окупацыя адступае на другі плян перад організацыямі больш складанымі. Члены такое організацыі складаліся або з пэўнага ліку асоб, зьвязаных сямейным сваяцтвам, з уключэньнем чужых асоб, якія аб'ядналіся ў пэўны колек-

тыў для распрацоўкі захопленае зямлі. Члены такіх штучных колектываў называюцца ў адносінах адзін да аднаго „сябрамі“, „дольнікамі“, „удзельнікамі“, „брацьцяй нядзеленай“, „суседамі“, „патужнікамі“, „таварышамі“. Гэта сяброўскае зямляўладаньне на тэрыторыі Беларусі шырака распаўсюдзілася і захавалася да паловы XVI ст., калі экономічныя мерапрыемствы ўраду прывялі да рашучай ліквідацыі апошняга. Гэтыя сялянскія зямельныя дзялянкі, з разьвіцьцём вялікакняскай улады і ўзмацненьнем фінансавага прымусовага апарату княскай адміністрацыі, трапялі і ў пэўныя павіннасна-падданыя адносіны. Разьвіцьцё сельскае гаспадаркі ў гаспадарскіх дварох у значным стопні выклікала спэцыялізацыю павіннасьцяй асобных зямельных трыманьняў. Вялікакняская адміністрацыя была зацікаўлена ў тым, каб павіннасьці, якія належаць насельніцтву з тых, хто трымаў зямельныя дзялянкі, у свой час ішлі на дваровы скарб. Для вялікакняскай адміністрацыі было зусім усё роўна, хто трымае зямлю. Для яе толькі было важна, каб зямля не ялавела, каб з яе спаўнялася вайсковая служба. Таму, калі ў XV в. сялянскія землі перадаваліся ў рукі іншых асоб, дык такога роду перадача нічуць не закранала інтарэсаў дваровае гаспадаркі і звычайна адбывалася з дазволу адміністрацыі. У гэтым акце нельга бачыць права сялян на вольны продаж сваіх уладаньняў. Апошні дазваляўся толькі са згоды вышэйшае ўлады, што сьведчыла, што дадзеная ўмова ня можа быць стратнай для дзяржавы. Пераход зямлі з адных рук у другія ў межах толькі адных сялян ні ў якім разе не зьяўляецца зацьвярджэньнем права вольнага распараджэньня з боку вясковага насельніцтва сваімі вотчынамі. Адміністрацыя, дазваляючы тэй або іншай асобе ўзяць ува ўладаньне або заставу якую хаця сялянскую дзялянку гэтым самым сьцьвярджала, што вышэйадзначаная ўмова ня будзе стратнай для дзяржавы, а таксама падкрэсьлівала формальнае права дзяржавы і на сялянскія землі. Толькі ў другой палавіне XVI в. княская адміністрацыя ў судовых процэсах падкрэсьлівала адсутнасьць у сялян права распараджацца сваімі землямі, бо, па сэнсу судовых прыгавораў адміністрацыі, вясковае насельніцтва зьяўляецца толькі ўладцам сваёй зямлі, а ўласьнікам лічыцца толькі дзяржава. Такая палітыка належыць да эпохі новых аграрных адносін, калі ўсе зямельныя дзялянкі падлічаліся і аддаваліся асобным пэрсонам княскай адміністрацыі на тых умовах, якія былі вызначаны статутам аб валоках. Заходнія краіны зьяўляліся тэрыторыямі гаспадарак гаспадарскіх і прыватных уладцаў. Да гаспадарскіх двароў цягнула пэўная група зямель, на якіх жыло валаснае насельніцтва.

Гаспадарскія двары былі асяродкамі сельска-гаспадарчай культуры. Звычайна пры гаспадарскіх дварох знаходзілася нязначнае ў пачатку веку ворнае поле, якое к канцу XV в. і пачатку XVI в. праяўляла тэндэнцыю да павялічэньня. Гаспадарскія двары ўяўлялі з сябе тэрыторыю, у склад якой уваходзілі: ворнае поле, гароды, сенажаці, дваровы лес, землі з дваровымі будовамі. За дваром жыло насельніцтва валасьцей, якое

знаходзілася ў пэўных юрыдычна-экономічных адносінах да гаспадарскіх двароў. Гаспадарскія гаспадаркі былі тыповымі для эпохі паместнае гарадзкое гаспадаркі. Гэта было злучэньне буйнага зямляўладаньня з дробнай гаспадаркай: звычайная форма разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў эпоху фэўдальнага ладу. Прыбыткі дваровае гаспадаркі атрымоўваліся ня столькі ад самастойнае эксплёатацыі тых або іншых прыбытковых галін, сколькі ад пэўных натуральных падаткаў насельніцтва. Пры такіх умовах урад ня быў зацікаўлены ў тым, якавы былі разьмеры сялянскага зямляўладаньня. Ён клапаціўся толькі пра тое, каб падаткі і павіннасьці з зямельных дзялянак аддаваліся ў скарб упоўне ў свой час. Дваровая гаспадарка ў XV і першай чвэрці XVI в. з тэхнічнага боку была слабай. Пануючай сыстэмай земляробства зьяўляўся пералог. Рост насельніцтва і павялічэньне ёмістасьці рынку выклікалі зьяўленьне і пашырэньне трохпольнае сыстэмы зямляўладаньня. Раней за ўсё апошняе зьяўляецца на Падлясьсі і заходніх частках Літоўска-Беларускае дзяржавы. Аднак, да XV в. трохпалёўка зьяўляецца не агульным правілам, а выключэньнем.

Першапачатковая дваровая гаспадарка абслугоўвалася сіламі аднае толькі нявольнае чэлядзі, але далейшае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі і пашырэньне ўласнага заворваньня стваралі патрэбнасьць павялічэньня колькасьці тае рабочае сілы, якую можна-б было выкарыстаць для патрэб гаспадарскага двара. Гэта тэндэнцыя выклікала тое, што пэўная частка валаснога насельніцтва была абавязана несьці на гаспадарскім двары цяглую службу: выходзіць на паншчыну з сваім інвэнтаром для апрацоўкі ворнага поля або для жніва. Такія людзі называліся цяглымі людзьмі. Зразумела, паншчына спачатку не магла быць цяжкой. Цяглыя людзі не зьяўляліся самастойнай рабочай сілай, але былі толькі дадатковым рабочым матэрыялам да асноўнае рабочае сілы—чэлядзі нявольнай. Таму цяглае насельніцтва было абавязана плаціць гаспадарскаму двару шэраг натуральных павіннасьцяй, сярод якіх так званыя „дзякло і мезьлева“ займаюць першае месца. Імкненьне павялічаць лік рабочае сілы прымушала дзяржаўцаў патрабаваць, каб баярская насельнасьць несла цяглую службу. Каб ня стаць цяглымі, баяры былі прымушаны спэцыяльна клапаціцца аб тым, каб іх звольнілі ад службы.

З прычыны няўнасьці спэцыяльных прыбытковых галін у сельскай гаспадарцы, даводзілася ствараць групу сялян, якія несьлі спэцыяльныя службы і спаўнялі спэцыяльныя павіннасьці, апрача таго, і задавальнялі-б рамесьніцкія патрэбы дваровае гаспадаркі. А сяляне, якія заставаліся, садзіліся на аброк, на асаду. Іх павіннасьці складаліся з платы пэўнага аброку, а таксама з абавязку разам з людзьмі спэцыяльных службаў выходзіць на талаку. Такая дыфэрэнцыяцыя ў колах сялянскага насельніцтва гаспадарскіх домінаў заходніх валасьцей выключна тлумачыцца пэўным стопнем у разьвіцьці сельскае гаспадаркі. Аброчнае сялянства асабліва пашырылася на землях Жмудзі і на Палесьсі, дзе сялянскія сем'і сядзелі на валоках—пэўных пляцах зямлі (19-20 дзесяцін) і плацілі пэўны аброк.

Што тычыцца ўсходніх валасьцей у вадазборы Дняпра і Заходняе Дзьвіны, дзе гаспадарскія двары мелі нязначнае пашырэньне, дзе сельскагаспадарчая культура пакуль не атрымала свайго разьвіцьця, дзе пераважвала прамысловая гаспадарка, дзе насельніцтва было мала, дык там адносіны сялян да ўраду складаліся з таго, што яны плацілі ў скарб дань натураю: мёдам, бабрамі, куніцамі, вявёркамі, пшаніцай, жытам або грашмі. Часамі ў некаторых месцах сяляне-даньнікі былі абавязаны спаўняць на гаспадара і іншыя павіннасьці: лавіць невадам рыбу, прывозіць сена на гаспадарскі двор там, дзе былі гаспадарскія двары. У вапошнім выпадку даньнікі выходзілі і на талаку. Сяляне Падняпроўскіх і Падзьвінскіх валасьцей, якія знаходзіліся, з гаспадарчых меркаваньняў, далёка ад зроку вялікакняскай адміністрацыі, уяўлялі з сябе, з боку адміністрацыйнага, групу асобных пасяленьняў, якія былі злучаны адзінствам спаўненьня павіннасьці. Такія комплексы пасяленьняў называліся валасьцямі, насельніцтва якіх абірала з свайго кола асаблівых пасадных асоб—старцаў, якія бралі на сябе ўсе зносіны з адміністрацыяй, апошняя-ж, у сваю чаргу, зварачалася да старцаў у выпадку, калі яна жадала перадаць валасному насельніцтву адміністрацыйнае распараджэньне. Гэта валасное самакіраўніцтва зьяўляецца лішнім паказьнікам адсталасьці экономічнага разьвіцьця на ўсходніх валасьцях. Спачатку рабочая сіла маёнткаў прыватных уладцаў складалася з людзей нявольных і людзей вольных. У далейшым людзі вольныя паступова зьнікаюць і зьмяняюцца ў людзей паншчынных. Чэлядзь нявольная зьяўляецца і на землях прыватных уладцаў гаспадарчай сілай таго самага значэньня і таго самага парадку. Зьяўляючыся об'ектам права, яна няמела ніякае грамадзянскае праваздольнасьці і дзеяздольнасьці. Але літоўска-беларускае права, зафіксаванае ў Статуце 1529 г., крыху скараціла крыніцы паншчыны. Гэта скарачэньне зьявілася лепшым паказьнікам нявыгоднасьці нявольніцтва з гаспадарчага пункту зроку. Прыватныя ўладцы, як і гаспадар, павінны былі абслугоўваць патрэбы свае сельскае гаспадаркі рабочай сілай таго насельніцтва, якое жыло на няўласных землях. Паместнае зямляўладаньне аддавала ў рукі прыватнага зямляўладцы і тое рабочае насельніцтва, якое жыло на гэтых землях. Прывілей 2-га мая 1447 г. аддаваў сялян прыватных уладцаў пад выключную юрысдыкцыю памешчыка. Першапачаткова ўсе сяляне, якія жылі на землях прыватных уладцаў, былі вольнымі людзьмі, г. зн. мелі права вольнага выхаду з свае зямельнаед зялянкі. Такія людзі называліся людзьмі перахожымі. Аднак, ужо ў XV в. зьяўляецца група так званых неперахожых людзей, людзей, якія страцілі права выхаду і фактычна зрабіліся паншчыннымі тае асобы, на зямлі якое яны жылі. Гэта асабовая паншына паўстала з агульнага характару тых экономічных адносін, якія ствараліся паміж зямляўладцам і яго сялянствам. Апошняе супроць свае волі рабілася яго запазычнікам і тым самым трапляла ў асабовую ад яго залежнасьць. Новыя ўмовы ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі, пераход ад

падсечнае гаспадаркі да пералогу стваралі новыя абставіны для сялян· якім цяжка было кінуць сваю гаспадарку і асесьціся дзе-небудзь на новых месцах. Сяляне ўсьцяж затрымоўваліся на адным месцы. Гэта выклікалася часамі немагчымасьцю пайсьці ад свайго зямляўладцы, з меркаваньняў экономічнага характару. На гэтай глебе паўставала так званая земская даўнасьць, „заседласьць“, якая зьмяняла вольнага чалавека ў нявольнага і рабіла апошняга паншчынным да свайго зямляўладцы. Такія нявольныя людзі называліся „вотчычамі“. Статут 1529 г. вымагае, каб вотчычы, якія зьбеглі ад свайго ўладцы да другога, або якія пражылі на зямлі апошняга 10 год, зварачаліся назад, да свайго памешчыка. Вочавідкі, звычайнае права адзначыла працягласьць земскае даўнасьці ў 10 год. Такі процэс паступовага разьвіцьця паншчыннага права зьяўляецца ўпоўне аналёгічным процэсу разьвіцьця паншчыннага права ў суседняй Маскоўскай дзяржаве. У далейшым, умовы разьвіцьця сельскае гаспадаркі выклікалі пільную патрэбнасьць у стварэньні заўсёднае паншчыннае рабочае сілы пры маёнтку. Гэтыя экономічныя ўмовы павінны былі дапамагаць і якаснаму і колькаснаму росту паншчыннага права на Літоўска-Беларускіх землях. У гісторыі разьвіцьця народнае гаспадаркі Беларусі жыдоўскі капітал меў вялізнае значэньне. Жыдоўскія колёністыя, якія зьявіліся ў вадазборы Нёмна ў канцы XIV ст., прышоўшы з Польшчы, зьявіліся агэнтамі па гандлі з Захадам. Жыдоўства мела сувязі з апошнім і фактычна ўвесь замежны гандаль знаходзіўся ў руках жыдоўскага капіталу. Пакуль жыдоўскі капітал дапамагаў разьвіцьцю замежнага гандлю і ўзмоцніваў прыбыткі скарбу, пастолькі Літоўска-Беларускі ўрад абараняў жыдоўскія організацыі, даючы ім шырокае права самакіраўніцтва. З разьвіцьцём замежнага гандлю і правядзеньнем урадам нутраной і замежнай мытнай політыкі, урад звычайна здаваў свае мытніцы ў арэнду. З аднаго боку, урад забясьпечваў сябе тым, што атрымоўваў пэўную суму грошай, бяз клопату аб тым, як гэта сума зьбіралася. З другога боку, арэнда мытніц павінна была даваць дзяржаве пэўную страту, бо арандатар, з свайго боку, таксама хацеў атрымаць пэўны прыбытак на свой капітал. Часамі арэнда была значна вышэй, чымся сапраўдная плата на мытніцы. У такім выпатку арандатары або адмаўляліся ад арэнды, або прасілі, каб паменшылі арэнду, якая для іх нясе страту. Звычайна, арандатарамі вялікакняскіх мытніц зьяўляліся жыды, як група насельніцтва, якая, з прычыны разьвіцьця гандлю, здолела сабраць у свае рукі грашовыя лішкі, якія яна спрабавала выкарыстаць найбольш продукцыйным для сябе спосабам.

Награмаджэньне гандлёвага капіталу адбывалася і сярод купцоў хрысьціянскага вызнаньня. Гэта адчыняла магчымасьць і для апошніх браць у арэнду мытніцы і каморы. Апрача таго, віленскія мяшчане частку сваіх капіталаў паклалі на зямлю. Пэўная частка віленскіх купцоў выступае ў крыніцах, як зямляўладцы, якія абавязаны, разам з іншымі зямляўладцамі, спаўняць вайсковую службу.

Абагулім. Разьвіцьцё вытворчых сіл краіны ў эпоху гарадзкое гаспадаркі стварыла шэраг умоў і адносін, зусім незнаёмых папярэдняй эпосе першабытнае гаспадаркі. Прыцяканьне чужаземных грошай і выстарчаючая колькасьць іх на ўнутраным рынку таньніла грашовы капітал і давала пачатак пераводу асобных натуральных павіннасьцяй на грашовыя. Разьвіцьцё сельскае гаспадаркі і паступовае ўцягваньне яе ў кругазварот заходня-эўропэйскага гандлю былі крыніцай імкненьня да пашырэньня як плошчы дваровага заворваньня, так і атрыманьня больш павялічаных натуральных падаткаў. Новыя ўмовы ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі стварылі і новыя бытавыя абставіны і для вясковага насельніцтва. Памесная гаспадарка, якую абслугоўвала рабочая сіла маёнткаў паволі, але няўхільна, ставіла вясковае насельніцтва ў экономічную і юрыдычную ад сябе залежнасьць. Памесная гаспадарка пачала абслугоўвацца на землях прыватных уладцаў ня вольнай рабочай сілай, а паншчынай, бо вольныя людзі, у моц об'ектыўных умоў, трапляючы ў экономічную залежнасьць ад свайго памешчыка, пражывалі на яго зямлі земскую даўнасьць і тым самым гублялі сваё права выхаду і пасяленьня на іншых землях. Аднак, з прычыны адноснае слабасьці разьвіцьця сельскае гаспадаркі, павіннасныя і паншчынныя адносіны ў XV в. і ў пачатку XVI в. яшчэ былі адносна лёгкімі. Атрыманьне зямельнае рэнты землеўладцамі шляхам павялічэньня паншчыны мае адносіны да больш позьніх эпох гандлёвага капіталу і прадпрыемчывае паншчыннае гаспадаркі.

# МУЗЫКА Ў ТВОРАХ БЕЛАРУСКІХ ПОЭТАЎ.

**Ю. Дрэйзін**

*Якуб Колас*

І поэзія Я. Коласа, як і Я. Купалы, выразна адзначаецца каханьнем музыкі—песьні, і ў яго думка зьліваецца з песьняй і вынікаюць думкі-песьні, думкі-сьпевы (Водгульле. Старыя дубы). Розныя пачуцьці ўзрушаюць сэрца поэты і выклікаюць у яго музычныя настроі, адбіваюцца музычна:

А радасьць пачуеш, надзеі ўзаўюцца,
Каб добрыя весткі падаць,
Няхай тагды струны твае засьмяюцца
І песьняю шчасьця гучаць.

(Водгульле).

Трэба сказаць, што Я. Колас у сваёй лірыцы распрацоўвае меншы лік мотываў, чымся Я. Купала. І паміж гэтых матываў на першым месцы наогул і на першым месцы па сувязі з музыкаю стаяць мотывы прыроды. У распрацоўцы гэтых мотываў Я. Колас стаіць на аднэй вышыні з Я. Купалаю. Зьявішчы прыроды знаходзяць свой водгук у сэрцы поэты, і гэты водгук—музычны:

Зварот пары, зьніканьне лета...
То—водгульле душы поэты,
То—смутны вобраз разьвітаньня,
То—струн дрыгучых заміраньне,
Натхненай песьні жаль сардэчны...

(Новая Зямля. XIV).

І ўся прырода напоўнена гукамі, гукамі музыкі, і бор для поэты ня просты бор, а бор-музыка (Н. З., XXIV), і вецер ня проста пачынае шумець, а падымае сьпевы (Сымон Музыка, ч. І). Кожная пара году—пара асобнае музыкі. І як бясконца прыгожа малюе Я. Колас свае малюнкі прыроды ў кожную пару года! Вось прышла вясна. Усё зьмянілася, усё радуецца адраджэньню жыцьця: і лес вясёлы, і дуб сьмяецца, а прыслухайся к жыцьцю прыроды і ты ўчуеш песьню.

І вось у дзень адзін прыўдалы
Загаманілі перавалы.
І гоман, сьпеў і шум усюды,
Як-бы ў цымбалікі і ў дуды

Згралі тысячы музыкаў,
Бы іх на баль тут хто заклікаў.
Ідзе вясна з цудоўнай лірай;
На звон яе зьляцеўся вырай,
І жыцьцё ўсюды вынікае,
І пташка песьню зачынае.

(Н. З., XXII).

І аджыўшая прырода сьпявае, сьпявае ня толькі аб радасьці жыцьця, але й аб волі, аб свабодзе. Гэтыя песьні прыроды дзеюць неадхільна на сэрца поэты, які бачыць у прыродзе жывую істоту і вядзе з ёю гутарку.

Ох, нашто ты, ночка,
Так прыгожа-міла?
Колькі ў сэрцы думак
Ты мне абудзіла!
Ой, нашто пра волю
Голас твой сьпявае,
Калі маё сэрца
Волечкі ня мае?

(Водгульле. Веснавая ноч).

І чым далей ідзе час, і вясна пераходзіць у лета, тым больш узмацняюцца песьні прыроды. Яны чутны адусюль, з усіх бакоў.

Сьпевам дружным, ціхім звонам
Поўніцца ўвесь луг...

(Водгульле. На лузе).

І пяе лес, і пяе кожнае дрэва, пяе стары дуб, бо ў яго шуме чутны сьпевы—музыка. Аб чым ён пяе? Невядома, аб гэтым ведаюць толькі вольныя ветры, з якімі дуб вядзе сталую гутарку. Але поэта ня толькі чуе сьпевы-музыку старога дуба, але й разумее яе, адчувае яе і сэрцам сваім адклікаецца на гэтую музыку:

Я падслухаю
Гэты шум лістоў,
А з іх гутаркі
Песьня зложыцца.

(Водгульле. Дуб).

І кветка з кветкай сьпявае (Сымон Музыка), і вецер улетку пяе песьні, а ў зіму жаласна плача (там-жа, ч. I). Як прыгожа малюе Я. Колас музыку прыроды ў палескай пушчы ў поэме „Сымон Музыка“:

А як пушча загуляе,
Зашуміць ды запяе!
Вось дзе музыка—паслухаць...
Але пушча больш маўчыць,
Ды ня ўсякім носам зьнюхаць,

Што ў нутрох яе ляжыць...
Ня быў ты ў вялікім лесе:
Войдзеш—сьвята ўсё у ім,
А ўгары, зялёнай стрэсе,
Цягне сьпевам маладым.
Ї заўваж, мой хлопча-колас:
Дрэва кожнае ў бары
Мае свой асобны голас,
А зацягнуць угары—
Сьпеў выходзіць самавіты.
Эгэ-ж, хлопчыку мой, так,
Лес гаворыць, а скажы ты,—
Не паверыць аніяк.

Вось і лета прашло, падыходзіць восень. Сьціхаюць песьні лета, заціхае гай, сьпеў яго пахован, і гай маўчыць і аб чымсь быццам марыць. Змоўкла песьня лета, а на яе месцы пачынае гучэць песьня восені. Смутная гэтая песьня, гэта песьня пахаваньня, гэтаю песьняй шуміць вецер у лісьцю. Чутна новая мова—мова ападаньня, новая песьня—песьня нуднага зьмярканьня (Водгульле. Восень у гаі). Ї гэтыя нудныя песьні зьмярканьня і ападаньня чутны і ў дзень і ў ночы:

Восень песьні пела з рана,
Восень пела ў вечары.
(Сымон Музыка).

Калі-ж сьледам за восеньню прыходзіць зіма, тады песьні прыроды робяцца яшчэ сумнейшымі. Але поэта любіць гэты смутак, гэты сум песень прыроды.

Люблю я ветру сьпеў гаротны...
(Водгульле. Песьні зімы).

Ён зжыўся з гэтаю прыродаю, ён яе частка, сярод яе ён радзіўся і ўзрос. Ї смутныя, гаротныя песьні зімы, родныя яго сэрцу, яны выклікаюць успамінак мілых яму дзянькоў (Водгульле. Песьні зімы).

Так для Я. Коласа прырода вечна пяе і ня спыняе свайго пяяньня ні на момант. Нават у ціхую ноч, калі ўсюды пануе цішыня, не гамоніць лес, ня шуміць вецер, заснулі птушкі,—нават і тады прырода пяе, бо і цішыня мае свой голас, сваю музыку (як і ў Я. Купалы), і існуе нейкае злучэньне, супольнасьць паміж гукам пяруноў і нямою цішай:

Ды ніхто ня знаў тых струнаў,
Патайных ніцей душы,
Што злучаюць гук пярунаў
З немым голасам цішы,
Бо і ў тэй цішы зацятай
Ёсьць і голас і свой твар,
Рознастайны і багаты,
Поўны музыкі і чар.

Калі-б я хацеў з боку такіх музычных адносін да прыроды, з боку такога музычнага адбіцьця прыроды ў сэрцы і думках чалавека параўнаць Я. Коласа з якім-колечы з композытараў я-б параўнаў яго з Францам Шубэртам, у якога прырода таксама злучалася з музыкай, і кожны вобраз прыроды знаходзіў сваё музычнае адбіцьцё. Так Шубэрт і ўтварыў свае нязьлічоныя песьні. І хочацца сказаць, што музыка песень Шубэрта ня болей поэтычная і чулая, чымся музыка вершаў Коласа аб прыродзе.

Быт-жыцьцё мужыка-беларуса знашлі таксама ў Я. Коласе свайго выдатнага мастака! Тут на першым месцы трэба, зразумела, паставіць поэму „Новая Зямля“. Але пры рысаваньні гэтага жыцьця Колас ужывае музыку, музычныя параўнаньні ня так часта, як пры рысаваньні прыроды. Калі поэта ўспамінае свае дзіцячыя гады, успамінае лясы свайго дзяцінства, яму на памяць прыходзяць найперш за ўсё тыя песьні дзяўчат, якія гучэлі ў тых лясох:

> І бачу лес я каля хаты,
> Дзе калісь весела дзяўчаты
> Сьпявалі песьні дружным хорам,
> З работ ідучы позна борам.
> Нясьліся зыкі песень здольных,
> Ў лясох раз-по-раз адбівалісь,
> Ім ўзгоркі ўсюды адклікалісь,
> І чулась радасьць ў песьнях вольных.
>
> (Новая Зямля, ч. I).

Трэба заўважыць, хаця я гэтаю ўвагаю некалькі і адхілююся ад свае тэмы, што поэма „Новая Зямля“ ня можа быць названа нацыянальнаю беларускаю поэмою наогул. Ёсьць у ёй беспадобная жывая беларуская мова, ёсьць прыгожа зробленыя малюнкі жыцьця і заняткаў беларуса-мужыка, вельмі добра абрысаваны адносіны паміж мужыкамі (у даным выпадку лясьнікамі) і панамі, але няма тых настрояў, тых імкненьняў, якім і абхоплена значная часьціна беларускіх сялян і рабочых, асабліва ў апошнія гады. Гэрой поэмы бачыць адзіны сродак да выхаду з свайго цяжкага становішча, гэта—набыцьцё свайго ўласнага кавалку зямлі, які дасьць яму незалежнасьць ад пана. Яму і ў галаву ня прыходзяць думкі аб соцыяльнай няпраўдзе самога інстытуту ўласнасьці, і ён злыя вынікі гэтага інстытуту хоча лячыць тэю-ж уласнасьцю. Вось чаму, з гэтага боку „Новая Зямля“, калі і ёсьць нацыянальная поэма, дык поэма нядаўнага мінулага, але не цяперашняга часу. Зразумела, гэта не зьмяншае ніякім чынам яе чыста літаратурнага характва, яе літаратурнага значэньня ў беларускай літаратуры, яе нацыянальнага значэньня з іншых бакоў, паказаных вышэй (мова, малюнкі жыцьця, беларуская прырода і г. д.). Клясавая прыналежнасьць поэты, аднак, адбілася ў яго бязумоўна прыгожым творы. Зьвернемся да тэмы.

Калі Я. Колас малюе жыцьцё беларуса-селяніна, ён заўважвае, што працу сваю селянін саправаджае песьняю:

Над жытамі песьні льлюцца,
Толькі сонца ўстане.

(Водгульле. На полі).

Якая-ж гэта песьня, і якім голасам пяе яе беларус-земляроб? Шчыры сын сваёй нацыянальнасьці, з аднаго боку, і поэта, кахаючы музыку і адчуваючы музыку—з другога, Я. Колас (як і Я. Купала) добра разумее беларускую песьню, яе сумны характар.—„Многа смутку ў песьні жніва“,— і пяе гэтую песьню голас, хаця гучны і пявучы, але й поўны тугі і нуды (Водгульле. Песьня жніва). Адкуль узяўся гэты смутак у беларускай песьні? І гэта добра разумее Колас: ён узяўся ад долі нешчасьлівай, ад журбы бедных ніў, ад палёў няплодных. Вось што абвіло песьню горам, вось аб чым пяе поўны тугі і нуды голас, коціцца мяжою, адбіваецца паміж гор, вырываецца ў неба дробнаю сьлязой і замірае (Водгульле. Песьня жніва).

У часы перадрэволюцыйныя Колас заклікаў свой народ да працы, да змаганьня за лепшую будучыню, за новае жыцьцё і новую песьню. Горка скардзіўся ён на тое, што прыгнечаныя цяжарам паднявольнага жыцьця і бязупыннай цяжкай працы беларусы (сяляне) пакінулі сваю вольную песьню:

Адсьпявана песьня, бясьсьледна прапала,
Бо хлеба скарынка язык завязала.

(Водгульле. Покліч).

І ўсюды запанавала песьня смутку, песьня пакуты. Але так не павінна быць вечна. І поэта заклікаў:

Змоўкні ты, сьціхні, песьня пакуты,
Заварушыся, наш край!
Люд беларускі! Рві свае путы!
Новую песьню сьпявай!

Калі Я. Колас мала ўжывае музыку пры апрацоўцы мотываў бытужыцьця і мотываў рэволюцыйных (апошнія мотывы апрацоўваюцца ў яго наогул непараўнальна менш, чымся ў Я. Купалы), затое ёсьць у яго твор, які магчыма было-бы назваць „музыка аб музыцы“. Гэта некалькі раз ужо цытаваная вышэй поэма „Сымон Музыка“[1]). І гэтая поэма з боку паглядаў аўтара на экономічныя, грамадзкія і політычныя адносіны ня можа быць названа нацыянальнаю поэмаю цяперашняга часу, як і „Новая Зямля“, бо аднэй нагою стаіць яна ўжо ў мінулым. Але сапраўды, гэтая поэма ёсьць музыка і, апрача зьместу, зварочвае на сябе ўвагу яе знадворная музычнасьць, музычнасьць яе формы, стылю. Колас знашоў

[1]) Поэма „Сымон Музыка“ разгледжваецца тут у яе апошняй пераапрацованай рэдакцыі.

адпаведную вопратку дзеля музычнага цела, адпаведнае цела дзеля музычнай душы. Галоўны мотыў поэмы „Сымон Музыка“ ўжо апрацоўваўся ў іншых літаратурах. Магчыма адзначыць такія творы, як „Слепой музыкант“ Караленкі ў расійскай „Janko-muzykant“ у польскай літаратуры. Колас яшчэ раз узяўся за гэтую справу і ўтварыў сапраўды прыгожую рэч. Каб апрацаваць мотыў музычнага разьвіцьця чалавека, уздольненага надзвычайным музычным талентам, неабходны дзьве ўмовы: трэба моцна і шчыра любіць музыку і быць тонкім і глыбокім псыхолёгам. Відавочна, Я. Колас уладае абедзьвюма гэтымі ўмовамі. Пры разглядзе поэмы „Сымон-Музыка“ мы застановімся на дзьвюх тэмах,—на тым, якую моц мае музыка, якое ўражаньне яна можа рабіць на чалавека, і на музычным разьвіцьці Сымона, бо толькі гэтыя тэмы могуць нас цікавіць у даным выпадку. Але раней спынімся на другой тэме.

Калі Сымонка быў зусім яшчэ маленькім хлопчыкам, на яго рабілі вялікае ўражаньне гукі званоў. Зразумела, захопліваў яго чыста і выключна музычны бок гэтых гукаў. Але з гэтага боку яны былі для яго ўжо ня звычайныя гукі. Ён чуў у іх нейкую таемную музыку, нейкую таемную музычную мову, чуў у іх монотоннай аднастайнасьці нейкае засмучэньне. Гукі гэтыя будзілі лясы, якія адклікаліся да іх сваім гоманам. Аб чым бомкалі гэтыя званы там, угары? Хлопчык ня мог уцяміць гэтага, але ўсім сваім сэрцам, усёю істотаю і ён адклікаўся да іх. Чуў ён у сабе музыку гэтых гукаў, адклікаліся, гаманілі ўсе струны яго сэрца, увесь ён дрыжаў і сам, здаецца, паляцеў-бы ў сьлед гукам. Моцна ўзрушаўся хлопчык, слухаючы і ловячы ў захапленьні музыку званоў, бо сваім чуткім і жывым сэрцам ён чуў у гэтай музыцы штосьці такое, што жыло ў ім самым. Такія былі першыя праявы музычнай уздольненасьці ў Сымонкі.

А потым Сымонку давялося чуць ігру дудароў. Гэта была першая праўдзівая музыка, якую Сымонка чуў у сваім жыцьці. Яна зрабіла на яго аграмаднае ўражаньне. Яму здавалася, што для яго пачынаецца новае жыцьцё, што дагэтуль ён быў толькі дурное дзіцятка, што ён ня жыў, а толькі блукаў, што толькі цяпер пазнаў ён тое, да чаго раней так імкнуўся, чаго так шукаў. І зноў у гэтай ігры дудароў ён чуў тыя зачарованыя сьпевы, што пелі ў яго ўласным сэрцы.

А потым дзед падарыў яму скрыпку. Тут зноў перад вачыма Сымонкі адкрыўся новы сьвет. О, гэта была нязвычайная скрыпка. Здавалася, што ў ёй сядзеў хтосьці жывы, што яна „многа-сьпеўна, звонна-гібка“ гутарыла аб чымсь, выказвала словы.

Так паступова вядзе Колас свайго гэроя ў яго музычным разьвіцьці. А гукі й зыкі хлопчык чуў з усіх бакоў, чуў як даносяцца да яго „зыкі смутку, песьні волі“. З усіх бакоў нясласе музыка прыроды, і ў гэтай музыцы было шмат смутку і шмат поэзыі. Перад сваёй улюбёнай Гануляй адкрывае Сымон сваё сэрца.

І ні разачку, ніколі
Ты ня чула, як жыва,
Галасоў начных у полі,
Ці як шэпчацца трава?
Як у лесе дрэва з дрэвам
Ціха-важна загудзе,
І як жыта шумам-сьпевам
Мову-песьню павядзе?
Ось, прыслухайся, Ганулям
Ды навокала ты глянь...

Смутак чуў музыка ў музыцы прыроды і адгукаўся да яго смуткам у сваёй музыцы. Ён неахвотна граў кадрылі, „кавалі“. Сымонка—Орфэй, але Орфэй беларускі. У яго музыцы плакала ўсё гора мужыка-бедака, у яго музыцы чуліся „жаль, уціскі, крыўда“, і

...пакутаю зямлі
Аддаваўся сьпеў гаротны,
Сьлёзы жаласьці цяклі.

Колас у сваёй поэме датыкаецца да самых тонкіх струн у глыбіні глыбінь чалавечае сьвядомасьці, а можа быць і падсьвядомасьці, якія выклікнулі гэтую поэму з сэрца поэты, бо часам хочацца сказаць, што поэму „Сымон-музыка“ Я. Колас напісаў не сваёю рукой, але сваім сэрцам.

Калі дзед аддаваў Сымонку скрыпку, ён казаў яму:

З скрыпкай збудзеш сваё гора,
З ёю ты ўжо не адзін.

І сапраўды, скрыпка стала яго другам, яго другою істотаю, скрыпцы ён аддаваў усю сваю душу. У другой частцы поэмы аўтар апавядае аб сьне Сымонкі, у якім ён бачыў свайго прыяцеля-дзеда—тады ўжо нябожчыка. А потым Сымонка прачнуўся, успомніў свой сон і хапіўся за сваю скрыпку:

Ён наладзіў скрыпку жыва;
Чуць крануўся струн смычок,
Звонкіх зыкаў пералівы,
Поўняць лес, маладнячок.
Сьвет забыў цяпер Сымонка,
Скрыпцы душу ўсю аддаў,
І пашла—пашла гамонка,—
Лес сьмяяўся і рыдаў.
А скрыпіца галасіла
Смутнай восені дажджом,
Адчувалася ў ёй сіла,
Што лілася ручаём.

Але ня толькі сам Сымонка так захопліваўся сваёю ўласнаю музыкаю. Яна захоплівала і слухачоў. Поэта неаднакратна малюе сілу ўра-

жаньня, якую музыка Сымона рабіла на прысутных. І зразумела, у гэтых малюнках трэба бачыць ня толькі сілу Сымонавай музыкі, але сілу музыкі наогул. У гэтых малюнках выяўляюцца пагляды Я. Коласа на тую моц, з якою музыка можа дзеяць на сэрца чалавека. Перад рознымі людзьмі, людзьмі рознага пахаджэньня, соцыяльнага стану і выхаваньня, іграў Сымон-музыка. Але музыка ёсьць такое мастацтва, якое дзее бадай што аднолькава на ўсіх. Вось грае ён перад простымі сялянамі (у хаце бацькоў Ганны):

Змоўклі ў хаце ўсе да званьня,
Зачароўваў ён усіх,
Толькі зрэдка бяз пытаньня
Сам сабою чуўся ўздых.
Галаву рукой апёршы,
Гаспадар прысеў за стол,
Нярухомы, бы абмёршы,
Апусьціўшы вочы ў дол.
Гаспадыня, як стаяла,
І застыла так, маўчыць,
Бы яе штось прыкавала,
На твары сьляза блішчала.
А струна гучыць, гучыць...

А вось Сымон іграе ў лесе перад панамі і лясьнікамі. І два процілеглыя соцыяльныя станы злучыліся ў адным пачуцьці, абоіх аднолькава захапіла сіла музыкі:

І стаялі нярухліва
І паны, і лясьнікі;
Вусы пан спусьціў маўкліва,
Іх пакусваў канчукі.

А вось Сымон іграе перад вучонымі музыкамі, сярод якіх першае месца займае сам капэльмайстар, пан Галыга. Дагэтуль вучоныя музыкі, між імі і Галыга, рабілі ўсялякія кпіны над Сымонам. Але, як толькі ён зайграў:

Адгукнуліся пакоі,
Падхапілі гожы зык,
Спалі жартаў тых настроі,
Прыкусілі ўсе язык...
Пан Галыга зьбіты з тропу,
І ня верыць ён вушам,
Ён вачэй ня зводзіць з „хлопа“,
Чарам тым паддаўся сам.

А калі музыка мае такую моц, дык яна павінна мець і вялікае соцыяльнае значэньне. Калі розныя пачуцьці маюць уплыў на музыку, нават выклікаюць музыку (асабліва песьню) з сэрца чалавека, дык і наадварот.

і музыка выклікае адпаведныя пачуцьці. Сярод смутку і сьлёз рэальнага жыцьця музыка можа даць людзям пацеху, сярод холаду жыцьця музыка можа абгарнуць людзей цяплом. І поэта ўкладае ў галаву і сэрца Сымона-музыкі такія думкі і мары:

Павандруе ў сьвет з скрыпуляй,
Песьні будзе ён складаць,
Ён людзей дабром атуліць,
Каб палёгку людзям даць.

Такі Я. Колас у адносінах да музыкі ў сваёй поэзіі. Гэтыя адносіны ёсьць шчырае каханьне музыкі, разуменьне яе сілы і соцыяльнага значэньня. І ў гэтым Я. Колас зьяўляецца ўжо сапраўдным нацыянальным беларускім поэтам. І калі-б я хацеў адным ці двума словамі адзначыць адносіны Я. Коласа да музыкі ў яго поэзіі, я назваў-бы яго *поэта музыкі*.

## Цішка Гартны.

Поэзія зусім іншага характару і іншых настрояў (у параўнаньні з поэзіяй Я. Коласа) абхоплівае нас, калі мы зварочваемся да Цішкі Гартнага. Цішка Гартны пролетары і пясьняр пролетарыяту. У яго поэзіі адбіліся ўсе думы, жаданьні, імкненьні, настроі пролетарыяту, і пролетарыяту прамысловага пераважна. Два мотывы пануюць ў яго поэзіі: апофэоз працы і экономічная і соцыяльная перабудова сусьветнага чалавечага грамадзянства. Не дарэмна адзіны зборнік яго вершаў, вышаўшы дагэтуль, носіць загаловак „Песьні працы і змаганьня“, змаганьня, зразумела, за гэтую перабудову грамадзянства. Ц. Гартны—шчыры прадстаўнік тае клясы, якая ўжо зрабіла пачатак гэтае перабудовы на абшары 1|6 частцы земнае кулі і на якую гісторыяю ўзложана заданьне зрабіць гэтую перабудову і на астатніх 5|6 частках.

Праца, поўная падлегласьць чалавеку сіл прыроды, дасягнутая гэтаю працаю,—вось сэнс жыцьця чалавечага. Праца й перабудуе гэтае жыцьцё:

Працаю сілы прыроды
К людзям у слугі ідуць,
З ёю-ж у сьвеце народы
Лепшае долі прыждуць.

(Касьба).

Пролетарскі поэта мае тую спэцыфічную сьвядомасьць, якою адзначаецца пролетарыят, сьвядомасьць гістарычнае ролі і значэньня пролетарыяту. Вялікая Кастрычнікавая рэволюцыя для яго, як творцы гэтае рэволюцыі, акт поўны сьвядомасьці, маючы дакладна адзначаныя мэты і спосабы дзеяньня. Гэтыя мэты—перабудова чалавечага грамадзянства і жыцьця, пабудова новага грамадзянства і жыцьця. Гэта—другі з паказаных вышэй мотываў поэзіі Ц. Гартнага:

Будуйце, майстрове, будуйце хутчэй
Вы гэтую новую хатку,
Цярпліва кладзеце фундамант у ёй.
Хоць цяжка бывае спачатку,
Аднак ня сумуйце і ўсе грамадой,
*Пры песьні зычлівай, вясёлай,*
Майструйце паважна сьцяну за сьцяной...

(Новая хатка).

Апрача сьвядомасьці бачым мы ў Ц. Гартнага і таксама спэцыфічную пролетарскую бадзёрасьць, упэўненасьць у сьветлай будучыні, ня гледзячы на цяжкія ўмовы жыцьця пры капіталістычным строі. Адчуваецца гэтая бадзёрасьць у прыведзеных вышэй вершах, адчуваецца яна ўва ўсёй поэзіі Ц. Гартнага ад першага вершу да апошняга. Пролетары бадзёры, бо ён любіць працу і верыць у яе:

Я гарбар малады,
Я вясёлы ўсягды—
Як працую—пяю...
І працую ад сіл,
Бо труд вельмі мне міл,
А за працай пяю.

Як-жа адносіцца да музыкі Ц. Гартны, якую ролю іграе яна ў яго поэзіі? Адносіцца да музыкі Ц. Гартны так, як можа адносіцца пролетары. Трэба заўважыць, што дзеля разьвіцьця бадай што ўсіх мастацтваў, а асабліва такіх, як музыка, поэзыя, малярства, бязумоўна неабходна цесная сувязь з прыродаю. Найвялікшыя мастакі ў галіне музыкі, поэзыі, малярства бывалі заўсёды фанатычнымі аматарамі прыроды. У якія-ж адносіны да прыроды пастаўлен быў пролетарыят дагэтуль? Ён быў адарваны ад яе, кінуты дзеля кавалка хлеба на цяжкую бязупынную працу ў аграмадных каменных скрынях, званых фабрыкамі і заводамі, сярод грукату машын і цяжкога паветру. Ох, цяжкая гэта праца пролетара, часамі ён як быццам губіць сваю пролетарскую бадзёрасьць, і не да музыкі яму:

Гэй, не глядзі на нічога,
Вока нічым не блазнуй!
Тут твая сходзіць дарога,
Стой-жа, браток, і працуй...
Дня хоць ня бачыш і ночы,
Плечы хай корчыць, шчыміць,
Пот залівае хай вочы,—
Трэба рабіць і рабіць.

Музыка ў Ц. Гартнага іграе меншую ролю, чымся ў Я. Купалы і Я. Коласа. Але ўсё-ж такі музыка ёсьць музыка, харавство, найсоцыяль-

нейшае з мастацтваў. І пролетары ня можа забыцца на музыку, ня можа ня любіць яе. І Ц. Гартны шчыра любіць яе і ня мала ўжывае яе ў сваёй поэзіі. Ужо адно тое характэрна, што адзіны яго зборнік вершаў называецца „*Песьні* (працы і змаганьня)“. Ц. Гартны адчувае значэньне і моц музыкі, бо адчувае яе соцыяльную сілу. У вершы „Поэта, маці і муза“ поэта марыць аб тым, як сваімі натхненнымі вершамі ён дасьць пацеху тым, якія нясуць пакуту, кіне ў сьвет надзею на лепшую будучыню, на шчасьце—

Каб пад зеленьню сьвежага саду
*Песьняў зыкі* й на міг ня сьціхалі,

У песьні поэта адбівае і свой смутак, і свае надзеі. Мала таго, песьню ён ставіць побач з вераю і надзеяю і натхненна кажа:

Маёй песьні далі тоны
Мукаў стогны,
Што заўсёды пры рабоце
У смуродзе ды ў духоце
Вылівала маё сэрца.

———

Мая песьня, мая вера
І мая надзея,—
З вамі йду я ў тыя дзьверы
Поўным ходам,
Дзе ліхтарня міргацее
Прад Свабодай.

(П. пр. і зм. Стар. 63-64).

Адчувае Ц. Гартны і музыку прыроды і сваю пролетарскую бадзёрасьць пераносіць у гэтую музыку, бо чуе ў ёй ня смутак, не жальбу, але покліч да волі, да шчасьця. Чуе ён, як вецер ня шуміць, але пяе, і кажа:

Люб мне ветра посьпеў люты—
Песьні вольнай вызваленьня...

(Бунт).

І цёмны бор у яго ўжо ня шуміць, а пяе, і зноў гэтая музыка прыроды злучаецца ў поэты-пролетара з імкненьнем да дасягненьня гістарычнае мэты пролетарыяту,—перабудовы чалавечага грамадзянства:

Я хацеў-бы пяяць,
Як пяе
Цёмны бор непагодаю,
Каб вакол абуджаць
Зыкам песьні свае,
Хто ня кінуў шчэ спаць
Пад нядоляй-нягодаю.

(П. пр. і зм. Стар. 63).

У гэтай музыцы прыроды поэта чуе і „пявучую музыку ночы“ (Трэскі на хвалях. Байструк. Стар. 28) і музыку раніцы. І тады поэта дзеля гэтай музыкі прыроды знаходзіць адпаведную праўдзіва музычную слоўную форму. Вось музыка раніцы:

Над гаем зьвіс чырвоны полаг
І ўбраў адзеньнем надзвычайным
Абшары вольныя вакола.
Падняўся сьпеў і гоман раньні
На ўзвышшы дрэў, ў кустох, у жыце.

А далей што? Якія пачуцьці выклікае ў сэрцы поэты гэтая музыка раніцы? Якія думкі ўзьнікаюць у яго пад уплывам гэтай музыкі? Ну разумеецца, моцны, поўны бадзёрасьці кліч:

Устаньце, йдзеце!
Пранёсься зоў трубы галоснай
Да хат панурых вёсак сьпячых—
І рух гарачы,
Й водгук моцны,
Людзей устаўшых
Й гоман ўзьняўшых
З пяяньнем птушак шчыльна зьліўся.

Гэтую сваю бадзёрасьць Ц. Гартны пераносіць на ўсё, аб чым ён альбо пяе, альбо апавядае. Адчуваецца гэтая бадзёрасьць і ў яго вершах і апавяданьнях аб сялянах. Мы ведаем ужо (ды й факт гэты агульнавядомы), што беларуская народная песьня, г. ё. песьня, утвораная беларускім сялянствам,—песьня пераважна смутная, сумная. Але відавочна струны сэрца Ц. Гартнага адгукаюцца толькі на зыкі і гукі вясёлыя, бадзёрыя, і ён як быццам ня чуе гэтай сумнай беларускай песьні, а чуе толькі песьню вясёлую, прынамсі аб вясёлай песьні толькі й кажа. У романе „Сокі цаліны“ Гартны апавядае як „па ўсём палетку, куды яна ні глядзела (Зося *Ю. Д.*), відны былі людзі, якія то аралі, то баранавалі, то зьбіралі каменьні па нівах. З усіх бакоў даносіліся *вясёлыя* напевы родных вясковых песень“... (Сокі цаліны. Стар. 17). А вось іншы малюнак: „Панавала дзіўная сьціш. І вось, сярод гэтай сьцішы лунялі пявучыя мэлёдыі беларускай *вясёлай* песьні. Стройным хорам мяккіх галасоў выходзілі яе зыкі з набалелых спрацаваных грудзей бадзёрае рэзьвячае моладзі“... (Сокі цаліны. Стар. 62). Сваё замілаваньне да працы Гартны пераносіць і на сялян і пяе аб гэтым зусім у іншых тонах, чымся, напрыклад, Я. Купала альбо Я. Колас:

Гэй, разыдзецеся рукі,
Косы так востра бяруць,
Цела ня ведае мукі,
Ногі спачыну ня ждуць!
(П. пр. і зм. Касьба. Стар. 19).

Нічога дзіўнага, што і песьні тут будуць вясёлыя:

Я-ж вясёлая ўсё жну,
Жну ды падпяваю.

(П. пр. і зм. Песьня жняі. Стар. 18) [1]).

Вясёла пяюць жнейкі, вясёла пяюць і касцы:

Песьнямі спорáць работу,
Бабы і хлопцы пяюць.
Поўны працоўнай ахвоты
Сэрцы іх радыя б'юць.
Зыкі вясёлыя клёпу
Песьняй срабрыстай зьвіняць...

(П. пр. і зм. Касьба. Стар. 19).

І ў іншым вершы:

Касец сьпявае за работаю
Напевы зычныя, ваёўныя...

(П. пр. і зм. За працаю. Стар. 24) [2]).

Вельмі рэдка поэта траціць сваю звычайную бадзёрасьць, і з яго вуснаў вырываюцца такія вершы, якія былі прыведзены ўжо вышэй (Песьні гарбара. III. Стар 9-10). Непараўнальна часьцей, бадай што заўсёды, як ужо гаворана было, чуюцца тоны бадзёрыя. Выключэньнем зьяўляюцца такія вершы, як:

Сагнуўшыся я ля варстата стаю—
Скуру ўвесь дзень без прастанку я гну,
Я скуру ўсё гну,
Нядолю кляну—
І песьню пяю.

(П. пр. і зм. Песьні гарбара. II. Стар. 9).

---

[1]) Цікава параўнаць з гэтым такія вершы Я. Купалы, як, напрыклад, „Жнеям" (Шл. жыцьця):

Ходзяць хмары па небе
З нейкай дзіўнай трывогай;
Чутна жнейніна песьня,
Нуды ў песьні тэй многа.
Хто зьлічыў тыя каплі,
Што нам неба прыносе?
Хто прыслухаўся, людзі,
Аб чым жнейка галосе?

[2]) Параўн. вершы Я. Купалы „Касцом" (Шл. ж.):

Пот льлецца цурком —абмахні рукавом
Дый касой замахай весялей,
І з упаўшай грудзі песьню сьлёз завядзі,
Песьню родную долі сваей...
і г. д.

Ton, qui fait la musique даюць у яго такія вершы, як:

Дружна, з ахвотай,
Гэй, за работу,
Брацьця, скарэй!
З песьняю зычнай
Ў працы прывычнай
Будзе спарней.

(П. пр і зм. Стар. 39).

У гэтым замілаваньні да працы поэта адчувае музыку самой працы, альбо дакладней—музыку арудзьдзяў, прылад працы. Чаляды ў ткачыхі ня толькі скрыпяць, але й „песьню граюць“ (П. пр. і зм. Ткачыха. Стар. 17), і „песьню грае“ начыньне ў гарбара (П. пр. і зм. Гарбар на вандроўцы. Стар. 14).

І ў распрацоўцы другога галоўнага мотыву сваёй поэзіі, змаганьні за сьветлую будучыню, за перабудову чалавечага грамадзянства, Ц. Гартны ўжывае музыку. Тут пануюць ужо выключна бадзёрыя настроі, і музыка (песьня) будзе, зразумела, толькі бадзёрая. Цяжкая праца гарбара, цяжкая яго доля, але—

Не здавайся гарбар,
Ты за працай сваей
І на шчасьця прыход
Не заплюшчвай вачэй!
*Песьню вольную пей*
У дыму. ў духаце,
І надзея твая
Няхай кветкай цьвіце.

(П пр. і зм. Песьні гарбара. V. Стар. 11).

Пасьля доўгага пэрыоду паступовага ўзмацненьня змаганьне дашло да свайго кульмінацыйнага пункту, і выбухла вялікая рэволюцыя. Працоўныя масы вышлі на вуліцу. Вось ідзе дэмонстрацыя:

*Пяюць* і, здэцца, *ў песьню душы*
*Яны ад радасьці ўкладаюць,*
Клапоты буднічныя глушаць,
Чуцьцё прыватнае зганяюць.

(П пр. і зм. Дэмонстрацыя. Стар. 93).

Мы ўсе ведаем, якую аграмадную ролю ў гэтым кульмінацыйным пункце змаганьня адыграла наша Чырвоная армія. Ей поэта прысьвячае асобны верш, у якім не забываецца і на музыку (песьню):

Прамя-ж льецца
Пазалотой
З небнай высі.
*Й песень тоны*
Й сьцяг чырвоны
Ў ім зьліліся!



(П. пр. і зм. Чырвонаармейцы. Стар. 73).

Так ужывае музыку Ц. Гартны ў сваёй поэзіі. Ён не поэта-музыка, абыйсьціся без яе ня мог, бо музыка занадта прыгожае і моцнае мастацтва, каб поэта мог забыцца на яго. Іншыя бакі ў поэзіі Гартнага больш цікавыя. Калі-б, я захацеў двума-трыма словамі характарызаваць Ц. Гартнага, як поэту (як раней Я. Коласа), я-б назваў яго па яго зборніку: *поэта працы і змаганьня*, але з дадаткам яшчэ аднаго слова: *поэта працы, змаганьня і бадзёрасьці*. Гэта—поэта вялікае бадзёрае сучаснасьці.

**Зьмітрок Бядуля.**

Поэзія З. Бядулі ўся прасякнута гарачым, натхненным замілаваньнем да музыкі. Мотывы яго лірыкі вельмі рознастайныя і ўсе бадай што бяз выключэньня выклікаюць ужываньне музыкі, адбіваюцца ў ёй, распрацоўваюцца з дапамогаю яе. Сэрца поэты як быццам перапоўнена музыкай-песьняй, ён ня можа яе стрымаць у сабе, і яна мімаволі вырываецца з яго грудзей:

Сьпеў мой, быццам бура,
Голас выдае:
То вясёла сьвішча,
То з жальбой пяе...
Плывуць мае песьні
Па лугох, лясох.
Не магу стрымаць іх
У сваіх грудзёх.

(Мой сьпеў).

Каб ясна прадставіць сабе адносіны З. Бядулі да музыкі (песьні), трэба перачытаць у яго кніжцы „Вера, паншчына і воля“ першыя старонкі ў разьдзеле „Паншчына ў народных песьнях і казках“. Не магу адмовіць сабе ў прыемнасьці прывясьці тут значную вынятку з гэтага разьдзелу, дзе мы знаходзім бадай што нейкі апотэоз песьні і дзе З. Бядуля выяўляе глыбокае разуменьне характару беларускае песьні і тых крыніц, з якіх гэта песьня паўстала: „У селяніна вочы былі наліты крывёю ад натугі, пот, зьмяшаны з гразёю, цурком ліўся па твары, прыклейваў кашулю да цела; рыпалі балеўшыя косьці, рукі трэскаліся ад чорных нарастаў-мазалёў, а ў грудзёх гартавалася—расла песьня... Песьня гэтая была сплецена з балючых стогнаў, аздоблена бунтарскі-гнеўнымі яскравымі вуглямі, асьвечана маланкавым стацьветам сялянскай затаёнай надзеі аб лепшым жыцьці-быцьці. Песьня гэтая кіравалася тактам грабель і цапоў; дзынканьне касы і шастаньне сярпоў па сьпелых каласох тварылі яе рытмы; зычная крынічка, пералівы рэчкі на лузе даравалі ёй час-ад-часу просьценькія вянкі рыфмаў; чырвоная калінка, шэрая зазюленька і зялёны яварок шчыра вартавалі беларускую песьню з абодвых канцоў, служылі ёй загартованымі прыпевамі-замовамі. Абцугі нядолі рвалі песьню з гнёздаў сялянскага сэрца, выцягвалі яе з глыбіні, з акрываўленымі карэньнямі; нібы ранены сокал, білася беларуская песьня аб родную глебу, цьвярдзела ў зычнасталёвыя кавалкі,

кідалася аб каменьні крушні. Водгалас пушчы падхопліваў яе, песьню, прапускаў яе праз сіта галін-пляцёнак, расьсяваў яе ветрам віхурным па ўсіх абшарах беларускага краю. Па разлогах-далінах, па вёсках-сялібах яе сустракалі, як шчыра пажаданую госьцейку-свацьцю, жалейка, дуда, цымбалы і ліра.

— Хадзі, песьня родная, к нам у нашыя сьвятліцы!—на лад салаўіны прасіла жалейка; кволым голасам кленчыла дуда; дробным макам рассыпаючыся, шапталі цымбалы; залацiста-басавым голасам малілася ліра,—пагасьціш у нас і пойдзеш далей у вандроўку. Ніякія пяруны цябе не заб'юць, ніякія астрогі цябе не зьняволяць, ніякія мячы і стрэльбы ў цябе жыцьця не забяруць.

Ты, песьня, будзеш жыць вечна, з пакаленьня ў пакаленьне, пакуль прыдуць пісьменныя людзі і перальлюць цябе на белы пэргамэнт для ўнукаў і праўнукаў."

Гэта—сапраўдныя вершы у прозе. І ў гэтых вершах у прозе мы бачым і соцыяльна-экономічныя падставы беларускае песьні, і абумоўлены гэтымі падставамі агульны яе характар, і заміляваньне беларуса-селяніна да сваёй песьні, і сувязь гэтае песьні з прыродаю, і сувязь гэтае песьні з інструмантальнаю беларускаю музыкаю, і моц уплыву песьні на сэрца селяніна.

І ўсе гэтыя мотывы З. Бядуля поэтычна распрацоўвае ў сваіх паасобных творах. Сіла музыкі нястрыманая, неператожная, бо музыка ўтвараецца несьвядома, утвараецца самою прыродаю, яе законамі. Ёсьць у Бядулі верш „Гусьляр", напісаны ў чыста народным стылю. Гэта—наўпоў алегорыя, наўпоўрачавістасьць. Гэроям вершу зьяўляецца стары гусьляр Зьмітра. Стары Зьмітра ёсьць увасабленьне ўсяго беларускага народу. Усюды ходзіць са сваімі гусьлямі стары Зьмітра і на ўсё, на кожнае гора і на кожную радасьць адгукаюцца струны яго гусьляў, бо струны гэтыя—у сэрцы гусьляра. Дый гусьлі гэтыя ня простыя, гэтыя гусьлі ёсьць музыка ўсяе Беларускае старонкі, яе прыроды, яе пушчаў, лясоў, лугоў, палёў, ніў, яе птушак, яе людзей. Тут ужо не адны гусьлі, а нязьлічоны лік іх. Ветрык хавае іх у шапотным жыце, жаўранкі нясуць іх на сваіх скрыдлах над ральлёю, а рыбкі пад вадзіцаю. Яны ўночы з начлежнікамі, яны раніцаю з расою і туманамі. На іх граюць русалкі, іх грэюць мяцеліцы пад сьнегам узімку. Лясун іх трымае на высокім дубе. Уся прырода пераплецена струнамі гэтых гусьляў, і струны гэтыя цягнуцца ад сасны да сасны, ад рэчкі да рэчкі, ад горкі да горкі. І вечна будуць існаваць гэтыя гусьлі, вечна будзе жыць стары Зьмітра-гусьляр, „бо ёсьць у яго сэрцы чароўная сіла", але сіла гэтая—

...ня ў дзеда,
А ў песьнях бясьсьмертных,
У песьнях гусьлярскіх.

Поэту захоплівае гэты вялічэзны вобраз прыроды—гусьляў. Кал ўся прырода—гусьлі, уся прырода—музыка, дык музыка і дасьць шчасьце людзям, і на зямлі настане вечнае сьвята. Поэта сам хацеў-бы кіраваць гэтаю музыкаю прыроды, каб прынесьці людзям новыя сьветлыя дні:

З хацінкі курнай вырвусь. Над зямліцай
Наладжу арфу я з зарніцы.
Нацягну струны я з праменьня сонца,
Іх будзе многа, шмат, бясконца.
У зоркі-ноты углядацца буду,
І панясецца сьпеў да люду...
Я буду гымны пець аб волі,
І будуць людзі слухаць свайго брата,
І на зямлі настане сьвята.
Настане рай і сьветлы дзень навекі
Па ўсіх краёх для чалавека.

(Мары поэты).

Так, музыка—надзвычайная сіла. Да поэты зварочваецца з просьбаю аб дапамозе жабрак. Поэта ня можа яму дапамагчы, бо ён сам бедны, ён сам нічога ня мае. Але не, ён багаты, ён уладае аграмадным скарбам-багацьцем. І гэты скарб-багацьце ён дае жабраку. Гэты скарб вечны, яго ня можна ўкрасьці альбо зьніштожыць, бо ён захованы ў глыбі душы. Скарб гэты—песьня. Поэта навучыць гэтай песьні жабрака, і з песьнаю жабрак забудзе сваё гора-нядолю, забудзе ліха ў хаце. Навокал яго зьбяруцца ратаі з сяліб ды з нівы, і так ён узрушыць іхныя сэрцы, што буйныя сьлёзы пальлюцца. І сам ён з песьняю будзе шчасьлівы, багаты, навекі забудзе ён мукі, бо:

Найлепшая лека душы чалавека—
То родныя песьні і згукі.

(Жабраку).

Чаму беларускія поэты-песьняры так часта і так многа гавораць аб музыцы, чаму ўся іх лірыка як быццам прасякнута гэтым шчырым заміласаньнем да музыкі? Здаецца, што гэтае зьявішча мае адну галоўную прычыну. Беларускія поэты-песьняры не парываюць сваёй сувязі з простым народам, з працоўнымі і асабліва, сялянскімі масамі. Яны самі вышлі з гэтых мас і застаюцца іхнымі сынамі і прадстаўнікамі. А гэтыя беларускія масы адзначаюцца, як ужо вышэй гаворана было, высокай музыкальнасьцю, заміласаньнем да музыкі. Гэтая музыкальнасьць адбілася ня толькі ў утварэньні пекнай мэлёдыйнай беларускай песьні, як песьні, г. ё. яе прыгожай мэлёдыі, але і ў зьмесьце, у тэксьце гэтай песьні, а таксама ў беларускай казцы. Музычнасьць беларуская сама па сабе можа быць мотывам для лірыкі. І трэба адзначыць, што гэты мотыў З. Бядуля ў сваёй лірыцы распрацоўвае непараўнальна больш, чым які-колечы іншы беларускі поэта. Цікавую ў гэтых адносінах казку пры-

водзіць Бядуля ў кніжцы „Вера, паншчына і воля“, казку, у якой яскрава адбіўся погляд беларуса на сілу і значэньне музыкі. У якімсь краі „нарадзіўся... хлапчук. Быў ён вельмі благенькі, заняпаў з маленства ды так астаўся на ўсё жыцьцё. І назвалі яго людзі Іванкам Прастачком. Прышлі да Іванкі старцы дудары. Першы раз зайгралі—Іванку розум далі, другі раз зайгралі—у сэрца жаласьці нагналі, трэці раз яны зайгралі—язык Іванку разьвязалі. І пачаў Іванка Прастачок па сьвеце хадзіць, у дудачку граць, людзям праўду казаць. Як зайграе, дык і ўбачаць людзі, што вялікая крыўда на сьвеце, што адны пануюць, другія гаруюць; адны багацьцю лічбы ня маюць, другія з голаду падыхаюць“. У гэтай казцы мы бачым, што музыка мае соцыяльна-выхаваўчае значэньне, уплывае моральна і нават дзее чыста фізыолёгічным чынам (розум дае, язык разьвязвае).

Шмат такіх народных казак, дзе музычнасьць беларускага працоўнага народу выяўляецца ў яго поглядах на сілу і значэньне музыкі, распрацоўвае З. Бядуля ў цыкле вершаў „Зачарованы край“ (зборнік „Пад родным небам“. Стар. 70-97). Вось некаторыя з гэтых высока поэтычных народных легэнд.

На небе сядзеў бог, а з глыбі вод на яго глядзеў нячысьцік. А паміж зямлёю і небам, на грудзёх дзеда - Сонца вісела самаграйка-дуда. Але гукі дуды спалі, бо сама „дуда спала пад сонечнай ласкай“. І вось дуда сьніла першы сон: панясьліся па сьвеце гукі дуды, дудар граў і сьпяваў гымны-песьні. І гэтыя песьні разбудзілі сьпячых людзей, і рынуліся яны ў бой за шчасьце:

Нібы хвалі плылі, бы рвануўся сыр-бор,
Грамада шла, гуляла, сьпявала,
І глядзела ўгару на нябёсны прастор,
І натхненьне ў вачох красавала.

Колькі моцы было ў родных песьнях людзей,
Радасьць брызгала сьветлай навалай.
Рукі шчасьця расьлі з гарапашных грудзей,
Зычным выраем песьня лунала [1]).

Але вось дуда ўпала з неба на зямлю. Узяў яе беларус-паляшук, зайграў, і зрабілася дзіва дзіўнае ад гэтай музыкі: як у старагрэцкіх мітах аб Орфэі і Арыоне, музыка ўплывае на зьвяроў, птушак і ўсю бясслоўную прыроду:

Скача поле і лес, скача зьвер сярод хмыз
Як ратай на дудзе заіграе.
І дабрэе злы воўк; ён глядзіць, бы ягнё,
І ківае ў лад-тахт галавою.

---

[1]) Гэтыя казкі напамінаюць падобныя старагрэцкія паданьні, напрыклад, аб Тыртэі, які сваімі песьнямі ўздымаў ваяўнічы дух спартанцаў, аб Тэрпандры, які ігрою на флейце супакойваў народныя ўзбурэньні, і інш.

Нібы рой галубкоў, замаўчыць груганьнё
І нясецца над мяккай ральлёю.
Ня кусае вужак; ён зьвярнуўся клубком,
Заварожаны слухае граньне...
Рады краскі, трава; ў сьвітках—кропельках рос—
Апранаюцца пышна, аздобна.
І журчыць ручаёк, байку-казку пляце,
Дудару вельмі шчыра уторыць,—
Во' ад чараў дуды ўся зямля запяе,
Зараз камень нямы загаворыць...[1])

Тут З. Бядуля выказвае сваю ўласную думку аб музычнасьці беларуса-паляшука, бо толькі музычны народ мог утварыць такія казкі аб дудзе, аб сіле музыкі:

Ой, на сьвеце няма ні мацней, ні пякней
Зычнай песьні і простай і шчырай;
Паляшук нават сьмерць забывае пры ей,
Яго сэрца пускаецца ў вырай,

бо ў яго душы штось сьпявае, бо ў яго грудзёх як быццам ня сэрца, а дуда.

А калі памёр дудар, запанаваў усюды сум, сонейка зашло ў бор і апусьцілася жуда. Затужылі жнеі на дажынках, заснуў край на цэлыя гады, загулялі і завылі вятры, сонца ўлетку пачало пякчы жоўты пясок, і пушча пачала жалобна гудзець. І ўвесь край у жалобе, плачуць людзі, бо бяз дуды, бяз музыкі-песьні—зноў распачалося для іх цяжкое жыцьцё, зноў пакуты і крыўды з боку „паноў і панянятаў". І калі памёр стары дудар, узяў яго да сябе на неба бог, каб ён там іграў яму, каб слухалі яго сонца, месяц, зоры і хмары. Але нудна было дудару на небе, захацеў ён назад, да сваіх братоў-паляшукоў. Ня пускаў яго бог, і тады дудар пусьціўся наўцёкі, паляцеў на зямлю, але не даляцеў і астаўся вісець паміж небам і зямлёю. Там пачаў ён малець і драбнець усё больш і больш і зрабіўся маленькім жаўранкам (Чым Овідыявы мэтаморфозы прыгажэйшыя за гэтую беларускую?).

Калі ў даўно мінулыя гады беларус-селянін стагнаў пад панскім прыгонам, пацеху ён знаходзіў у песьні, якая ў той-жа час будзіла ў ім ахвоту да змаганьня за свае чалавечыя правы (Буралом. Адплата пану). І калі выбухла вялікая Кастрычнікавая рэволюцыя, песьня і музыка асталася бліжэйшым другам беларуса-селяніна. Ён зрабіўся адначасна і ваяком, і сьпеваком, і музыкай:

Таіў наш бор сьпяваньне партызанаў,
Таіў кляцьбу-прысягу пры агнях.

[1]) Народная казка гэткім чынам была крыніцаю і для Я. Купалы, які з яе пачарпаў хварбы для маляваньня сілы музыкі ў вершы „Курган".

Бор знае моц савецкіх атаманаў,
У зброі ўсе ды з лірай у руках.
(Буралом Беларусь IV.)

Да думкі аб тым, што ўся прырода пяе й іграе, што ўся прырода ёсьць адзін нейкі вялічэзны музыка, З. Бядуля зварочваецца неаднакратна. Мы бачылі гэтае ўжо ў вершы „Гусьляр“, бачылі, як сам поэта хоча наладзіць арфу з зарніцы, нацягнуць на яе струны з праменьняў сонца і іграць, углядаючыся ў зоркі-ноты. У вершы „Залатыя гусьлі“ поэта ўсё жыцьцё прыроды, зьмены часоў году, прадстаўляе як зьмяняючуюся музыку прыроды. Сонца—гусьляр. Яно іграе на сваіх залатых гусьлях— і ў прыродзе пануе лета, прырода жыве, радуецца свайму жыцьцю, усё цьвіце і весяліцца. Але вось сонца пачынае іграць усё цішэй і цішэй, гусьляр адыходзіць, гукі гусель заміраюць, зямля плача, сумуе,—восень. Канчаткова змоўклі гусьлі сонца, зямля засыпае—зіма. А потым сонца зноў зварочваецца, распачынае зноў сваю ігру на гусьлях, і зноў уся прырода ажывае, зноў радасьць жыцьця і вясёласьць—вясна:

Так за годам год мінае
Казка сонца і зямлі.

Поэта так моцна адчувае музыку прыроды таму, што ён у поўнай меры захаваў сваю сувязь з ёю. Ён адчувае самога сябе часьцінаю прыроды, загубіўся ў ёй, зрабіўся братам яе стварэньняў:

Мая радасьць імчыць да нябёс,
Да бязьмежных у далі паветак,
І раблюся я братам бяроз,
Ручаёў, матылькоў, кволых кветак.
Запалонен я рытмам зямлі,
Загубіўся у ім, як пясчынка,
Не магу я ад чар адыйсьці,
Як ад дуба малая галінка.
(Вясной).

Для поэты ня толькі зямная наша прырода—адзін аграмадны музыка, але пяе і іграе ўвесь бязьмежны сусьвет. Як іграе сонца, мы ўжо бачылі: і ад зор да яго ляціць музыка, і аб гэтай музыцы зор поэта кажа вельмі часта:

Ашчасьлівішся музыкай зор
Усю ноч—аж да самай заранкі.
(Пад род. небам. А ў бары).

Міргаючыя зоры ў поэты—пявучыя (Пад р. неб. Стар. 39), яны сьпяваюць (На сьмерць Бурбіса). А калі яны спыняюць гэтае сьпяваньне, калі яны нябачны ў нябёсах, тады поэта чуе стогн зямлі. Гэтая песьня зор—маці поэты (Русалка).

Так на небе. А на зямлі таксама ідзе бязупынная музыка і сьпевы. Гуд стаіць у бары, і галіны дрэў—струны, на якіх граюць шэпты лесу,

і з глыбіні лясуновых прысад нясецца сьпеў (А ў бары). І ў гэтым бары „сосны вядуць свае шэпты працяглаю песьняй-замовай“ (Змрокі). Кожная пара году мае сваю музыку, свае песьні. Прыходзіць вясна, і жаўранак пачынае чараваць ратаяў, і сьпеў яго падобны да водгуку залатых струн; ён у сваіх вясновых сьпевах усхваляе хараство ніў—палёў (Вясной). Расьцьвітаюць незабудкі, і пастушок на сваёй жалейцы „пяе“ ім „натхненныя песьні вясны“ (Рожы і незабудкі). Вясна ўсё больш і больш разгортвае сваю жыватворчую сілу, ідзе найпрыгажэйшы з усіх месяц май, ідзе ён з яркім сонцам, з пукам красак, з зыкам птушак, з коўдрай руні, ідзе і пяе нам песьні (Май). І разам з ім пяе прырода. Вунь там дрыжыць пад ветрам кволы бярэзьнічак. Фарсіць ён сваёю вясноваю бельлю, распускае свае кудзерцы-лісточкі і сьпявае песьні ў маі (Бярэзьнік). А за вясною прыходзіць лета, убіраецца ў вянкі з васількоў і таксама „песьні пяе“. А потым прыходзіць восень і пачынаюцца песьні восені. Ляціць вецер-віхор, вятрыла-віхор, на балотны луг і пяе свае песьні (Восень). А там і зіма апранае зямельку ў белую вопратку, і белая гонейка слухае сьмелы хор вераб‘ёў (Зімовая раніца), і мароз сьпявае свае песьні, сухія, траскучыя, гулкія песьні аб холадзе, холадзе (Лясун).

Ні на момант ня супыняецца гэтая музыка прыроды, бо сама прырода—і музыка і яго інструмант,—яна вялізарная арфа, а стромкія сосны—струны гэтае арфы:

А стромкія сосны працягнуты ўверх,
У паветра, да гладзі нябёснай,
Як доўгія струны вялізарнай арфы,
Бо арфа—ўвесь сьвет.
Го-го-го! го-го-го!
І кожная струна-сасна адбівае Лясунавы рэхі.

(Лясун).

Бо нават у колерах поэта чуе гукі, і кожны колер мае свой гук сваю музыку (У белі).

Так жыцьцё прыроды адбіваецца ў музыцы, альбо, наадворат, музыка адбіваецца ў жыцьці прыроды. Але і ў жыцьці людзей ёсьць свая музыка, і тут яна іграе ня толькі чыста поэтычную ролю, ролю поэтычных вобразаў, але й ролю практычную.

Доўгія вякі Беларусь стагнала пад уціскам нацыянальным, экономічным і соцыяльным.

Але гэты ўціск, гэтыя экономічныя, соцыяльныя, ды нацыянальныя няпраўды скончыліся вялікаю рэволюцыяй. І З. Бядуля зьяўляецца адным з песьняроў яе. Зборнік „Буралом“ прысьвечаны выключна рэволюцыі. Але ўжо ў папярэднім зборніку, „Пад родным небам“, Бядуля неаднакратна датыкаўся рэволюцыйных матываў. І, зразумела, песьня, музыка іграла тут сваю звычайную ролю. „Мы верым—вольна запяём!“

клікаў поэта (Наша вера) і выказваў жаданьне, каб там, дзе раней плакаў няшчасны пад ценьню дубоў, засьпяваў-бы шчасьлівы ратай (Беларускі ваяка). Гэтыя воклічы, гэтыя пажаданьні былі недарэмныя. Адбівалася ў іх, несьвядома можа быць для самога поэты, блізасьць выбуху, блізасьць рэволюцыі, блізасьць волі, якая ўжо—

Горнай арліхаю славы
Пела над цёмнай дубравай
(Воля).

Цяжкое было змаганьне за волю, але, нарэшце, здабыў гэтую волю працоўны народ, і поэта ў нейкім захапленьні заклікае песьняроў, музыкаў рабіць вялікую рэволюцыйную справу музыкі:

Выходзь, пясьняр, выходзь, дудар,
У родны гай, у вольны гай!
Ты з курганоў на ўвесь абшар
Усім людзям сьпявай, сьпявай!
Сядзець, чакаць няма калі.
Сьпявай на звольненай ральлі;
Будзі, пясьняр, усіх людзей,
Няхай ідуць хутчэй, хутчэй
На сьветлы шлях, на шчасны шлях,
Пад вольны сьцяг, чырвоны сьцяг!
(Буралом. Кліч волі).

Гэта новая песьня, песьня радасьці, песьня рэволюцыі, „песьня сонца“. Скончыўся стары сьвет, пачаўся новы. Гаспадары жыцьця—моладзь, поўная сіл, поўная бадзёрасьці. Гэтая моладасьць, сілы, бадзёрасьць, радасьць жыцьця павінны абхапіць усіх людзей. І жняя, раней галасіўшая сумную песьню, цяпер павінна пяяць зусім іначай:

Комсамолься, сяліба ратая,
Заіскрыся чырвонай частушкаю.
Хай жняя твая песьню сьпявае
Вольнай птушкаю.
(З песьняў сонца. Буралом).

І з натхненымі словамі аб тэй-жа новай песьні, новай музыцы зварочваецца поэта да моладзі:

Агнёвыя віхоры вам песьні гучна пелі,
У музыцы баішчаў вы казачна расьлі.
Вас гадавалі грозна гарматныя капелі
На збуранай зямлі.
Вы ў рытмах вольных сьпеваў купаліся, бы дзеці.

Калі паставіць пытаньне, якое месца займае З. Бядуля сваёю поэзіяю ў соцыяльных адносінах, дык я паставіў-бы яго паміж Коласам і Гартным, бо ён ня чысты пролетар (я разумею тут не яго паходжаньне альбо соцыяльнае становішча, але толькі поэзію) і ня чысты

селянін. Але ў яго мы знаходзім рысы таго і другога, мотывы сялянскія і пролетарскія. У гэтым соцыяльнае значэньне яго поэзіі.

А з боку адносін да нашае тэмы трэба помніць тыя словы Бядулі, якія прыведзены былі ў пачатку артыкулу аб ім:

Плывуць мае песьні
Па лугох—лясох.
Не магу стрымаць іх
У сваіх грудзёх.

# ЗАБЫТАЕ

## А. Паўловіч

Выдатнейшымі з бязаўтарскіх твораў у беларускай літаратуры, якія покі што сталі вядомымі ў літаратуры, трэба лічыць: „Энэіду“, „Тарас на Парнасе“, „Ігрышча“ (Каб ты ведаў, брат кумішча) і адказ на яго (Быў я, быў на тым ігрышчы), „Гутарка“ (Данілы са Сьцяпанам), „Гутарка старога дзеда“ і др.

Добра памятаю, што ў Менску паміж вучнямі школ было вялікае заахвочаньне запісваць і перапісваць (галоўным чынам) жартаўлівыя простанародныя вершы. У 1890-х і раней гадох перапіска і вывучваньне на памяць „Гапона“, „Ігрышча“ і др. вершаў проста вылілася ў нейкі, свайго роду, спорт, як во і прагавітае зьбіраньне колекцый монэт старадаўных, чужаземных паштовых марак і г. д. Амаль што кожны вучань меў усё запісаным: і „Гапона“, і „Ігрышча“, і „Сьцяпан і Таццяна“ і г. д.

Праўда, гэта быў часовы падойм: ужо пры мне (г. ё. я быў ужо вучнем) інспэктар гарадзкога вучылішча, Дабрынін, стаў прасьледваць гэты спорт (запісваньне вершаў) і ня ведаю, ці як спорт, ці тут ужо ўмяшалася політычная вострасьць некаторых твораў, ці проста асьцерагаючы вучняў ад дрэннага ўплыву простага слова на згоршаньне добрай вымовы. дзеля аховы чыстаты рускае вымовы.

Гады цяклі. Зьяўляліся вялікія прыхільнікі беларускай народнай творчасьці сярод польскіх і рускіх вучоных. Вынікам іх рупнае, шчырае працы стала тое, што шмат твораў выратавана было ад забыцьця, не загінула і яны ўжо значна ўзбагацілі беларускую літаратуру; адно, праўда, не заўсягды толькі ўдавалася ім (дасьледчыкам) даведацца, хто аўтар здабытых твораў.

У „Гісторыі беларускае літаратуры“ М. Гарэцкі, (выданьне Вільня 1921 г.), а пасьля ў томе III „Белоруссы“ профэсар Карскі пры даволі сьціслым і абшырным аглядзе твораў нашага першага народніка, песьняра Вінцука Дунін-Марцінкевіча, неяк сумляваючыся, зазначылі, што верш „Гутарка Данілы са Сьцяпанам“ належыць да пяра Бухрыма, а магчыма, што й Дунін-Марцінкевіча.

Зразумелая рэч. Трудна з вялікаю пэўнасьцю тлумачыць тое, што, на жаль, агорнута сівым туманом далёкага мінулага поўсталецьця, аста-

лося невядомым і сягоньня можа быць узята пад сумненьне, як ня маючае цьвёрдай упэўненасьці, або ня маючае жывых і мёртвых сьведак.

Вялікая адлегласьць часу сама за сябе тлумачыць, што нікога з тых асоб, якія былі вельмі блізкія да поэты, таварышылі з ім у час пабыту яго ў Менску і былі жывымі распаўсюджвацелямі яго твораў, яго ідэй,—і быць цяпер ня можа, а рукапісы даўным даўно маглі быць зьнішчаны.

Ня так даўно, пераглядаючы свае сшыткі, у якіх мной (і другімі) запісаны былі розныя вершы, між іншым я ў адным сшытку наткнуўся на вершы, якія ўласнаручна былі запісаны песьняром „Дзедам Донісам" і Якавам Васільлевым.

„Дзед Доніс"—хлапец, малады пясьняр, які, як маланка, бліснуў на небе і згас на заўсягды. У той час, калі я з ім пазнаёміўся, ён быў яшчэ вучань 1-га гарадзкога 4-х клясавага вучылішча. Праўдзівае яго прозьвішча і імя—Савасьцюк Мікола. Яшчэ вучнем ён пачуў сябе здольным і пачаў прабаваць свае сілы ў рускай і беларускай мове (гл. верш „Бабыль" Н. Н. 1911 г., № 6).

У маім альбоме ім у 1903 г. запісана пад №№: 66—„Мужычая доля", 67—„Успамінаньня", 68—„Думкі Тамаша" і 69—„Слышится голос из клетки железной" (у апошнім вершы чуваць моцны рэволюцыйны падойм). Вершы пад №№ 67 і 68 падпісаны: „Дзед Доніс".

Дык вось. „Дзед Доніс"—хлапец бедных бацькоў, скончыўшы вучылішча гарадзкое, падаўся ў „вольноопределяющиеся", у вайсковую службу (пяхоту), каб такім чынам зволіць бацькоў ад лішняга цяжару (сям'я ў 6 душ?) і перайсьці на „казённае" (скарбовае) утрыманьне.

Ужо калі ён быў „вольноопределяющимся", прыехаў у Менск да бацькоў, тады—на каляды 1910 году—я ўгаварыў яго даць што-небудзь з яго твораў „Нашай Ніве". Дзіўная скромнасьць і саманяўпэўненасьць у сваёй здольнасьці ўзялі верх, і верш „Бабыль" ім быў дадзены пад псэўдонімам.

Шкада, што гэты малады пясьняр, невядома з якой прычыны, мала прыняў удзелу ў газэце „Наша Ніва" і, выехаўшы з Менску, больш не адзываўся, і дагэтуль няма ведама, дзе ён і ці жыве. Мо' загінуў на вайне 1914 году?

Лічачы, што для азнаямленьня чытача з пісьменьнікам часоў адраджэнцкіх, са зьместам яго твораў, у якіх адбіта наўкольная рачавістасьць і мары аб будучыне, будзе вельмі цікава спаткаць у друку частку захаваўшыхся яго твораў,—дазваляю сабе тут падаць да ведама чытачоў увесь поэтычны матэрыял, які выпадкова быў зафіксованы самым аўтарам у маім сшытку,—усе яго вершы ў поўнай ахове ортографіі [1]) і пабудовы вершу, спадзяючыся, што яны дадуць чытачу капліну магчымасьці мець уяўленьне аб здольнасьці, настроі і духоўным імкненьні мала вядомага пісьменьніка.

[1]) За выключэньнем ѣ і ъ, якіх друкарня ня мае.

**Мужычча доля**

Як на свет я нарадіўся
Кажуць лиха была:
Голад на зямли насіўся
Дзе ни глянь магила.
Мерли людзи, як николи.
Эх, гады лихія!
Як успомню я нядолю
Сэрца неяк ныя.
А як паньщинай жылося
Часам дзед раскажа
Многа крыўды пражылося
Ўсей ня перэкажа.
Як па паньскаму хаценю
Ў мужыкоў страляли
И як жонак для патехи
У палацы брали.
Як пакутаваць навеки
Пан в Сыбирь ссылаў
Ниглядзеў, што жонку з детьми
Мерти пакідаў.
Ниглядзеў ни на маления
Жонак матярей
Яго сэрца як камення
Ен ня чуў слязей.
Тяжкій крыж на долю выпаў
Бедным мужыкам
Божа моцный и праўдивы
Щастя дай ты нам!
Дай каб Дума[1]), што збярэцца
Праўды прынясла
Каб за кроў, што гэтак льецца
Жиццsmåя нам дала.
Каб дала за нашу працу
Трохи больш зямлі
Каб усім, хто нам спрыяя
Зняла ланцуги.
. . . . . . . . . . . . .
Жицця наша, як ты горка!
Як ты поўнае слязьмі...
Але-шь узыдя скора зорка
Жизни новай на зямли!..

[1]) Гугарка йдзе аб першай Дзяржаўнай Думе.

## Успаминаньня

Дзе ты родны край далёки
Дзе вы нивы и паля
Дзе той дуб стары, высоки
Што сядзеў у летку я.

Дзе той лес, што гэтак многа
Майму сэрцу думак даў
Усё, што была дарагога
Усё вастрог пракляты ўзяў.

Эх ты жыцця, наша жыцця!
Тяжки крыж маей судьбы
Хоць пад старасць пакажыцця
Мне вы праўду на зямли.

## Думки Тамаша

Тиха ў хаци, ночь настала
Спяць усе, хто працаваў
Газа толькі дагарала
Вецяр злосна завываў.

Скрып дубоў гудзеў па полю
Рваўся ў хату праз вакно
И прыносіў столькі болю,
Стольки жалю, як нихто.

А далёка недзи ў вёсцы
Завываў сабака злы
Мусіць ён з вялікай злосьци
Пудіў воўка ад буды.

Тиха ўсё, на неби цёмна
Тольки зорачки блищать
Хмары неяк нудна ходзяць
Як бы хочуць што сказать.

Паміж вёскавых будынкаў
Стаиць цэркаў на гарэ,
Два крыжа видаць здалеку
Як паглядзишь на вярсе.

А ад цэркви трохи дали
Лес, крыжы стаяць
Там бацькоў нашых хавали
Там и нам ляжаць

На ўсей весцы тольки ў хаци
Тамаша агонь гарыць
Ен заснуць нияк ня можа
Думка у вачах стаиць.

Ен пачуў, як поп у цэркви
Друкаваны лист чытаў
Як казаў, што трэба мерци,
А рабиць як пан казау.

Доўга думаў Тамаш бедны
Покуль сябра ни знайшоў
Тольки той яму як трэба
Утлумачыў лист папоў

Добры сябар, ён свабоды
Тамашу гадаў шукаць,
Ен казаў, што землю дарма
Трэба мужыкам аддаць

Дзень адзин, други праходзиць
Мой Тамаш к папу идзе
Ен з нуды, аш ледзьвя ходзиць
Жаль душу яго бярэ

Ен ніяк ни мог змирицца
С тым, што поп вораг народны
И пашоў к яму сварыцца
Праз мужыцкія свабоды.

Поп-жа жартаў ни чакаўшы
Стражникаў сказаў пазваць
И „крамолы“ напужаўшысь
Тамаша баржей узяць.

И далека Тамаш з думкай
Апынуўся гараваць...
За рашоткай у вастрози
Дробна слезы праливаць.

Не гарыць агонь николи
Ў ночы, ў хаци Тамаша.
Ни скрыпиць и дуб у поли
Тольки ўсих нуда ўзяла

Стали думаць людзи ў весцы
Тамаша успаминаць
Эх ты жыцця, наша жыцця
Як с табой нам эдабраваць!

**Пераклад вершу пад № 69 „Дзеда Доніса“ [1])**

Чуецца голас з клеткі зялезнай,
Голас вялікіх барцоў...
Сьціснулась сэрца ад злосьці мяцежнай,
Ў жылах хвалюецца кроў.

З падвалу струёю поўныя жаху
Гукі ка мне паплылі...
Дайце магутныя скры длы жар-птаха—
Вольнасьць вярну на зямлі.

Дайце мне волю сьвятую, жаданую,
Скіньце ланцужны акоў,
Я запяю вам пра долю загнаную
Гімны вялікіх барцоў!

Вось чатыры вершы маладога песьняра „Дзеда Доніса“, у якіх адбіваецца скарга на цяжкое соцыяльнае і матэрыяльнае становішча селяніна-мужыка і разам чуецца моцны рэволюцыйны настрой, жаданьне скарэй пазбавіцца ад цяжкага пануючага ўціску, зьдзеку і несправядлівасьці.

II

Пад № 25-м у мой сшытак упісан рукою Якава Васільлева верш „Гутарка“ (за 1902 г.).

Перш. чым даткнуцца да самой сутнасьці вершу, я мушу затрымаць чытача на некалькіх пабочных вестках: хто гэта Васільлеў і чым цікава, што верш ім быў упісаны?

Якаў Васільлеў быў мне таварышом па службе ў працягу блізка 20 год. Мы разам служылі на чыгунцы. Ён радзіўся, вырас і памёр у Менску; быў шчырым беларусам. Нацыянальнае пачуцьцё перашло да яго ад яго бацькі Авэр'яна Васільлева. Нек памімволі, невядома як гэта сталася. але досыць таго, што на працягу ўсёй сумеснай службы мы— я і Якаў Васільлеў—інакш між сабой не гаманілі, як папросту, „памужыцку“.

Вялікая прыхільнасьць яго да простай мовы мяне адухавіла,—я пачаў чытаць яму свае яшчэ школьніцкія спробы.

Бачачы ўва мне шчырую зацікаўленасьць да беларускае мовы, ён спрэзэнтаваў мне дзьве рэчы—даў афішу двух-актовай комэдыі „Сялянка“ (ад 1852 г.) і сам упісаў у альбом верш „Гутарка“, і тады-ж азнаёміў мяне, якім чынам да яго трапіла гэтая афіша і адкуль ён знае на памяць „Гапона“, „Гутарку“ і др. вершы.

Ягоны бацька, Авэр'ян, быў блізкім прыяцелем Дунін-Марцінкевіча, прымаў разам з Ляўданскім (імя якога фігуруе ў афішцы) удзел у пастаноўках п'ес, ня столькі ў выкананьні роляў, а больш па організацыі спэктакляў. Блізасьць яго да пісьменьніка Д.-Марцінкевіча давала магчы-

[1]) Быў ім напісан парасійску.

масьць Васільлеву заўсягды мець што-небудзь новае, цікавае ды сьмешнае з першых рук, а ўжо Якаў Васільлеў, сын Аўр'яна, укладваў іх у сваёй галаве, бо годзе яму было пару раз прачытаць, і шчасьлівая памяць утрымлівала іх на заўсягды. Напрыклад, ён лёгка слова ў слова на памяць дэклямаваў „Евгений Онегин“ Пушкіна, „Chodyka“ і „Pan Marka w piekle“— Сыракомлі і інш.

Помню, як сягоньня, што на маё запытаньне, чый гэта напісаны верш („Гутарка“), ён мне зусім выразна адказаў, што ягоны бацька пераняў ад Марцінкевіча і што аўтарам зьяўляўся, як яму добра вядома, сам Марцінкевіч.

Браць пад сумненьне ягоны адказ, значыцца, ня верыць яму, я ня мог, ня меў падставы і, разам з тым, і патрэбы, тым, больш, што ў той час (гэта амаль што 25 год назад) ні я, ні ён, і ніхто й ня думаў і ня зьбіраўся ні прыпісваць Марцінкевічу, ні таксама адбіраць ад Бухрыма (імя яго я спаткаў у друку значна пазьней) ні славы, ні гонару.

Нечага й казаць, што было-б вельмі пажаданым, каб верш „Гутарка“ знашоў сабе яшчэ больш пэўныя, моцныя і выразьней дакумантаваныя пацьверджаньні праў аўтара, што, бязумоўна, яшчэ выразьней выявіла-б асобу Марцінкевіча, яго дух і імкненьні.

Дагэтуль амаль што ўсе крытыкі падзяляюць думку, што Марцінкевіч вельмі пранікаўся духам шляхецтва і быў польскае орыентацыі— і трэба адзначыць, што гэта ў польскіх вершах, якія належаць да яго пяра, адбіваецца з асаблівай яскравасьцю. Але адначасна за ім прызнана права на пяршынства ў беларускае літаратуры.

І сапраўды, ніхто так ня цікавіўся, не пазнаў і не пранікаўся цяжкімі абставінамі жыцьця беларускіх сялян, як Марцінкевіч, не зважаючы на тое, што сам належаў да клясы шляхтаў і быў польскім пісьменьнікам. Ніхто ня змог так яскрава, такой сакоўнай, пекнай, чыстай мовай выявіць тагочасную рачаіснасьць, быт селяніна-мужыка. Недарма і зусім справядліва ён заслужыў імя „бацькі беларускае літаратуры“ (У. Ігнатоўскі. Кароткі нарыс культурнага адраджэньня Беларусі. Менск, 1921 г. стар. 16).

Марцінкевіч далёка ня быў староньнікам, прыхільнікам панскасьці. Наадварот, блізка пазнаўшы жыцьцё простага народу, перацярпеўшы разам з ім сваёю чулаю душой яго мучэньні, ён ня змог далей быць сьведкай панскага зьдзеку.

Складаючы шчырую падзяку тым паном, якія вельмі добра, суменна адносіліся да мужыкоў, сваіх падданых (гл. повесьць маршалка Бабруйскага павету Лаппе), ён першы кінуў горкі папрок тым прыгоньнікампаном і тагочаснай уладзе, якія так нясуменна, бяздушна і нягодна знушчаліся над бяздольным, цёмным мужыком-„хамам“, над яго „я“.

„Ідзі толькі *хаме*, во і ўся гаворка“...

І вось, калі ды ўзяць пад увагу, што й гэты, узяты пад пытальнік верш „Гутарка“ будзе далучаны да твораў першага народніка, Дунін-Марцінкевіча, што я ў кожным разе лічу за бясспрэчнае, то яго фізыономія палітычная стане шмат выразьней.

Гісторыя сунецца наперад. Старое паволі забываецца і неяк само па сабе траціць і мінулае хараство, і ўбогасьць, і скаргу на нядолю—прыгон і вострасьць ненавісьці, папроку й поклічу да барацьбы з гнётам за лепшую долю і будучыну.

Мы цяпер жывем іншым жыцьцём, зусім новымі імкненьнямі, новым духам і іншымі сучаснымі поглядамі на жыцьцё і дабрабыт людзей.

Але для гісторыкаў і крытыкаў увесь папярэдні матэрыял ніколі ня страціць свайго значэньня, заўсягды ён будзе цікавым і патрэбным для навуковай дасьледчай справы разьвіцьця і росту роднае літаратуры, яе ўзбагачэньня і росквіту як па форме, так і па зьмесьце.

Вось чаму я дазваляю сабе лічыць за патрэбнае далучыць тут (ніжэй) верш „Гутарка Данілы са Сьцяпанам“ з аховай ортографіі[1]), у якой ён быў запісаны Я. Васільлевым у мой сшытак.

Верш гэты, трэба адзначыць, мала каму вядомы з новых чытачоў, а між тым ён надта цікавы, повен рэволюцыйным настроем народу і яго варожым тонам у адносінах да паноў-прыгоньнікаў. Яго можна ў поўнасьці прачытаць толькі ў кнізе Фэдароўскага („Lud białoruski na Rusi litewskiej. III. 1903“), якая таксама цяпер зьяўляецца бібліографічнай рэдкасьцю і яе можна знайсьці толькі ў вялізарных бібліотэках.

Пры параўнаньні тэксту вышэйпаданага з тэкстам, які запісаны ў кнізе Фэдароўскага, можна заўважыць шэраг часьцінных, праўда, малаважных адмен—то замена аднаго слова другім аднолькавым па зьмесьце, то перастаноўка слоў.

Тожсамасьць запісаў, за невялічкімі папраўкамі, можа сьведчыць нам аб тым, што тэкст гэтага вершу трапіў да нас у поўнай, сьціслай захаванасьці і ў тым выглядзе, якім вышаў ён з-пад пяра песьняра Дунін-Марцінкевіча.

Але ёсьць творы таго-ж аўтара, якія перацярпелі вялікія перабудаваньні: тут ужо ня простая перастаноўка і замена слоў. Гэта, вось, верш: „Стары Зьміцер і певень“.

Твор гэты таксама хадзіў па людзях і пераказваўся з памяці адным другому і, такім чынам, падпаў пад апрацоўку расказчыкаў, стасоўна новым умовам і пад беспасрэдным уплывам асабістых поглядаў расказчыка.

Да мяне гэты верш трапіў яшчэ за часоў майго вучэньня ў школе (у 1891 г.). Яго мне прадыктаваў з памяці мой школьны таварыш, вучань з аднае клясы, Аляксандр Ліхачэўскі, які жыў у засьценку Нядзьвежына, пад Менскам.

Вось тэкст „Гутаркі“, як ён уласнаручна запісаны Васільлевым у мой сшытак.

[1]) За выключэньнем ѣ і ъ, якіх друкарня ня мае.

## Гутарка

Сыйшоўшыся святым днем Данила с Сцепаном
Хорошей погодай сели пад парканам
Да и ну толковаць, да и ну гаварыци:
„Што з нас далей будзе, як мы будзем жыци?
Гаворуць на свете у голос толкуюць
Ад ксяндзоў и жыдоў усе людзи чуюць,
Што вольносьць нам бедным царь дасць без откладу
Да тольки з панами нияк не дойдзе ладу
Чаго адны хочуць, то другим не мило,
Як чорт перед дьяблом пражецца их сила.
Цар им патурае, а'яны хитруюць
Ды змовиўшися з сабой цару так талкуюць:
Пане найяснейшій што з гетого будзе
Даси хамам вольносьць дык што з таго будзе
Вшак мужык без пана быць ніяк не може
Пабьетца поколоцицца сциражи ты боже
Над им што дзень треба з кнутом стаяць над каркам
Розги каб лежали возом за хвальваркам.
Гразы-ж як ня будзе ад двора над хамом
Запьетца горелкой на век векаў амен.
Мужик без гарелки пирабыць ня може
Пьяный не уступиць сциражы ты боже
Кали стане битца кола яму треба
А дзецям у хаце нима й куска хлеба
А як пана мае, то мужик боитца
Хоць кары ня возме, то хоць надрыжитца
Бо знае, что яго за усё карае
З хама ниц ня будзе як пана ни мае.
Во, браце, што яны падлы лгаць умеюць
Пред царом у вочи на нас плесци смеюць
Гэта им ня мило, косткой у горле стане
Як мужык ад цара вольносци достане
Што хочуць толкуюць, лгуць як сами знаюць
А им цар и верыць яны и ласку маюць,
Мы-ж бедные браце церпим скрозь няволю,
Проклинаем жыцё свою горкую долю.
Праўда што ня чули ни дзяды ни ойцове
Каб над мужиками ня были панове
Да цяпер на свеце усё иначей строюць
Ужо не сермяги, а сурдуты кроюць
Треснуць яны лопнуць, а на их ня будзе,
Бо ужо речи стали у цара на судзе:

Каб быў мужык волен, каб цар быў тольки паном
Каб не смеў николи пан нас звацы хамом
Да и будзе тое, браце дажджомся, Сцепане,
Што и пан на нас скаже мой коханы пане
Да мы на их неўзглянем и шапки ня скинем,—
Хоць будзе исьци близко нисклониушись минем.
Годзе акономом хванаберу строиць:
Килбасу пячи да на талерце кроиць,
Пирастануць кликаць сторожа й сторожки,
Каб давали сухих древок под триножки.
Воды каб прынесли свежай из крыницы.
Гладыши каб помыли, цебры и дойницы,
Каб миски и лыжки подали беленьки
Саганы и рондли як люстра ясненьки
Вычвараць ня будуць за пряжу и за ници
Пирастануць тоучи, попихаци, бици
Ня будуць и войты гнаци ад поуночы
На пригон залиуши горелкою вочи
Пирастануць лаиць за косьбу и оранне
За жниво, кошенне и стогоу складанне.
Што часом спознишся придци до роботы
Што робиш помалу як бы без охоты
А як часом придзеш чаго попросици
Нимаш чим араци нимаш чым косици
Будзь ласкау паночку ратуй у пригодзе
Дык ён кричиць табе нимаш конца и годзе
А коня ци вола вельми достаць трудно
Пан нешто ни здороу, пани нешто нудно
Прійдзи другим разом. Тым часом у поли
У пору работы ни зробиш николи
Бо и на пригоне нимаш чым рабици
И з дому на поле ни за порог выйсци
А идзи хоць ты тресни ни поспогадаюць
Бьюць, таукуць, гонюць, у карк попихаюць
Дажджом раби у дому, погодаж як блисне
То ни одна душа у хаце не писне.
На пригон без счету з серпами, з косами,
Волы до орання, кони з боронами
Той палиць уголля, той рыбу ловици
Тому у сенажаци кусты цирабици
Той повязе ваду, а той муку, збоже,
Работ загадаюць сциражи ты боже
Тому сено грабци тому стог складаци

Тому торфы класьци, тому подаваци
Згинь пропадзи лихо, до чорта роботы
Да дзиво што часом не стане и охоты
Придзе восень зараз дань гвалту гоняюць
Грибы, яйца, куры тольки отбираюць
И магазын отсып отдай до зерняци
Без ковалка хлеба останься у хаци.
Чинши и податки отдай без откладу
Як рекруты пойдуць—складкам немаш ладу
На стойки, дароги гонюць што нядзели
Каб яны у жыцю поцехи ня мели
Чорт их душу знае, што яны з нами
Ни поспогадаюць а цiонгле гаворуць
Хаме! На старожу прiйци опознiуся
Хаме! Ты сякеры рыдля узяць забыўся
Гдзе твой мех, грабли, вяроука да сечка
Да за што там у вас была з войтам спречка
Броварну сторожу отбывай без счету
Там дзень и ночь николи ня скончишь роботу
На волоўни як чорт у пекле таучися
Нимаш там спогадзи чи плач чи молися
Чи дождж чи нягода чи мороз найгоршiй
Чим горшее надворье, то тым пригон горшiй
А уставай до роботы парою без спречки
Выцягнуць з подлавы, сцягнуць цябе з печки
Ты идзи молоцици, ты идзи молоци
Ты картофлю садзиць, а ты идзи полоци,
Табе кони поиць, а ты за свиннями
Малая до качек, больши за гусями.
Усюды цябе гонюць и слухаешь як треба
Нима кали з'есьци и ковалка хлеба
Аж губы посмягнуць як проголодаешь
Каб и меу што з'есьци дык часу не маешь
Днём цёплай стравы нiколi не скоштуешь
Тольки сухим хлебом друг дружку частуешь
Полудник короткiй з'есци нима часу
Ад цивуна и войта досць крику галасу
А урадник як чорт сярдзитый и злостный
Погляд быстрый-срогiй и голос доносный
Як стане по свойму лаиць ды крычаци
То душа от цела мусиць адставаци
А на час як трапишь дык почисциць зубы
Схопишь аплеуху аж кроу пойдзе з губы
Чуприна ня пеўна бо поскубе кусо

Подправіць бороду и подкруце уса
А што страху надáсць а што надрижишся
Чи скачи, чи плач чи пред им молися
Ничога не поможе чекаць конца мусиш
Хоць прауда аднолькаж языка прыкусиш
Зараз карки скруцюць гето им минецца
Хванаберство згине и панство урветца
Дай тольки нам боже Вольносци дождаци
Будуць паны и сами слёзки полыкаци
На поли гдзе кали сох было як маку
Не знойдзеш загона ни ралли ни знаку
Усё ляже облогом лозы будзе воуку
Скруцюць паны скоро без хамоў голоўку.
А по саножаци ня пройдзеш за лесом
Бо хтож будзе косиць хиба пан з бесом
Прыгон як урветца толоки не стане
Скончитца адразу ихне пановане
Тагды яны хибо что беду познаюць
Бо цепер николи нам не спогадаюць
Идзи тольки хаме вот уся и гаворка
А з нашай працы грошы складаюць до ворка
Дай только нам боже скоринько дождаци
Каб могли спокойно посядзець у хаци
Пана не боятца и войта загаду
Было-б у нас болей и добра и ладу
Ни адзин-бы сказау мой пане Сцепане
Будзь ласкаў сягодня прыдзи на оранне
Заплачу што хочешь водкой почастую
А для твоих дзеток госцинца дарую
Кали ласка заутра подбежи з косою
Жонка и дочки з серпами а сын з бороною
Наперед дам гроши бо мне раз плацици
А цябе я знаю ня умеешь круцици.
Вот тагды лихо ужо прыцисне
Дык ни одзин застогне ни одзин и письне
Бо годзе над нами здековаться срога
Пріўдзе и на паноў каранне от бога.
Яны нас глумили плакаць не давали
Винен ци невинен без конца карали
А тагды им самим тое дастанецца
Что дасель нам было дык на них счаўпетца
Дай боже цару нашему здароўя
Нехай нашей доли скоштуюць панове
Нехай яго родзину бог у шчасци годуе

Што іон нашым брацям вольносць падаруе
А тым нашым панам што з нас скуру драли
Дай боже штоб яны на сабе того дазнали.
Голодному сытый спогадаць ня мусіць
Покуль чужой беды у губе ня укусиць
Поскрабе чуприну як не стане хлеба
Як бог и цар хоча мусиць так и треба
Може бы и болей говорили Сцепан и Данило
Да на их несчасце войта накруцило
Як стау загад строиць, як пачау крычаць
То мусили яны гутарку перестаць
Сказаўшы: дай боже каб так и сбылося
Може-б хоць на старосць нам лепей жылося
Ну цяпер Сцепане пойдзем у корчму ды выпьем па стакане
За здароуе цара[1]) на погибель пана
Може и мы будзем носици жупана
Будзь здароу Сцепане, пій здароў Данило
А о чом говорили каб меж нами было".

*Увага.* Перапісваючы верш, Я. Васільлеў стараўся патрапляць перадаць асаблівасьць фонэтычную, але з прычыны адсутнасьці ў той час (1898 г.) якой-колечы ортографіі беларускае пісаніны, вялікі ўплыў рабіла расійская ортографія, дзеля чаго ён піша „воды", „охоты", „одзин", разумеючы, што будзе чытацца: „вады", „ахоты", „адзін" і г. д.; у некаторых выпадках на'т патрапляў дадумацца як пісаць „ксяндзоў", „змовіўшыся", „счаўпетца", уводзячы літару „ў", якой літары тады ня было ў друку; „цёнгле", „ён"—ухітрыўся перадаць па практыцы польскага пісаньня „ціонгле", „іон". Відаць, як яшчэ спачатку трымаўся расійскага „что", „да", а пасьля, асьмеліўшыся нібы, перашоў на „што", „дык" і г. д. Трэба адзначыць, што вымова яго была вельмі чыстая і выразная.

Верш гэты быў да таго шурпаты, што я наважыўся яго крыху падгладзіць. У „Нашае Ніве" ён быў надрукаваны ў № 21 ад 9/22—X 1908 г. Аб тым-жа, што твор такога-ж зьместу быў ужо надрукаваны ў кнізе „Wieczernice i obląnkany, Poezje W. Dunin-Marcinkiewicza. 1855", мне не давялося ведаць раней, а „Biełaruskija pieśniary T. V—1909 г. Wieczarnicy" вышлі з друку толькі ў 1909 г. ё. на год пазьней надрукаваньня, у „Н. Н" вершу маёй апрацоўкі.

Вынікам усяго гэтага сталася, што мы маем і тэкст арыгіналу (?) і тэкст, які перацярпеў перабудаваньне з прычыны пераходу ад аднаго расказчыка да другога.

[1]) У часы прыгону цёмнае сялянства верыла, што паны зьдзекуюцца над ім бяз ведама цара, што цар адно, а пан—другое, што цар, каб пачуў мукі сялян, то выратаваў-бы ад паноў. Далей сялянства праканалася, што цар—гэта панская галава і, дзякуючы царызму, мог трымацца гэткі цяжкі прыгон і ўціск.

## ЭПОХА 1905 г.

### Мае ўспаміны

Раней, чым успамінаць аб 1905 г., патрэбна расказаць пра падгатоўчую да яго пару, зразумела, так, як гэта дазволіць мой сьветапогляд. Што належыць да апошніх гадоў мінулага сталецьця, а таксама 1900 і 1901 г. г., то я быў выстарчаюча ў курсе справы некаторых бакоў таго руху, які разьвіваўся ў той час, і як аб ім я ўжо расказаў у папярэдніх апавяданьнях. Вясною 1901 г. на вялікдзень, пасьля ўважлівага вобыску, я быў арыштован у сваім маёнтку і выслан, пад „абаронаю“ жандараў, у Пецярбург у дом „Предварительного заключения“, дзе прасядзеў роўна год. Дапрашвалі мяне больш за ўсё ў рэволюцыйнай пропагандзе сярод блонскіх сялян; на колькі гэта было магчыма, я адмаўляўся; абвінавачаньняў было мала і ў працягу першага часу дапросы прыводзілі к больш-менш добрым вынікам; нават жандарскі афіцэр, які мяне дапрашваў, палкоўнік Мілер, запэўніў мяне ў невялікай кары; але нечакана ў восень 1901 г. гэты самы палкоўнік пазваў мяне на дапрос на Цьвярскую вуліцу, дзе пратрымаў мяне гадзін шэсьць без яды і, нарэшце, абвясьціў, што супроць мяне зьявілася ізноў новае й вельмі сур'ёзнае абвінавачаньне; пачаўся дапрос аб пропагандзе сярод эўрэйскіх працоўных мас у м. Пухавічах. У працягу гэтага дапросу да майго вуха даляцелі моцныя спрэчкі з суседняга пакою паміж жандарскім афіцэрам і Любай Міхалавай Клячко-Радзівонавай. Іменна яна, калі гасьціла з сваім гаспадаром у нашым маёнтку Блонь, такой пропагандай і займалася. Яе арыштавалі раней чым мяне, разам з маладым селянінам сяла Блоні, Максімам Лукашыкам, па справе аб першай друкарні с. р. у Пецярбурзе, якую яны парашылі адчыніць без майго ведама. Што-ж датычыць да пухавіцкіх рабочых, то Л. М. Клячко адзін раз сапраўды ўдалося ўгаварыць мяне пайсьці да іх на сход, які адбываўся ў маім лесе; гэта было супроць маіх звычайных правіл, бо я стараўся менш гаварыць ці даваць нелегальныя брошуры тым рабочым і сялянам, которыя ведалі мяне ў твар.

У далейшым выявілася, што яна, наогул, шмат лішняга расказала жандарам і што яе гэтыя расказы й былі галоўнай прычынай высылкі мяне з сынам. Выслаць мяне парашылі адміністрацыйным спосабам на пяць год ува Ўсходнюю Сібір. У гэты самы час быў арыштованы мой

старэйшы сын Іван Анатольевіч і таксама па абвінавачаньні ў пропагандзе і агітацыі сярод аколічных сялян і рабочых: яму далі чатыры гады высылкі. Арыштаваны былі ў Блоні таксама і сяляне: Мікола Лявонавіч Цахановіч (атрымаў чатыры гады высылкі ў Архангельскую губ.), Навум Мігуцкі і Віктар Максімавіч Каток (высланы з Менскай губ. на два гады); селянін Сьцяпан Мігуцкі, старэйшы брат Навума, Васіль Шыбайла і інш., усяго, здаецца, восем чалавек, адданы на два гады пад нагляд паліцыі. Год адсідкі адзіночкай у „прадварылаўцы“ з паравым апалам, вельмі дрэнна адбіўся на маім здароўі, і я пачаў хварэць досыць часта, тым больш, што дома я прывык да энэргічнага жыцьця; мне прыходзілася ўважліва глядзець за гаспадаркай, я працаваў па 12-15 гадзін у суткі і ўвесь час на нагах. Жонка, якая прыехала да мяне ў госьці, пачала клапаціцца аб тым, каб перамянілі месца высылкі, і мне, замест Ўсходняй Сібіры, вызначылі Сьцяпны Край. У час адсідкі ў „прадварылаўцы“ я перачытаў многа кніг па грамадзкіх пытаньнях.

На высылку адаслалі мяне этапам праз Маскву, дзе мне прышлося чакаць другіх высылаемых, і на гэты час мяне заперлі ў агульную камэру часавой башні ў Бутырках. Гэта было ў сакавіку 1902 г.

Праз два дні прышоў этап з Менску, у якім былі: мой сын Іван і Мікола Цахановіч; сын быў яшчэ недарослым. Высылка бацькі з сынам досыць заможных памешчыкаў зробіла свайго роду сэнсацыю ня толькі сярод палітычных ссыльных, але і сярод адміністрацыі турмы; такія факты сьведчылі аб тым, што самаўладзтва трымаецца ня моцна. У Маскве ў той час было неспакойна: адбываліся выступленьні студэнтаў; за некалькі дзён да нашага прыезду сюды было арыштавана й пасаджана ў цэнтральныя корпусы Бутырскай турмы каля 800, здаецца, чалавек студэнтаў і курсістак, арыштаваных за дэмонстрацыі. З такім лікам буйнай студэнцкай моладзі турэмная адміністрацыя не магла саўладаць; студэнты й курсісткі сядзелі ў камэрах вялікімі кампаньнямі і стараліся разьвесяліць сябе: сьпявалі хорам рэволюцыйныя песьні, рабілі дэмонстрацыі, а гэта ўсё прываблівала к Бутыркам цэлыя натоўпы народу; нават адзін раз з вокан галоўнага корпусу пусьцілі асаблівы фэйервэрак (палілі паперу, салому з сяньнікоў і інш.), але ня помню толькі, з якой прычыны; на агонь і дым прыляцела пажарная каманда. Калі даведалася аб гэтым вышэйшае начальства, то яно загадала сур'ёзна пакараць моладзь. У адказ на гэта некаторыя камэры курсістак пачалі галадаць; да іх хутка далучыліся і іншыя курсісткі і студэнты, а таксама і ўсе вязьні Бутырак, якія сядзелі за палітычныя справы. Сярод курсістак і студэнтаў было шмат дзяцей багатых сямействаў; бацькі апошніх пачалі клапаціцца, езьдзіць да начальства, прасіць дапамогі ў самых выдатных адміністратараў. Галадоўка цягнулася чэцьвера сутак і, калі сярод курсістак пачаліся істэрыкі й нэрвовыя прыпадкі, начальства павінна было часткаю здаволіць тыя запатрабаваньні, з-за якіх пачалася гала-

доўка; ізноў пачаўся шум, харавыя сьпевы прагаладаўшайся моладзі. У гэтыя-ж самыя дні ў другой башні, здаецца, Пугачоўскай сядзелі перасылаемыя ў Сібір на катаргу—шлісельбурцы—Трыгоні і іншыя.

Нашу партыю пасьпяшылі выслаць. Мяне з сынам, соцыял-дэмократаў: прысяжнага паверанага Пакроўскага, доктара Вігдорчыка і некалькі чалавек студэнтаў, якіх прыгаварылі да высылкі за студэнцкія беспарадкі. Нам і канвою далі два вагоны. З гэтым-жа цягнікам ехалі—мая дачка 19 год, курсыстка Арына й жонка доктара Вігдорчыка, якія праваджалі нас. Арына ня была ўжо навічком: у час дэмонстрацыі на Казанскай плошчы ў Пецярбургу ў 1901 г. яна была ранена казацкай нагайкай у галаву і прасядзела за гэта нейкі час у вучастку. Праезд па чыгунцы да Омску ня быў нудным: знаёмства з таварышамі па ссылцы, гутаркі аб узрастаючым рэволюцыйным руху, спрэчкі й гутаркі з конваірамі—скарачала наш шлях. Прыпамінаю, як у Златавусьці ці Чалябінску жалезна-дарожныя рабочыя спаткалі наш цягнік прывітаньнямі з чырвонымі сьцягамі, што, зразумела, дало нам вялікае рэволюцыйнае здавальненьне. У Омску першыя тыдні прышлося сядзець у турме ў надта дрэнных умовах. На дварэ яшчэ было халодна (сакавік ці пачатак красавіка) турму абагравалі сапсаваным цэнтральным калорыжэрным апалам; некалькі сотак чалавек вязьняў кожны дзень па некалькі гадзін прымушаны былі дыхаць сапсаваным, надта шкадлівым паветрам, пераносіць страшэнны чад; так была справа з апалам да нас усю зіму і палепшылася толькі тады, калі зусім перасталі паліць. Адным словам, парадкі ў Омскай турме мы засталі орыгінальныя: малады хлапчук замяшчаў начальніка турмы; ён нічога сабе не ўяўляў аб тым, як трэба весьці справу ў канторы, як трэба рабіць турэмную справаздачу, а ўсё гэта за яго рабіў крымінальны арыштант, чыноўнік з адукацыяй, нехта Марэншыльд, які раней быў сялянскім (земскім) начальнікам і папаў у турму за растрату сялянскіх грамадзкіх капіталаў. Фактычна, начальнікам турмы быў Марэншыльд; да нас, палітычных, ён адносіўся з вялікай пашанай. У наша карыстаньне для спатканьняў, гутарак і чаяпіцьця, з значным лікам прыходзячых да нас, далі асобную камэру, у якой зранку і амаль што да самага вечара было многа народу з колёній омскіх ссыльных і іх сяброў. З іх прыпамінаю загадчыка статыстычным аддзяленьнем Омскага Краю Чэрмака, Ваноўскага з жонкай, Марыляй Антонавай Кляўшчынскай, якая пасьля жыла ў Менску з другім гаспадаром, К. А. Пятрусэвічам, старога народніка Севасьцьянава сямідзесятніка і яго зяця, вядомага кіргіскага дзеяча, выбранага пасьля дэпутатам у першую Думу—Букей-Ханава, Вольгу Мікалаеўну Фляроўскую, сястру Веры Фігнэр, з мужам доктарам Фляроўскім. З усімі імі мы пазнаёміліся яшчэ ў турме. Праз пару тыдняў нас з турмы выпусьцілі на вольныя кватэры: надыходзіла навігацыя па Іртышы, і з першымі параходамі па ім нас зьбіраліся паслаць у больш далёкія мясцовасьці. Апрача мяне з сынам, у ссылку намячалася некалькі чалавек студэнтаў.

Нарэшце, назначана была адпраўка параходу гадзін у 11 вечара; мы загадзя з поліцэйскімі, якія за намі назіралі, забраліся на параход; прышлі праваджаць нас і ўсе ссыльныя і другія знаёмыя. Пачалі мы ўсе піць чай у параходнай сталоўцы; адпраўка параходу зацягнулась; іншых пасажыраў было мала; пачаліся гутаркі на палітычныя тэмы, нават спрэчкі паміж абаронцамі тае ці іншае партыі, а пасьля гэтага пачаліся харавыя сьпевы. У Вольгі Мікалаеўны (сястры вядомага пяўца Фігнэр) і аднаго доктара былі харошыя галасы; сьпявалі Сьценьку Разіна і іншыя рэволюцыйныя песьні, якія з вялікім захапленьнем слухала ня толькі наша кампанія, але і параходная каманда і другія асобы. Адпраўка зацягнулася да 3-х гадзін ночы і нашы провады, самі сабой, дзякуючы прамовам, гутаркам на палітычныя тэмы і харавым сьпевам, прынялі характар дэмонстрацыі супроць улады. Яшчэ раней, калі вяліся размовы, зьявіўся прыстаў, у прысутнасьці якога гутаркі абарваліся; ён спачатку вышаў, затым прышоў ізноў і пачаў уважліва прыглядацца да кожнага прысутнага, каб запомніць яго твар. Ссыльны Пакроўскі падышоў да яго і катэгарычна прапанаваў яму выйсьці адгэтуль; прыстаў адказаў, што ён мае права тут быць, бо гэта грамадзкае месца; Пакроўскі яшчэ раз паўтарыў сваю прапанову, грунтуючыся на тым, што ссыльныя гавораць аб сваіх справах і не жадаюць прысутнасьці пастароньніх асоб. Прыстаў паслухаў і вышаў, але зараз-жа аб гэтым паведаміў начальства. Гэнэрал-губарнатар Сухоцін абурыўся і па тэлеграфе загадаў Семіпалацінскаму губарнатару Сакалоўскаму не рабіць ніякіх палёгак ссыльным, ніякіх астановак і зараз-жа разаслаць па вызначаных месцах. Некаторым з Омскай колёніі ссыльным таксама дасталося: некалькі чалавек было пераведзена з Омску ў Акмалінск, Каркаралы.

Падарож па Іртышы ў часы вясновага разводзьдзя была досыць цікавай, мясцовасьць была мала яшчэ заселена, часта сустракаліся тысячныя стаі дзікіх качак і гусей розных парод, а таксама можна было ўбачыць асобнымі парамі і прыгожых лебядзей. На параходзе ехала партыя перасяленцаў—маларосаў: у часы астановак яны хадзілі па дровы на залітыя вясновай вадою астравы і тут-жа лавілі вадзяных птушак і зайцаў, якіх загнала сюды вада. У Семіпалацінску губарнатар Сакалоўскі падрабязна выканаў загад Омскага гэнэрал-губарнатара Сухоціна, ён не дазволіў мне нават і на хвілінку адпачыць, ня гледзячы на тое, што ў мяне быў прыпадак інфлуэнцыі, а загадаў зараз-жа выехаць у Усьцькаменагорск, які вызначан быў мне для ссылкі. У Семіпалацінску прышоў пазнаёміцца і праведаць мяне прысяжны паверены Кокшын, быўшы ссыльны, які пасьля быў выбраны ў першую Дзяржаўную Думу.

У Усьцькаменагорску была колёнія старых ссыльных, каторыя ўжо даўно адбылі свой тэрмін кары і засталіся тут жыць назаўсёды, а іменна: двух палякаў, сасланых за 1863 г. (Гінтовіч, а другі аптэкар), Касьцюрына, брата катаржніка Касьцюрына, быўшага катаржніка Туровіча, які меў

ужо 60 год, вучонага гэолёга Міхаеліса, вучонага пчалавода Аляксандра Мікалаевіча Фёдарава, каторы быў маім блізкім сябрам яшчэ з 70-х г. г. па Пецярбургу, з якога мы абодва былі высланы за ўдзел у студэнцкіх беспарадках; апрача іх былі тут нядаўна высланыя студэнты Мяркулаў і Грыгор'еў. Амаль што ўся інтэлігэнцыя гор. Усьцькаменагорску складалася з быўшых ссыльных, якія абзавяліся сем'ямі і засталіся тут жыць. У кожнага з іх была свая работа: адзін вёў гандаль, другі меў маленькі залаты прыіск, у трэцяга была свая аптэка, чацьверты займаўся пасевамі (сеяў падсолнухі) і г. д. Касьцюрын, які займаўся гандлем, быў выбраны гарадзкім галавой. А. Н. Фёдараў, самы сымпатычны з усіх колёністых, зарабляў сродкі прыватнымі вурокамі, а таксама меў нейкі прыбытак і ад пчол. Мясцовае жыхарства да нас ссыльных як старых, так і новых, адносілася вельмі добра. У Усьцькаменагорску захавалася апаваданьне пра дзьвюх старых фрэйлін, якія былі сюды сасланы з адрэзанымі языкамі пры Елізавеце і якія дажывалі тут свой век. Як месца ссылкі—Усьцькаменагорск—горад прыгожы. Клімат сухі, здаровы, продукты дзёшавы, улетку добра пасьпяваюць гарбузы, але яблыні і грушы зімою вымярзаюць; каля гораду блізка вандравалі кіргізы, у якіх мы куплялі вельмі добры кумыс. Знаходзіцца Усьцькаменагорск на беразе вельмі быстрай у гэтым месцы рэчкі Іртыша; на поўвярсты вышэй гораду Іртыш вырываецца з горных скал. Я зрабіў сабе лодку з піхтавых дашчок—другога лесу блізка каля гораду няма; але цячэньне вады ў Іртышы настолькі быстрае, што езьдзіць на лодцы па ім небясьпечна і часта сустракаюцца вадавароты. Надаедлівы нагляд за намі паліцыі, па спэцыяльных заданьнях губарнатара Сакалоўскага, атручваў наша жыцьцё; заўсёды падслухвалі нашы гутаркі, падглядвалі, хто ў нас бывае, з кім вядзем мы знаёмства і г. д. Адзін настаўнік, каторы быў у мяне толькі два разы, праз некалькі месяцаў за гэта быў пераведзены ў другое, надта глухое месца, здаецца, у Каркаралы (некалькі дзён трэба ехаць па Іртышы).

У хуткім часе прыехаў праведаць нас мой другі сын, Радзівон, разам з курсысткай—таварышкай маёй дачкі. Такім чынам, організавалася ў нас маладая, вясёлая кампанія: ссыльныя і няссыльныя студэнты, дзьве курсысткі; усе мы плавалі на лодках па Іртышы, лазілі на ўзгоркі Алтаю. Я быў адарваны ад нормальнага жыцьця, да якога прывык, і часта сумаваў. Пад восень прышоў загад аб пераводзе мяне з сынам у Уфімскую губ. Дзеля таго, каб дзешавей мне каштавала падарож да Семіпалацінску, я набыў уласную вялікую лодку, палажыў на яе ўсю сваю маемасьць і, з дазволу начальніка павету (у Сібіры ня было ісправунікаў: тыя чыноўнікі, што іх замянялі, называліся начальнікамі павету), паехалі ўніз па Іртышы да Семіпалацінску; нас было трое: я, мой сын і паліцэйскі, каторага назначылі к нам конваірам. У Семіпалацінску лодку я прадаў і, такім чынам, гэты праезд мне нічога не каштаваў; толькі ў гэтай падарожы я

прастудзіўся, бо ночы былі надта халодныя, а дзьве іх мне прышлося правясьці ў лодцы на вадзе (больш 200 вёрст адлегласьці ехалі).

У Уфе мы засталі ссыльных: В. В. Леановіча з сям'ёй, соцыялістага-рэволюцыянэра, доктара Плаксіна, соцыял-дэмократа; з імі мы блізка пазнаёміліся і зжыліся.

У Уфе мы пражылі толькі адзін месяц; поліцыя падганяла хутчэй выехаць у Белябей, вызначанае для нас месца. Гэта мясцовасьць для ссыльных была надта дрэнная: клімат халодны, зімою выпадаў сьнег на ўзровень з платамі, інтэлігэнцыі тут ня было, адносіны жыхароў да нас, ссыльных, былі баязьлівыя і нават варожыя; знаёміцца з намі не хацелі, баяліся, адным словам, зусім інакш, чым у Сібіры. Поліцэйскі нагляд быў надаедлівы, дробны, напрыклад, у вечары поліцэйскія, а то і дабравольцы—жыхары ў чужой вопратцы хаваліся пад бальконы і падслухоўвалі нашы гутаркі. У гэтым-жа горадзе мы засталі ссыльнога, вядомага соцыял-дэмократа, Зьмітра Сімонавіча Пасталоўскага, з якім блізка пазнаёміліся; але, на жаль, ён хутка пераехаў на Каўказ, у больш здаровы і мяккі клімат. Апрача яго, было тут яшчэ двое ссыльных: муж і жонка Савіновы, с.-р. Жыцьцё ссыльных у Белябеі было цяжкае: знаёмых ня было, кніжак мала, загэтым прыходзілася карыстацца толькі сваімі ўласнымі. Праўда, у Белябеі да нас часта прыяжджала мая жонка і дзеці. Наведваліся таксама блізкія таварышы мае і таварышы маіх дзяцей—Віктар Яўгеньевіч Рагазін з сваёй нявесткай Натальлей Мікалаеўнай Южаковай. Рагазін належаў да соцыял-дэмократаў, сядзеў доўга ў турме па справе нелегальнай друкарні; гэта турэмнае жыцьцё назаўсёды папсавала яго здароўе. Натальля Мікалаеўна—дачка політычнай ссыльной, сястры вядомага літаратара і грамадзкага дзеяча ў „Отечественных Записках" Южакова; бацька Натальлі Мікалаеўны быў ссыльны рабочы; і бацька і маці яе загінулі ў ссылцы ў Сібіры, калі яна была яшчэ маленькая. Яе ўзяла да сябе і выхавала, як родную дачку, Елізавета Мікалаеўна Вадавозава—шасьцідзесятніца, вядомая пісьменьніца, якая была замужам спачатку за пэдагогам шасьцідзесятнікам Вадавозавым, а пасьля за гісторыкам Васілём Іванавічам Сямеўскім. Апрача Елізаветы Мікалаеўны была яшчэ маладая Вадавозава, Вера Пятроўна, жонка другога сына Елізаветы, Васіля Васільлевіча Вадавозава.

Вера Пятроўна (або Верачка, як мы ўсе яе звалі) была надта добрая; у часы моладасьці яна была ў ссылцы, прымала самы гарачы ўдзел у рэволюцыйнай працы і да партыі с.-р. і пасьля організавала выдавецтва портрэтаў выдатных грамадзкіх дзеячоў; памерла яна ў 1917 г. ад атруты.

Жывы, прыгожы ўспамін заставіла ўва мне наведываньне Грыгора Андрэевіча Гэршуні; ён ехаў у Сьцяпны Край організаваць шлісельбурцаў, каб даць магчымасьць уцячы Палівано, ссыльному, а таксама падрыхтаваць забойства Уфімскага губарнатара Багдановіча. Заехаў ён да мяне консьпіратыўна, пражыў пару сутак, і за гэты час нікуды ня вышаў

з кватэры; увесь час мы вялі гутарку пра ўзрастаючы рух, пра надыходзячую рэволюцыю, а асабліва аб програме партыі, проэкт каторай у гэты час выпрацоўваўся. Грыгор Андрэевіч пакінуў мне адзін экзэмпляр проэкту програмы дзеля таго, каб я ў вольны час прадумаў яго, адзначыў сваю ўвагу і адаслаў яе з „оказией“ па застаўленым ім адрасе ў Жэнэву, дзе ў той час гуртаваўся партыйны цэнтр. Грыгора Андрэевіча я ня бачыў гады два; за гэты час ён стаў выдатным дзеячом-рэволюцыянэрам; яго псыхіка была напоўнена гарачым энтузыязмам, цьвёрдай верай у перамогу, і гэтым ён захопліваў акружаючых яго таварышоў; гэтыя рысы былі так значна разьвіты ў ім, што, часамі, яны перашкаджалі некаторым другім якасьцям, якія неабходны для кіраўніка рэволюцыйнай працай; ён ня мог у значнай меры прыслухацца да ўнутранога пачуцьця чалавека, угадаць яго і загэтым часамі рабіў сур'ёзныя памылкі ў выбары людзей. З Г. А. Гэршуні я пазнаёміўся яшчэ ў канцы дзевяностых гадоў у Менску, калі ён быў толькі энэргічным культурным дзеячом. Успамінаю, як прыгожа ён чытаў у Менску публічныя лекцыі па гігіене; слухачоў у яго было вельмі многа. Тады-ж у Менску ён пазнаёміўся з С. П. Кавалікам, К. К. Брэшкоўскай, якія нядаўна перад гэтым вярнуліся ў Расію пасьля ссылкі ў Сібір, і, наогул, са ўсёй нашай блоньскай кампаніяй. Гэтае знаёмства ў значнай меры акрэсьліла яго далейшае разьвіцьцё ў рэволюцыйным напрамку. Яго прыезд да мяне ў Белябей, яго апавяданьні аб пашырэньні руху, аб павялічэньні і організацыі партыі, зрабілі на мяне вялікі ўплыў, далі мне новыя сілы лягчэй перанясьці ненавісную ссылку.

Багдановіч павінен быў паплаціцца сваім жыцьцём за расстрэл у Златаўсьці рабочых, якія прышлі натоўпам прасіць аб чымсь прыехаўшага туды на ўсьмірэньне губарнатара.

Гэта наглае карыстаньне аружжам супроць рабочых і іх сямей падняло тады ўсю Расію, і Багдановіча ў хуткім часе забілі. Я ніколі ня быў вялікім абаронцам тэрору, а ў гэтым выпадку з Багдановічам яшчэ і затым, што ён, глухаваты старык, ня быў крайнім рэакцыянэрам—жорсткім усьмірыцелем, а проста—баязьлівым, слабахарактарным выканаўцай загадаў начальства; гэткім, па крайней меры, я яго ўяўляў сабе з слоў нашага гісторыка Васіля Іванавіча Сямеўскага, які ведаў Багдановіча раней.

У Белябеі, ня гледзячы на варожасьць жыхароў, усё-ж удалося пазнаёміцца з некалькімі народнымі настаўнікамі, з ліку якіх некаторыя пасьля прымалі ўдзел у рэволюцыйным руху, напрыклад, брат і сястра Бандаровы, курсістка Нона Галінава і інш.

Ня памятаю добра, у Уфе ці ўжо ў 1905 г. я пазнаёміўся, пры дапамозе В. В. Леановіча, з маладою рэволюцыянэркай Пракоф'евай, нявесткай Ягора Сазонава; ува ўсіх, хто з ёю спатыкаўся, яна выклікала сваім духоўным абліччам чароўнае ўражаньне.

На жаль, яна хутка памерла ад сухот. Наконт гэтага мне прыпамінаецца характэрная размова ў маёй прысутнасьці палітычных абаронцаў (так звалі прысяжных павераных, якія спэцыялізаваліся для абароны палітычных праступнікаў)—Заруднага, братоў Малянтовічаў, Лядніцкага, Скараціна і інш. Яны ўспаміналі розныя тыпы жанчын, якіх ім прыходзілася абараняць за палітычныя справы, і прышлі да наступнай характарыстыкі: самыя сымпатычныя жанчыны найчасьцей сустракаюцца сярод анархістак, затым сярод эсэрак, менш за ўсё сярод соцыял-дэмократак; патрэбна адзначыць, што такія абаронцы, як, напрыклад, Зарудны, мелі вельмі вялікую практыку.

У часы маёй ссылкі ў Белябей, дома ў маёнтку Блонь здарыўся сур'ёзны пажар—згарэў ад няшчаснага выпадку крухмальны завод, тыпу напалову кустарнага. Мая прысутнасьць дома была неабходна; я зьвярнуўся ў Міністэрства Ўнутраных Спраў з просьбай адпусьціць мяне з ссылк на кароткі тэрмін; мяне адпусьцілі; гэта было зімою; у час майго водпуску на блоньскіх могілках хлапцы, думкі каторых ня былі скованы старымі традыцыямі, вывернулі некалькі крыжоў. Начальства паднялося на ногі: пачалася справа аб „святотатстве"; справу гэту зьвязалі з маёю прысутнасьцю дома, з маім уплывам на хлапцоў, і загадалі мне зараз-жа пакінуць Блонь; а сапраўды я да гэтага дзіцячага ўчынку ніякага дачыненьня ня меў.

З ссылкі я вярнуўся ў восень 1904 г.—раней, чым скончыўся вызначаны мне тэрмін дзеля таго, што, дзякуючы нараджэньню насьледніка, была часткаю абвешчана амністыя. Сьпярша, да студзеня 1905 г., я займаўся, галоўным чынам, гаспадаркаю.

Ад рэволюцыйнага руху ў драбніцах, зразумела, я адстаў, але, наогул, быў у курсе справы. З менскага жыцьця, якое ўсё больш і больш ажыўлялася, за гэты час мне асабліва прыпамінаецца спатканьне новага году ў доктара Поляка, у тэй-жа самай кватэры, дзе ён і цяпер жыве (Юр'еўская, каля вугла Петрапаўлаўскай); сабралося дзесяткі два чалавек менскай радыкальнай інтэлігэнцыі; банкет прашоў у вялікім натхненьні, нас усіх радавалі і надавалі новых сіл жывыя надзеі на ўзрост і пашырэньне рэволюцыйнага руху; агульны і невялічкі даклад зрабіў С. Ф. Кавалік, прыгожа гаварыў яшчэ яго таварыш па ссылцы—Морыц Лазаравіч Саламонаў, і некалькі слоў сказаў я.

Калі наладзіў я справы па гаспадарцы, то ў пачатку студзеня паехаў у Пецярбург і зусім выпадкова апынуўся там вечарам 9 студзеня; прышлося прысутнічаць на вячэрнім вялікім сходзе-мітынгу ў Вольна-Эканомічнай грамадзе, на сходзе вельмі шумным, у якім прымаў удзел і пераадзеты Гапон. Падзеі дзевятага студзеня былі яркім пераломным момантам у грамадзка-палітычным жыцьці Расіі. Прадметны вурок на тэму „что такое сущность самодержавия" быў даны і для сярэдняе клясы, а асабліва для рабочае і праз яе, часткаю, і для сялянскае клясы; вурок

быў досыць відавочным і яркім; рэволюцыйная хваля з паступовага і, адносна, невялікага ўзрастаньня, цяпер пераходзіць у сапраўднае кіпеньне.

Займацца гаспадаркай далей я ўжо ня мог; новы крухмальны завод да гэтага часу быў пабудованы і пабудованы добра. Для яго пабудаваньня, яшчэ ў час маёй ссылкі, удалося праз суд дабіцца права залажыць маёнтак (пасьля бацькі я быў пазбаўлен гэтага права дзеля таго, каб ня даць мне магчымасьці траціць сродкі на рэволюцыйныя мэты) і ў мяне ў кішэні засталося некалькі тысяч рублёў грошай, якія далі мажлівасьць мне і сынам прымаць актыўны ўдзел у рэволюцыйным руху і яго падтрымліваць, а асабліва ў справе організацыі нелегальных друкарань і выданьня літаратуры.

На вялікі жаль, мой добры знаёмы Г. А. Гэршуні быў у гэты час ужо арыштаваны і мне прышлося, апрача яго, адначасова і распачынаць рэволюцыйную працу, і знаёміцца, і наладжваць адносіны з таварышамі— кіраўнікамі партыі соцыялістых-рэволюцыянэраў, якія жылі ў Расіі, але з якімі я быў да гэтага часу незнаёмы, напрыклад: доктарам А. І. Патапавым, Аргуновым, І. П. Сьлятовым, Н. І. Ракішнікавым, Азэфам і інш... Мае старыя знаёмыя па Аграрнай лізе былі яшчэ за нашымі межамі. Новыя знаёмыя патрабавалі, каб я хутчэй паехаў у Жэнэву і згаварыўся там з членамі ЦК, асабліва з хворым Рафаілам Гоцам, які тады ў партыі займаў адно з першых месц, мне-ж у такую гарачую рэволюцыйную пару цяжка было пакінуць працу і ахвяраваць два-тры тыдні на паездку; паездка адкладвалася на далейшы час, і сабраўся ў Жэнэву я толькі ў жніўні 1905 г.

За Азэфам у той час яшчэ ніхто ніякіх грахоў ня бачыў; з першага знаёмства ён мне паказаўся вельмі несымпатычным, але з ім мець справу мне трэба было дзеля таго, што ён быў кіраўніком баявое організацыі, зусім выдзеленае ад іншых аддзелаў партыі. На мне, як і ў 70-х і 80-х гадох, ляжаў абавязак разьвіць рэволюцыйную самадзейнасьць сялянства й рабочых; у гэтым я бачыў галоўную істоту справы; змаганьню з уладай тэрорам я асаблівай вагі не прыдаваў, а прызнаваў яго пастолькі, паколькі ён дапамагаў у кожным асобным выпадку галоўнай рысе рэволюцыйнага разьвіцьця, г. ё. дапамагаў разьвіцьцю рэволюцыйнай самадзейнасьці мас. З майго пункту погляду толькі некаторыя ўдала выбраныя і ўдала выкананыя тэрорыстычныя акты былі неабходнымі і то толькі ў тых выпадках, калі яны адбываліся ў цеснай сувязі з другімі галінамі рэволюцыйнай працы. Гэткімі актамі можна было лічыць забойства ў 70-х г. г. Краўчынскім шэфа жандараў Мезенцава, Халтурыным вайсковага прокурора Стрэльнікава, узрыў ім-жа Зімовага Дварца, а ў апошнія часы забойства міністраў: Багалепава і Плевэ. Такая падзея, як помста забойствам Багдановічу за расстрэл рабочых у Златаусьці, мела-б сэнс толькі ў тым выпадку, калі-б пропаганда партыі была так пастаўлена, што яна высь-

ветліла-б і растлумачыла-б шырокім масам неабходнасьць тэрору. Мне здаецца, што забойства ў Тамбове чыноўніка Лужаноўскага Мар. Сьпірыдонавай было больш продукцыйным, бо ў гэты час і агульнае нездаваленьне значна ўзрасло, а таксама, дзякуючы шырокай расьпасюджанасьці нелегальнай літаратуры, яно было досыць яскрава высьветлена й скраыстана ў сэнсе далейшага ўздыму рэволюцыйнага настрою і разьвіцьця рэволюцыйных сіл.

Калі з гэтага пунтку погляду ацаніць усю дзейнасьць партыі Народнай Волі цалком, то можна ўбачыць, што яна ў канчатковых выніках не дасягала мэты затым, што ня былі ў значнай меры разьвіты ёю абодва неабходныя бакі рэволюцыйнай барацьбы: непасрэдныя напады і замацаваньне і скарыстаньне вынікаў ад іх для далейшага разьвіцьця і згуртаваньня рэволюцыйных сіл. Таксама было вельмі мала правільнай рэволюцыйнай стратэгіі і ў дзейнасьці партыі соцыялістых-рэволюцыянэраў; я гавару пра пару да 1909-10 г.; у наступныя часы я амаль што ня прымаў ніякага ўдзелу; яшчэ з паўстаньняў у Маскве ў сьнежні, асабліва калі захапілі Сямёнаўцы Прэсьню, я пачаў адчуваць, што наша справа праіграна, што мой энтузыязм патух напалову.

Зьвяртаюся да тэмы. Я, як стары народнік-чорнаперадзелец, спэцыялізаваўся ў 1905 г. па організацыі рэволюцыйнай працы сярод сялян. Сыны мае Іван і Радзівон таксама цалком аддаліся гэтай справе. Старэйшы Іван працаваў у Ўсерасійскім Сялянскім Саюзе, Радзівон—разам са мною ў партыі с.-р. На організацыі працы сярод сялян я застанавіўся па наступных думках: рабочая кляса ў Расіі была яшчэ слабая, а, паміж іншым, у гушчы рабочых працавалі соцыял-дэмократы розных напрамкаў і соцыялістыя-рэволюцыянэры, сярод сялянства вялі працу выключна соц.-рэволюцыянэры да й то ў вельмі нязначным ліку; рэволюцыйныя ідэі і настроі сярод рабочых распаўсюджвала і інтэлігэнцыя, рэволюцыйная моладзь і нават ужо досыць значны лік сьвядомых рабочых рэволюцыянэраў; у сялянскай гушчы такога авангарду ня было. Перад маімі вачыма яскрава вырысоўвалася контр-рэволюцыйная роля сялянства Вандэі ў часы Вялікай Францускай Рэволюцыі; пры адсутнасьці належнай і своечасовай падрыхтоўкі лёгка магло здарыцца, што сяляне некаторых мясцовасьцяй Расіі сыграюць у рэволюцыйным руху ролю падобную Вандэі ўва Францыі. Асабліва я быў няўпэўнен у беларускіх сялянах і ў Данскіх і Кубанскіх казаках. Вось зачым кожны, хто толькі адчуваў здольнасьць, павінен быў, на мой погляд, працаваць над падняцьцем рэволюцыйнага ўзроўню сялян.

У партыі я застаў наступнае становішча: галоўныя сілы партыі згрупаваліся ў Швайцарыі і ў Расіі ў гаргдох і застанавіліся на агульна-партыйнай працы ці на баявой організацыі. З членаў Цэнтральнага Комітэту працай сярод сялян загадваў спэцыяльна толькі адзін Ракітнікаў, які' паміж іншым, сам жыў у Саратаве. Паўстала пытаньне аб організацыі спэ-

цыяльнага аддзелу партыі (сялянскай комісіі) для кіраўніцтва працай сярод сялянскіх гушчаў на тэрыторыі ўсёй вялікай Расіі і аб скліканьні спэцыяльнай конфэрэнцыі сялянскіх працаўнікоў; дзеля гэтага мой сын Радзівон паехаў у падарож па Расіі, каб згаварыцца з мясцовымі працаўнікамі. У шмат якіх мясцох гэты проэкт прынялі ахвотна. У Саратаве сын прабыў каля двух тыдняў, дзе ён стараўся пераканаць Ракітнікава ў неабходнасьці хутчэй прыехаць у Маскву і прыняцца за організацыю гэтае справы. Нарэшце, у канцы мая ці пачатку чэрвеня ў Маскве сабралася малалюдная конфэрэнцыя сялянскіх працаўнікоў пад кіраўніцтвам Ракітнікава; у гэты час я з ім і пазнаёміўся; на гэтым зьезьдзе выявілася па некаторых пунктах мая з ім нязгода; ён абараняў больш сярэднюю, спакойную тактыку сялян, а я лічыў патрэбным адразу, рэволюцыйным уздымам, падарваць экономічную і політычную вагу памешчыкаў і да гэтага заклікаць сялян.

Тут-жа, паміж іншым, разглядаўся тэкст вядомай „забастовачнай“ проклямацыі да сялян. Я і значная частка працаўнікоў з месцаў стаялі за больш рашучыя змаганьні з памешчыкамі і адміністрацыяй, напрыклад, раілі спускаць ваду з саджалак, разбурваць заставы ў тых вадзяных млынох, ад якіх затапліваліся сялянскія сенажаці, і наогул чыніць усякія перашкоды дзеля таго, каб існаваньне панскае гаспадаркі зрабіць некарысным і немагчымым. Ракітнікаў, з часткаю сваіх таварышоў, быў супроць такіх сродкаў, якія хоць і часова, але маглі панізіць сельскагаспадарчую прамысловасьць.

Тады-ж парашылі выдаць спэцыяльную для сялян газэту пад назвай „Зямля й Воля“.

Неўзабаве з Масквы мы з Ракітнікавым паехалі на конфэрэнцыю Паўночна-Заходнага Абласнога Партыйнага Комітэту ў Смаленску. Дзейнасьць Комітэту распаўсюджвалася на Смаленскую, Віцебскую, Магілеўскую, Менскую, часткаю Чарнігаўскую і на іншыя паўночна-заходнія губ.; у некаторых справа пастаўлена была дрэнна, напрыклад, у Магілеве і належачых да яго раёнах. З сяброў Абласнога Комітэту добра памятаю: Міхаіла Сьцяпанавіча Біцэнку, агронома, Галену Антонаўну Касьцюшка-Валюжніч (брат яе быў расстрэлен ў Сібіры ў 1905 г. адным з царскіх гэнэралаў) і Яўгеню Ратнэр.

Усе яны трое мелі выдатныя душэўныя якасьці. М. С. Біцэнка ў апошнія часы чытаў лекцыі ў адным з адэскіх ВУЗ'аў і марыў застацца сябрам якой-небудзь сельска-гаспадарчай арцелі ці комуны, Галена Антонаўна Касьцюшка і Я. Ратнэр у 17-18 гадох пашлі супроць Савецкай улады; першая ўжо памерла.

Зараз-жа пасьля конфэрэнцыі я з Н. І. Ракітнікавым, пад яго рэдакцыяй, сабралі матэрыял для першага нумару нелегальнай газэты для сялян, пад назвай „Зямля й Воля“ і парашылі надрукаваць у друкарнях, якія організаваліся пры Абласным Комітэце. Пры ім былі адчынены

дзякуючы маёй дапамозе, тры нелегальных друкарні: адна ў Менску, другая у Бабруйску, трэцяя ў Гомелі; называліся яны „Зьвёздачкамі“. Першую організаваў я, другую—сын Радзівон, трэцюю ў Гомелі—Сакалоў, які ў гэты час там працаваў, а пасьля стаў максымалістым (прозьвішча яго „Мядзьведзь“). На ім патрэбна застанавіцца больш падрабязна.

Сакалоў у пачатку 1905 г. прыехаў з Швайцарыі ўжо нелегальна з групай таварышоў (бондар, каваль і інш.), з каторымі згаварыўся яшчэ ў Жэнэве адносна някаторай нязгоды з тактыкай партыі с.-р. Гэтая група стаяла за больш рашучае змаганьне і спачатку высунула, галоўным чынам, аграрны тэрор, як найбольш продукцыйны мэтод барацьбы ў вёсцы; пасьля, пры далейшым узросьце рэволюцыйнага руху ў 1905 г., яна прызнала мажлівым ужываць і фабрычны тэрор, а таксама перашла да практыкі прыватных і сыстэматычных узброеных экспропрыяцый; у програмных адносінах пачала бараніць соцыялізацыю ня толькі зямлі, але таксама фабрык і заводаў. Першапачаткова група „Сакалова“ прыехала выключна з ідэяй аграрнага тэрору, але дзеля таго, што ЦК партыі с.-р. на гэта не згадзіўся даць сваю санкцыю, то яна папрабавала набыць сабе правы аўтономнай групы. Што-ж належыць да ідэі соцыялізацыі фабрык і заводаў, то максымалістыя не прывязьлі яе з-за меж, а запазычылі ад ідэйнага напрамку ў шэрагах партыйнай моладзі Заходняй вобласьці, дзе за яе агітаваў, галоўным чынам, Радзівон Бонч-Асмалоўскі. Гэту-ж ідэю падтрымліваў у той час і Н. І. Ракітнікаў. Калі Радзівону прышлося бываць у вёсках Саратаўскай губ., дзе раней агітаваў Сакалоў, то ён сярод сялян убачыў захаваным жывы ўспамін аб ім. Апрача ўражаньняў, выкліканых гарачаю прамовай, асабліва вялікі ўплыў рабіла на сялян тое, што Сакалоў вёў сваю працу ў той час, калі сяляне былі самі за працаю: ён сам браў, напрыклад, касу і памагаў ім, і толькі па сканчэньні работы гаварыў сялянам пра рэволюцыйны рух. Сакалоў быў рэволюцыянэр, пылкі, адкрыты, адхіляў усякія компромісы, опортунізм, політыку; ён, энэргічны, адважны, выклікаў дзіўнае ўражаньне ўва ўсіх сваіх таварышоў.

Усе тры друкарні працавалі ў згодзе паміж сабою; некаторыя рэчы друкаваліся адначасова па частках ува ўсіх трох друкарнях. Менская друкарня была пераведзена чамусь у Смаленск. Да абвяшчэньня кастрычнікаўскага маніфэсту ў іх было надрукована каля 40 пудоў нелегальнай літаратуры, большаю часткаю розных проклямацый, а таксама першы нумар газэты „Зямля й Воля“.

З усіх трох друкарань выходзіла вядомая „забастовачная“ проклямацыя да сялян, аб якой я ўжо гаварыў; яна была распаўсюджана ў ліку некалькі сотак тысяч экзэмпляраў амаль што адначасова па ўсёй Расіі; апрача нашых трох друкарань, яе перадрукоўвалі і нелегальныя друкарні іншых абласьцей; яна, бязумоўна, сыграла вялікую ролю ў разьвіцьці сялянскага рэволюцыйнага руху ў 1905 г.

Сакалоў на сваю адпаведнасьць зьмяніў тэкст проклямацыі, дадаў яму крыху іншы характар; ён заклікаў сялян да рашучых рэволюцыйных падзей, да зьнішчэньня маёнткаў памешчыкаў. На гэтай падставе паміж ім і ЦК партыі выбухнуў сур'ёзны конфлікт; Сакалова парашылі выключыць з партыі; я імкнуўся ліквідаваць гэта непаразуменьне, пагадзіць Мядзьведзя з партыяй; я таксама быў абаронцам больш рашучай тактыкі але не заходзіў так далёка, як гарачы Мядзьведзь-Сакалоў. Ён гатоў быў ужываць нават і мэтоды Сьценькі Разіна, што, аднак, зусім не перашкаджала яму быць добрым і чуткім таварышом у асабістых адносінах Партыйная дысцыпліна на ім адбівалася вельмі цяжка: ён з ёю ня мог пагадзіцца.

Партыйныя вярхі баяліся яго крайніх поглядаў, а загэтым не давалі магчымасьці разьвярнуцца ні самаму Сакалову, ні тэй моладзі, якая знаходзілася пад яго ўплывам.

Вось зачым у другой палове 1905 г. мне ня прыходзілася спатыкацца з Сакаловым аж да самага паўстаньня ў Маскве на Прэсьне. Я сабе ўяўляю, што прычынай, штурхнуўшай максымалістых на шлях экспропрыяцыі, была тая пасыўнасьць, якую выявіў ЦК партыі адносна мэтоду дзеяньня Сакалова.

Апрача Сакалова значную ролю сярод максымалістых іграў Мікола Іванавіч (маленькі) па прозьвішчу Рыўкін, у якога кісьці рук былі паранены ад узрыву бомбы, каторую ён прыгатаўляў у Мазыры ці Пінску. Гэта быў таксама ў высокай ступені добры і сымпатычны чалавек.

Яшчэ прыпамінаю я максымалістага матроса Сяргея з броняносца Пацёмкіна, каторы нейкі час працаваў у бабруйскай друкарні. Загінуў ён пры экспропрыяцыі мытных грошай у Фанарным завулку ў Пецярбургу, якую організаваў Сакалоў. Сяргей быў нізкага росту, на дзіва сымпатычны, скромны чалавек; сапраўднае яго імя і прозьвішча так і засталіся невядомымі.

Каля 1904 і 1905 г. бывалі ў нас, у Блоні, Ваня Пуліхаў, сёстры Аляксандра й Каця Ізмайловічы, Міхаіл Сьцяпанавіч Біцэнка, сям'я Агапавых, Галена Антонаўна Касьцюшка-Валюжэніч, Лідзія Паўлаўна Язерская і інш. Язерская—жонка вядомага ў свой час грамадзкага дзеяча Сьцяпана Венедзіктавіча Язерскага—была энэргічная жанчына, яна захаплівалася сваёй справай; супроць згоды партыі—яна страляла ў Магілеўскага губарнатара Клінгэрбэрга і за гэта была выслана на катаргу; пасьля катаргі адбывала ссылку ў Якуцку, дзе і памерла. Яна мела аднаго сына, які яшчэ змалку застаўся без бацькоў (бацька памёр шмат раней); пятнаццацігадовы хлапчук ужо граў ролю організатара-рэволюцыянэра ў Магілеве ў 1905 г., гэта адбілася дрэнна на яго жыцьці. Калі ён паступіў у морскі кадэцкі корпус, то там ня мог перанясьці існуючага рэжыму і прастрэліў сабе галаву, але жывым застаўся; дзякуючы параненьню пачаліся ў яго псыхічныя ненормальнасьці, і памёр ён маладым—гадоў 20-22.

Усе пералічаныя асобы прымалі самы актыўны ўдзел у рэволюцыйнай працы на Беларусі. Яны ўсе былі добрымі таварышамі і маіх дзяцей. З іх Пуліхава павесілі ў Менску за тое, што ён кінуў бомбу ў губарнатара Курлова. Аляксандра Ізмайловіч папала ў катаргу за тое, што страляла ў паліцэйскага прыстава. Каця Ізмайловіч страляла ў Севастопалі ў адмірала Чухніна, выяўляла гэтым помсту за пакараньне сьмерцю лейтэнанта Шміта, каторы падняў паўстаньне на Чорнаморскай флёце. Па загаду параненага Чухніна яе расстралялі на месцы бяз усякага суду і дазнаньня.

Аб тым, што Каця Ізмайловіч парашыла адамсьціць Чухніну і што дзеля гэтага паехала ў Севастопаль, ніхто з яе блізкіх знаёмых ня ведаў, ніхто не ўяўляў сабе, што бачыў яе апошні раз. Яна рашылася на гэту справу тады, калі рэволюцыйны рух 1904 г. пачаў зьмяншацца, калі мала засталося надзей на хуткі прыход рэволюцыі. Яна лічыла сваім абавязкам падмацаваць тое вучэньне, якое распаўсюджвала сярод другіх, і яна пашла на сьмерць.

У хуткім часе перад нападам на Чухніна Каця была арыштавана і пасаджана ў Менскую жаночую турму. Яе таварышы, у тым ліку Мотка Альшуль, Майсей Левін і другія, дапамагалі ёй уцячы з турмы, але, на жаль, яны пры гэтым, без папярэдняга згавору, забілі надзірацеля; Каця гэтым была вельмі нездаволена, яна мучылася ад гэтай падзеі.

Па крысталёвай чыстаце свайго душэўнага аблічча, па яго прыгожасьці, Каця Ізмайловіч належала да тых рэдкіх адзінак, якія тольк часамі зьяўляюцца, пасылаюць сьвет на наша жыцьцё, зацямняюць яго адмоўныя бакі.

Патрэбна сказаць і пра Пуліхава. Адзін раз у Менску на вокзале (добра ня помню, ці ён прыехаў з начным цягнікам, ці зьбіраўся з ім выехаць) ён крыху прылёг на лаўцы і палажыў пад галаву пачку сьвежых, толькі што надрукованых, проклямацый; чыгуначны жандар зацікавіўся Пуліхавым, падышоў да яго бліжэй і хацеў выцягнуць з-пад галавы адну паперку, але Пуліхаў не спалохаўся, ён штосьпрагаварыў сярдзіта і адначасова ў кішэні ўзьвёў курок рэвольвэра; жандар парашыў лепш не чапаць гэтага чалавека і адышоў ад яго, бо пара тады была баявая. Пуліхаў, зразумела, хутка перашоў у другое месца.

Адзін раз у час гутаркі з ім я заўважыў у яго вачох нешта асаблівае, нейкі хмурны, сталёвы бляск і зараз-жа—памятаю добра—у мяне зьявіўся сумны настрой, і я падумаў: „ня зносіш ты сваёй галавы, напэўна, скончыш жыцьцё сваё ў тэрорыстычнай справе“. Патрэбна сказаць, што тэрорыстыя з сваімі справамі ў організацыйных адносінах стаялі зусім асобна ад другіх рэволюцыянэраў—нетэрорыстых; аб тым, што яны зьбіраліся рабіць, нікому нічога не гаварылі ня толькі дзеля консьпірацыі, але дзеля таго, каб ня мучыць блізкіх таварышоў, а апошнія, у сваю чаргу, каб не рабілі на іх уплыву, не адгаварвалі іх.

Бомба, якую Пуліхаў кінуў у Курлова, была яму прыслана, як аб гэтым гаварылі, Азэфам і загэтым, відаць, яна і не ўзарвалася.

У гэты час у Менску служыў інжынэр Кірылаў; сябром організацыі ён ня лічыўся, але быў знаёмы з многімі рэволюцыянэрамі, каторым значна дапамагаў: хаваў у сваёй кватэры людзей, бомбы, даваў свой адрас для перапіскі і г. д. Ён і цяпер служыць у савецкай установе г. Менску.

Сям'я Агапавых. Бацька—Кубаньскі казак, дывізыйны доктар, гэнэрал, маці, Луіза Станіславаўна—полька па пахаджэньні, два сыны і тры дачкі. Абодвы сыны прымалі актыўны ўдзел у рэволюцыйнай барацьбе.

З чыгуначнікаў, кіраўнікоў забастоўкі, я толькі добра ведаў Пятруся Яраслаўлевіча Гамзагурдзі. Чалавек гэта вельмі сымпатычны, чуткі, адважны. Прыпамінаю яшчэ чыгуначніка—майстра Парфіяновіча; ня памятаю добра, у гэты час ці шмат раней ён ува многім дапамагаў рэволюцыянэрам. Пад яго загадам, для папраўкі вагі па ўсёй Лібава-Роменскай чыгунцы, знаходзіўся вагон-майстэрня, з якім ён, у патрэбных выпадках, езьдзіў па гэтай чыгуначнай лініі. Гэтая майстэрня была як-бы партыйным вагонам: у іх Парфіяновіч перавозіў нелегальны шрыфт і іншыя рэчы.

Паўночна-Заходняму Абласному Комітэту апрача мясцовай працы ўдавалася чым-небудзь дапамагчы і іншым вобласьцям Расіі; у першую чаргу ён дзяліўся літаратурай, якая выдавалася ў яго друкарнях. Гэта дапамога была мажлівай затым, што ў нашым краі быў досыць значны лік эўропэйскай рэволюцыйнай моладзі, тайныя друкарні ў нас лягчэй было заснаваць, чым у іншых частках Расіі, да нас таксама часта прыяжджалі браць харошых працаўнікоў-спэцаў для нелегальных друкарань, станкі і шрыфт. Пры Абласным Комітэце я пачаў організоўваць тэхнічнае бюро, мэтай якога было дастаўляць шрыфт і ручныя станкі рэволюцыйным аб'яднаньням; з вялікай клапатлівасьцю ўдалося, нарэшце, організаваць запас у некалькі пудоў шрыфту.

За шрыфтам для Тамбова прыяжджала да мяне ў Блонь Маруся Сьпірыдонава (шрыфт хавалі ў Смаленску); Сьпірыдонаву я бачыў тады першы раз і больш не сустракаўся з ёю да 1917 г.; у той час яна была яшчэ зусім маладая, заставіла ўва мне ўражаньне сымпатычнай, надта шустрай дзяўчыны, нядарам і прозьвішча яна мела „Ртуць“.

Прыпамінаю, як з гэтага складу частку шрыфту я даў для адчыненьня маленькай друкарні Суляржыцкаму, які трымаўся поглядаў Талстога і які праваджаў Духабораў у час пераезду іх у Канаду. Гэты шрыфт ён узяў у мяне для таго, каб організаваць друкаваньне некаторых, найбольш антыцаркоўных, а таксама і „антиправительственных“ твораў Талстога. Праз нейкі час Суляржыцкі стаў выдатным працаўніком Мастацкага тэатру, здаецца, рэжысэрам.

З таварышоў, каторыя працавалі ў нашых трох нелегальных друкарнях, патрэбна сказаць пра Ганну Восіпаўну Гарбатоўскую (па прозь-

вішчу: цёця Каця). У працягу некалькіх год сваёй рэволюцыйнай кар'еры (здаецца, з 1900 г. і да вайны) Ганна Восіпаўна або працавала ў тайных друкарнях, або адбывала за гэту работу ссылку, або сядзела ў турме. Вольнай ад тэй ці іншай працы яна ня была. Выдатны працаўнік, падпольны крот, Ганна Восіпаўна спакойна выконвала свае абавязкі. За тую друкарню, дзе яна працавала, мы былі зусім спакойны; яна рабіла ўсё, што толькі было па яе сіле, усякую работу выконвала хутка і прыгожа; дэтальна выконвала яна і ўсе правілы консьпірацыі; ня гледзячы на тое, што яна ўжо была немаладая, што ў яе балелі ногі, яна ў апасныя часы хавалася лепш за маладых; ў друкарню прысылалі маладых таварышоў дзеля таго, каб яны навучыліся браць з яе прыклад.

Паперу ў друкарню прыносілі і выносілі з друкарні ўсю літаратуру спэцыяльна выбраныя для гэтага партыйныя жанчыны, каторыя насілі на сабе спэцыяльныя ніжнія спадніцы з цэлым шэрагам вялікіх кішэняй навакол паясьніцы, дзякуючы якім яны маглі выносіць і прыносіць па поўпуда паперы кожная. Аднак, ня ўсе здольны былі да гэтай працы: некаторыя з іх так баяліся і нэрвавалі, што зьвярталі на сябе ўвагу; гэткіх прыходзілася замяняць больш сьмелымі.

Першы нумар нелегальнай газэты „Зямля й Воля“ друкаваўся адначасова ўва ўсіх трох друкарнях Паўночна-Заходняй вобласьці; хоць нумар быў і невялікі па зьмесьце, але выданьне яго затрымлівалася тым, што патрэбна было хутчэй друкаваць агітацыйныя лісткі й проклямацыі; дзеля таго, што яго ня было ніякай магчымасьці надрукаваць у Расіі ў належным ліку экзэмпляраў, рашылі надрукаваць у Швайцарыі. З гэтай мэтай, а таксама і для лепшага азнаямленьня з замежнымі таварышамі, я ў жніўні месяцы паехаў у Жэнэву. З кім я пазнаёміўся за гэту паездку, мне цяпер цяжка прыпомніць, бо я ў Швайцарыі быў ужо трэці раз. Помню добра сваю паездку да Рафаіла Гоца, жыўшага ў санаторыі на другім канцы Жэнэўскага возера ў віле. Здаецца, тады-ж я пазнаёміўся з Восіпам Саламонавічам Мінорам; з Натансонам я быў яшчэ і да гэтага знаём з таго часу, калі ён арганізаваў партыю „Народнага права“. Ён у гэты час у Жэнэве вёў, як мне паказалася, гутаркі наконт уваходу ў партыю с.-р. Памятаю, што гэта зьява для мяне была незразумелай; я ня мог сабе ўявіць таго, што такі чалавек, як арганізатар партыі „Народнага права“ (яна, на мой погляд, была чыста лібэральна-конституцыйнай і зусім не чапала аснаўных пытаньняў экономічнага ладу), хоча ня толькі йсьці поруч, але і займаць адпаведнае месца ў яўна рэволюцыйна-соцыялістычнай партыі. Наогул, Марк Андрэевіч Натансон выклікаў уражаньне выдатнага чалавека; аднак, у яго быў адзін недахоп, які і перашкаджаў душэўным адносінам да яго; ён быў праз меру вялікі дыплёмат, мала было ў ім і прыроднай прастаты. Пазнаёміўся я тады з Цютчавым і многімі іншымі таварышамі.

Друкаваньне першага нумару „Зямлі й Волі“ зацягнулася, мне прышлося прабыць у Швайцарыі каля двух тыдняў.

Калі-ж нумар „Зямлі й Волі“ быў гатоў, то таварышы паабяцалі прыслаць яго ў Расію ў вялікім ліку экзэмпляраў цераз контрабандыстых, а я паехаў у Расію праз Здалбунова з адным рабочым-наборшчыкам, каторага мне рэкомэндавалі для нелегальнай працы ў друкарні; некалькі штук (пяць-шэсьць) нумароў газэты „Зямля й Воля“ я ўзяў з сабою і схаваў іх пад сваю вопратку, а наборшчык, хоць быў і малога росту, абярнуў навакол свайго цела нумароў дваццаць газэты. Калі пачалі аглядаць наш багаж у Здалбунове, то жандары зьвярнулі ўвагу на наборшчыка, прапанавалі яму разьдзецца і зараз-жа арыштавалі; кінуў ён на мяне свой сумны погляд, і яго павялі. Прасядзеў ён мала, усяго каля двух месяцаў (да кастрычнікаўскага маніфэсту). Што зрабіў я ў верасьні, не магу цяпер прыпомніць.

У працягу 1905 г. я пазнаёміўся, а дзе—добра ня памятаю, і з многімі другімі с.-рэволюцыянэрамі, напрыклад: Леанідам Шышко, Шлісяльбурцавым, В. С. Панкратавым, з народавольцам Бурцавым, А. В. Гэдэонаўскім, С. П. Швэцовым, доктарам Фэйтам, І. І. Майновым, А. В. Прыбылёвым і інш.

З Аўксеньевым сустракаўся некалькі раз, але добра яго ня ведаў і, сазнаюся, я ніяк ня мог уразумець таго, што было ў яго агульнага з сялянскай соцыяльнай рэволюцыяй; ён мне паказаўся радыкалам, добрым прамоўцай і толькі. С. Мік. Сьлетаў быў здольны чалавек; ён усяго сябе аддаваў справе народнай; мне ён вельмі спадабаўся, але пазнаёміцца з ім бліжэй мне не ўдалося; добрае ўражаньне выклікала сваёю цьвёрдасьцю і энэргічнасьцю і жонка Чарнова, сястра Сьлетава. З усіх пералічаных асоб вельмі добра я пазнаёміўся з Н. В. Чайкоўскім, хоць па палітычных і соцыяльных поглядах мы знаходзіліся далёка адзін ад другога. Я шмат бліжэй за яго быў да анархізму і рашуча-рэволюцыйнай тактыкі, а ён—чалавек мяккі, паступовы, больш падобен да культурніка, чым да рэволюцыянэра. Мне здаецца, што на яго поглядах па соцыяльна-палітычных пытаньнях адбіўся той факт, што ён пражыў эмігрантам у Ангельшчыне больш паловы свайго жыцьця, зжыўся з яе культурай і палітыка-эволюцыйным разьвіцьцём.

У некаторых мясцовасьцях сярод больш дарослых сялян сустракаліся ў 1904 і 1905 гадох зусім слабенькія цэнтрыкі рэволюцыйнага разуменьня, якія захаваліся з часоў хаджэньня ў народ у 1870 гадох; у такіх мясцовасьцях рэволюцыйная пропаганда й агітацыя ў 1905 г. ішла з большым посьпехам. Я прыкмячаў, што ў такіх старых рэволюцыйных гнязьдзечках і сельская гаспадарка вялася шмат лепш, а таксама і асьвета насельнікаў стаяла вышэй; выходзіць, што рэволюцыйныя разуменьні й настроі пры неадпаведных агульна-палітычных умовах пераходзілі ў агульна-культурныя дасягненьні; назіраўся адваротны пераход соцыяльнай энэргіі,—адваротны затым, што звычайна процэс разьвіцьця йшоў ад агульна-культурнага да рэволюцыйнага. Такія старыя рэволю-

цыйныя гнёзды сустракаліся, здаецца, найчасьцей у Паваложжы, часткаю на Украіне і сярэдняй Расіі. З Чарнігаўшчыны мне прыпамінаецца адзін стары няпісьменны селянін, каторы ўсё сваё жыцьцё ахвяраваў прапагандзе, як новаму эвангэльскаму вучэньню, ён пяшком пабываў у многіх мясцох і ўсюды агітаваў за рэволюцыю. Насіў ён з сабою і некалькі забароненых кніжок, тэкст якіх завучыў на памяць так добра, што нават граматным людзям указваў, дзе і пра што говорыцца. Прыпамінаюцца таксама з Навазыбкаўскага павету двое пропагандыстых—адзін юнак і адна гімназыстка, каторыя пяшком хадзілі сотні вёрст і распаўсюджвалі брошуры, проклямацыі, організоўвалі сялянскія брацтвы і г. д.

За некалькі дзён да чыгуначнай забастоўкі (у кастрычніку) я папаў у Чарнігаў. Тут я бываў шмат раз і раней. У Чарнігаве жыў мой добры знаёмы, разумны старычок-рэволюцыянэр, Пятрусь Фёдаравіч Мікалаеў, які адбыў катаргу яшчэ за справу Каракозава ў 1864 г. Чалавекам ён лічыўся выдатным: мае каштоўную працу па пытаньнях экономікі; дзякуючы сваёй старасьці, ён ужо ня прымаў актыўнага ўдзелу ў рэволюцыйным руху, але з ім, звычайна, раіліся адносна ўсіх, найбольш сур'ёзных, пытаньняў. Мне прыпамінаецца адна ўвага, якую ён зрабіў у часе гутаркі: „Колькі ўжо гэтых програм прыходзілася для іх складаць“ (як прыпамінаю, гэта ён сказаў наконт просьбы К. К. Брашкоўскай, якая зьвярнулася да яго з пытаньнем адносна проэкту програмы для партыі соцыялістых-рэволюцыянэраў). Гэты раз я прыехаў у Чарнігаў на конфэрэнцыю сялянскіх працаўнікоў; успамінаю, што поруч з другімі пытаньнямі разглядалася й наступнае пытаньне: якім чынам павінны сяляне захапіць маёнткі памешчыкаў і што з імі рабіць. Партыя дала дырэктыву: паноў прагнаць, а гаспадарку з інвэнтаром забраць пад грамадзкае кіраваньне, дзеля чаго патрэбна выбраць упаўнаважаных прадстаўнікоў. Гэту дырэктыву партыі прышлося на конфэрэнцыі моцна бараніць і прынялі яе толькі дзякуючы аўторытэту партыі. Настрой таварышоў, якія вялі працу сярод сялян, быў больш левым і простым; я дапамагаў правясьці гэту дырэктыву выключна з-за партыйнай дысцыпліны, а сам вельмі мала спачуваў ёй. Калі-ж мне давялося пабываць у Чарнігаве ўжо пасьля таго, як сялянскі рух быў падаўлен, то я даведаўся аб наступным: у ваднэй буйнай памешчыцы—баронэсы (прозьвішча ня помню) былі тры маёнткі: адзін блізка каля Чарнігава, а два другіх больш на поўдзень, у ваднэй з суседніх губ. (у Палтаўскай ці Кіеўскай). З маёнткам, які ляжаў каля Чарнігаву, сяляне абышліся згодна прынятай на конфэрэнцыі партыйнай дырэктыве: усю гаспадарку, жывёлу, інвэнтар, будынкі забралі, саставілі сьпіс і організавалі выборнае кіраваньне гэтым усенародным багацьцем. У двух другіх маёнтках, да каторых партыйныя дырэктывы дайсьці не пасьпелі, сяляне ўжылі свой звычайны мэтод: будынкі спалілі, жывёлу, насеньне, інвэнтар забралі сабе паасобку. Вынікі пасьля гэтага выявіліся наступныя: у Чарнігаўскімі маёнтку, дзякуючы добрай паста-

ноўцы справы, выбраны сялянамі загадчык пасьпеў прадаць толькі двух, зусім лішніх, бычкоў, і ўласьніца маёнтку мела магчымасьць, бяз усякіх перашкод, вясьці гаспадарку ранейшым спосабам; сяляне засталіся без зямлі; зусім іначай была справа ў паўднёвых маёнтках, дзе будынкі былі спалены, інвэнтар разабраны; уласьніца прымушана была раздаць зямлю сялянам у арэнду, бо сама яна вясьці гаспадарку ўжо далей не магла.

Такім чынам, тактыка партыі не дала сялянам ніякай карысьці, а ўжываньне сваіх уласных спосабаў палепшыла іх становішча. У абодвых выпадках пакаралі сялян вельмі жорстка, а асабліва панёс вялікую кару часовы (некалькі дзён) загадчык маёнткам баронэсы. Зараз-жа пасьля конфэрэнцыі я паехаў ноччу ў адну вёску, якая знаходзілася недалёка ад г. Борздны і тут правёў конфэрэнцыю з мясцовымі сялянамі-рэволюцыянэрамі. Сабраліся мы ў гумне, прысутнічала чалавек сорак сялян, абгаварвалі з вялікім захапленьнем розныя пытаньні па тактыцы й праграме, напрыклад; організацыя баявых груп, рэволюцыйных брацтваў і інш. Вёска гэта была рэволюцыйна настроена, а час быў баявы. Частка прысутных была з аружжам, навакол пастаўлены вартаўнікі; з напалову адчыненых варот гумна мы бачылі, як недалёка ад нас лёталі ўзброеныя конныя стражнікі, але, на наша шчасьце, яны нас ня прыкмецілі і закончылі мы конфэрэнцыю спакойна. Гутаркі з сялянамі, іх бадзёры настрой далі мне вялікае рэволюцыйнае здаваленьне. З гэтай вёскі я прабраўся на рэчку Дзясну і параходам паехаў у Кіеў, бо ўжо чыгуначная забастоўка пачалася й цягнікі не хадзілі. У Кіеў прыехаў я раніцаю: я вылез на Падоле й пачаў паднімацца ўгару; тут-жа мне кінулася ў вочы жудасная карціна яўрэйскага пагрому, які толькі што адбыўся ў начы. Настрой у мяне зрабіўся надта цяжкі; у горадзе я ня мог знайсьці таварышоў, каторых мне патрэбна было бачыць (пагром быў накірованы ня толькі на яўрэяў, але і на рэволюцыйную інтэлігэнцыю). У Кіеве мне ня было чаго рабіць і я парашыў прабрацца параходам у Гомель, а адтуль у Менск (прыватныя параходы яшчэ хадзілі). Вярнуўся я на параход і паехаў у Гомель; па дарозе знаходзіўся Лоеў—гандлёвае яўрэйскае мястэчка якое ляжыць на правым беразе Дняпра. Да Лоева пад'ехалі мы вечарам; зараз-жа мне кінуліся ў вочы аганькі, пачалася страляніна; у гэты час параход падходзіў да прыстані, з якой чутны былі крыкі, выстралы, стагнаньні раненых. Параход з перапалоху падаўся назад і стаў на якар у некалькіх дзесятках сажань ад правага берагу. На параходзе таксама пачаўся крык,—усе хацелі ведаць, што здарылася у мястэчку. Нарэшце выявілася, што ў Лоеў прышлі аколічныя чорнасоценцы-сяляне і пачалі пагром; яўрэйская ўзброеная самаабарона адбівалася; апрача гэтага ім дапамагала і частка казакаў, якія стаялі ў Лоеве і якія ўжо былі распропагандаваны рэволюцыянэрамі; усе яны змагаліся з наляцеўшымі чарнасоценцамі. Матрос, які служыў на прыстані, таксама прыняў удзел у пагроме, нахватаў шмат рэчаў і бег да прыстані, але за ім пагналіся,

адабралі ўсё і паранілі. Камачда нашага параходу і большасьць прысутных на ім былі таксама чорнасоценцамі і ня любілі яўрэяў, ім вельмі не спадабалася стральба і параненьне рабуншчыкаў; яны пачалі крычаць: „жыдоў у воду пакідаць!“ Капітан параходу, адзін пасажыр, купец з Веткі, стараабрадзец і я пачалі ўгаварываць, успакайваць іх і, нарэшце, дасягнулі мэты, хоць і нам, як абаронцам яўрэяў, паграджала купаньне ў Дняпры. На параходзе зараз-жа організаваліся групы добраавхотнікаў, якія пачалі шукаць у пасажыраў проклямацыяй і аружжа; знайсьці ім нічога не ўдалося. Гэта дзікая сцэна, якая напамінала сабою казацкія ўчынкі за трыста год таму назад, надоўга застанецца ў маёй пгмяці.

Да гомельскай прыстані мы адразу не пад'ехалі, а застанавіліся недалёка ад яе, бо капітан баяўся апынуцца ў такой-жа небясьпецы, як і ў Лоеве. У Гомелі, гэты час было ўсё спакойна. Я застанавіўся ў гасьцініцы дзеля таго, што на чыгуначным вокзале ня было месца: усюды на лаўках, на крэслах былі пасажыры, якія думалі ехаць у розныя бакі, але тут іх затрымала чыгуначная забастоўка. Амаль што ўсе яны былі сонныя, хмурныя, некаторыя нават ужо галадалі; самы вокзал напоўнен усякай нячыстатой, заплёван... але назаўтра ўсё йзноў ажыло: быў абвешчаны маніфэст пра свабоду. і чыгуначны рух аднавіўся, соннае царства зьнікла, пачалося сьвятошнае вясельле, радасьць... Пры адпраўцы першага цягніка на Менск гаварылі гарачыя прамовы, трымалі ў руках чырвоныя сьцягі, адным словам, пачыналася як-бы новае жыцьцё: усе адчувалі сябе грамадзянамі вольнае дзяржавы. Чорнасоценцы прыціхлі і дзе-ж?—у безгалосай да гэтага часу паліцэйска-жандарскай Расіі! У гэты самы час прынёсься з боку Бранску, зусім неспадзявана, цягнік з чорнасоценцамі, мне прышлося ехаць у Менск з некаторымі пасажырамі з гэтага контр-рэволюцыйнага цягніку; яны расказалі мне пра страшныя падзеі. Іх цягнік яшчэ да пачатку забастоўкі вышаў з Масквы на Гомель; забастоўка іх захапіла ў дарозе; машыністы і чыгуначныя служачыя разьбегліся. Пасажырам гэта вельмі не спадабалася, бо большая частка іх не спачувала забастоўцы і рэволюцыйнаму руху. Многім хацелася хутчэй дабрацца дамоў. Яны склікалі сходку; знашоўся сярод іх адзін машыністы, які ўзяў на сябе абавязак кіраваць цягнікам; яны парашылі сілком праехаць далей, не зьвярталі ніякай увагі на перашкоды чыгуначнікаў. Яны падзяліліся па станавых адзнаках: выбралі прадстаўнікоў ад дваран, сялян, гандляроў, выбралі комітэт і памалу паехалі далей. Самі яны даглядалі за цягніком, самі бралі ваду, клалі дровы, перастаўлялі стрэлкі на станцыях і г. д. Былі ў іх схваткі й з чыгуначнікамі, але канчаліся яны бяз бойкі. Такім чынам, хоць і памалу, прыехалі яны ў Гомель якраз у той час, калі абвясьцілі Кастрычнікаўскі маніфэст аб свабодах.

У Менск я прыехаў цераз некалькі гадзін пасьля расстрэлу губарнатарам Курловым сьвятошнай маніфэстацыі на плошчы каля Віленскага вокзалу, якая сабралася сюды з прычыны маніфэсту аб свабодзе; увесь

вокзал быў прабіты кулямі; шмат было пабітых і параненых. З маіх знаёмых забілі дзьве дваюрадныя сястры—Розы Шабад. Мой сын, Іван Анатольлевіч, прымаў актыўны ўдзел, гаварыў прамову на плошчы, і на яго долю выпала занясьці бедную Розачку, цяжка параненую, да яе бацькоў на Нямігу, дзе знаходзілася аптовая жалезная крама яе бацькоў. Забіты быў таксама адным паліцэйскім і прысяжны паверапы Ентыс, соцыялдэмократ. Забітых, наогул, было некалькі дзесяткаў чалавек, а параненых яшчэ болей... Настрой у Менску быў падаўлены...

У працягу кароткага часу цэлы шэраг процілеглых фактаў і ўражаньняў: сялянскі сход у вёсцы каля Борздны, бадзёры, рэволюцыйны, затым дзікі пагром у Кіеве, Лоеве, нябывалыя сцэны на параходзе, радасная адпраўка цягніка пасьля маніфэсту, падарож з Гомелю, контррэволюцыйны цягнік з Масквы на Гомель—усё гэта разам сьведчыла аб тым, якая яшчэ чорнасоценная цемра пануе ў Расіі, як яшчэ слабы рэволюцыйныя разуменьні і ў той-жа час, як узбаламучана народная маса. Патрэбна было каваць жалеза, пакуль яно было гарачае, усямерна дапамагаць хуткаму разьвіцьцю рэволюцыйных сіл, а менш ускладаць надзеі на шырокія абяцаньні Кастрычнікаўскага маніфэсту. Вось зачым я пасьпяшыў з паездкай ў Пецярбург. Тут я добра знаём быў з кнігарняй яна-ж і выдавецтва „Школьнага дзела“, якая знаходзілася на Неўскім проспэкце ў будынку грузынскай царквы. Уласьнікі й загадчык спачувалі рэволюцыі, яшчэ да Кастрычнікаўскага маніфэсту ім удалося надрукаваць і распаўсюдзіць некаторую літаратуру. З імі я пазнаёміўся раней пры дапамозе Валенціна Іванавіча Якавенкі, душапрыказчыка вядомага ідэйнага выдаўцы шасьцідзесятніка Паўленкава.

Валянцін Іванавіч прыходзіўся малодшым братам Уладзімеру Іванавічу Якавенку, вядомаму доктару-псыхіятру, майму таварышу па студэнцкай скам'і, чорнапeрадзельцу. З выдавецтвам „Школьнае дзела“ ў Валянціна Іванавіча была блізкая сувязь па друкаваньні розных Паўленкаўскіх выданьняў. „Школьнае дзела“ ў сваю чаргу мела цесную сувязь з некалькімі чэснымі друкарнямі, пераважную большасьць рабочых і служачых якіх складалі людзі ідэйныя, спачуваючыя рэволюцыі; у гэтых друкарнях яшчэ да Кастрычнікаўскага маніфэсту часамі друкавалася нелегальная літаратура, зразумела, з вялікай перасьцярогай; асабліва цяжка было надрукаваную літаратуру забраць з друкарні так, каб не пакінуць пасьля сябе сьлядоў.

У „Школьнае дзела“ я даў два заказы на дзьве старыя брошуры яшчэ 70-х гадоў, іменна: адну „Хітрую мэханіку“ і другую, здаецца, „Казку пра чатырох братоў“, якія неабходна было надрукаваць у вялікім ліку, прыблізна, у сотнях тысяч; праз некалькі дзён заказ выпаўнілі і вельмі хутка кніжкі былі распаўсюджаны. У першыя дні пасьля маніфэсту партыйных таварышоў у Пецярбургу было мала, загэтым друкаваньне ўпамянутых кніжок я заказаў на свой уласны страх: пара-

іцца ня было з кім, а дарам траціць час шкода. У хуткім часе прыехалі некаторыя таварышы, нават многія з-за меж, пачалася гарачая організацыйная праца па выданьні газэт; пачалі згаварвацца і аб тым, што іменна друкаваць для сялян — новае ці старое, і з якімі зьменамі ў тэксьце, згодна ўмовам ужо таго часу. Справа зацягвалася, пакуль усё гэта абгаварвалі, і мне, з вялікім нездаваленьнем, прыходзілася назіраць—якая цяжкая машына партыйная організацыя. А, паміж іншым, поўная фактычная свабода друку існавала вельмі кароткі час; улада хутка апамяталася і пачала, як і раней, перашкаджаць і караць.

Што ўлада вельмі хутка пасьля Кастрычнікаўскага маніфэсту апомнілася і пачала ўжываць старую тактыку адносна друку, я пераканаўся на самім сабе.

Калі я ў лістападзе 1906 г. з Пецярбургу ехаў у Менск, то захваціў з сабою пуды паўтара сьвежай, толькі што выданай агітацыйнай літаратуры; я меў на мэце завязьці яе ў Менск і Смаленск у кнігарні і кіоскі, якія адчынялі там партыйныя організацыі.

На Віленскім вокзале насільшчык зьвярнуў увагу ня цяжкую, абшытую рогожаю рэч, сказаў аб гэтым станцыённаму жандару і мяне, калі я ўжо заняў мэсца ў вагоне, пазвалі ў жандарскі пакой з усімі рэчамі. Зрабілі вобыск, знашлі літаратуру і арыштавалі; пасадзілі мяне ў Крыжы. Дзён праз тры я перадаў да жонкі запіску цераз аднаго таварыша партыйнага, якога ўжо пусьцілі на волю, жонка жыла ў Пецярбургу; пачала яна клапаціцца, і мяне вызвалілі пад грашовы заклад. Праз некалькі часу мяне судзіла за гэта Пецярбурская Судзебная Палата, здаецца, па 132 ст. і толькі дзякуючы ўдачнай абароне прысяжнага паверанага Заруднага мяне апраўдалі.

Застанаўлюся на Якавенках; гэта была цікавая рэволюцыйная сям'я; складалася яна з старэнькай мацеры, чатырох сыноў і дачкі; пра двух— Уладзімера й Валянціна — я ўжо гаварыў; радзіліся ў Міргародзкім павеце Палтаўскай губ., належалі да казацкага роду, былі яны палкімі патрыётамі-украінцамі і соцыялістымі. Старэйшы брат, Іван, памёр рана, самы малодшы, Анатолі, працаваў на родзіне; ён быў асаблівы анархісты, чалавек з высокім пачуцьцём. Сярод сялян сваёй акругі ён быў вядомы тым, што змагаўся з рознымі злачынствамі, а, галоўным чынам, з духоўнымі асобамі—папамі. Адзін раз у Шышакі (месца, дзе радзіліся Якавенкі) зьявіліся з далёкіх мясцовасьцяй хадакі і запыталі: „а дзе тут жыве той паніч, што папоў вон выганяе".

Такую павагу ён набыў сабе па наступным выпадку: сяляне аднаго прыходу, у якім поп быў страшны п'яніца і скандалісты, зьвярнуліся да А. Ів. Якавенкі з просьбай, каб ён дапамог ім выжыць папа; колькі ні стараліся, самі яны нічога не маглі з ім зрабіць затым, што поп меў моцную абарону ў консысторыі. Анатолі Іванавіч распытаў у сялян усё падрабязна і да архірэя зараз пашло ад аднаго прыхаджаніна прашэнь-

не такога зьместу: „бацюшка хрысьціў у мяне дзіця й быў вельмі п'яны; ён перапутаў нават усе парадкі сьвяшчэнных дзеяньняў; як-жа цяпер будзе—ці трэба дзіця перахрысьціць нанава, ці так няхай застаецца? Гэта прашэньне памагло і п'яніцу-папа забралі. Анатолі Іванавіч, на жаль, памёр у маладых гадох.

Валянцін Іванавіч Якавенка, трэці брат па ўзросту, яшчэ студэнтам быў арыштаваны на адным сходзе, на які, па чутках, дашоўшых да жандарскага вуха, павінен быў зьявіцца Клеменс, рэдактар „Зямлі і Волі" і распачаць тут запіс кандыдатаў з моладзі ў партыю; В. І. Якавенка папаў у ссылку. Сход адбываўся на Пецярбурскай старане; усе ўдзельнікі сходу былі высланы ў розныя паўночныя губ.; пасьля ссылкі Якавенка заняўся статыстыкай. У часы аднаго з чарговых вобыскаў у яго знашлі шмат адрасоў палітычнага Чырвонага Крыжу і гэта зьявілася прычынай далейшых вобыскаў і арыштаў. В. І. Якавенка ў кароткі тэрмін стаў выдатным статыстыкам і ў канцы прошлага сталецьця ўжо займаў пасаду загадчыка статыстычным аддзяленьнем Пецярбурскай Губэрскай Земскай Управы. Праўда, гэту пасаду ён страціў. Справа была так. Усакавіку 1901 г. каля Казанскага сабору адбывалася дэманстрацыя ў памяць забойства Аляксандра II; удзел прымалі моладзь і рабочыя. Начальства выслала казакоў, каторыя разганялі дэманстрантаў нагайкамі з сьвінцовымі наканечнікамі. Грамада абурылася супроць такіх падзей. Валянцін Іванавіч ад імя загадчыка статыстыкай Пецярбурскай Губэрскай Земскай Управы зьвярнуўся да ўсіх старшынь Земскіх Упраў з прапановай протэсту супроць такіх азыяцкіх учынкаў. Зразумела, яго арыштавалі й пасадзілі ў турму ці выслалі ў ссылку.

Вядомы культурны дзеяч Паўленкаў перад сваёю сьмерцю назначыў В. І Якавенку сваім душапрыказчыкам; было ў яго яшчэ два душапрыказчыкі, але адзін хутка памёр, а другі быў вельмі асьцярожны, баяўся ўсяго (здаецца Чаркасаў) і больш перашкаджаў справе выдавецтва, чым дапамагаў. Валянцін Іванавіч усю сваю душу аддаў выдавецтву. Па „духовному завещанию" Паўленкава ўсе даходы ад выдавецтва (а яны былі значныя: усё прадпрыемства было ацэнена ў мільён з лішнім рублёў) павінны былі йсьці на арганізацыю некалькіх тысяч народных бібліотэк і далейшае іх папаўненьне і ўтрыманьне. Справа гэта пры ўмовах таго часу—змаганьнем улады з асьветаю народных мас—была вельмі цяжкаю. Аднак, В. І. Якавенка давёў яе да канца: ім быў арганізаваны, здаецца, яшчэ большы лік „Паўленкаўскіх" бібліотэк, чым думаў аб гэтым сам Паўленкаў. Апрача арганізацыі бібліотэк, ён не закінуў і выдавецкай справы і самастойна выдаў некалькі сур'ёзных кніжок. Выдавецтва прыносіла яму многа клапот; часта паднімалі судовыя процэсы за парушэньне цэнзурных правіл. Колькі раз я не заходзіў да яго ў Пецярбургу, то заўсёды заставаў яго з новымі клопатамі: то сядзеў ён на лаўцы пад-

судных за якое-небудзь літаратурнае выданьне, то адбываў ужо кару, то, нарэшце, непакоіўся аб тым, дзе захаваць нелегальныя кніжкі. Валянцін Іванавіч памёр яшчэ не старым у пачатку вайны; сям'я яго некалькі год жыла вельмі бедна, пакуль ёй ня была вызначана маленькая пэнсія ў 22 ці 23 г. Па поглядах, Валянціна Іванавіча можна назваць анархістым-індывідуалістым.

У хуткім часе пасьля кастрычнікаўскага маніфэсту адбыўся ў Маскве другі Зьезд Усерасійскага Сялянскага Саюзу.

Самай ідэі організацыі Сялянскага Саюзу я вельмі спачуваў; для таго часу гэта была неабходная ідэя, нават і пры тэй умове, што організатарамі зьяўляліся людзі ня крайніх ухілаў, лібэралы, а не рэволюцыянэры. Справа ў тым, што ў такі гістарычны момант ідэя аб сялянскім аб'яднаньні, гэты практычны лёзунг, бязумоўна, мог сыграць значную ролю; патрэбна было толькі аб'яднаць сялян, а дэтальны плян працы, мэтоды барацьбы—усё гэта выпрацавалі-б самі сяляне ў процэсе барацьбы за свае інтарэсы. На жаль, партыя ўбачыла ў Усерасійскім Сялянскім Саюзе паралелізм, конкурэнта і не дапамагала разьвіцьцю саюзу; партыя, наадварот, стаяла за організацыю партыйнага Сялянскага Саюзу, але гэта быў толькі лёзунг, падняты сьцяг, а самага зьместу ў ім ня было. Была організавана, вельмі слабая па складу, спэцыяльная сялянская комісія, якая кіравала дзейнасьцю сярод сялян-партыйцаў; комісія гэта ніякага самастойнага значэньня ня мела а вяла працу выключна па дырэктывах цэнтральнага комітэту.

А, паміж іншым, ні ў ЦК партыі, ні ў аддзелах, якія стаялі блізка да ЦК, ня толькі ня было сялян, але і, наогул, было мала такіх людзей, якія-б ведалі сялянскае жыцьцё, сялянскую псыхіку. Адным словам організаваць уласную рэволюцыйную сялянскую адзінку партыя ня мела магчымасьці і не хацела, а разьвіцьцё самастойнага Ўсерасійскага Саюзу затрымлівала.

На другім Зьезьдзе я прысутнічаў разам з Н. І. Ракітнікавым; яшчэ перад зьездам я вызваў свайго старога таварыша Івана Пруднікава, селяніна Раслаўскага павету Смаленшчыны. Марыля Львоўна Ратнэр, энэргічны дзеяч Сялянскага Саюзу, а таксама й другія мясцовыя працаўнікі далі належныя інструкцыі І. Пруднікову і адпаведную літаратуру. Старык успомніў старыя часы, свае маладыя гады (яму было ўжо каля 50) і калі вярнуўся ў Костыраўскую воласьць, то ў кароткі тэрмін організаваў мясцовы Сялянскі Саюз з некалькіх соцень чалавек; гэты саюз і паслаў яго на зьезд ў Маскву. Ад „Смаленскага Весьніку ў якасьці корэспондэнткі паехала Марыля Яфімаўна Ярмоліна, добрая знаёмая маёй сям'і, якая шмат год жыла ў нас у Блоні. Часткаю і за ўдзел на гэтым зьезьдзе Марыля Яфімаўна была засуджана па агульным з намі процэсе ў 1910 г. на год адзіночнай адсідкі. Іван Філіпавіч Пруднікоў за

організацыю мясцовага саюзу прасядзеў у Смаленскай турме каля году, калі ня больш.

Сялянскі зьезд адбываўся ў Маскве на Смаленскім бульвары, у будынку сельска-гаспадарчага вучылішча; у літаратуты павінен быць надрукаваны матэрыял адносна гэтага зьезду. Прашоў ён бадзёра; характар меў больш агітацыйны, чым дзелавы. Прыпамінаю, як мне прышлося вызваць воплескі некалькімі словамі наступнага зьместу: я сам памешчык, а загэтым прапаную і ўсім сялянам старацца захапіць іх зямлю ўсякімі сродкамі і трымацца за яе рукамі і зубамі. Значнае ўражаньне зрабіла і выступленьне вайсковага афіцэра, Варонескага памешчыка, ідэйнага працаўніка Пералешына, які пасьля працаваў як коопэратар, і вядомы, як ініцыятар і організатар Маскоўскага Народнага Коопэрацыйнага Банку. Вялікае ўражаньне зрабіла і выступленьне папа, соцыялістага-рэволюцыянэра, каторы заявіў, што ён зьнімае з сябе папоўскую вопратку.

У організацыі Сялянскага Саюзу прымаў значны ўдзел мой старшы сын Іван Анатольлевіч, якога пасьля запрасілі сакратаром Працоўнай групы ў Дзяржаўную Думу; гэта сакратарства паставілі яму ў віну на агульным нашым процэсе ў 1910 г.

Я ўпамінаў аб Марылі Львоўне Ратнэр. З рэволюцыйнай сям'ёй Ратнэр я пазнаёміўся ў Смаленску ў пачатку 1905 г.; складалася яна з удавы доктара, Марылі Львоўны, каторая ўжо даўно жыла ў Смаленску, трох сыноў і дачкі. Толькі адзін старшы сын ня прымаў удзелу ў політычнай працы, а ўсе іншыя з вялікім захапленьнем аддаваліся рэволюцыйнаму руху. Другі сын, Аляксандар Майсеевіч, быў забіты ў Маскве ў 1917 г. у толькі што распачаўшайся грамадзянскай вайне, дачку, Яўгеню Майсееўну, нядаўна судзілі, як сябра ЦК партыі с.-р.; малодшы сын, Грыгор Майсеевіч, палкі комуністы, на гэтым процэсе прыводзіў важкія абвінавачаньні супроць сваёй сястры. Я, з свайго боку, магу толькі сказаць, што вельмі рэдка можна была спаткаць такую сям'ю, якая-б цалком і адважна аддалася рэволюцыйнай справе.

Як многа залежыць выхаваньне ад мацеры! У 70 гадох старушка маці (Субоціна) выхавала некалькі дачок, рэволюцыянэрак. Сям'я Якавенкаў, сям'я Ратнэраў таксама былі выхаваны ўдовамі-мацяркамі.

Пасьля Зьезду Ўсерасійскага Сялянскага Саюзу я застаўся ў Маскве, тут паўстала пытаньне аб маёй паездцы ў Кіеў на Абласны Зьезд партыі, які павінен быў адбыцца ў пачатку сьнежня. Ня памятаю, чаму мне вельмі не хацелася пакідаць Маскву. У гэты час з Пецярбургу ў Маскву прыехаў мой сын Радзівон; я з Н. І. Ракітнікавым ледзь-ледзь угаварылі яго замест мяне паехаць на Кіеўскі зьезд; выехаў Радзівон 4-га сьнежня ў Кіеў і разам з усімі ўдзельнікамі зьезду яго арыштавалі. За гэты зьезд асудзілі яго на тры гады крэпасьці, такая мяккая, параўнаўча, кара тлумачыцца тым, што процэс адбываўся ў 1907 г., калі дзейнасьць другое

Дзяржаўнае думы разгарнулася, калі фракцыя социялістых-рэволюцыянэраў у Думе выступала адкрыта і легальна, калі прадбачылася магчымасьць павароту ўлады к больш лібэральнай політыцы. Радзівон да гэтага зьезду ў Кіеве ў якасьці сябра сялянскай комісіі пры ЦК падрыхтаваў некалькі дакладаў, як, напрыклад: „Кіраўніцтва для організацыі рэволюцыйных брацтваў", „Інструкцыю па тактыцы рэволюцыйнага руху". У інструкцыі гаварылася пра тое, што галоўная мэта працы сярод сялян—гэта організацыя баявых дружын ня толькі для непасрэднай барацьбы з уладай, але і для пабудаваньня новых парадкаў, а іменна: захватваць зямлю для грамадзкага карыстаньня, організоўваць мясцовае рэволюцыйнае самакіраваньне, не плаціць падаткаў, не даваць людзей у войска і г. д., не чакаць, пакуль усё гэта будзе зроблена „Учредительным Собранием".

У 1905 г. ў партыі вельмі яскрава і энэргічна праводзілася гэта рэволюцыйная тактыка, г. ё. надавалася вялікая значнасьць творчасьці мас на мясцох у процэсе разьвіцьця рэволюцыі, „Учредительное Собрание" павінна было толькі дапасаваць і даць сваю санкцыю—замацаваць гэту творчасьць у цьвёрдых законадаўчых нормах.

Партыя далёка адхілілася ад гэтай сапраўды рэволюцыйнай тактыкі ў 1917 г., адхілілася і, нарэшце, усё страціла...

Пакуль пачаўся суд, Радзівон прасядзеў у Кіеўскай турме больш за год; у гэты час ён з некалькімі таварышамі пачаў рабіць падкоп з турэмнай бібліотэкі спачатку проста ўніз, а затым меўся вывесьці падкоп на турэмны двор. Значная частка падкопу ўжо была зроблена; Радзівон працаваў вельмі старанна й доўга; у ніжняй сырой частцы падкопу пад дваром нажыў сабе раматус, ад якога ня мог пазбавіцца шмат год. Уцячы не ўдалося дзеля таго, што падкоп адміністрацыя выпадкова прыкмеціла; зроблена было каля 15 сажань падкопу.

Спачатку я адчуваў сябе дрэнна ад таго, што ўгаварыў Радзівона ехаць замест сябе ў Кіеў на зьезд, але пасьля ўспакоіўся; я сабе ўявіў, што Радзівон, які па поглядах быў вельмі блізкім да максымалістых, напэўна, у далейшым далучыўся-б да іх і мог-бы таксама лёгка загінуць, як загінула большая частка іх; у турме ён прасядзеў 1906, 7, 8 і 9 гады, г. ё. самы небясьпечны рэакцыйна-рэпрэсыўны час і вышаў на волю ўжо тады, калі рэволюцыйны рух быў прыдаўлен.

*(Працяг будзе).*

# ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ОРГАНІЗАЦЫЙ

*25 сакавіка 1917 г.*

### З. Ж.

Лютаўскую рэволюцыю беларуская грамадзкая думка сустрэла зусім непадгатаваўшыся. Дзякуючы захапленьню немцамі Заходняе Беларусі, да таго быўшы ядыны беларускі політычна-культурны цэнтр у Вільні разбурыўся. Частка дзеячоў засталася ў окупацыі, большасьць падзялілася па розных расійкіх гарадох (Пецярбург, Масква, Арол), невялікі лік затрымаўся ў незанятых немцамі беларускіх гарадох, як Менск, Віцебск, Магілеў. У кожным з адзначаных гарадоў беларуская праца гурталалася выключна каля бежанскіх комітэтаў. Праца насіла выгляд культурна-організацыйны, часта прымаючы адбітак політычны. Сувязь між асобнымі пунктамі хоць і была, але ня трывалая; інформацыя аб рабоце амаль ня кожнага комітэту была вядома ўсім. Партыйных адценьняў выразна не адзначалася, калі ня лічыць невялікага ліку сяброў, кепска згуртаваных, Соцыялістычнай Грамады. Праўда, рэволюцыйныя павеі, у зьвязку з агульным станам у Расіі, мелі свой уплыў і на добрачынныя організацыі; беларускія комітэты дапамогі ахвярам вайны таксама ня чужыя былі да політыкі, але згуртаваныя вакол іх беларускія грамадзкія сілы ў большасьці не адчувалі надыходу лютаўскіх здарэньняў. У вогуле— тыя-ж самыя настроі, што і вакола, ува ўсім грамадзянстве, калі ня лічыць гострага хаценьня перамогі, немцам, якое не пакідала беларускіх кол увесь час.

Лютаўская рэволюцыя раптам заварушыла ўсіх і ўсё. Блісьнуўшы яскравымі мажлівасьцямі, яна прымусіла зарухацца, забыць бягучыя справы і павясьці організацыйную працу. Пацяг да організацыі абурыў і беларускія грамадзкія колы. Добрачынны характар комітэцкай працы прытупіўся, даўшы выйсьце політычным запытаньням. Рубам стала патрэба падлічыць сілы, выказаць свае дамаганьні, выкрыць твар. У розных гарадох вынікла думка аб зьезьдзе. Падняліся абгаворы, дзе і як ды што. Пакуль судзілі ды вырашалі, Менск разаслаў тэлеграмы з запрашэньнем на зьезд беларускіх грамадзкіх дзеячоў у Менску на 25 сакавіка. Думаць ня прыходзілася, і ўсе організацыі і асобныя дзеячы адгукнуліся й зьехаліся ў назначаны дзень у Менск. Зьехалася да 150 чалавек вайсковых і цывільных. Зьезд адчынялі ў доме, дзе зараз зьмяш-

кчаецца Камісарыят Земляробства. Настрой дэлегатаў быў няўмеру падняты. Агромністая большасьць іх складалася з старых працаўнікоў і многа пацярпеўшых за беларускую культурна-нацыянальную справу і зараз пачуўшых блізасьць ажыцьцяўленьня сваіх ідэй вольнай Беларусі. Нацыянальнае пачуцьцё ў іх прэваліравала над іншым. Было-ж некалькі і гэткіх дэлегатаў, якія лічылі сябе беларусамі, але пазіралі ў бок саланевіцкае ідэі, падхварбаванай момантам. Ужо ў гутарках „кулуарных“ можна было чуць ціхія кпіны з беларускае мовы, наогул, з усяе справы і больш сьмялей—„навуковыя“ супярэчаньні соцыяльнай неабходнасьці нацыянальнага адраджэньня Беларусі. Аднак, момант вымагаў з сабою лічыцца: як-ні-як, усё-ткі разбурылася турма народаў—царская Расія.

Адчыненьне зьезду а 7 гадзіне ў вечары прашло ўрачыста: быў выбраны прэзыдыум з трох чалавек: старшыня д-р Кастравіцкі, яго таварышамі—Мятлін і Аляксюк. Апошні прачытаў прывітальныя тэлеграмы ад розных організацый і асоб, і пасьля пачаліся прывітаньні зьезду. Першым прывітаў старшыня комітэту „пропаганды асноваў новага грамадзянскага ладу“ д-р Морзон; далей па парадку віталі: Кахановіч—ад гуртка магілеўскіх беларусаў, ад пецярбурскіх студэнтаў—Каравайчык, ад пецярбурскіх чыгуначнікаў і паштавікоў беларусаў—А. Адамовіч і інш.

Пасьля прывітаньняў пачаліся даклады з месцаў. Гаварылі: Фальскі, Э. Будзька, Парэчын-Кузьміцкі. П. Аляксюк сказаў прамову, чапіўшы гістарычнага лёсу Беларусі. Выхваліў бывалашніну, князёўства, чапіў гадоў вайны. Прамоўца ён, да рэчы, дужа здатны і красамоўны, чаму захапіў зьезд сваёю прамоваю і яшчэ больш падняў настрой. Заключныя словы яго: „Шчасьце цяпер у нашых руках і калі мы яго не здалеем узяць, то каб пасьля ня было позна“. Гэта захапіла прысутных, якія адгукнуліся дружнымі воплескамі. Неяк шэра і суха паказалася чытаньне дэкляарацый ад партый, якія тут-жа, перад зьездам, выявілі сябе і заявілі аб сваім існаваньні post faktum. Такіх нечаканых партый знашлося тры: Каталіцкая Дэмократычная Партыя, Народная Дэмократычная Партыя і непартыйная група. Дэкляарацыі гэтых партый, вельмі слабых, прызнацца, насілі нявыразны характар, з эвангельскі-штодзеннымі патрабаваньнямі, як-то: „мэтай партыі—дабро народу, якога яна кліча да праўдзівай хрысьціянскай міласьці“ (Кат. Дэм. Партыя); або—„найглаўнейшая мэта—прасьвета цёмнага народу“ (Нар. Дэм. Партыя). Зрабіла ўражаньне, выключна, дэкляарацыя Соцыялістычнай Грамады, прачытаная Смолічам, у якой рашуча казалася, што „Грамада бароніць клясавыя інтарэсы працоўнай беднаты“. Гэта празычэла зусім ня ў тон агульнаму настрою, які ішоў пад знакам burg friden'у (грамадзкага замірэньня). Дапоўніў гэтыя ноты член рады рабочых дэпутатаў Кузьміцкі, які прызываў помніць тых, што гніюць у вакопах.

Гэткім чынам, уступная частка зьезду, здавалася, гладка скончыцца, і зьезд, намеціўшы працу назаўтрае, зачыніцца гэтак чынна, як і адчы-

ніўся. Але зусім нечакана вынік буйны інцыдэнт. Пасьля прыняцьця пропозыцыі паслаць прывітальныя тэлеграмы часоваму ўраду, Радзе рабочых і салдацкіх дэпутатаў у Пецярбургу, нацыянальным організацыям украінцаў, ліцьвіноў ды інш., слова было дадзена таварышу старшыні Метліну, які ў той час быў памоцнікам губэрскага камісара ад часовага ўраду і спачуваў правым эсэрам. Выпаўняючы дырэктывы ўраду і будучы верны тактыцы сваёй партыі, Метлін выступіў з прамоваю гэткага зьместу: „Кіньце свае лятуценьні, цяпер ня час падымаць нацыянальныя пытаньні, а трэба замацаваць атрыманую свабоду, злучыўшыся разам усім для скліканьня Ўстаноўчага Збору. Беларускі рух ненатуральны, бо пад ім няма цьвёрдага фундаманту народных нізоў“...

Гэта было іскраю ў бочку пораху. Словы Метліна зычэлі надта варожа для вушэй пераважнае большасьці зьезду; яны дапаміналі вядомыя „програмы і мэтоды“, якіх досі прыходзілася чуць з вуснаў заядлых русыфікатараў. У даным выпадку нельга было адрозьніць іх сэнсу ад сэнсу звычайнае доўгагадовае пісаніны вядомых ворагаў беларускага пытаньня, якія гуртаваліся да вайны вакола знарочыста з'організаваных таварыстваў для змаганьня з „польскаю інтрыгаю“ (так лічылі беларускі рухі). Ня верылася пакуль, каб з вуснаю прадстаўніка соцыялістычнае партыі якая ганарылася шырокаю програмаю ў галіне нацыянальнай, можна было сустрэць гэткую „прыязьнь“. Гэта было ўсяго месяц пасьля вялікіх здарэньняў Лютага і вельмі сьвежа нясло ад надышоўшых свабод. А тут— на табе! Крыху пасьля вышла напаверх цалком і поўнасьцю меншавіцкаэсэраўская політыка. Змаганьне з Украінскаю Радаю, з Фінляндыяй, якое павёў часовы ўрад, паказала твары гэтых соцыялістых, з дазволу сказаць. А ў сакавіку, каб чуць гэткія словы—ніхто не чакаў. І прадмову Метліна сталі перабіваць выгукамі. Калі-ж ён сяк-так скончыў казаць, быў агульны настрой выказаць рэзкі протэст супроціў дбайнага ахоўцы „адзінае Расіі“ ў новым выданьні. Ледзьве ўдавалася старшыне зьезду сутрымаць варажасьць і ўвясьці ў рэчышча далейшую хаду спрэчак. Па парадку пачалі адказваць Метліну: перш Заяц, які казаў, што „гэткая вялікая краіна ня можа ўтрымацца, каб ня даць аўтономіі тым народам, якія ў ёй жывуць“. Краскоўскі, дэлегат ад кіеўскіх беларусаў, зваў зьезд ня слухаць людзей, што яшчэ прывыклі баяцца „страшных“ слоў, як нацыя, фэдэрацыя. Настала часіна, калі нам баяцца гэтага ня трэба, бо народы, вольныя ў сваім развіцьці, ідуць да вялікай будучыны, да агульна-людзкіх ідэалаў і злучэньня. Грамадзянін Цівінскі, разьясьняючы, чаму на такім фундаманце стаіць Метлін, даводзіў, што грамадзяніну Метліну ня прышлося цярпець усяго таго зьдзеку і няпраўды, што цярпелі народы ў царскай Расіі. Цяпер кожны народ можна разьвівацца пасвойму і гэта не перашкаджае нашай шчырай дружбе з другімі народамі, але для вольнага разьвіцьця краю патрэбна родная мова, родная школа, аўтономія. Адвакат Чаусаў даказаў, што „беларусы ўжо выраслі і дастойны

свайго нацыянальнага самапазнаньня. Гарачэй усіх папярэдніх накінуўся на Метліна Бурбіс. Яго ў рэзкіх выразах падтрымаў Аляксюк, які сказаў: „Таварыш старшыні Метлін—вялікарус, хоць і выказаўся перад выбарамі, што не падзялае нашых думак, ніяк не павінен быў згадзіцца заняць адветнае крэсла таварыша старшыні нашага першага свабоднага зьезду, на якім мы выказвалі думкі, якія цяжкім каменем тамавалі нашу душу. Гэта клік, клік болю за народную беларускую справу. Дык зразумейце-ж вы, чужынцы, нашы перажываньні ў гэты момант!“ Пасьля гэтага Метліну не заставалася інакш зрабіць, як адказацца быць таварышам старшыні зьезду. Ён аб гэтым і заявіў. Але не ўціхамірыў зьезду. На яго заяву многія, асабліва Бурбіс, Тарашкевіч, Аляксюк, пачалі крычаць: „Вон! вон адгэтуль! табе ня месца тут!“ Метлін пад варожыя гукі пакінуў зьезд. Каб уладаваць абурэньне, зрабілі перапынак пасяджэньня. Аднак, перапынак унёс сапраўдныя сваркі і лаянкі. Знашлося некалькі прыхільнікаў Метліна, асабліва гарачы з іх П. Караткевіч, якія накінуліся на Бурбіса, махаючы кулакамі і ўшчуваючы яго за некарэктны паступак. Моцна крычаў капітан Адамовіч, пасьля вядомы зялёнадубец. Той-жа П. Караткевіч, чалавек нясталых палітычных поглядаў, „беларус з расійскаю моваю“, бегаў па залі і дражніў Тарашкевіча за яго выраз „філёлёгія“. Гэты выбрык быў падобен да тых дзяцей, якія дражняць сваіх таварышаў, высалапіўшы язык і шапялявячы, і... нікога ня зьдзівіў. Шум і галас не ўлягаўся доўгі час. Нарэшце, патрошку ўгаманіліся, і зьезд аднавіў пасяджэньне для выбару комісій. Было выбрана сем наступных комісій: агітацыйна-палітычная, організацыйная, этнографічная, школьная, грашовая, друку, земская.

У канцы, перад зачыненьнем пасяджэньня, старшыня, д-р Кастравіцкі, зьняў з сябе старшынства... Дэлегаты разышліся пры моцных уражаньнях. Назаўтра быў адноўлены прэзыдыум. Замест Кастравіцкага—старшынёю большасьцю галасоў абралі Скірмунта.

Трэба сказаць, што перад рэволюцыяй і ў першыя часы рэволюцыі Скірмунт выяўляў сябе левым радыкалам. У сваіх прамовах даходзіў да шырокае соцыяльнае програмы і абяцаў раздаць сялянам зямлю дарэмна. Вельмі шчыра абстойваў незалежнасьць Беларусі, тоючы, вядома, думкі стаць нечым накшталт беларускага прэзыдэнту. Званьне старшыні Беларускага Нацыянальнага Комітэту вельмі імпонавала яму і, трэба прызнацца, ён працаваў у ім старанна, хілючы, вядома, умела і здатна сваю буржуйную лінію. Выбары яго ў старшыні прэзыдыуму зьезду ўганяліся мэтаю не раскідаць зьезду, які за першы дзень выразна пакалоўся на асаблівыя палітычныя часткі, зусім не сяброўскія між сабою...

Другі дзень зьезду пашоў на працу комісій... Пасяджэньне, якое адчынілася вечарам, падзялілася на прывітаньні і на даклады комісій. Апошнія працавалі дужа шчыра седзьма-сядзелі цэлы дзень і апрацавалі кожная шэрагі патрабаваньняў. Цікава, як далёка адыходзілі яны ад тых

рэальных сіл, што меліся ў той час у зьезду і, наогул, у беларускай грамадзкасьці! Узяць да прыкладу комісію друку; гэтая комісія прыняла пастанову аб выданьні газэты, аб выданьні брошур агітацыйнага характару, чамусьці яшчэ—бібліографічнага слоўніку. Тымчасам, нідзе не прадбачылася дастаць ніякіх грошай. Благія парываньні! Улічыў іх дакладчык грашовае комісіі, т. Э. Будзька, які пры дакладзе ўнёс у грашовы фонд 2.000 руб. Не сваіх, пэўна, а вылучаных з бежанскага комітэту.

Усе пастановы, прынятыя зьездам, патрабавалі вельмі многа працы і сіл, каб іх правясьці ў жыцьцё. Большасьць гэтых пастаноў датыркала організацыйна-практычных пытаньняў, далёка стаяўшых ад рэальных мажлівасьцяй свайго ажыцьцяўленьня. Многа з іх было наіўных, як гэткі, напрыклад, пункт у рэзолюцыі грашовай комісіі: „Стварыць аддзел для організацыі беларускага нацыянальнага банку". А дзеля таго, каб зьберагчы грошы „комітэт павінен залажыць друкарню, а таксама тэатр".[1])

Земская комісія насьпех зляжыла рэзолюцыю аб „рэорганізацыі земскага самаўпраўленьня". Дакладчык згадзіўся, што ўсё гэта зроблена „на скорую руку". І сапраўды, было зроблена так. Ды каб добра было ўсё выпажана і абмяркована, час не казаў аб тэрміновасьці гэтага пытаньня... Выключна больш-менш рэальна можна было правясьці (і пасьля правялася) у жыцьцё рэзолюцыю аб стварэньні Нацыянальнага Комітэту. Але і тут пажаданьні далёка разыходзіліся з рачаіснасьцю. Ускладзеныя на комітэт абавязкі „організаваць Беларусь у контакце з часовым урадам" і „падгатаваць выбары ў Беларускую Краёвую Раду"—не маглі быць выкананы. Але аб гэтым ня думалі, выбіраючы Комітэт з 18 асоб.. У склад Комітэту ўвашло больш паловы сяброў Беларускае Соцыялістычнае Грамады. Вялікая большасьць комітэтчыкаў жыла па-за Менскам і не магла прымаць удзелу ў працы Комітэту. Загэтым быў выбраны прэзыдыум з 5 асоб, які, застаючыся ў Менску, мусіў павясьці комітэцкую працу.

Як і што ішла яго праца—гэта патрабуе сталага разгляду і асобнага нарысу. А тут, даючы нарыс першага беларускага зьезду, мы мусім адмеціць, што сам па сабе Нацыянальны Беларускі Комітэт, як скутак гэтага зьезду, займае значнае месца ў гісторыі беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху. Ён адыграў значную ролю і зрабіў-бы шмат большую работу, каб на чале яго ня стаў Скірмунт. Гэтая фігура, далёка не адпавядаючая сутнасьці беларускага руху, які выключна грунтаваўся на беларускіх працоўных масах, унясла сабою сумную старонку ў гісторыю яго разьвіцьця.

---

[1]) Протокол зьезду беларускіх нацыянальных організацый у Менску з 25 па 27 крас. 1917 г.

# КНІГАПІС

**„Сымон Музыка“. Поэма Я. Коласа.** *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск, 1925 г. стар. 277.*

„Сымон Музыка“—поэма не грамадзкага жыцьця, не об‘ектыўных рэальнасьцяй; ня тужцеся праз маляўнічую прызму яе мастацкіх вобразаў пазнаць рэальны сьвет, пазнаць лёгіку жыцьцёвай праўды; ня шукайце ў ёй тыповага для жыцьця; там гэтага няма, а калі й спатыкаецца дзе, то мае характар цалкам выпадковы, эпізодычны, нязначны. Усё гэта знашло сабе клясычнае выяўленьне ў другой поэме Я. Коласа, у „Новай Зямлі“.

„Сымон Музыка“ — поэма *суб‘ектыўных* рэальнасьцяй, поэма *асабістых* фантасмагорый аўтара, *пераважна эмоцыянальных*, а часткай і інтэлектуальных. У лязуровых яе глыбінях пышным цьветам распусьцілася псыхіка поэты, убраная гірляндамі сакоўнай зелені мастацтва. І гэты пышны цьвет аўтарскага суб‘ектывізму як-бы заглушыў сумернасьць тых рэальных суадносін, да якіх мы прывыклі ў жыцьці. Адгэтуль тая нібы штучнасьць у аснове самога сужэту поэмы, калі з вуснаў яе гэроя хлапчука Сымона—выліваюцца тырады мэтафізычных разважаньняў, якія цудадзейным спосабам становяцца актыўнымі мотывамі ў паступках і прыгодах гэроя; адгэтуль тая да бяскроўнасьці ідэалізаваная цнатлівасьць пачуцьця каханьня, малюнкі якога вытворна-мастацкімі хварбамі зарысованы ў поэме; адгэтуль брак часам і мастацкае сувязнасьці ў некаторых момантах композыцыі поэмы.

Але адгэтуль і тая буйная расьліннасьць найбагацейшага лірызму, якая дзівосным орнамэнтам аздабляе старонкі „Сьмона Музыкі“, адгэтуль тая асаблівая глыбіннасьць эмоцыянальнасьці, у бяздоньнях якой мігацяць вясёлкавыя бляскі літаратурнага штукарства, адгэтуль тая асаблівая сонечная пяшчотнасьць, якой апраменена поэма.

„Сымон Музыка“—гэта ня толькі пышны цьвет поэтыцкае індывідуальнасьці: гэта пышны цьвет беларускае поэзіі, як мастацтва. Гэтая мастацкасьць поэмы з нязвычайным размахам выяўлена ў музычных прэлюдыях да паасобных яе песень.

Романтычны характар поэмы наскрозь падкрэсьлен яе *музычнай эмоцыянальнасьцю*, у той час, як у рэалістычнай поэме „Новая Зямля“ пераважвае *эмоцыянальнасьць плястычная*. І. Я. Колас, непараўнаны поэтаплястык, у „Сымоне Музыцы“ паказаў, што ён умее *дасканала ўладаць і мэлёдыкай вершу*.

**Улідзе.**

**„Урачыстасьць“ Зборнік вершаў Ц. Гартнэга.** *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі Менск, 1925 г. стар. 101.*

Калі „Песьні працы“ Ц. Гартнага адзначаны мазалём поэты-гарбара, калі над яго „Песьнямі змаганьня“ ірдзее чырвоны сьцяг Кастрычнікавае рэволюцыі, то на старонках разгляданага тут зборніку Ц. Гартны зварачае на сябе ўвагу ўжо з формальна-мастацкага боку. „Урачыстасьць мастацтва ў поэзіі Ц. Гартнага“—вось назова, якая мо‘ найлепш

ахарактарызавала-б дадзены зборнік, зразумела, не наогул, ня цалкам, а ў тэй яго меншай частцы, якая напісана пераважна пад знакам мастацтва. Маю тут на ўвазе вязанку такіх вершаў, як „Будаваньне“ (стар. 37), „Праца“ (стар. 42), „Случчына“ і „Слуцак“ (стар. 45, 47), сэрыю вершаў з разьдзелу „Урачыстасьць жыцьця“, спаміж якіх асаблівай мастацкай вытворнасьцю вызначаецца верш „Каля бору сонца ходзіць“ (стар. 85). У гэтым вершы ўмела ажыцьцёўлен сынтэз пластыкі і мэлёдыкі, у гэтым вершы Ц. Гартны паказаў, наколькі ён умее ўладаць формай вершу, якія ў яго мастацкія дасягненьні.

І трэба прызнацца, што даволі-такі неспадзеўнай зьяўляецца гэтая новая постаць Ц. Гартнага, як поэты-майстра ў мастацкім вобразе,—трапным эпітэце, у прыемнай мэлёдыцы, наогул, у форме вершу. Але гэта так. Жывым довадам гэтага даны тут зборнік. Паўтараю, аднак, што ні ў якім разе гэта не датыча зборніку наогул, наадварот, на фоне яго мастацка-прыгожых вершаў яшчэ больш увыпукляецца тая, часта ўласьцівая Ц. Гартнаму шурпатасьць, неашліфованасьць, літаратурная неахайнасьць іншых вершаў, якая, аднак, у пэўнай меры згладжваецца то глыбокай лёгікай працы, то ўзьнёслым пафосам рэволюцыі.

**Улідзе.**

**„Збор твораў“** т. I. **Я. Купалы.** *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск, 1925 г. стар. 272.*

Матэрыялам I-га тому „Збору“ зьяўляецца „Жалейка“ і „Гусьляр“, зборнікі, выданыя ў 1908 і 1910 г. г. і зьнікшыя з кніжнага рынку ўжо многа лет таму назад. Паяўленьне I-га тому „Збору“ у момант асаблівага размаху беларускага культурнага будаўніцтва—трэба толькі вітаць. Бо ў ім знойдзецца шмат матэрыялу ня толькі мастацка-гістарычнага, але і грамадзка-выхаваўчага.

З тэхнічнага боку „Збор“ выданы зусім памяркоўна, у густоўнай вокладцы, на добрай паперы, прыемным шрыфтам. Трэба наогул адзначыць поступ у друкарскай тэхніцы Бел. Дзярж. В-тва. Апошнія яго выданьні прыгожага пісьменства робяць добрае ўражаньне.

**Улідзе.**

6,1925, Пол

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

## Інбелкульт

О Зацьверджаны па дзяржаўным буджэце БССР на наступны год каштарыс Інбелкульту складае сабою 216.608 рублёў. З іх на аплату працы штатных навуковых працаўнікоў упадае 68.245 руб., на выдавецтва ІБК — 56.000 р., на нав. командыроўкі і падарожныя выдаткі—13.800 р., на нав. экспэдыцыі—24.000 р. і на іншую навук. працу ІБК—35.900 р. Утрыманьне патрэбнага кадру нав. працаўнікоў, а таксама належная аплата іхняе працы забясьпечаны. Вызначаная на выдавецкую дзейнасьць ІБК сума дасьць магчымасьць апошняму таксама зьдзейсьніць плян выданьняў інстытуту. Уся іншая дзейнасьць Інбелкульту, прымаючы пад увагу значна паменшаныя па прадстаўленаму каштарысу сумы, будзе зьменшана і прыстасована да памераў вызначаных сродкаў. Аднак, каштарыс 1925/6 опэрац. году, у параўнаньні з мінулым годам, павялічыўся больш чым на 400 проц., што сьведчыць аб тэй увазе да Інбелкульту з боку ўлады працоўных Беларусі.

О Перад пачаткам аднаўленьня інтэнсыўнае працы сэкцыяй ІБК з восені г.г. ідзе як перагляд складу сяброў сэкцый, запрошаных на працу ў апошнія, так у іншых выпадках пераконструваньне комісій пры сэкцыях і іхных прэзыдыумаў. Гэта павінна забясьпечыць інтэнсыўнасьць працы сэкцый з наступнага новага опэрацыйнага году.

О У зьвязку з пераездам у Менск на сталую працу ў ІБК проф. М. В. Даўнар-Запольскага і археографістага Д. І. Даўгялы, распачала сваю працу гістарычна-археолёгічная комісія ІБК. Перад апрацаваньнем пляну яе дзейнасьці на наступны год было прызнана патрэбным, каб абодва вучоныя азнаёміліся з архівамі і музэямі Віцебску, Смаленску, Магілеву і Кіеву. Ім дадзена дзеля гэтага адпаведная командыроўка.

О За спозьненым атрыманьнем сродкаў па дадатковым каштарысе ІБК зусім не адбыліся выезды мовазнаўцаў проф. П. Растаргуева, С. Некрашэвіча і Арасімовіча гэтым летам на дыялекталёгічныя досьледы па ўскрайнах этнографічнае Беларусі.

О Раскопкі археолёга І. Сэрбава ў сутарэньнях былое Клімавіцкае турмы не далі ніякіх навукова-каштоўных вынікаў. Ніякіх лёхаў пад будынкам былога кляштару з ягонаю бібліотэкаю або архівам, аб чым пісалася ў „Запісках" Географ. т-ва ў Вільні яшчэ перад вайною,—не аказалася. Карысна адно тое, што пакончана ўцале з аднэю з т. зв. „навуковых легэнд".

О Па даручэньні свае сэкцыі выехаў у Новы Быхаў археолёг І. Сэрбаў, якому дакладна трэба будзе агледзець і раскапаць далей першую ў БССР стаянку першабытнага чалавека на беразе Дняпра. Папярэднія зборы там археолёгічнага матэрыялу сьведчаць аб розных шырокіх магчымасьцях знайсьці там навукова-каштоўнае. Сродкі ІБК на гэтыя досьледы адпушчаны.

О Вядуцца перамаўленьні с проф. Растаргуевым аб выданьні ІБК яго

твору, хрэстоматыі па беларускай дыялекталёгіі.

О Праца над акадэмічнымі слоўнікамі беларускае і яўрэйскае моваў за летні час вялася адпаведнымі слоўнікавымі комісіямі ІБК інтэнсыўна. Лік выпісаных на картку слоў зараз перавышае ўжо 20.000. Пакуль што праца вядзецца па выкарыстаньні слоўнікавага рэпэртуару пісьменьнікаў. Сетка членаў-корэспондэнтаў, якая мае быць разьвінута ІБК з восені г. г., дасьць магчымасьць рабіць выпіску слоўнага матэрыялу з жывое народнае мовы. Дзеля гэтага адпраўным матэрыялам паслужаць тыя беларускія слоўнікі, якія зложаны М. Байковым пад рэдакцыяй С. Некрашэвіча. Разасланыя па ўсім абшары БССР, яны дапамогуць корэспондэнтам ІБК плянова павесьці зьбіраньне на мясцох слоўнага народнага матэрыялу.

О Пры Правапісна-Тэрмінолёгічнай Комісіі ІБК зложана т. зв. Бюро Адказных Перакладаў, на чале якога вызначан У. Чаржынскі. Бюро задаволіць патрэбы ўсіх дзяржаўных і грамадзянскіх інстытуцый па ўстанаўленьні тых офіцыяльных тэкстаў на беларускай мове, патрэба ў якіх, як стала ўмяркованых і правільна пабеларуску зложаных, вымагаецца самым жыцьцём. Разам з тым Бюро будзе прымаць на сябе адказнае рэдагаваньне беларускага тэксту розчага характару справаздач інстытуцый і іншых выданьняў дзяржаўных і грамадзянскіх органаў.

О Гэтым летам вядомы знаўца беларускае народнае песьні А. Грыневіч вядзе зьбіраньне песьні на Лепельшчыне і Віцебшчыне. Разам з тым Мастацкаю Сэкцыяй ІБК на яго ўзложана зьбіраньне матэрыялаў аб беларускім народным танцы і па адшуканьні дудара-віртуоза сярод музыкаў гэтых мясцовасьцяй.

О У першых месяцах новага опэрацыйнага году мае быць склікана Мастацкаю Сэкцыяй ІБК спэцыяльная нарада па вывучэньні народных інструмантаў (дуды, жалейкі і цымбалаў) і іх музычным абагачэньні, а таксама выкарыстаньні. На нараду запрошан і даў сваю згоду на прыезд лепшы знаўца славянскіх народных інструмантаў проф. М. Прывадаў з Ленінграду, к часу прыезду каторага будуць вызваны ў Менск лепшыя народныя музыкі-віртуозы (дудары, жалейшчыкі і цымбалістыя).

О Этнограф і археолёг І. Сэрбаў, які вядзе зараз археолёгічныя досьледы ў аколіцах Новага Быхава, прыняў на сябе даручэньне прывесьці для тэатральнага музэю ІБК багатыя зборы тэатральнага рэквізыту, вопратак і іншага, якія захаваліся ў тэй мясцовасьці ад аднаго памешчыцкага тэатру прыгонных часоў, у якім ігралі артыстыя-сяляне.

О Проф -зоолёг Фядзюшын закончыў экспэдыцыйны досьлед гэтага году па вывучэньні фауны Беларусі. Ім прывезены зараз у Менск багатыя зборы зоолёгічнага матэрыялу, сярод якіх асабліва багата прадстаўлена птаства БССР (звыш 1.000 шкурак птушак). Разам са зборамі мінулых двох папярэдніх год, а таксама сабранай яшчэ раней самым профэсарам колекцыяй птаства Беларусі, усё гэта складае звыш 3.000 адзінак прадстаўнікоў пярнатага царства— збор, які ляжа ў аснову формуемага з гэтага году ІБК музэю прыроды Беларусі. На жаль, памяшканьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску вельмі цесна дзеля адчыненьня ўжо ў гэтым годзе аддзелу прыроды, і першы час формаваньне музэю прыдзецца рабіць, карыстаючыся часткова памяшканьнем ІБК і, калі будзе магчыма, апростанымі новымі пакоямі ў будынку Дзяржаўнага Музэю.

О Батанічкі Ленінградзкага Батанічнага саду т. т. Палянская і Савіч гэтым летам вялі па даручэньні Прыродазнаўчае Сэкцыі ІБК досьледы па складаньні геоботанічнае карты БССР. За лета імі закончан

аб'езд Мазырскае, Бабруйскае і Барысаўскае аруг, дзе сабраны вельмі багаты ботанічны матэрыял, адзін з экзэмпляраў якога паступіць на далейшае папаўненьне гэрбарыуму (збору засушаных расьлін) БССР, распачаты ІБК. Ботанікам Зьбіткоўскім з гэтаю-ж мэтаю зроблен аб'езд Слуцкае акругі. Летам наступнага году гэтыя-ж ботанікі закончаць цалком ботанічны досьлед нашае Рэспублікі і зьявіцца магчымасьць поўнасьцю ўкласьці геоботанічную карту БССР.

О ЦБ Краязнаўства пры ІБК здало ўжо ў друк першы нумар свае часопісі „Наш Край". Апрача артыкулаў, прысьвечаных пераважна мэтодолёгічным пытаньням краязнаўчае працы, зьмешчана шмат розных праграм і інструкцый паасобных сэкцый ІБК аб краязнаўчай працы членаў таварыстваў, а таксама хроніка ІБК. Часопісь мае выходзіць штомесяц.

О Этнографічная сэкцыя ІБК у наступным опэрацыйным годзе павінна будзе стала падбаць аб выданьні тых каштоўных этнографічных матэрыялаў, якія зараз маюцца ў распараджэньні ІБК. Так, яшчэ ў мінулым годзе ІБК набыта два томы матэрыялаў беларускае народнае творчасьці, сабраных у папярэдняе падарожжа этнографам Сержпутоўскім; маюцца два томы этнографічнага матэрыялу, сабранага на Меншчыне этнографам І. Сэрбавым; на цэлы том набярэцца таго матэрыялу, які паступова сабраў за мінулыя гады сам Інбелкульт; закончан апрацоўкаю для выданьня зборнік беларускіх песень (звыш 150, з нотнымі запісамі), а таксама іншых народных твораў, сабраных песеннаю экспэдыцыяй ІБК, Сержпутоўскім і Прохаравым, летам 1924 году на Магілеўшчыне. Апрача таго, Расійская Акадэмія Навук прапанавала ІБК выкарыстаць выданьнем сабраныя лепшым беларускім этнографам Я. Раманавым пяць новых тамоў твораў беларускае народнае творчасьці, якія прадоўжаць сабою сэрыю т. зв. „Беларускага Зборніку" (да гэтага было выдадзена яго 9 тамоў). Такі выключна багаты і навукова варты матэрыял канешне выдаць за адзін наступны год будзе немагчыма, але распачаць выпуск каштоўных, монумэнтальных этнографічных зборнікаў ІБК прыдзецца ўжо ў гэтым годзе, тым больш, што матэрыяльныя магчымасьці ІБК для гэтага значна пашырыліся.

### Маладняк

О Вышлі з друку чарговыя нумары Маладнякоўскай Кніжніцы: № 8 С. Хурсік—„Першы паўстанак," апавяданьні, № 9 М. Зарэцкі—„Пела вясна", апавяданьні, № 10 А. Якімовіч, вершы.

Здадзены ў друк № 11 Кузьма Чорны „Срэбра жыцьця"—апавяданьні, № 12 А. Дудар „Сонечнымі сьцежкамі",—вершы, № 13 П. Трус—вершы.

### Творчая праца

О Кузьма Чорны напісаў комэдыю ў 3 актах з сучаснага жыцьця, якая, магчыма, будзе пастаўлена ў гэтым сэзоне ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры, ён-жа заканчвае драму ў 5 актах.

О Слуцкая філія організавалая ў канцы траўня г. г.; у складзе яе знаходзіцца 12 асоб. За час свайго існаваньня выдала 2 літаратурныя старонкі ў мясцовай газэце „Вясковы будаўнік," а таксама наладзіла 8 літаратурных вечарын.

### Навука

О Праца па скліканьні Навуковага Зьезду па беларусазнаўству значна пашла ўперад. Склад організацыйнае комісіі па зьезду быў пашыран і былі распрацованы сьпісы навуковых працаўнікоў, якія маюцца быць запрошаны на гэты зьезд. Організованыя зараз падсобныя комісіі апрацоўваюць шэраг пытаньняў аб дакладах, якія будуць заслуханы на зьезьдзе, і вызначаюць тых дакладчыкаў, якім

будзе даручана зрабіць даклады. Пры зьезьдзе організуецца Навуковая выстаўка, якая азнаёміць з станам культуры Беларусі і яе экономічна-гаспадарчых дасягненьняў. Для ўдзельнікаў зьезду будзе выданы спэцыяльны справачнік, які таксама ставіць сваёю мэтаю азнаёміць удзельнікаў зьезду наогул з БССР.

О Скарынінскія юбілейныя дні 400-годзьдзя беларускага друку адбудуцца ў лістападзе або сьнежні м-цы г. г. Згодна зацьверджанага пляну ўрачыстасьцяй, шырокі ўдзел у іх прымуць культурныя ўстановы БССР, профсаюзы друкароў і асьветнікаў, школы і інш. організацыі. Для пакіраваньня ўсімі ўрачыстасьцямі будуць вызначаны як у Менску (Скарынінская Юбілейная Комісія пры ІБК), так у акругах і раёнах спэцыяльныя юбілейныя комісіі. К днём юбілею выйдзе навуковы скарынінскі зборнік з артыкуламі, напісанымі цэлым шэрагам гісторыкаў БССР і СССР. Выйдзе з друку памерам у 3¹/2 друкованых аркушы навукова-популярны нарыс проф. У. Пічэты „Францішак Скарына і яго час“. Для пашырэньня сярод школ будзе выданы больш кароткі жыцьцяпіс Ф. Скарыны, а таксама надрукованы портрэты Ф. Скарыны. Некаторыя з культурных установ БССР (між іншым, профшкола друкароў) атрымаюць наданьне імя першага друкара Беларусі. 400-годзьдзе друку на Беларусі будзе яшчэ адзначана выбіцьцем памятнае мэдалі, а таксама адліўкаю т. зв. скарынінскага шрыфту і ўмацаваньня ў Менску і Полацку на пэўных мясцох памятных дошчак.

О Каб адзначыць дзейнасьць першага беларускага друкара Ф. Скарыны ў юбілейныя дні 400-годзьдзя пачатку беларускага друку, у Полацку будзе пастаўлен на замкавай гары, на беразе Дзьвіны помнік Ф. Скарыны. Для гэтага будуць выкарыстаны 2 гранітных камені, знаходзячыяся ў Віцебску, і ў дні юбілею будзе зроблена закладка помніку. У зьвязку з тым, што бронзавую адліўку для помніку прыдзецца зрабіць толькі зімою, фактычнае адчыненьне помніку адбудзецца па вясьне. Распрацоўка мастацкага боку помніку ўзложана на мастакоў-працаўнікоў Віцебскага Мастацкага Тэхнікуму.

**Мастацтва**

О У сярэдзіне кастрычніка месяца адбудзецца ў Менску адчыненьне першай Усебеларускай Мастацкай Выстаўкі. Комуністычны Унівэрсытэт даў сваю згоду на выкарыстаньне на Выстаўцы яго верхняга паверху. Выставачны Комітэт закончыў папярэднія організацыйныя работы і зараз кожны дзень атрымоўвае адусюль заявы мастакоў, аб іх жаданьні выставіць свае творы. Ужо прыбылі першыя экспонаты з Бабруйску. Дзяржаўны Тэатр і абедзьве драмстудыі ў Маскве заявілі аб сваім жаданьні выставіць макеты пастановак і ўсе мастацкія для апошніх зарысоўкі. Сакратар Комітэту М. Шчэкаціхін у сваім падарожжы Масква-Ленінград-Віцебск-Магілеў выпаўніць папярэдні адбор мастацкіх твораў тых мастацкіх працаўнікоў, якія заявілі аб сваім жаданьні выставіцца.

О У часе выстаўкі і ўсьлед за ёю адбудзецца шэраг мастацкіх конкурсаў. Будуць прэміраваны рысункі як для патрэб нашага Дзяржвыдату, так і для вытвораў нашае прамысловасьці, а таксама мастацкіх хатніх вырабаў. Такім чынам, Першая Усебеларуская Мастацкая Выстаўка пакладзе першы пачатак мастацкаму абагачэньню нашае вытворчасьці.

О Менскі портрэтысты Кругэр закончыў жывапісны портрэт Ф. Скарыны. Портрэт дадзен у гусьце пісьма XVI веку і дае Ф. Скарыну ў позе, вызначанай вядомаю гравюраю, за пісьмом кнігі, якая ляжыць на пульце, аздоблены беларускім народным орнамэнтам. Портрэт будзе набыт Інбелкультам і будзе выстаўлен на Мастацкай Выстаўцы.

О На працягу трох летніх месяцаў, пачынаючы з 17 мая, Б. Д. Тэатр адбыў сваё артыстычнае падарожжа, пабываўшы ў Віцебску (18 пастановак), Полацку (12 паст.), Воршы (11 паст), Клімавічах (11 паст) і Магілеве (11 паст.). За 89 дзён свайго падарожжа Б. Д. Тэатр зрабіў 63 пастаноўкі і 9 рознага характару выступленьняў. Найбольшым посьпехам карысталася п'еса „Кастусь Каліноўскі", прашоўшая 13 раз. Спэктаклі глядзела 27.455 платных гледачоў, ня лічачы дапушчаных па контрамарках удзельнікаў акруговых настаўніцкіх курсаў і вучняў тэхнікумаў і партшкол. У Клімавічах спэктаклі Б. Д. Т-у глядзеў Акруговы Зьезд Саветаў. Апрача пастановак у акруговых гарадох, адбыўся канцэрт-спэктакль у мястэчку Ветрыне на адчыненьні тамтэйшага нардому; 1 спэктакль адбыўся пад Воршаю на заводзе Барань; цікавым вышаў спэктакль (адзін), зроблены ў Клімавічах у парку нардому, дзе слухаў яго тысячны натоўп членаў профсаюзаў. Ня гледзячы на даступнасьць цэн (ад 20 к. да 1 р. 10 к.—1 р. 50), ад спэктакляў было выручана за ўсё падарожжа 14.500 руб. Утрыманьне ўсяго вялікага складу супрацоўнікаў Б. Д. Тэатру (выяжджала 99 асоб) абышлося ў 3 р. 25 к. на чалавека ў дзень, лічачы ўсе выдаткі па ўсім падарожжы.

Наступны сэзон 1925/6 году Б. Д. Тэатр сустрэне фактычна зусім новым рэпэртуарам. Пойдуць: новая п'еса соцыялна-бытавога зьместу А. Міровіча, гістарычная п'еса маладога беларускага драматурга (XII ст.) „Сьвята крыві" (па роману Войніча „Овод") у апрацоўцы Пракофьева, „Вірынея" Сейфулінай і рад другіх орыгінальных і перакладных п'ес. Продукцыя пастановак забясьпечана тым, што, побач з А. Міровічам, працаваць мае яшчэ другі запрошаны рэжысэр—М. Папоў, сябра Расійскае Акадэміі Мастацкіх Навук.

О Беларуская Драмстудыя ў Маскве апошні год сваёй тэатральнай навукі правядзе ў напружнай працы. Малодшая група змушана будзе, апрача ўдзелу ў падрыхтоўцы новых пастановак, працаваць на далейшым сцэнічным самаадукаваньні. Кожны з рэжысэрскае групы павінен будзе распрацаваць плян самастойнае пастаноўкі аднэй п'есы. Для рэпэртуару студыі вызначаны ўжо драма Эўрыпіда „Бакханка" (пераклад з старагрэцкага орыгіналу, зроблены Ю. Дрэйзіным), твор А. Астроўскага „Васіліса Меленьцева", гістарычная п'еса студыйца М. Міцкевіча і інш.

О Пастановаю СНК БССР на Мастацкую сэкцыю ІБК узложана правядзеньне конкурсу па распрацоўцы проэкту помніку чырвонаармейцам, загінуўшым за вызваленьне Савецкае Беларусі ад белапалякаў.

О Дзеля таго, каб разьвязаць пытаньне аб пераводзе абедзьвюх драмстудый у Маскве на самастойную тэатральную працу з наступнага 1926/7 году і разам з тым забясьпечыць абодвы тэатральныя колектывы належнымі тэатральнымі памяшканьнямі і каштарысамі,—пры Наркомасьвеце, апошнім вызначана спэцыяльная комісія, у склад якое Інбелкультам уведзены прадстаўнікамі: М. Красінскі і Б. Аршанскі.

**Літаратура і выдавецтва**

О Першая кніжка „Навуковага зборніку" ІБК канчаецца друкам і выйдзе ў сьвет у першых ліках кастрычніка мес. г. г.

О 23-га верасьня (па старым стылі) г. г. адбудзецца 15 год літаратурнае дзейнасьці пісьменьніка З. Бядулі. Перш твор поэты—імпрэсыя „Пяюць начлежнікі" быў надрукован у „Нашай Ніве" ў 1910 годзе. Пісьменьнік зараз лечыцца ў Кіславодзку ў зьвязку з сваім нездароўем.

О Беларускі пісьменьнік Цішка Гартны выехаў у Нямеччыну для азнаямленьня з літаратурнымі коламі. Поэты Янка Купала і Міхась Чарот

на гэтых днях распачынаюць таксама зарубежнае падарожжа ў Нямеччыну і Чэха-Славакію.

О Выдавецкая справа ў Менску зараз тэхнічна палепшылася ў зьвязку з адчыненьнем Дзяржаўным Выдавецтвам уласнай цынкографіі. Гэта пазбавіць патрэбы пасылаць у Маскву рысункі для прыгатаваньня клішэ.

О У пачатку кастрычніка Б. Д. Т-р здае ў друк сваё мастацкае выданьне—„Штогоднік".

О Тэатральнаю і Музычнаю падсэкцыямі ІБК робяцца захады па падрыхтоўцы матэрыялаў для выданьня досьледу аб беларускім народным танцы. Апрача таго матэрыялу, які зараз маецца ў т. т. Родзевіча Ч., Грыневіча А. і Сэрбава І., па даручэньні падсэкцый апошніх два члены ІБК у часе свайго падарожжа па Лепельшчыне, Віцебшчыне і Магілеўшчыне зьбіраюць новыя матэрыялы для гэтае кніжкі.

О З кастрычніка мес. 1925 г. газэта „Савецкая Беларусь" мае выходзіць у памеры 6 старонак свайго сучаснага формату. Рэдакцыяй прыняты крокі для забясьпечаньня належных кадраў супрацоўнікаў і матэрыялаў для пашырэньня зьместу газэты.

# З КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ СССР

## РСФСР

О Інстытут імя Ў. І. Леніна ў Маскве вядзе нязвычайна інтэнсыўна сваю працу. Ідзе і ў гэтым 1925 г. будзе закончана праца разборкі і сыстэматызацыі нязвычайна багатага архіву Ў. І. Леніна і адносячыхся да яго матэрыялаў. З закончаньнем гэтае работы можна будзе прыступіць да навукова-акадэмічнага выданьня поўнага збору твораў У. І. Леніна. Пакуль-жа што жыцьцёвую патрэбу задаваляе цяперашняе выданьне яго твораў, і Інстытутам ужо падгатованы і здадзены ў друк тры першых томы (творы 1893—99 г. г.) другога папраўленага і значна дапоўненага збору твораў Леніна. Агульную рэдакцыю трымае Л. Каменеў. Прыгатованы Інстытутам і здадзены ў друк 4, 5 і 6 томы т. зв. „Ленінскіх зборнікаў“, у якія вашлі матэрыялы „Іскры“ за 1902—5 г. г., па рэволюцыі 1905 г. і дваццаці аркушовая праца-рукапіс У І. Леніна па яго ўвагах пры вывучэньні Гегеля і Фэйербаха. Рыхтуецца другі зборнік успамінаў пра Леніна—Н. Крупскае і М. І. Ульянавай.

О Існуючы ўжо пяць год Дзярж. Інстытут гісторыі мастацтваў у Ленінградзе зараз працуе пад кіраўніцтвам новага праўленьня ў складзе Ф. Лехтэ, З. Шадурскае, В. Жырмунскага і дырэктара Інстытуту акадэміка Ф. Шміта. Ішоўшая раней разьдзельна навуковая праца паасобных разрадаў Інстытуту цяперака вядзецца ў больш цесным контакце і ў большым набліжэньні да сучаснасьці. Асабліва напружана працуюць чатыры сэкцыі заснованага ў сьнежні 1924 г. т. зв. соцыолёгічнага комітэту: сэкцыя вывучэньня мастацтва Кастрычніка (кіруе А. Пятроўскі), сэкцыя тэорыі і мэтодолёгіі мастацтва (кір. Я. Назарэнка), сэкцыя музэйная (кір. О. Вальдгаўэр) і сэкцыя пэдолёгічная (кір. Ф. Шміт). У карыстаньне разраду гісторыі музыкі перададзены з музэю Дзяржаўнае Філярмоніі збор фізыка-акустычных прылад, што дасьць магчымасьць паставіць навукова вывучэньне некаторых пытаньняў тэорыі музыкі. Разам з разрадам гісторыі тэатру організована новая кіносэкцыя.

З шэрагу вельмі каштоўных дакладаў, заслуханых і абгавораных на пасяджэньнях усіх разрадаў і сэкцый Інстытуту заслугоўваюць асаблівае ўвагі: А. Пятроўскі—„Вывучэньне тэатру часу Кастрычнікавае рэволюцыі“, Л. Якубінскі—„Рэволюцыя і мова“, Я. Назарэнка—„Проблемы вывучэньня літаратуры часу Кастрычніка“, А. Фінагенава—„Музыка і культура сучаснасьці“, ягоны-ж даклад—„Нашы задачы і нашы дасягненьні“, Ю. Тынянава—„Аб архаічных (старажытных) плынях у расійскай літаратуры“ і цэлы шэраг дакладаў А. Гвозьдзева аб сучасным тэатры і Д. Арановіча аб сцэнічным (дэкорацыйным) малярстве выдатных расійскіх маляроў апошняга дваццацігодзьдзя прад імпэрыялістычнаю вайною (А. Бэнца, А. Галавіна, Сапунова, Дабужынскага і інш.).

О Пры Вышэйшым Літаратурна-Мастацкім Інстытуце імя Валерыя Брюсава ў Маскве наладзіўся рэ-

дакцыйны комітэт для падрыхтоўкі да друку сэрыі дапаможнікаў, слоўнікаў і справачнікаў, якія зложаць сабою сэрыю пад назваю „Працы ВЛМІ імя В. Брюсава". Сюды ўвойдуць такія, між інш., выданьні: творы П. Піксанава—„Марксыцкі мэтод у літаратуразнаўстве", Л. Гросмана—„Тэхніка літаратурнай крытыкі", В. Волькенштэйна—„Тэхніка драматургіі", Г. Шэнгелі—„Тэорыя вершаскладаньня", М. Гершэнзона—„Композыцыя вершавага матэрыялу", Л. Гросмана—„Тэорыя мастацкае прозы", М. Гершэнзона—„Тэорыя мастацкага перакладу" і інш.

Інстытутам рыхтуецца вельмі цікавае і вартае выданьне: „Слоўнік дзеячоў літаратуры і мастацтва пасьля-Кастрычнікавага часу (1918-25 г.). Бібліографічны бок прыняў на сябе Н. Піксанаў. Слоўнік будзе памерам у 15-20 друк. аркушоў і зьмесьціць песьняроў, прозаікаў, публіцыстых, тэорэтыкаў і гісторыкаў літаратуры й мастацтва, а таксама газэтных працаўнікоў, працуючых ужо пасьля 1918 г.

# КУЛЬТУРА ЗАХАДУ

### Нямеччына

О Франц Юнг напісаў кніжку пра Джэка Лёндона, характарызуючы апошняга, як пісьменьніка соцыяльных раманаў, пісьменьніка работніцкага. Кніга ўжо выдана ў перакладзе на расійскую мову Дзяржвыдавецтвам РСФСР.

О Выдавецтва „Пролетарскае мастацтва“ ў Бэрліне выдала кніжку Э. Фрыдрыха аб пролетарскім нямецкім песьняры Оскары Каннэлі.

О Монографічнае навуковае вывучэньне стаіць і зараз высока ў Нямеччыне. Так, заснованы ў Франкфурце-на-Майне спэцыяльны інстытут вывучэньня Голяндыі і яе колёній распачаў цэлую сэрыю кніжок, прысьвечаных гісторыі і культуры Голяндыі. Першаю вышла монографічная праца П. Блока аб гісторыках Голяндыі. Другою—кніга І. Сікса аб голяндзкім мастацтве.

О Тэорыя адноснасьці Эйнштэйна выклікае новыя і новыя крытычныя аб ёй працы. Так, вышла кніжка Г. Фарскага, крытыкуючая тэорыю з філёзофічнага пункту гледжаньня. Д. Гаўронскі выпусьціў невялічкую крытычную працу з фізычна-навуковаю крытыкаю тэорыі проф. Эйнштэйна.

О У Вене вышла кніга Вільгэльма Баумана —„ Вайна і пролетарыят“, аўтар якое, стоячы на пляцформе Комінтэрну, нязвычайна цікава характарызуе позыцыі соцыял-здрадніцкіх партый Эўропы і Амэрыкі адносна вайны, іх нерашучасьць, бясьсільле і г. д.

О Пісьменьнік Т. Дастаеўскі, як і раней, карыстаецца нязьменным посьпехам у Нямеччыне. За апошні квартал году вышла шмат усялякіх выданьняў яго твораў. Сярод іх варта адзначыць: новы, поўны збор ягоных раманаў і повесьцяй у 16 тамох, выпушчаных выдавецтвам Гессэ-Бэкер у Лейпцызе. Фірма Бірхэр (Лейпцыг) выдала том твораў Дастаеўскага для дзяцей у перакладзе Караля Нэтцэля, які надрукаваў сваю вялікую (846 стар.) працу аб Дастаеўскім — „Жыцьцё Дастаеўскага“ ў лейпцыскім выдавецтве Г. Гессэля. У Бэрліне вышаў „Днеўнік“ Т. Дастаеўскага, а ў Мюнхэне—успаміны жонкі Дастаеўскага.

Значна менш увагі ўдзелена выданьням Л. Талстога і А. Чэхава.

О Саюз ССР наогул, яго жыцьцё і новы лад цікавяць таксама немцаў і сярод, іншы раз, некаштоўных выданьняў выдзяляецца цэлы шэраг вартых прац, як, напрыклад, К. Діль—„Дыктатура пролетарыяту і сыстэма саветаў“ (2 выданьне ўжо), М. Эльяшаў—„Асновы конституцыі СССР“, П. Казлоў—„Да памершага гораду Харахото“ і М. Кучынскі—„Стэпы і людзі (па Кіргізіі)“.

### Францыя

О Цікавую кніжку выпусьціў Гастон Пікар—„Нашыя пісьменьнікі самі аб сабе“. Праца напісана на грунце анкеты, разасланай ім цэламу шэрагу французскіх пісьменьнікаў, у якой высьвятляліся пытаньні, як узьнікалі іх творы, для якога чытача піса-

лісяі ці задавальняюць пісьменьнікаў іх уласныя творы.

О У верасьні месяцы г. г. будуць, наканец, апублікованы вельм ікаштоўныя, дагэтуль ня друкованыя яшчэ запіскі Гонкура, якія паслужаць да высьвятленьня шмат якіх пытаньняў ня толькі датычных жыцьця братоў-пісьменьнікаў, але і зьяў і падзей наогул францускае літаратуры таго часу.

О Вышла з друку 2 томная праца Ф. Бальдэнспэргера аб руху ідэй сярод францускае эміграцыі ў часы Вял. Франц. Рэволюцыі. Аўтар дае жывы вобраз стану тае ідэолёгіі, якою жыла гінучая францускамя арыстократыя.

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 6.



---


Б. Д. В. № 142. Галоўліт № 11556.

1-я Дзярж. Друкарня. Заказ № 924. У ліку 2000 экз.